

Хутка дзяржаўныя экзамены. Краіна атрымае новы атрад спецыялістаў, падрыхтаваных Беларускім дзяржаўным універсітэтам імя У. І. Леніна. Сярод іх будзе і Вечаслаў Шыц. А пакуль трэба на мадэлі добра разабрацца ў гэтым хітрасплячэнні атамаў.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

У НУМАРЫ:


※ Артыкул сакратара ЦК ЛКСМБ Л. Максімава «Давер'е партыі апраўдаем!»

※ Вершы Анатоля Вярцінскага, Міхася Друшчыца, Рамана Тармолы, Анатоля Грачанікава, Сцяпана Ліхадзіеўскага, Валянціна Таўлая, Алеся Ставера, Ояра Вацыецiса, Тэрэня Масенкі.

※ Заканчэнне аповесці Алеся Асіпенкі «Сыну майго сына».

※ Апавяданне Расла Дэвіса «Такія дні».

※ Маякі нашага часу.

※ Нарыс Івана Ласкова «Такія ў нас сэрцы».

※ Навука і культура.

※ Крытыка і бібліяграфія.

※ Спорт. Артыкул Л. Севасцьянава «Прагнозы і спадзяванні».

※ Гумар і сатыра.



Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

**4 (98)**

Красавік.

1961.

Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак Ю. Нікіфарава «ВЫШЫНІ СЯМІГОДКІ».

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108[1]/16. Фізіч друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8135 экз. Цана 40 кап.

АТ 05285. Здадзена ў набор 1.III.61 г. Падпісана да друку 25.III.61 г. Зак. 165.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Анатоль **ВЯРЦІНСКІ**

# ЗАПАВЕТНЫ ПАРТРЭТ

**Расказ вышывальшчыцы**



Вышываю даўно я,
Вышываю гладдзю.
Многа вышывак розных ёсць у мяне.
Вось гэта — «Дзяўчына у белым плацці»,
«Маці з дзіцём» — на той сцяне.
Бывае, закончыш работу адну ты,
Ну, думаеш, болей не возьмешся. Не,
Выдасца вольная мінута,—
Зноў цягнуцца рукі да мулінэ.
Вышываю даўно я,
Вышываю гладдзю.
Не адзін маю я ў справе гэтай сакрэт...
І аднойчы мне кажуць:
«Паслухай, Надзя,
Ці не вышыла б Леніна ты партрэт?»
Я змаўчала адразу, падумала крыху.
І сказала затым летуценна я:
«Дык для гэтага ж трэба быць майстрыхай
Мець руку больш умелую, чым мая».
А у думках сябе асцярожна пытала:
«А можа, і ўзяцца мне сапраўды?»
Цэлымі днямі не пакідала
Гэтая думка мяне тады.

Падбірала я самыя лепшыя ніткі...
І аднойчы стала мая рука
Мару здзяйсняць увачавідкі,—
Стала кідаць шывок да шыўка.
Я над працаю новай схілілася нізка.
І калі было позна, далёка быў дзень,
Нечакана неяк знаёмая рыска
Палатно азарыла, бы светлы прамень.
Я ад радасці вымавіць не магла і слова.
І спачатку не верылася нават мне,
Што вось зараз усмешка Ільічова
На маім засвеціцца палатне.
Я шывок да шыўка так старалася класці,
Я адценні такія хацела знайсці,
Каб была яго ўсмешка светлай, як шчасце,
Як лепшыя радасці у жыцці.
Каб была яго ўсмешка добрай і простай,
Бы самое сэрца ў простых людзей,
І каб быў у ёй самы мудры роздум
Аб лёсе нашым і нашых дзяцей...
Я начамі тады не спала, сядзела.
І калі запаветны быў скончан партрэт,
Я адчула: душой з ім сама маладзела,
З ім сама нараджалася зноў на свет...
Вышываю даўно я,
Вышываю гладдзю.
Ды такога са мной не было і у сне,
Каб хадзіла ўсхвалёвана я па хаце
Ад усмешкі, што вышыла на палатне.
А калі мой партрэт глядзелі жанчыны
І хвалілі хорам: «Ну, як жывы!»—
Я думала: «Быць ён такім і павінны,—
Лепшай, чым сэрца, не знойдзеш канвы».

Міхась **ДРУШЧЫЦ**

## ПЕСНЯ ДАЯРАК


шчэ нясмелы і няяркі
З чаротаў выглянуў усход,
А песню павялі даяркі
На двор калгасны да варот.

Яна прастор шырокі будзіць,
Вось узляцела, паплыла,—
Яна, нібы будзільнік людзям
Майго калгаснага сяла.

Раман **ТАРМОЛА**

## МАЦІ КАЖА

Пастой, пастой, чорна галка,
ты мая, ты мая...
З беларускай народнай песні.


аці кажа твая,
Што такая ты змалку...
Любіш песні ў гаях,
Любіш лётаць, як галка.

Я ж цябе так чакаў,
Як адзіную ў свеце...
Каля Гродна шукаў —
А ля Нарачы стрэціў.

Потым страціў сляды,
А знайшоў іх у стэпе...
І рашыў я тады,
Што няма цябе лепей.

Ясны позірк лаўлю,
І прызнанне ўжо блізка...
Ды сказаў, што люблю,
Табе ў скверыку мінскім.

Не пытаюся я,
Дзе наш дом будзе,
галка...
...Маці кажа твая,
Што такая ты змалку.



Алесь АСІПЕНКА

# СЫНУ МАЙГО СЫНА

Аповесць

## Раздзел шосты

Мал. В. Рамейкі

У дваццаць тры гады не вельмі думаеш над тым, што пачынае турбаваць пазней, калі міне сорак. Дывінцу з вясны пайшоў дваццаць чацвёрты, таму ён ніколі яшчэ не задумваўся, ці правільна жыве на свеце. Проста не было часу азірнуцца назад, узважыць свае ўчынкі. Жыццё інакш і не ўяўлялася: сходы, пасяджэнні, нарады, няспынны гул станкоў, вучоба, бяссонныя ночы, калі трэба было вырашыць нейкую новую задачу. Падабалася, што над гэтай жа задачай думаюць інжынеры, тэхнолагі, канструктары, людзі з дыпломамі, не адзін год ужо знаёмыя з заводам. Дывінец у такія мінуты адчуваў у сабе сілу вопытнага майстра, з думкай якога лічацца. Праўда, заўсёды даводзілася натыкацца на перашкоду — не хапала ведаў. Тады пачыналася вучоба. Дывінец абкладаўся кнігамі, рабіў чарцяжы, прымяраў, прыкідваў...

На яго рахунку была не адна рацыяналізатарская прапанова, два даволі цікавыя вынаходніцтвы. Але яму хацелася зрабіць нешта большае, такое, што адразу ж паставіла б яго побач з вопытнымі канструктарамі завода. У думках Анатоль не раз забягаў далёка наперад. Бачыў сябе ў канструктарскім бюро за распрацоўкай такога станка, які адразу

Заканчэнне. Пачатак у № 3.

выконваў бы ўсе аперацыі. Гэта былі мары. А пакуль што даводзілася ламаць галаву над разцамі. Яны не давалі спачынку вось ужо больш як два гады. Пачалося ж усё з аднаго малапрыкметнага выпадку.

Пасля заканчэння ФЗН Анатоля неяк адразу паставілі за станок.

Цяжкія балванкі ляжалі на падлозе, бы тыя каменныя тумбы на старой уцалелай ад бамбёжкі Канатнай вуліцы. Дывінец разгарнуў сінькy—рабочы чарцёж, са здзіўленнем паглядзеў на загатоўкі. Ці не памыліўся часам майстар: балванка не меней пуда, а ў дэталі і васьмі кілаграмаў не будзе. Не ўяўлялася нават, як можна абдзёрці столькі металу, каб вытачыць зграбную, прыгожую дэталь.

Навокал гулі станкі, дрыжэлі сцены, здавалася, пагойдваецца пад нагамі падлога. Рабочыя завіхаліся ля станкоў. Ляцелі іскры, вілася, выпружвалася стружка. Воддаль майстар лаяў таўставатую дзяўчынутокара. Слоў не было чуваць, Дывінец бачыў толькі разззлаваны твар майстра, чырвоны ад злосці. Падумаў, што не варта ісці да гэтага крыклівага чалавека. І ўсё ж Дывінец пайшоў.

— А табе што? — накінуўся на яго майстар.— Чаму не працуеш?

Анатоль растлумачыў, што збянтэжыла яго. Майстар слухаў няўважліва. Ён падаў дзяўчыне новы разец:

— Зломіш гэты, на вочы не трапляй. З'ем,—і пабег да Анатолевага станка.— Паказвай. Што тут у цябе?.. Усё правільна. Рабі, што загадана.

— Навошта ж такія допускі?

— А табе якая да таго справа?.. На тое ёсць начальства, няхай глядзіць. Ты мне праграму давай. Ясна?

Дывінец замацаваў загатоўку, уключыў станок, асцярожна падвёў разец. Тонкая фіялетавая стружка, вывіваючыся кольцамі, папаўзла, абкруцілася вакол загатоўкі. На хаду, пакуль стружка не прыстыла да металу, Дывінец садраў яе жалезным кручком.

Праца не спорылася. Зірнуўшы на гадзіннік, Дывінец адчуў, што да перапынку ён не апрацуе і паловы дэталей. Тады ён павялічыў хуткасць станка і адразу ж прыпусціў разец. Станок тужліва завыў, скрыгатнуў метал, нешта хруснула, і адразу настала цішыня, толькі мільгала замацаваная ў патроне загатоўка. Канец разца, яшчэ гарачы, валяўся на падлозе.

— Віншую,— пачуў ён уедлівы голас майстра.— Абібок, лодыр, табе хто дазволіў павялічваць хуткасць?

Дывінец і сам адчуваў, што вінаваты. Але ж не менш вінаваты і ліцейшчыкі, якія робяць вялікія допускі, і тэхнолагі, якія не могуць зрабіць моцнага разца, і майстар, якому няма ніякай справы да непарадкаў.

У дзіцячым доме, у школе, у ФЗН, на камсамольскіх сходах яго вучылі не мірыцца з усім, што перашкаджае працы. І таму ён абураўся шчыра і горача. Можа гэта і прымусіла майстра памякчэць, пайсці на ўступкі.

— Ладна ўжо, спішам гэты твой разец — ніхто і ведаць не будзе. А заўтра на нарадзе я такі шум падыму, што ліцейшчыкам аж моташна будзе.

Працуючы за станком, Дывінец меў даволі часу, каб падумаць, што рабіць далей. Вырашыў схадзіць да дырэктара завода, Міхася Андрэевіча. Няхай ён дапаможа.

Міхась Андрэевіч спрачаўся з кімсьці па тэлефоне, адначасова падпісваючы паперы. Анатоль, седзячы на краі мяккага крэсла, ніяк не мог закончыць сваёй размовы. Перашкаджалі тэлефонная трубка, якую дырэктар прыціскаў плячом да вуха, і маўклівы начальнік забеспячэння, што адну за другой падсоўваў паперы на подпіс. У Дывінца прамільгнула думка, што дарэмна ён сюды пайшоў. Дырэктару і без таго хапае турбот. Зрабілася сорамна, што назаляе чалавеку, адрывае ад больш важнай работы. Але Дывінец не мог падняцца з крэсла. У каго ж няма клопатаў? Да каго ён можа пайсці і хто будзе слухаць яго, калі не дырэктар? І хіба такая ўжо дробязь праклятыя допускі? Хіба яны не перашкаджаюць у рабоце? Дывінец змоўк, разгублена пазіраў на ўвішныя рукі начальніка забеспячэння. Яны спрытна перабіралі паперы.

— Чаго ж ты змоўк?— запытаўся дырэктар і тут жа крыкнуў у трубку:— Ды я не табе. Расказвай.

Потым дырэктар тыцнуў пальцам у бліскучы гузік на стале. Адразу ж у пакой зайшла сакратарка, спынілася ля дзвярэй.

— Зараз жа паклічце тэхнолага, начальнікаў ліцейнага і інструментальнага цэхаў, галоўнага інжынера.

Дывінец хацеў пайсці, але Міхась Андрэевіч спыніў яго даволі выразным жэстам — сядзі. Анатолю яшчэ ніколі не даводзілася вось так блізка бачыць дырэктара. І цяпер ён з цікавасцю назіраў за ім. Звычайны чалавек, крыху падобны на камісара атрада, у якім Анатоль жыў пасля смерці сваіх бацькоў.

— А ты арол,— нечакана выгукнуў дырэктар і, абышоўшы стол, сеў у крэсла насупраць.— Многа разцоў пакрышыў?

— Адзін,— Анатоль пачырванеў, успомніўшы, што выдаў чужую тайну. Майстар жа абяцаў спісаць разец.

— А я, брат, некалі ў першы дзень аж пяць на той свет адправіў,— дырэктар, адкінуўшы галаву, зарагатаў, па-хлапечаму весела і шчыра.— Ну і лаялі ж мяне, а вось, бачыш, выжыў. Дык, кажаш, загатоўкі дрэнныя? Ведаю. Змагаемся, ды пакуль з ліццём у нас нявыкрутка. Вось паслухаеш зараз, як счэпяцца інжынеры. І ў кожнага свая праўда. Але што-нішто зробім. А што б вы, рабочыя, маглі падказаць? Скардзіцца мала, трэба і самім варушыцца. У Маскве, у Ленінградзе токары над новымі канструкцыямі разцоў галовы ламаюць. А вы хіба горшыя? Вось так, брат Дывінец. Рабочы ў нас павінен быць не проста выканаўца, а творца, неспакойны чалавек.

Дывінец слухаў дырэктара, а сам думаў над тым, як бы паскорыць апрацоўку дэталей. А што, каб абточваць дэталь на двух станках. Адзін зробіць чарнавую працу, другі — канчаткова давядзе дэталь да ладу. Такога яшчэ на іх заводзе не было.

— А што, не благая думка,— сказаў дырэктар.— Паспрабуем. Толькі, браце, з тымі разцамі, што ёсць у нас, не вельмі разгонішся. Патрэбна новая канструкцыя.

З таго дня і пачаліся пошукі. Два гады Анатоль мудраваў над разцамі, заходзіў у тупік і зноў, як апантаны, браўся за новае. Першы на заводзе прымяніў ён хуткаснае рэзанне металу, першы пачаў эканоміць электраэнергію і інструмент, першы пачаў працаваць спачатку на двух, а пасля і на трох станках. Пра яго загаварылі неяк адразу на нарадах і сходах, яго партрэты былі змешчаны ў газетах. Употай Анатоль доўга разглядаў тыя партрэты, чытаў хітрыя артыкулы ў газетах, аўтары якіх не шкадавалі ўзнёслых слоў,— радаваўся сваёй славутасці. На людзях, калі яму паказвалі чарговую заметку, чырванеў, саромеўся глядзець людзям у вочы. Было сорамна перад іншымі: чаму пішуць толькі пра яго? Хіба мала добрых людзей. Хоць бы новы начальнік цэха Ларыса Нічыпараўна. Яна неяк заставалася ў баку, хоць іменна ёй быў абавязаны Дывінец сваёй славай.

Успомніў, як аднаго разу да яго падышла жанчына, маладая, чарнявая, з быстрымі шэрымі вачыма.

— Дык вы і ёсць Дывінец? А я думала, вас знарок маладым намалявалі. Давайце пазнаёмімся — Ларыса Нічыпараўна. Буду ў вас за начальніка цэха.

Анатоль саромеўся падаць руку, чорную, шурпатую, у мазуце. На жанчыне быў апрануты сіні халат, на галаве касынка, з-пад якой выбіваліся кудзеркі чорных валасоў. І рука ў яе маленькая, белая, з абручальным пярсцёнкам на пальцы.

— Такіх рук, Толя, няма чаго саромецца,—і тое, што начальнік цэха назвала яго Толем, неяк зусім абяззброіла Дывінца. Ён адчуў незвычайную прыхільнасць да гэтай высакаватай жанчыны, такой прыгожай і такой добрай.

— А вы назусім да нас? — запытаўся ён.

— Хацелася б назаўсёды... Я чула, вы над разцамі мудруеце. Можа дазволіце пацікавіцца. Заходзьце пасля работы.

Яна пайшла, а Дывінец усё яшчэ глядзеў услед, быццам не верыў, што з ім так па-сяброўску размаўляла гэтая жанчына.

Аднаго разу, калі Дывінец зайшоў да Ларысы Нічыпараўны ў канторку, яна запрасіла яго да сябе на кватэру.

— Не саромцеся. Там перашкаджаць не будуць. А мне зручней — за дзецьмі аднačасова прыгледжу. Учора засядзелася з вамі, а яны на вуліцы адны аж зацемна гулялі.

— Можа я сам закончу чарцёж,— Анатолю было нялоўка, што адымае час у чалавека, якому і без таго хапае клопатаў.

— Не ўжо, давайце дамовімся: пакуль не скончыце работу, будзеце мяне слухацца. Добра?

Яшчэ праз нейкі тыдзень бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва прыняло для вытворчасці новы разец Дывінца. З таго часу Анатоль усё часцей і часцей пачаў наведвацца да Ларысы Нічыпараўны. Прыходзіў, слухаў расказы яе пра мужа Мішу, пра тое, як ён загінуў ад варожай рукі. Мішаў партрэт вісеў на сцені. З яго пазіраў на Анатоля чубаты, шыракатвары хлопец, у ваеннай гімнасцёрцы і ласкава ўсміхаўся.

Дзеці былі падобны на бацьку, такія ж шыракатварыя. Яны залазілі да Анатоля на калені, расказвалі яму ж пра свае забавы, пра тое, як вучацца. Анатоль любіў частаваць іх цукеркамі.

— Ой, Толя, псціце вы іх,— казала яму Ларыса Нічыпараўна.— Навошта гэтыя падарункі.

А яму было надзвычай прыемна падставіць хлапчукам кішэню з гасцінцамі. Хлапчукі па чарзе запускалі рукі, вылоўлівалі цукеркі за папяровыя хвосцікі.

— Калісьці і я вось так лазіў да бацькі ў кішэню,— апраўдваўся Анатоль перад Ларысай Нічыпараўнай.— А грошай у мяне хапае. На кніжку класці не збіраюся, бо ў чорны дзень не веру.

Так беглі дні. Ларыса Нічыпараўна пачынала разумець, што Дывінец не так сабе прыходзіць да яе на кватэру. Гэта і радавала і палохала. Быццам зноў вярнулася твая маладосць. Прыемна было адчуваць, што цябе кахаюць, па-юначаму нясмела і шчыра. Але заўсёды развіжлівасць і розум бралі верх: навошта цешыць сябе нязбытнымі марамі? Каханне не заўсёды прыносіць шчасце, асабліва тады, калі табе трыццаць, а яму няма яшчэ і дваццаці трох гадоў, калі ў цябе два сыны і ты аднойчы ўжо кахала моцна, горача. Вось у такія хвіліны роздуму Ларыса Нічыпараўна старалася быць далей ад Дывінца, не дазваляла яму прыходзіць на кватэру. І можа таму, што яна рабіла гэта тактоўна, каб не пакрыўдзіць хлопца, Анатоль не заўважаў нічога.

Ён пакахаў упершыню. Не было хвіліны, каб ён не думаў пра яе, не ўспамінаў яе голасу, жэстаў. У час работы Анатоль не раз паглядаў



у бок Ларысінай канторкі, спадзеючыся хоць на імгненне ўбачыць яе. Выдумваў нейкую прычыну, забягаў на хвілінку і зноў спяшаўся да станкоў. Калі выпадкам Ларыса Нічыпараўна праходзіла ля яго, ён адчуваў гэта, хоць і не бачыў яе. А ўбачыўшы, чырванеў, губляўся і яшчэ ніжэй згінаў галаву над станком.

Усё было для яго незвычайнае, новае і такое чароўнае, што ён часам гатоў быў расказаць ёй пра свае пачуцці. Ён бег, як апантаны, але, узабраўшыся на другі паверх, раптам адчуваў, што адвагі ў яго не хапае.

Развязка наступіла неспадзявана, так прынамсі здалося яму. Хіба ён мог нават здагадвацца, колькі пакутлівых разваг спатрэбілася для гэтага Ларысе Нічыпараўне.

То было напрадвесні, у заводскім скверы. Ларыса Нічыпараўна прытулілася ў далёкім кутку ля дзіцячай пляцоўкі. Хлапчукі каталіся на карусэлі. А яна сядзела на нізенькай дзіцячай лаўцы, падставіўшы сонцу твар.

Анатоль заўважыў яе здалёк. Ён адчуў, як замёрла сэрца і нейкая салодкая млявасць разлілася па целе. Хацеў не падыходзіць, але не ўтрымаўся.

— Як добра, Толя, што ты прыйшоў. Я думала пра цябе,— яна пасунулася на край лаўкі, і ён сеў поруч.— Мы гуляем у хованкі, як дзеці. Я ўсё разумею і ўсё ведаю. Ты добры, шчыры, такі, як і мой Міша. Я часам баюся, што назаву цябе самым дарагім для мяне імем. Але... Мы павінны застацца толькі добрымі сябрамі. Больш нічога не трэба. Пасля ты ўсё зразумееш.

— Ларыса Нічыпараўна...

— Не трэба, Толя. Я ведаю, што ты скажаш.

Яны памаўчалі. Хлопчыкі, угледзеўшы дзядзьку Анатоля, наперагонкі кінуліся да яго і, відаць, адчуўшы, што нешта здарылася, прытуліліся да маці, паглядалі на Дывінца здзіўленымі вачыма.

— Чаму ж вы не вітаецеся? — запыталася маці, прыціскаючы іх да сябе, і адразу ж звярнулася да Анатоля: — Маё шчасце тут і яшчэ там, пад Пінскам, на краі маленькай вёсачкі, дзе пахаваны іх бацька. Навошта табе аскалёпкі таго, што можа быць цэлым і вялікім шчасцем. Вось так, Толя.

Месяцы два ён не заходзіў да яе, нават стараўся не часта трапляць на вочы. Было горка і крыўдна, і ў той жа час назаляла думка: «А можа і сапраўды так лепш».

Аднаго разу ён ішоў паўз яе дом, паглядзеў на вокны — яны свяціліся ярка і прыветліва. «Што яна цяпер робіць?» — падумаў Анатоль і, не стрымаўшыся ад спакусы, нават не заўважыў, калі ўзляцеў на другі паверх.

— Толя, вось малайчына, што заглянуў. А я думала, злуешся. А ў мяне госць — заходзь.

Ён ужо раскайваўся, што так няўдала выбраў час, каб зайсці да яе. Ларыса Нічыпараўна правяла яго ў пакой.

— Знаёмцеся, мая сястра.

— Лілі, — цілілікнула тая, працягнуўшы руку.

— Яна ў нас на заводзе будзе працаваць, у клубе. Мы з ёю даўно не бачыліся. Яшчэ ў вайну я ездзіла да маці ў госці, дык яна вось такенечкая была.

— Ужо і такенечкая. Табе проста тады здалося,— усміхнулася Ліля.

Анатоль прыглядаўся да Лілі. І напэўна таму, што гэта была сястра самага дарагога чалавека, Ліля здалася яму такой жа добрай, чулай і прывабнай, як Ларыса.

А пасля і пачалося ўсё тое, што прымусіла цяпер Дывінца задумацца



над сваім жыццём. Ён крочыў па апусцелым пакоі і думаў, думаў над тым, што ж здарылася з ім. У грудзях яшчэ бушавала злосць на камсорга, які нічога не разумее ў сямейных справах, на Лілю, што ўварвалася ў яго жыццё няпрошанай госцяй, на сябе. Але сорам перад Ларысай Нічыпараўнай заглушаў і злосць і крыўду. Што будзе заўтра? Як сустрэцца з чалавекам, якога так паважаеш і любіш? Хацелася збегчы, каб не бачыць яе разумных вачэй, якія ўсё разумеюць.

Каб не яна, махнуў бы на ўсё рукой. Хіба мала развальваецца сямей. Што ж, можа, і правільна, што далі вымову. Але каму вядома, як цяжка было жыць увесь гэты год. Прыгадаліся вечары ў цёшчы, Адзелаіды Сяргееўны, напоўненыя сумам, бязглуздымі гульнямі і агідным крыўляннем. Не хапала сіл, і ўсё ж ён сумленна хадзіў туды, каб не пакрыўдзіць жонку. Сядзеў і маўчаў. Нават пасля, калі яны ішлі дамоў. Ды і ці быў сэнс спрачацца. Першая сварка прывяла да разводу. А вінаваты ён.

Як пра ўсё гэта расказаць Ларысе Нічыпараўне. Яна, напэўна, зразумела б. Яна зусім іншая. І ўсё ж яна яе сястра. А што, калі яна пачне зводзіць іх, угаворваць, і Лілька вернецца назад. «Абавязкова будзе ўгаворваць. І тады я згаджуся. Як яе не паслухаць. Але ж і жыць так немагчыма».

Думкі, як тая завея, круціліся на адным месцы, не знаходзілі прастору. Дывінец сеў ля стала, пачаў пісаць заяву аб звальненні з завода.

* * *

Паяўленне Адзелаіды Сяргееўны, пра якую Нічыпар нічога не чуў з таго дня, калі яна хуценька ўцякла, палохала яго. Здавалася, што недзе ў горадзе прытаілася здрадніца-бяда і толькі чакае, каб абрушыцца на чалавека. Спакойнае, утульнае жыццё адразу страціла сваю прывабнасць. Набеглі хмары — зрабілася змрочна і тужліва, хоць кідайся пад млынавае кола. Мільганула думка, што Адэлька з'явілася, каб спагнаць аліменты. Гэта было неверагодна. Нічыпар нават усміхнуўся. Чаму ж тады Адэлька прыехала сюды? Ад яе Нічыпар прывык чакаць любой подласці. Не верылася ў благія намеры гэтай жанчыны.

Потым, калі Нічыпар быў ужо змірыўся з думкай, што ад бяды нікуды не схаваешся, паявілася другая — пра дачку. Не пра Лілю, а пра тую, яго Ларысу. Што з ёю? Дзе яна цяпер? Дачка ўяўлялася маленькай лялькай, загорнутай у карункі і цюль. Успамінаў ён пра яе рэдка, без вялікага бацькоўскага пачуцця. Так, мільгане часам думка і знікне, як трэска, што імкліва плыве пад млынавае кола. Прыкінуўшы ў памяці, Нічыпар прыгадаў, што яго дачцы павінна быць трыццаць гадоў. Якая яна? Гэткая ж, як і яе сястра Ліля? Ці можа нейкая іншая, не падобная на іх, паноў Залуцкіх. А што, калі яна падобна на яго. Чаму на яго? Можа яна падобна на яго маці. Цікава, на каго ж яна ўсё ж падобна? За трыццаць год, што прайшлі з таго часу, упершыню захацелася Нічыпару Метлюжку пабачыць сваю дачку. Дзеля чаго? На гэта ён не мог адказаць.

Толькі як знайсці яе? Як прыйсці да ганарлівай Адэлькі. Усё было так пераблытана, што не хапала сілы развязаць гэты складаны вузел.

Думкі падганялі Нічыпара, не давалі спакою. Трэба было нешта зрабіць, прыняць нейкія захады, а ён шкандыбаў па вуліцы і сам не ведаў, куды ідзе і чаго. Старое, даўняе развярэдзіла душу, разварушыла ўспаміны, прынёсшы з сабой неспакой.

Нічыпар нават здзівіўся, калі апынуўся ля дома, у якім размяшчалася адраснае бюро. Чаго ён прыйшоў сюды? Навошта яму Адэлька? Што ён скажа ёй? «Дзе мая дачка? А які з ёй бацька? За трыццаць год не паспрабаваў нават пацікавіцца, як яна жыве. Але ж хто тут вінаваты? Толькі не я. Адэлька вінавата. Ды яшчэ цесць, Сяргей Сяргеевіч. Гэта яны, паны, вінаваты. Яны разбілі жыццё. Няхай ім будзе сорамна».

Бялявенькая дзяўчынка прыняла заказ, ветліва папрасіла:

— Пачакайце крыху.

Нічыпар сеў. У пакой заходзілі людзі, запаўнялі форменныя бланкі, падавалі іх бялявай дзяўчынцы. Яна прыймала іх з нязменнай ветлівай усмешкай, мяккім, мілагучным голасам прасіла: «Пачакайце крыху. Зараз мы знойдзем адрас». Дзве другія дзяўчынкі бралі заказы, знікалі за шкляной перагародкай. Калі яны вярталіся назад, дык перакідваліся некалькімі словамі з бялявай:

— Ты не глядзела новы фільм?

— Не, мы з татам сёння збіраліся пайсці, а ён нешта захварэў.

— Ой, Людка, а што з ім?

— Раненне ўсё...

— Дык мы цябе адпусцім на гадзінку раней.

— Дзякую, Наташа. Я так хвалююся, як ён там...

Чалавечая, шчырая трывога пра невядомага чалавека балюча кранула Нічыпара. Недзе, відаць, ляжыць чалавек і добра ведае, што аб ім клапоцяцца, пра яго думаюць і непакояцца. А вось пра яго ніхто ніколі не дбаў. Жыў адзін, як воўк. Ды і якое там было жыццё? Не было яго. Яно стухла, як вада ў сажалцы. Лічыў, што жыве правільна, спакойна, ціха, без усялякіх узрушэнняў і вялікіх клопатаў. Пасмейваўся над Агнёвым і павучаў яго. А выходзіць, што Агнёў жыў, а ён тлеў, капціў неба.

— Таварыш Метлюжок,— паклікала Нічыпара дзяўчынка.— Вось вам адрас.

Нічыпар узяў паперку з напісаным на ёй адрасам, прачытаў. Адзелаіда Сяргееўна жыла непадалёку — усяго праз нейкіх тры кварталы.

...За дзвярыма гралі на флейце. Нічыпар пастукаў. Ніхто не адчыняў. Тады ён пастукаў мацней. Музыка за дзвярыма абарвалася.

— Вам каго? — вытыркнуў лысую галаву мужчына.

Нічыпар сумеўся. Каго яму трэба пабачыць? Дачку Ларысу. Але як сказаць пра гэта?

— Мне?.. Вас ці яшчэ каго. Вы ж — Дашчынскі?

— Я Дашчынскі. Чым магу служыць? — мужчына не хацеў пусціць Нічыпара ў пакой.

— Скажыце, Ларыса з вамі жыве?

Мужчына адступіў.

— А вам яна дзеля чаго патрэбна?

— Хацеў яе пабачыць. Ды не ведаю, дзе яна жыве.

Чалавек падазрона паглядзеў на Нічыпара. У яго позірку — баязлівасць і няўпэўненасць.

— Яна з намі ніколі не жыла,— нарэшце вымавіў ён.— Прабачце, з кім усё ж маю гонар...

— Ніколя, хто там? — Нічыпар адразу пазнаў голас сваёй былой жонкі. Гэткі ж рыпучы і капрызны.

Адразу прапала ахвота размаўляць з гэтым лысым, насцярожаным чалавекам. Не хацелася сустракацца з Адэлькай. Але, пачуўшы, што Ларыса не жыла з маці, Нічыпара яшчэ больш ахапіла жаданне даznацца, дзе ж яна цяпер.

У глыбіні кватэры пачулася шамаценне шоўку. Нічыпар убачыў, як Адзелаіда Сяргееўна, высока задраўшы галаву, ідзе па доўгім калідоры.



Зрабілася горача і чамусьці вельмі сорамна. Каб не гады, здаецца, кінуўся б наўцёкі.

— Што вы хацелі? — жмурачыся, запытала яна.

Нічыпар маўчаў. Чамусьці не хапала смеласці сказаць, што яму патрэбна Ларыса.

— Разбірайся сама,— буркнуў Дашчынскі,— пра Ларысу, бачыш, пытаецца.

Ён патэпаў, пакінуўшы Нічыпара з Адэлькай адных. Збянтэжанасць у Нічыпара ад такога суседства толькі ўзрасла. З-пад выцвілых брывей ён зрэдку паглядаў на Адэльку, такую чужую і незнаёмую. За гэтыя гады яна пастарэла і патаўсцела.

— Навошта вам Ларыса? — голас Адзелаіды Сяргееўны змяніўся, цяпер ужо ў ім не было тых капрызных адценняў. Нічыпар адразу ўлавіў гэтую перамену. Ён зразумеў, што Адэлька пазнала яго.

— Хачу ведаць, дзе яна цяпер.

— Мала чаго вы захочаце. Я прасіла б не турбаваць нас. Мы не хочам з вамі знацца. Чаго вы паявіліся, як здань? Знаю чаго — пастарэлі, прытулак шукаеце.

Яна гаварыла адрывіста. Адчувалася, што Адзелаіда Сяргееўна хвалюецца, але твар яе заставаўся скамянелы. Нічыпар і сам адчуваў, што было зусім недарэчна паяўляцца праз трыццаць гадоў толькі дзеля таго, каб пабачыць дачку. Але апошнія словы абразілі яго. Ніякай дапамогі яму не трэба. Проста адчуў сваё адзіноцтва.

— Хацеў распытаць, як яна жыве.

— Зноў жа ніякай вам справы да таго няма. І, калі ласка, пакіньце нас у спакоі.

Нічыпар разумеў, што яна можа зачыніць дзверы перад яго носам. Але яна стаяла, чамусьці не адважваючыся праявіць сваю рашучасць. Гэта падобна было на ўступку, што зусім ужо не стасавала да ўпартага Адэльчынага характару. Быццам ёсць у іх агульная тайна, якая прымушае Адзелаіду Сяргееўну мірыцца з паяўленнем няпрошанага госця.

— Добра,— згадзіўся Нічыпар,— я, вядома, мог і не ісці. Толькі ж не я збег ад цябе, а ты. Дык чаго ты раскудахталася тады? Мне на Ларысу абы адным вокам глянуць. Свая ж кроў, не чужая. Дык не мог жа я, дазнаўшыся, што ты тут, не прыйсці. Мне толькі даведацца, як яна маецца. А там жывіце, як хочаце. Навязвацца я не збіраюся.

На здзіўленне Нічыпара, Адзелаіда Сяргееўна адказала, што Ларыса жыве не блага, замужам і мае двое дзяцей. А затым, нібы так сабе, дзеля прыліку, запытала:

— Ну, а як вы? Сям'я?

— Мадзею, але не скарджуся. Жыву добра,— і, ужо баючыся, што Адэлька пачне выпытваць у яго пра ўсё жыццё, паспешліва сказаў:— Дык я пайшоў ужо.

Ён забыўся развітацца і ўспомніў пра гэта на вуліцы. Было прыкра, сорамна. Быццам спалохаўся Адэлькі. І так пуста ў душы, што хацелася зашыцца куды-небудзь у зацішны куток, заліць пустату гарэлкай. Нічыпар палез у кішэню па грошы. У рукі трапіла нейкая папера. Ён выцягнуў яе і здзівіўся, то была газета з яго партрэтам. Газета даволі-такі спрапалася. Асабліва папсаваўся партрэт. Нічыпар стараўся разгладзіць пакамечаную паперку, асцярожна прасаваў яе ў далонях. Урэшце яна набыла прыстойны выгляд. Усё яшчэ трымаючы газету на далоні, Нічыпар запытаўся ў свайго адбітка:

— Ну, што? Дапырхаўся? Ні чорта ты мне не параіш, а ўсміхаешся? Чаго ты скаліш зубы, стары дурань? Узрадаваўся, грэц табе ў душу, што пахвалілі. А за што цябе пахвалілі? Не ведаеш? А ці чуеш ты, што

ў душы дзеецца? Бо ты толькі цень, таму і не чуеш, а я чую. Ад людзей схавацца, канешне, не трэба мець вялікую хітрасць, а вось ад сябе куды збяжыш? Адэлька ўцякла, а ўсё роўна вярнулася. Няма чалавеку ад сваіх думак месца.

Адразу прыгадаліся дробныя, непрыкметныя і такія будзённыя малюнкі. Мех жыта, прадалы ўціхую, схаваныя лішкі мукі, старыя квітанцыі, што нідзе не прыходаваліся. Усё гэта раней не мела ніякага сэнсу. Мех жыта аказаўся лішні. Што ж, яго трэба было вярнуць назад? Усё роўна дзяржаве ён не трапіў бы. Прапілі б возчыкі. А лішкі мукі? Каму іх здаваць? Лішніца заўсёды на млыне бывае. Абмяці жорны, куткі — вось табе і лішкі. Не запрыходаваныя квітанцыі? Зноў жа нічога асаблівага. Хіба нічога асаблівага?

Дзіўна, успора часам сябе чалавек і ўжо не можа знайсці спачынку ад думак. Хочацца яму знайсці тую адзіную праўду, без якой цяжка жыць на свеце. Шукае яе, пакутуе, але не спыняе пошукаў. Як жа трэба жыць на свеце? Так, як жыў, ці, можа, неяк інакш? Так, як Агнёў? Нічыпару прыпамінаецца адзін выпадак. Аднойчы Агнёў пералічыў грошы і выявіў лішак — аж дванаццаць рублёў.

— Дзе ж мне іх перадалі? — занепакоіўся ён.

— Перадалі і добра,— адказаў Нічыпар.— Няхай варон не ловяць.

Агнёў кінуў лыжку, задумаўся.

— Мабыць, у магазіне. Я падаў сотню і мне далі рэшту. Пачакай, мне трэба было пяцьдзесят шэсць рублёў, а далі шэсцьдзесят восем. Трэба пайсці, зараз жа аддаць грошы.

Тады Нічыпар пасмяяўся з яго чэснасці:

— Ссівеў ты, Рыгор, а розуму не набраўся. На цябе там, як на вар'ята, паглядзяць. Касіршы не так нашага брата абжульваюць. Ведаю я іх.

Агнёў, нічога не сказаўшы, пайшоў у горад. Назаўтра, калі ён зноў сядзеў на плаціне і вудзіў рыбу, Нічыпар запытаўся ў яго:

— Аддаў грошы?

— Каму?

— Ну, касіршы, у магазін, адным словам.

— Аддаў.

— Ну і што?

— Нічога.

Сёння той выпадак уявіўся па-іншаму, і Нічыпару зрабілася сорамна за свае ўчынкі. Далёка яму да Агнёва. А што, калі недалёка. Адкінь прэч усе заганы, і ты будзеш Агнёвым. А вось паспрабуй, адкінь. Жыццё цябе часам так скруціць, што не думаеш нават, як і навошта жывеш. Чаго ж Агнёва яно не скруціла?

Ад думак Нічыпар не знаходзіў месца. Жыў ён без пакут, без ваганняў і — на табе! — узрушыўся, развярэдзіў душу. Расказаць бы Агнёву пра свае думкі. Што ён параіў бы? Толькі ці трэба яму расказваць пра свае даўнія справы?

Нічога не вырашыўшы, Нічыпар паклыпаў у млын. На двары было пуста. Нічыпар заглянуў у прыбудоўку. Няўтульная пустата хаткі спалохала яго. Усё жыццё ён хаваўся тут ад людзей, а цяпер цягнула да іх. Не было сіл змагацца. Добра, што неўзабаве прыехалі аж дзве машыны з далёкага калгаса. Шустрыя, маладыя хлопцы-шафёры хутка знеслі мяхі ў млын, падалі накладныя. Прызвычаеным вокам Нічыпар глянуў на накладныя, на груду мяхоў.

— Кладзіце важыць, — загадаў ён хлопцам.

— Дзядзька Нічыпар, хіба ж мы першы раз мелем...

— Кладзіце на вагі. У вас тут удвая больш прывезена, чым напісана на паперы.



— Дык мы ж не супраць. Як заўсёды, не пакрыўдзім. Паўста табе, астатняе нам.

— Я кажу, кладзіце,— не адступаў Нічыпар.

— Далібог, нам і паўтары сотні на двух не прыйдзецца. А мы ўжо табе паможам.

Нічыпар ухапіў мех, паклаў на вагі .

— Было ды мінулася. Няма Нічыпара. А ну, хутчэй кладзіце важыць...

Хлопцы неахвотна браліся за мяхі. Нічыпар хмурыў бровы. Узнікла недзе далёкая думка: «Можа і непатрэбна яна, такая сумленнасць?», але тут жа знікла. Упершыню Нічыпар не жартаваў з хлопцамі, як было заўсёды, а хадзіў сур'ёзны, задумлівы і нейкі надзвычай лёгкі.

...У нядзелю яго пацягнула ў бальніцу да Агнёва. Быў прыёмны дзень. Не трэба было ісці прасіць дазволу ў галоўнага ўрача. Нічыпар апрануў халат, следам за маладой чарнявай жанчынай падняўся на другі паверх. Народу назбіралася шмат. Усе закуткі аказаліся занятыя. Нічыпар заглянуў туды, дзе звычайна сядзеў Агнёў. Але там яго не было. Чарнявая жанчына таксама кагосьці шукала. Яна зазірнула ў адну, у другую палату... Як і раней, жанчына ішла крыху наперадзе Нічыпара. Калідор паварочваў налева, дзе размяшчаліся лабараторыі, рэнтген, кабінеты ўрачоў. Жанчына заглянула туды, усміхнулася і, паскорыўшы крок, схавалася за вуглом.

Нічыпар заглянуў туды. Пад вялізным фікусам сядзела Адзелаіда Сяргееўна. Побач на канапе — Ліля Дашчынская. Нічыпару здалося, што Ліля назвала чарнявую Ларысай, і ён спыніўся. Няўжо гэтая жанчына яго дачка? Хоць бы яшчэ раз назвалі яе імя. Нічыпар увесь падаўся наперад, нават не баяўся ўжо, што яго заўважаць.

— Сядайце, Ларыса Нікіфараўна,— лысаваты чалавек, той, што сядзеў тады на крэсле з малодшай дачкой, прыўзняўся, засланіўшы спіной Ларысу, Лілю, Адэльку.

Тады Нічыпар асцярожна, каб не грукнуць ботамі, адступіў назад пару крокаў і, хаваючыся за вугал, яшчэ раз азірнуўся: Ларыса сядзела маўклівая, засяроджаная.

Паблукаўшы па калідоры, Нічыпар, нарэшце, знайшоў Агнёва ў кабінеце ўрача. Там сабралася чалавек восем, такіх, як сам Рыгор Яўхімавіч, старых пенсіянераў. Бадай адзін Кветны выглядаў сярод іх юнаком. Дзяды зацята спрачаліся. Нічыпар таму быў не прыкмечаны, і ён ціха ўсеўся ля Кветнага.

Гаварыў невысокі чалавек з на дзіва маладым ружовым тварам і гэткай жа ружовай лысай галавой. Голас у яго быў лагодны, спаважны. Выдавала, што ён зусім не хоча спрачацца і калі ўшчаў гаворку, дык таму, што яго думка найлепшая і самая правільная.

—...Перагібы, вядома, былі. На крутых паваротах і полаз угору задзіраецца.

— Гаворка не пра тое,— уступіў у размову высокі, сівы чалавек.— Крутыя павароты адно. У рэвалюцыю не было калі доўга думаць. Ды і ў калектывізацыю таксама. Па мне вунь тры разы стралялі. Дык што вы хочаце, каб ён да мяне з абрэзам, а я да яго ў душу лез, што там у ёй на дне схавана. А во цяпер, праўду Агнёў кажа, у душу мы рэдка заглядаем.

Ружовенькі, пачакаўшы зручны момант, зноў неахвотна пачаў выкладаць свой пункт гледжання.

— Я, зразумейце мяне, не супраць. Лекцыі ў нас чытаюцца суха. І людзей мы добра не ведаем. Падымаем чалавека на шчыт, а ці закружыцца ў яго галава — бог бацька, як кажуць, ведае. Але што ж вы хо-

чаце, каб парторг да ўсяго дацягнуўся. У яго вытворчасць, план, кватэры, скаргі, мерапрыемствы... Дык калі ж яму яшчэ тую душу вывучаць? Потым, усё гэта абстрактна. Я ў грамадзянскую з адным чалавекам ваяваў — наш. Слова супраць не сказаў. На ўсіх мітынгах выступаў. Я ў тым чалавеку ні кропелькі не сумняваўся, а ён пад Арлом да дзянікінцаў перабег — вось табе і душа. А быў у нас афіцэр з дваран, вечна бурчэў. Сачылі мы за ім, як за праклятым, дык ён да апошняга дня быў з намі. І сваім пад Варшавай загінуў. Вось і разбярыся. Дык то вайна, а цяпер мір. Як ты да чалавека ў галаву залезеш. Нашы ў яго там думкі ці, можа, чужыя.

Ён кончыў гаварыць і азірнуўся, каб пабачыць, якое зрабіў уражанне.

— А як думаеш, чаму ты не распазнаў, хто свой, а хто вораг? — Агнёў пільна ўзіраўся ў твар чалавека з ружовай лысінай.— Не ведаеш? Дык я табе адкажу. Бо ніколі з ім шчыра не пагаварыў. Як начальніка, цябе пабойваліся. На руку ты скоры, гэта ж усім вядома. Вось, браце, дзе твая памылка. Чалавека трэба ўмець распазнаваць не па анкеце, а па тым, што ён робіць, як ён робіць і якія ў яго думкі. Тут, вядома, справа не ў гэтай Дашчынскай. Я пра яе і не ўшчаў бы гаворкі. За гэтыя дні неяк глыбей глянулася на ўсё. Вось таму я і заспрачаўся з табой. Ці мала мы гаворым пра перажыткі мінулага? Не па форме штаны — перажытак! Шпалерамі хату абклеіў — перажытак. Пярсцёнак надзеў на палец — перажытак! Але ж гультайства, хцівасць, жульніцтва і вера ў бога — таксама перажыткі. Пярсцёнак з пальца, вядома, лягчэй зняць, чым пазбавіцца, напрыклад, ад хцівасці. А мы больш супраць пярсцёнкаў ваявалі. Ды і не вельмі мы задумваемся, адкуль бяруцца гэтыя перажыткі ў людзей.

Паноў ды буржуяў мы, канешне, пад корань высеклі. Кулакоў і нэпманаў таксама зліквідавалі, і глебу, на якой яны вырасталі, знішчылі. Барацьба была лютая, як кажуць, не на жывот, а на смерць. І ў ёй мы перамаглі, бо інакш і быць не магло. Увесь народ за намі ішоў. Перамога надала нам упэўненасці. Вось тады і паявілася думка, што чалавек сам можа выхавацца ў працы. Яна, маўляў, перакуе чалавека. Праца, вядома, добры лекар, але ж яна не заўсёды душу вылечвае. А ў нас часу не надта многа было, будаўніцтва мы разгарнулі вялікае, клопатаў хапала з наддаллю. Дзе ўжо тут пра душу думаць. Вось і засталіся старыя звычкі ў некаторых людзей. Не-не ды і прарвуцца на паверхню. І не вельмі мы супраць іх ваюем. Караць працей простага, а вось чалавечыя вывіхі выпраўляць куды складаней. І ўсё ж гэта наша справа, усіх нас, і старых і маладых.

Нічыпар слухаў Агнёва, і яму здавалася, быццам Рыгор Яўхімавіч у чымсьці абвінавачвае і яго. Нібы і ён вінаваты ў тым, што ў Адэлькі вырасла вось такая дачка, і невядома яшчэ, якой вырасла тая, другая, Ларыса. І што сам ён, Нічыпар Метлюжок, жыве не зусім так, як таго дамагаецца няўрымслівы, неспакойны Рыгор Агнёў. І яму было сорамна за сваё спакойнае, бесклапотнае жыццё.

Нічыпар паціху выйшаў з кабінета ўрача, пайшоў уніз. На вуліцы ён прыпыніўся, нібы раздумваў, куды пайсці. Думаў пра Ларысу, дачку. Трэба было б падысці да яе і сказаць: «Даруй, гэта я, твой бацька». Цяпер позна. Другога зручнага выпадку не здарыцца. Ён азірнуўся і адчуў, як страпянулася сэрца. Насустрач ішла Ларыса. Яна была смуглая з твару, чарнавалосая і такая ж скуластая, як і маці. Але нешта было і ад яго. Ён глядзеў на яе дапытліва, не мог адвесці вачэй. Яна, відаць, заўважыла гэты неспакойны, зацікаўлены позірк невядомага ёй чалавека.

— Што вы так прыглядаецеся? — запыталася Ларыса.



Ён збянтэжыўся, закашляўся ад разгубленасці.

— Жонку, мусіць, адведвалі? — зноў запыталася яна.

— Не, старога, такога ж бабыля, як і сам,— сказаў ён гэта з адценнем той самоты, якая так не пасавала да яго.

— А я да сястры прыходзіла.

Ён быў узрадаваны, што чуе яе голас, але адчуваў вялікую няёмкасць, якая перашкаджала яму сказаць пра сябе. Таму ён маўчаў, ідучы побач з дачкой. На шчасце, Ларыса была гаваркой.

— Чаму ж вы адны жывяце? — запыталася яна.

Гарачая хваля прабегла па ўсім целе. Нічыпар памаўчаў, перш чым адказаць цікаўнай жанчыне.

— Так выйшла.

— Вось і я адна з сынамі засталася.

Нічыпар устрапянуўся.

— А муж? Разышліся?..

— Не, забілі яго. Быў сакратаром райкома камсамола. Пад Пінскам працаваў. У сорак дзевятым годзе бандыты застрэлілі. А я з двума блізнятамі засталася. Прыехала сюды, інстытут скончыла.

— Цяжка было...

— Лёгкага жыцця я ніколі не бачыла. Без бацькі, а пасля і без маці гадавалася. Прывыкла.

У яе голасе Нічыпар адчуў дакор сабе. Было незразумела толькі, чаму яна сказала, што гадавалася без маці. Успомніліся кінутыя Дашчынскім словы: «З намі яна не жыла». Пякучая крыўда на сябе затуманіла вочы. Як ён мог за столькі гадоў не пацікавіцца, дзе яго дачка? Ён ужо дрэнна чуў, што гаворыць яму Ларыса. Яе голас далятаў здалёк. Але ён нагадваў штосьці блізкае і дарагое.

— Я пайду ўжо,— нечакана вымавіў Нічыпар. Ларыса спынілася. У яе позірку — здзіўленне.

— Усяго вам добрага.

Ён звярнуў у завулак, пастаяў там крыху, потым зноў выйшаў на вуліцу. Дачка ішла далёка наперадзе. Крадучыся, ён паклыпаў следам за ёю. Чаго? Думалася, толькі паглядзець, дзе яна жыве. Ларыса звярнула з галоўнай вуліцы. Нічыпар прыбавіў крок. Дыхалася цяжка. Ларыса ішла па завулку. Вось яна спынілася і кагосьці паклікала. Да яе падбеглі два хлапчукі. Яны пачалі пра нешта расказваць маці. Варухнулася было жаданне вярнуцца, адкласці прызнанне на другі час. Але ён не спыніўся, ішоў усё так жа шпарка, як і раней. Ларыса звярнула ў пад'езд двухпавярховага дома. Перад тым, як зайсці ў дзверы, азірнулася і ўбачыла яго. Здзіўленне і спалох адбіліся на яе твары. Нічыпар прайшоў міма, так і не адважыўшыся прызнацца, хто ён такі.

## Раздзел сёмы

### *Дзень трынаццаты*

Ля вадакачкі мужыкі паілі коней. Званілі званы. Задунаўскае мяшчанства спяшалася ў царкву. Зацягнутыя ў карсеты жанчыны вілялі шырокімі клубамі, вусатыя мужчыны пастуквалі палкамі. Увішна гандлявалі з латкоў яўрэйкі. Было свята.

Пасля турэмнай цішы звычны шум вуліцы выдаваў асабліва гулкім.

І сонца свяціла занадта ярка, аж слязіліся вочы. У галаве кружылася. Хацелася піць, смяглі вусны. Я ішоў па драўляным насціле насупраць натоўпу. Людзі паварочвалі галовы, з цікавасцю і боязню паглядалі на мяне. Мне было ўсё роўна, што яны думаюць. Хацелася хутчэй дамоў, да Аўгінкі. Дзе яна цяпер? Пра гэта я не ведаў, але быў цвёрда перакананы, што абавязкова знайду яе. За тры месяцы мяне ніхто не наведаў у турме. Нават сястра. Я чакаў, што прыйдзе Аўгінка, але турэмны наглядчык ніколі не паклікаў мяне ў пакой для спатканняў. Людзям, відаць, было не да мяне.

Пакрыўджаны сястрой, Аўгінкай, якія не наведалі мяне, я зусім забыўся пра тых, хто дапамог мне выбрацца з турэмнай камеры. Каб не Ноханава дачка Цыля, не мой сябрук Максім, якія даказалі маю невінаватасць, дык я, напэўна, ішоў бы ўжо з кайданамі на руках у далёкую Сібір. Тады я думаў, што ніколі не забуду іх дапамогі. А вось цяпер думаю толькі пра Аўгінку. І пакрыўджаны, я ўсё ж стараюся апраўдаць яе.

Я спрабую ўявіць, як мы сустрэнемся. Толькі чамусьці мне гэта не ўдаецца.

Брукаваная вуліца гудзе, грукоча. Цокаюць падковы, ляскочуць, грукаюць шыны. Пахне пылам, потам, малаком, атавай. Барадатыя мужыкі перагукваюцца, падымаюць над галавой старыя зашмальцаваныя шапкі — вітаюцца. Усё гэта так знаёма мне. І таму так горка... Нічога, калі-небудзь і мы вось так паедзем з Аўгінкай. Побач. На возе з пахучым сенам. І я таксама буду прыўзнімаць шапку, вітаца.

Знаёмыя не трапляліся. Навокал былі чужыя твары, чужыя ўсмешкі, чужыя прывітанні. Са мной ніхто не вітаўся. Я — адшчапенец. Пыльная вуліца бегла між прысад, ля маленькіх хатак і зусім нечакана вырывалася на прастор зюзеўскага поля. Каласавала жыта. У небе звінелі жаўрукі. Шырокая дарога вужакай спаўзала ў Тарчкоўскі роў. Там, між арэхавых кустоў, нясмела прабівалася да Віцьбы ручаінка. Я прыпаў да вады. Піў доўга. Аж зайшліся зубы ад халоднай вады. Потым сядзеў на камені, слухаў, як булькоча ручай.

Час ад часу па дарозе гулка тарахцелі колы. Нехта спяшаўся паспець да абедні ці можа на базар. Мне не было да іх ніякай справы. Вузкай сцяжынкай, што крута падымалася ўгору, я выбраўся наверх і азірнуўся. Па дарозе ўзбіраліся на гару калёсы. Невысокі чалавечак трухаў побач, трымаючыся рукой за біла калёс. На возе, нізка схіліўшыся, сядзела жанчына ў белай хустцы. Я бачыў толькі яе спіну. Штосьці абарвалася ў маіх грудзях. Перад вачыма паплылі жоўтыя кругі, а сэрца балюча сціснулася ў камячок. Я ледзьве стрымаў сябе, каб не крыкнуць: «Аўгінка!» Конь выбраўся з рова. Чалавечак ускочыў на калёсы, махнуў пугай. Жоўты пыл закурыўся з-пад колаў. А я доўга яшчэ стаяў і глядзеў услед.

Сваёй старэнькай хаты я не пазнаў. Новы падруб выпрастаў яе, прыўзняў над зямлёй. Страха таксама новая. Над ёй узвышаўся комін, белы, як абгрызеная косць. Неяк нясмела, як у чужы двор, я адчыніў брамку, спыніўся, нерашучы і баязлівы. Чакаў, што нехта выскача зараз з хаты, здзівіцца. Двор пуставаў. У хаце таксама нікога не было. Тады я пайшоў да хроснага.

Ён быў дома. Ляжаў на палацях, выставіўшы на хату абутыя ў лапці ногі. Хросны быў п'яны.

— Здарова, катаржанін,— залішне гучна прывітаўся ён са мной.— Ну што, пане-браце, адпусцілі? А ў нас тут прайшоў слых, нібы адправілі цябе на Сахалін. Людзям абы брахаць.

Мы расцалаваліся. Макар дастаў пляшку, прынёс з град цыбулі, потым, крыху пастаяўшы сярод хаты, дастаў з кубла ладны кавалак сала.



— Мая ў царкву пацягнулася,— растлумачыў ён прычыну сваёй смеласці.

Мне не цярпелася дазнацца пра Аўгінку, але хросны цягнуў.

— Жывем, як і жылі,—не спяшаючыся, казаў ён.—Тут навіны і за дзесяць гадоў не дачакаешся. Хіба памрэ хто ці народзіцца. А так ціха. Швагер твой галавіты хлапец. Рабацяга. І сабе і жонцы спуску не дае. Ніхто не бачыць, калі спаць кладзецца, і калі ўстае, ніхто не ведае. Зміцерку змовіў за пастуха і плату наперад забраў, таму і хату перастрос. Сам па людзях ходзіць, а Ганначка зямлю глядзіць. Жывуць, а толькі хай яго такое жыццё. У паны ўсё роўна не вылезеш, а грыжу нарвеш...

Хросны не піў, а патроху сёрбаў з конаўкі саматужную гарэліцу. А я з горыччу думаў: «Вось табе і Сцяпан! Абяцаў забраць Зміцерку, а сам выправіў яго ў людзі. Чаму так здараецца, што чалавек, учапіўшыся за зямлю, становіцца чэрствым, як турэмны сухар?»

— Не чуў там, ці не будзе якая мужыкам палёгка? — запытаўся Макар.

— Не чуў.

— Мабыць не будзе. Куды ж ты цяпер пойдзеш? Зноў у парабкі?

Я не ведаў. Мне хацелася хутчэй пабачыць Аўгінку. Усё далейшае залежала ад яе. Але хросны, нібы знарок, не ўспамінаў Аўгінкі. Тады я адважыўся запытацца ў яго, ці не ведае ён, што сталася з тарасавай парабчанкай. Хросны сербануў гарэлкі, і ўжо без слоў я зразумеў: здарылася нешта непапраўна цяжкае.

— Прадалі яе, пане-браце, не за панюх солі Васілю Курнасёнку.

Перад вачыма ўзнікла постаць таго маленькага чалавечка, што трухаў побач з калёсамі ў Тарчкоўскім рове.

— Як жа яна пайшла за гэтага бязносага вылюдка?

— Не пойдзеш! Ці ў дзеўкі пра тое пытаюць? Мёртвую ў царкве вянчалі. Поп быў адмовіўся, дык гэты пранцаваты Курнасёнак да епіскапа збегаў — той благаславіў. Два разы нявесту пад вянцом вадой адлівалі. Не вяселле, а хаўтуры. Усё Яўмен. Каб толькі братавай гаспадаркай завалодаць — двух кароў і золата на пасаг не пашкадаваў. Такую дзеўку скруцілі, каб ім галовы паадкручвала.

— Налі мне,— папрасіў я хроснага.

Гарэлка апякла глотку, замуціла галаву.

«Я вам яшчэ адпомшчу,— думаў я.— Спалю, зарэжу гэтага звяругу, што падвёў мяне пад турму, а Аўгінку пад вянец».

Хросны ўзяў мяне за плечы.

— Ты толькі не шалей. Яно, канешне, млосна, а толькі бабы яны, пане-браце, бабы і ёсць. У дзеўках яе хоць да раны прыкладвай, а бабай стане — як вожык калючкамі абрасце. Паляжы вось, паспі, тады прыдумаем, што табе рабіць.

Але ўкласці мяне было не так проста. У грудзях лютавала злосць. Я скрыгатаў зубамі, лаяўся, махаў кулакамі, а хросны падскокваў да мяне, хапаў за рукі, прасіў уціхамірыцца. Прыйшла Макарыха. Усплёснула рукамі, заплакала.

— Во спаіў хлопца, каб цябе немач узяла,— і, павярнуўшыся да мяне, загадала:— А ну, хадзем, я цябе ў свірне прымкну, каб не збег часам.

Я пакорліва паплёўся за ёю. Чуў, як скрыгатнула дужка замка аб прабой, як два разы шчоўкнуў ключ. А потым неяк адразу настала мяккая цемра.

Прачнуўся я пад вечар. Касыя промні прабіваліся з падстрэшша, залацілі павуціну. Было ціха, як у турме, можа нават цішэй. Я ўзабраўся

на засек, адтуль на адзіную ў свірне бэльку. Праз дзірку ў страсе выпаўз на свет. Сонца апускалася за лес. З поля гналі жывёлу. Недзе далёка спявалі хлопцы старую песню пра волю.

Я саскочыў на зямлю. Хаваючыся за прысадамі, выбраўся ў поле. Мяне цягнула да Аўгінкі. Хацелася пабачыць яе хоць здалёк. Пабачыць, а пасля хоць галавой у вір.

Цяпер Аўгінка жыла ў Бісаве. Я доўга стаяў у хмызняку, што падыходзіў да вёскі, чакаў, пакуль сцямнее. Мне добра быў відаць комін Курнасёнкавай хаты, саламяная страха, зрублены ў лапу вугал. Ці ёсць толькі ў хаце Аўгінка? Ці прыехала яна з горада? Аднаго разу я хацеў быў пайсці, але нейкая ўладная сіла прымусіла мяне застацца. Непадалёк ад хмызнякоў у раўчуку чарнеў зруб калодзежа. Дзве жанчыны набіралі ваду. Я чуў іх нягучную гаворку, прыдушаны смех. Выдавала, што яны ўспамінаюць пра Аўгінку, ці можа гэта мне здавалася. Сэрца білася глуха і трывожна.

Сутоньвалася. Даўно ўжо загналі кароў у хлявы, а я ўсё стаяў, пазіраючы на сцежку. Не ставала сіл ісці ў вёску. Сустрэча з Аўгінкай здавалася цяпер непатрэбнай. І ўсё ж я стаяў. За вёскай узыходзіў месяц. Доўгія, пачварныя цені ад хат і прысад дасягалі хмызняку. З нізіны пацягвала сырасцю. Мабыць ад таго, што я доўга глядзеў на дарогу, у вачах скакалі зялёныя агні, а ўсё наваколле расплывалася сіняй плямай. Раптам я пачуў, як бразнулі ля калодзежа вёдры. Пачуўся ціхі ўсплёск вады. Цень ад узгорка хаваў ад вачэй калодзеж і чалавека, які ў такую пару прыйшоў па ваду. «Што будзе, тое і будзе, — вырашыў я, — але запытаюся ў яго пра Аўгінку».

Я ішоў напярэймы чалавеку, які, не спяшаючыся, нёс на каромысле два вядры вады. І яшчэ не ўсвядоміўшы добра, што выпадак дапамог маёй сустрэчы, я ўжо бег насустрач Аўгінцы. Яна ішла, нізка схіліўшы галаву, быццам шукала штосьці на гэтай утаптанай сцежцы.

— Аўгінка... — ціха паклікаў я.

Яна здрыганулася, каромысла слізганула з плячэй, вёдры глуха ўдарыліся аб зямлю. Я кінуўся падымаць іх, а калі падняў, дык не ведаў, што мне рабіць з імі.

— Божа, як я злякнулася...

— Гэта я... Чакаў цябе. Увесь вечар стаяў.

Яна маўчала. Потым надламалася ў каленях, села, паклаўшы перад сабой рукі. А я стаяў.

— Аўгінка, я ўсё ведаю, — сказаў нарэшце я. — Як жа ты згадзілася, Аўгінка?

— Згадзілася,— як рэха, адказала яна, і раптам упала галавой на выцягнутыя рукі.

Я прысеў поруч.

— Чаго ты. Мяне ж выпусцілі. Цяпер мы зноў разам будзем.

Аўгінка рэзка выпрасталася.

— Ідзі, ідзі лепей, а то я на сябе рукі налажу. Сваё і маё жыццё загубіў. Ідзі...

— Аўгінка, я не забіваў.

— А хто табе паверыць? Хто? Лепей ужо мне было са старым пад вянец пайсці, чым з ім.

Яна падабрала вёдры і зноў пайшла да калодзежа. Нават не агледзілася. І раптам мяне пранізала шалёная злосць, скаланула мяне з галавы да ног. У наступнае імгненне я дагнаў Аўгінку, з усяе сілы схапіў яе за плечы.

— Бі, душы, хачу ад тваёй рукі смерць прыняць,— яна распасцёрла





рукі, потым з усяго размаху стукнула сябе ў грудзі:— Што ж ты стаіш?
Спалоханы яе роспачлівым крыкам, я адпусціў яе.

— Не вінаваты я, Аўгінка. Хіба ж мяне адпусцілі б? Чужыя людзі заступіліся, а ты...

— Ідзі, Рыгорка. Ці ты не бачыш, як мне цяжка?

І я пайшоў. Чаму? Навошта паслухаў яе? Не разумею як, але неўзабаве я апынуўся ля Яўменавай хаты. Прытаіўшыся ў вішняку, я пазіраў на гняздо старэйшага Тарасава брата і ліхаманкава шукаў па кішэнях запалкі. Нарэшце дрыготкія пальцы знайшлі іх, выцягнулі з кішэні. Крадучыся, я падпоўз да хлява. Тут пад страхой стаялі перасохлыя леташнія кулі. Я выцягнуў запалку.

Панавала цішыня. І раптам недзе зусім недалёка пачуліся галасы. Я замёр. Размаўлялі за плотам. Ломкі хлапечы голас угаворваў дзяўчыну.

— Дурная ты, Хрысціна. Каб жа я не кахаў цябе.

— Не будзь разумнейшы за бацьку. Вось прысылай сватоў, тады і пагаворым, а пакуль не твая, не хватай, а то і па зубах палучыш...

— Дык жа кажу табе, што ў нядзелю прыйдуць.

— Няхай прыходзяць.

— І пацалаваць ужо не можна.

— Дурань...

У людзей ладзілася вяселле. Нехта радаваўся, чакаў шчасця. А мне даводзілася стаяць з запалкамі ў руцэ. Дык няхай спапялее ўсё. Хутчэй бы толькі яны пайшлі.

У сенцах зарыпелі дзверы. Нехта выйшаў на ганак увесь у белым.

— Хрысціна, марш дамоў, — як пошчак, прагучэў з ганка жаночы голас. — А ты што там курыш. Не дай бог, западзе куды іскра—уся вёска згарыць. І так людзям гора хапае.

Словы жанчыны балюча выцялі мяне па твары. Як я мог адважыцца з-за адной Яўменавай хаты спаліць усю вёску. І ўжо не баючыся, што мяне заўважаць, я выйшаў на вуліцу, пайшоў да хроснага.

### *Дзень чатырнаццаты*

Карчма стаяла пры вялікай дарозе. У базарныя дні тут да раніцы балявалі мужыкі з далёкіх вёсак. Тады на дапамогу старому Нохану прыходзіла яго дачка Цыля. Яна ўвішна бегала між сталоў, разносіла бутэлькі і шклянкі, наразала хлеб, смажыла яешню. П'яныя мужыкі ўволю куражыліся за свой, потам здабыты, рубель, смачна лаяліся, заказвалі Нохану вальсы. Стары паспяваў усюды. Іграў на скрыпцы, разлічваўся з п'янымі, адмяраў гарэлку і нястомна цікаваў за гасцямі.

Часам у карчму прыходзіў аднавокі Сымон з цымбаламі. Гэты рэзаў полькі, барыню, кракавяк, і тады хадуном хадзіла карчма ад тупату мужыцкіх ботаў і лапцей.

Раней я не любіў карчму. Цяпер, калі ў мяне адабралі Аўгінку, упадабаў. Праседжваў вечары за сталом, па-хвацку танцаваў барыню, заліваў сваё гора гарэлкай.

П'яная весялосць карчмы глушыла горкія ўспаміны. Пасля двух шклянак гарэлкі ўсё навокал здавалася не такім ужо благім. Нават п'яная, азызлая салдатка Матруна ўяўлялася прыгожай і добрай. Часам яна падсаджвалася да мяне і, аддана заглядаючы ў вочы, прасіла:

— Вазьмі пляшку гарэлкі на двух. Не збяднееш. А бог на тым свеце залічыць. Некалі і я на вараных ездзіла. Адбою ад хлопцаў не было. А вось бачыш, дакацілася. Усё Браткі. Яўмен здаў майго ў салдаты. Падсунуў п'янаму сынаў нумарок. А да мяне ж на трэцюю ноч прыпёр, яшчэ і пасцель не паспела астыць. Выгнала тады, а ўсё роўна яму дасталася. Толькі абабраў усю. Ну, дык як, возьмеш пляшку?

Я браў гарэлку, наліваў у шклянку—хацелася пазбавіцца ад Матруны. А яна, як на злосць, сядзела. Я наліваў другую. Тады яна падымалася з-за стала і, схіліўшыся да вуха, шаптала:

— Можа сёння хоць прыйдзеш? Шкада мне цябе маладога, неразумнага.

Я круціў галавой. Не таму, што было брыдка глядзець на Матруну — перад вачыма паўставала Аўгінка.

За два гады мы сустракаліся з ёю не болей пяці разоў і толькі аднойчы не пры народзе. Гэта было зімой у завіруху. Я вяртаўся з горада пехатой, яна — на кані. Калі яна абганяла мяне, я паспеў стаць нагамі на палазы.

— Няўжо не падвязеш? — запытаўся я. — Ці, можа, заганарылася ўжо? Відаць, бязносы багацей лепей за насатага парабка.

— А ты яго не чапай. У сваёй хваробе не ён вінаваты.

— Хутка ты інакш запела.

— Думаў, праз усё жыццё галасіць па табе буду?

Даўняя, балючая рана зажыла. Таму я не злаваў. Урэшце, нават вялікае гора прытупляецца. Словы Аўгінкі не вельмі кранулі мяне. Ды цяплілася яшчэ надзея на штосьці добрае.

— Па мне галасіць не трэба, — адказаў я. — Толькі скажы мне, няўжо ты і сапраўды верыш, што я забіў Тараса Тарасавіча?

Яна пагнала каня і, калі ён, закідаўшы нас камякамі снегу, перайшоў на галоп, задзірліва адкінула галаву:

— А калі і ты — невялікі клопат. Туды яму і дарога. Сядай у сані. Чаго ззаду тырчыш?

У яе позірку было нешта разухабістае, нязвычнае. Яно збянтэжыла мяне, збіла з тропу.

— Паслухай, Аўгінка, кідай яго. У горад пойдзем.

— А возьмеш? Не пабаішся? — яна прыжмурылася.

— Вазьму, — горача запэўніў я.

— А калі і я захварэла на дурную хваробу, таксама возьмеш?

Я спалохана адсунуўся. Яна засмяялася халодным, жудасным смехам.

— Ага, спалохаўся. Дык вось што я табе скажу, Рыгорка ты мой: не ўмелі мы з табой жыць. Перад людзьмі збіраліся мужам і жонкай стаць, а не перад богам. Вось ён і пакараў нас. А сталі б мы перад ім мужам і жонкай — ніхто нам і слова не сказаў бы. І нікому я тады непатрэбна была б. Можа і табе нават. Толькі не, табе я патрэбна была. І верыла табе. А цяпер усё. Спета мая песенька для цябе. Спалохаўся ты. А баяцца няма чаго. Во сабрала грошай ды да доктара з'ездзіла. Абнадзеіў ён. Кажа, што такія, як мой Васіль, другіх ужо не заражаюць.

— Дык чаго ж ты тады? — усхапіўся я. — Кідай яго. На што ён табе?

— Не ўжо, Рыгорка, цяпер я яго не кіну. Не хачу на душу грэх браць. Не жылец ён быў, а цяпер і падаўна. Думаеш, яму маё золата і каровы былі патрэбны? Па ім даўно магіла слёзкі лье. Бацькі яго навялі на гэта. Хваробай абдзялілі, ды яшчэ мной — вось і ўсе іх клопаты. Паверыш, лаю я яго іншы раз на чым свет стаіць, а ён маўчыць. Пасля расплачацца. «Павесіўся б, — кажа, — толькі ж пра цябе благая слава пойдзе. А ты і так з-за мяне напакутавалася. Памру хутка,

тады рабі, што хочаш. А цяпер не кідай мяне. Куды я хворы падзенуся». Сціснецца ў мяне сэрца, хоць ваўком вый. Раззлуюся — здаецца, сваімі б рукамі яго задушыла, а падумаю, дык чым ён вінаваты.

— Не бог жа яго пранцамі надарыў! — злосна вымавіў я. Было прыкра, што Аўгінка ўсяляк выгароджвае свайго хворага мужа.

— Не бог, а маці. А яе — панок раўбіцкі...

Усе няшчасці нязменна вялі на панскі двор. Адтуль, як з рэшата, сыпаліся яны на нашы галовы, і можа тады ўпершыню я адчуў лютую злосць не да адных паноў Залуцкіх, а да ўсіх, што густа засяліліся вакол сялянскіх хат.

— Вось так, Рыгорка. Любіла я цябе моцна. Ды, відаць, не наканавана нам было жыццё пражыць. А цяпер злазь. Не трэба, каб людзі плявузгалі. І ганю я цябе таму, што ўсё яшчэ люблю. Паплачу часам у падушку, на тым і канчаецца. Не кранай ты маё сэрца, Рыгорка. Што з вадой сплыло — не вернеш. Жаніся, бяры сабе дзеўку і жыві на здароўе, а пра мяне забудзь.

Яна спыніла каня. Я неахвотна злез. Стаяў па калені ў снезе, глядзеў, як вараны конь, нібы чорная смерць, панёс маю Аўгінку. Больш я з ёй не сустракаўся. Але забыць яе не мог.

У той вечар у карчме было асабліва людна: свята—Пятра. Мужыкі вярталіся з кірмашу. Везлі з горада новыя косы. Багацейшыя наймалі касцоў, і тыя, атрымаўшы задатак, прапівалі яго ў Ноханавым прыстанішчы. Я таксама наняўся да Яўмена, які нібы і забыўся, што калісьці вязаў мяне, каб адправіць у турму. Прапіваць сёння было што. Карчма гула, дыхала гарам. Стары Нохан ужо кляваў носам ля стойкі. П'яныя мужчыны спявалі песні сіплымі галасамі. Матруна ляжала ў парозе. Кароткая пятрова ноч канчалася.

Я нават не заўважыў, калі ў карчме паявілася двое чужых людзей. Адзін высокі, русы, з казлінай бародкай і коратка падстрыжанымі вусамі. Другі нізкі, каранасты, з шырокай чорнай барадой. Яны сядзелі за крайнім сталом, ля самых дзвярэй, і засяроджана назіралі за п'янымі.

Да іх падышла Цыля. Мне здалося, быццам яна спалохалася: выдавала яе залішняя мітуслівасць. З хвіліну яны шапталіся, потым Цыля падбегла да бацькі, нешта сказала яму па-свойму. Слоў я не разумеў.

— Адкуль жа гэтыя паны? — нібы знарок, каб пачуў я, запытаўся Нохан.

— Артысты, на Вяліж прабіраюцца, — адказала Цыля.

Нохан наліў дзве шклянкі віна, нарэзаў каўбасы, гукнуў Еву, парабчанку. Тая паявілася з-за шырмы, заспаная і зморацая.

— Спячэш яешню, — буркнуў Нохан.

Цыля панесла выпіўку гасцям, і зноў яны пачалі шаптацца, пазіраючы ў мой бок.

— А што пан Рыгор такі задумлівы? Мо' паднесці гарэлкі? — запыталася ў мяне Цыля.

— Трэба і дамоў некалі ісці, — развconfigured вымавіў я, пазіраючы на незнаёмых.

— Ці не зможаце вы ўладзіць начлег гэтым людзям? — нечаканае Цыліна пытанне вельмі здзівіла мяне. У Нохана быў спецыяльны пакой для начлега. — Яны могуць добра заплаціць.

Першае, што мільгнула ў маёй галаве: адзін з незнаёмых — Цылін каханак. Я нават усміхнуўся сваёй здагадлівасці.

— Добра, уладжу, — адказаў я.

Выйшаўшы на вуліцу, я пачаў сумнявацца. Хто там ведае, што гэта за людзі. Адзін раз я ўжо сядзеў у турме за так сабе. Трапляць туды яшчэ раз за нейкіх падазроных паноў не хацелася. Махнуўшы на ўсё рукой, я паплёўся дамоў. Спаць ужо не было калі. На ўсходзе ружавеў край неба. У вёсцы крычалі пеўні.



Парабкі спалі мёртвым сном. Я прыкарнуў ля іх і адразу заснуў. Здавалася, толькі звёў павекі, як хлопцы пачалі катурхаць мяне. Балела галава, шумела ў вушах. Але чужая праца не свая — даводзілася ісці на поплаў.

...Нас было чацвёра. Чатыры касы адным махам падразалі росную траву, скідалі яе ў высокія пракосы. Я ішоў апошні, адстаючы ад хлопцаў. Бяссонная ноч абрабавала сілы. Не хапала спрыту падладзіцца пад дружныя ўзмахі касцоў.

Хлопцы ішлі ў пракосе да рэчкі, абмывалі косы, жартавалі:

— Ці не Матруна так ухадзіла цябе?

Я адбрэхваўся. Як і летась і пазалетась, касцы гаварылі пра адно і тое ж. Расказвалі пра свае маладыя грахі з гаспадынямі і іх дочкамі, з такімі ж, як і самі, парабчанкамі.

Сонца паднялося на тры ляхі. Раса прапала, і косы ўжо не пасвіствалі, як раней, а глуха шоргалі па сухой траве. Мы стаміліся і моўчкі махалі косамі. Шыракапятая, таўстазадая Аксютка, жонка старэйшага Яўменава сына Антося, прынесла сняданне. Яе чырвоны тлусты твар, як заўсёды, ухмыляўся. З-пад вузенькага ілба, што зарос ледзь не да броваў чорнымі жорсткімі валасамі, зыркалі маленькія птушыныя вочы. Хлопцы адразу павесялелі. Аксютка была здаровая, як конь, і бяскрыўдная. Яна любіла дужацца з маладымі парабкамі і амаль заўсёды брала верх. Ёй можна было напхаць за пазуху сырой вахкаватай травы, і яна толькі прыдушана смяялася. Яе, нарэшце, можна было выкупаць у рэчцы і самому наглытацца вады. На большыя жарты ніхто не адважваўся пасля таго, як летась на застаронку ў пуні яна выбіла пярэдні зуб здараўяку-сезонніку, што нейкім цудам паваліў яе ў сена.

Паставіўшы чыгун з кашай і вялізную міску з блінамі на пракос, яна ўхапіла касу і, па-мужчынску шырока расстаўляючы тоўстыя ногі, пачала касіць. Хлопцы кпілі:

— Ну і разварот. Пашанцавала ж такому дурню.

— Такая абдыме — піць папросіш.

Аксютка ашчэрвала велікаватыя рэдкія зубы. Хлопцы паціху раіліся, што б такое ўчыніць з Аксюткай. Яна, відаць, здагадвалася пра іх змову.

— Эй, вы там, мурзацікі, па адным выходзьце.

Гарбаносы Аўтух Лапцёнак, быццам неахвотна, але з усмешкай, падняўся, уперавалку пайшоў да Аксюткі. Яна, далёка адкінуўшы касу, стаяла, упёршыся рукамі ў бакі. Аўтух ішоў памалу, прыгнуўшы галаву, як маладзенькі фанабэрысты бык. Нейкі час яны стаялі адзін супраць другога, падсцерагаючы кожны рух. Аксютка ўхмылялася, паблісківаючы сваімі чорнымі вочкамі. Аўтух ніяк не мог абхапіць яе кароткімі рукамі. Затое яна, злаўчыўшыся, перахапіла яго, прыўзняла над зямлёй. Аўтух смешна дрыгаў нагамі, а калі адчуў пад сабою зямлю, спрытна падставіў падножку. Абое ўпалі ў пракос. Нейкі час у паветры мільгалі то голыя ногі Аксюткі, то калошыны шарачковых штаноў Аўтуха. Хлопцы паўскоквалі з пракосу. Аксютка ўжо сядзела верхам на Аўтуху і, прыпадаючы грудзьмі да яго твару, моцна трымала яго за раскрыжаваныя рукі. Рагочучы, падбеглі хлопцы.

— Трымай яго, Аксютка!

— Няхай не будзе храбры...

Расчырванелая Аксютка, не выпускаючы Аўтуховых рук, задыхана шаптала, прыпадаючы да хлопца.

— Не будзеш, кажы, што не будзеш...

— Пусці ўжо... — прасіўся Аўтух.

І тут нечакана ў вёсцы грымнуў стрэл, сухі і рэзкі. За ім другі...

— Каму гэта прыспічыла па варонах смаліць? — запытаўся адзін з касцоў.

— Дык гэта ж тых ловяць, што ў ёўні, — усё яшчэ ўсміхаючыся, растлумачыла Аксютка. Яна ўжо стаяла побач з хлопцамі, растрапаная, як пашкуматаная ветрам капа сена.

Кроў ударыла мне ў галаву. Я чуў, як загараецца чырванню твар, а зябкі холад ліпне да спіны. Няўжо ловяць тых, каго я павінен быў уладзіць на начлег? Добра, што не звязваўся з імі. Хлопцы распытвалі ў Аксюткі пра «тых», каго цяпер ловяць. Але яна амаль нічога не ведала. Тады яны пабеглі ў вёску. Следам за імі пайшоў і я, спачатку памалу, а пасля ўсё больш прыбаўляючы кроку.

Ля Яўменавай пуні стаялі мужчыны, крадком пазіраючы за тым, як тры жандары і паддубскі ўраднік ловяць «бандытаў». Жандары трусілі, хаваліся за ўзмежкам. Тоўсты, як куль, ураднік ляжаў, унурыўшы галаву і высока задраўшы туга абцягнуты сінімі штанамі зад. Здавалася, жандары гуляюць у хованкі.

— Эй, вы там, здавайцеся, усё роўна вам не ўцячы, — крыкнуў жандар.

У таку маўчалі. Ля пуні паціху перамаўляліся мужчыны.

— ...Ён тады ў ток, а яны па ім... Ён па іх, ды хутчэй за ўзмежак.

— Не, спачатку ён па іх, а пасля яны па ім.

— Ці многа ж іх?

— Чалавек пяць.

— Не ўзяць тады.

— Возьмуць, паслалі ў горад...

Над ёўняй чыясьці рука прасунулася між саломы. Нейкая жанчына, вырачыўшы вочы, дзіка залемантавала:

— Вунь ён, лезе, глядзіце, страху прадраў, — і нырнула за мужчын. Усе зноў адступілі за пуню.

Нехта цягнуў мяне за палу.

— Хавайся, а то прыстрэляць. У іх левальверты.

Страх гнаў людзей за пуню, але цікаўнасць была большая за страх. Людзі бачылі, што я не хаваюся, і зноў вытыркалі галовы з-за вугла.

Я адразу пазнаў яго. Гэта быў той нізкі таўставаты чалавек. Яму было цяжка праціснуцца між латаў страхі, і ён, відаць, рассоўваў іх рукамі. Нарэшце, над страхой паказалася яго галава і плечы. Чалавек азірнуўся, угледзеўшы ўрадніка, крыкнуў:

— Эй ты, фараон, схавай зад, — і ў той жа час ён адным махам вылез на страху. У яго руках нешта чарнела.

Жандар прыцэліўся і стрэліў. Чалавек пагразіў яму кулаком і скочыў на зямлю. Нізка прыгінаючыся, ён прабег крокаў пяць і раптам, пахіліўшыся на бок, упаў. Жандар ускочыў і, таксама нізка схіліўшыся, пабег да яго.

— Здавайся, — крычаў ён і нечакана, як бы спатыкнуўшыся, сунуўся тварам у траву. Прагучэў стрэл.

Жандар не падымаўся. Ён ляжаў, падагнуўшы галаву, раскінуўшы доўгія ногі ў блішчастых ботах. Пасля стрэла настала гнятлівая, дзікая цішыня. Людзі скамянелі.

Нізкі паспрабаваў падняцца. Абапёрся на рукі, прыўзняўся. Стаяў





ён на адной назе, як няўклюдная чапля. Азіраўся. Прагучэлі ўзапар два стрэлы. Чалавек нават не паварухнуўся. І яшчэ два стрэлы. Але ён усё стаяў, нібы зачараваны ад куль.

— Людзі, чаго ж вы стаіце? Біце паноў і жандараў! — чалавек працягнуў да натоўпу рукі. — За ваша шчасце...

Ён крычаў нешта яшчэ, але яго словы тонулі ў стрэлах. У натоўпе залемантавалі жанчыны. Урааднік, нізка прыхіліўшыся да зямлі, падбег да натоўпу, рыкнуў надтрэснутым голасам:

— Чаго паразяўляліся? Марш па хатах, — ён хапаў людзей за каўняры, штурхаў іх. Людзі, спалоханыя яго крыкам, неахвотна адыходзілі.

Жандары не спускалі вачэй з дзвярэй тока. Ураднік зноў залёг ля ўзмежка. Было вельмі ціха. Потым жандар паклікаў пальцам ураднікa. Той падпоўз, а пасля кінуўся да тока. Я нічога не разумеў. Нават тады, як угледзеў у руках ураднікa кволы аганёк запалкі. Тонкі дымок выбіўся з-пад страхі, паплыў у неба. Затым па страсе папоўз жоўты язычок агню і раптам стаў на дыбкі, шугануў полымем. Людзі загаманілі, залемантавалі. Яўмен, не зважаючы ні на што, кінуўся да жандараў.

— Паночкі, што ж вы робіце?

Жандар доўга крычаў, размахваючы рукамі, потым штурхнуў Яўмена, і ён упаў на зямлю.

Над токам ужо стаяў бура-чорны слуп агню. Жандары ўзялі на прыцэл дзверы. Але ніхто не паяўляўся з іх. Яшчэ колькі мінут і вялізная страха прагнулася, раптам упала, узняўшы віхор вогненных пырскаў.

Усхліпвалі жанчыны. Ураднік зноў пачаў разганяць натоўп, а я ніяк не мог апамятацца. Адчуў, што сённяшні дзень неяк пераняміў маё жыццё.

## *Дзень пятнаццаты*

— Ці ты Рыгор Яўхімёнак? — худзенькае мурзатае стварэнне паявілася аднекуль з-пад куста, калі я вяртаўся з поплава. Хлопцы пайшлі раней, а я застаўся адзін са сваімі думкамі. Сённяшняе забойства ў Гаранах абудзіла ў мяне шмат неспакойных, непрывычных думак. За нядоўгае жыццё я не раз бачыў, як смерць, непрыкметна падкраўшыся да чалавека, валіла яго з ног. Дзіўнага ў гэтым нічога не было. Мне нават здавалася, што лямант і галашэнне баб на хаўтурах не што іншае, як жаданне хутчэй забыць пра чалавека. Давялося мне бачыць і гвалтоўную смерць Тараса Тарасавіча. Але і яна не ўразіла мяне так, як сённяшняя смерць двух незнаёмых. Чаму іх забілі? За што? Каму сталі яны ўпоперак дарогі? Што ўчынілі благога? Адказ на такія пытанні я не мог знайсці. Людзі гаварылі рознае. Кожны даводзіў сваё. У кожнага былі «найвярнейшыя» думкі. Казалі, быццам, то два славутых бандыты, якія загубілі не аднаго чалавека. Іншыя сцвярджалі, што гэта забойцы цара. А таўстапузы ўраднік на пытанне, што за людзей парашылі жандары, пагражаючы кулаком, зарыкаў, як шалёны бык:

— Маўчаць! Вам якая справа?

Усё гэта здавалася дзіўным і незразумелым. Нават пагрозлівы адказ ураднікa, які звычайна да драбніц апавядаў сялянам пра свае смелыя паходы супраць бандытаў і зладзеяў.



Дзяўчынка абарвала мае думкі. Я добра ведаў яе. Яна працавала ў Нохана за парабчанку. Звалі яе Евай. Гаранскія хлапчукі, запрыкмеціўшы Еву, крычалі на ўсю аколіцу:

Ноханава Ева
Залезла на дрэва.

Ева хутчэй уцякала на кухню. Адтуль чуваць быў яе тонкі прачізлівы галасок; я не мог зразумець, спявае яна ці плача. Паяўленне Евы ў Гаранах здзівіла мяне. Толькі нешта важнае магло прымусіць яе пакінуць утульнае сховішча.

— Навошта я табе?

Азірнуўшыся, Ева спяшаючыся пачала гаварыць на сваёй ламанай мове:

— Цылька цябе кліча. Казала, каб абавязкова прыйшоў сёння ў кузню. Як сцямнее. Яна цябе чакаць будзе.

— Навошта я ёй? — запытаўся я.

— Не ведаю. Больш нічога не сказала, — Ева пабегла, а я яшчэ доўга ніяк не мог апамятацца.

Павячэраўшы, я пайшоў у кузню, што стаяла на развілцы дарог, непадалёк ад карчмы. Было боязна. Па спіне гулялі мурашкі. Але я ўпарта ішоў, перамагаючы страх.

Старая кузня выдавала скалечанай пачварай. На фіялетавым небе выразна відаць былі перакрыжаваныя пахілыя кроквы. Тырчэлі аглоблі, паднятыя ўверх і прывязаныя да калёс. Усюды валяліся колы, абады, утулкі, нейкае жалеззе — у сутонні летняй ночы яны выдавалі страшыдламі. Баязліва ступаючы, я абышоў кузню—нідзе нікога няма. Гэта лепш. І ўсё ж варта берагчыся. Узброіўшыся шворанам, я прысеў ля сцяны на кола, пачаў чакаць.

Цыля прыйшла неўзабаве. Яна, відаць, мяне не заўважала і падкрадалася да кузні з асцярогай. Мне нават стала смешна. Захацелася напалохаць яе.

— У-у-у-гу, — завыў я.

— Не шалейце, — пачуўся Цылін голас. — Дзе вы? Я дрэнна ўначы бачу.

Спатыкнуўшыся на раскірэку-саху, Цыля нешта па-свойму сказала.

— Чаго вы забраліся чортведама куды? Хадзіце сюды, — яна трымалася за аглоблю сахі, баючыся ступіць крок.

— Дык жа тут зацішней, — падаў я голас. — Абыдзі саху. Ды не бойся. Навошта я табе спатрэбіўся? Кажы, бо мне няма калі.

Цыля нарэшце ўбачыла, дзе я сяджу, ці, можа, вобмацкам ішла на голас. Спыніўшыся перада мной, яна доўга стаяла моўчкі, потым запыталася:

— На чым вы седзіце?

— На коле.

Яна села побач, ссунула хустку з галавы на плечы.

— Прабачце, што я паклікала вас. Вы мне здаліся найбольш разумны з усіх, каго ведаю. Не падумайце чаго дрэннага. Я хацела распытаць у вас пра ўсё, што адбылося ў вашай вёсцы. Вы ж бачылі, як гэта здарылася.

«І гэта ўсё? — падумаў я. — Чаму ж яна ў іншых не запыталася, калі такая цікаўная? Уся вёска бачыла, а не адзін я». Цыліна пытанне насцярожыла. Успомніліся расказы зняволеных пра хітрыкі жандараў. Можа Цыля мае да іх дачыненне? Толькі чаго яна хоча ад мяне?

Цераз пятае-дзесятае я расказаў ёй пра ўсё, што давялося паба-

чыць. Цыля маўчала. Раптам я адчуў, што яна плача. У яе ўздрыгвалі плечы. Я адразу перапыніў свой расказ.

— Прадаўжайце, — папрасіла яна.

— Няма чаго і гаварыць. Усё ўжо расказаў.

— Дзякуй вам, — нарэшце ледзь чутна вымавіла Цыля. — І яшчэ раз даруйце мне, што патурбавала вас.

Яна ўхапіла маю руку, моцна пацiснула яе. Я быў уражаны гэтым. За якую паслугу яна дзякуе мне? Што ўсё гэта азначае?

Яе рука ўсё яшчэ ляжала на маёй далоні. Я збянтэжана сціскаў тонкія Цыліны пальцы і не ведаў, што мне належыць сказаць ці зрабіць. Цыля загаварыла зноў:

— І яшчэ прашу вас не гаварыць нікому пра нашу сустрэчу.

Я кіўнуў галавой. Мне хацелася запытацца пра тых, што загінулі ўраніцы ля Яўменавага тока. Толькі ці зручна гэта? Цыля накінула хустку на галаву, паднялася, але чагосьці чакала, можа майго пытання. І я адважыўся.

— А ты... вы ведаеце гэтых людзей?

— Не... хоць, праўда, ведаю. Аднаго. Таго, што рослы. Ён некалі вучыўся ў гімназіі.

Я так і меркаваў. Яшчэ ўчора ў карчме мне здалося, што яны знаёмыя ёй.

— А што ён зрабіў такое? На вёсцы кажуць, што яны бандыты.

— Гэта няпраўда, — горача абурылася Цыля. — Яны сумленныя людзі. Рэвалюцыянеры. Яны супраць цара ідуць.

Я не раз чуў пра людзей, што падымалі руку на цара. Пра іх гаварылі ўпотай, шэптам. Казалі, нібы гэта польскія панкі, што хацелі зноў запрыгоніць сялян, імкнуліся знішчыць цара. Цара я не раз бачыў у той жа карчме. Ён глядзеў на п'яных мужыкоў з арэхавай, заседжанай мухамі рамкі і быў вельмі падобны на дабрадушнага гаранскага адстаўнога салдата Анікія. Такі ж вусаты, толькі пры эпалетах і без лысіны. Рэвалюцыянераў я ніколі не бачыў, таму маё ўяўленне рабіла іх падобнымі да грэшнікаў, што былі намаляваны на сцяне ў паддубскай царкве.

— Хіба яны з паноў? — запытаўся я.

— Не, яны тутэйшыя, беларусы.

Хто такія беларусы, я не ведаў. Таму я перапытаў:

— Каталіцкія яны ці можа ўніяты?

— Не, праваслаўныя. Ты таксама беларус.

Я нават абурыўся. Навыдумляе гэта Цыля, толькі слухай. Якія яшчэ беларусы! Мы расійскія, праваслаўныя людзі. Цыля села поруч са мной.

— Паслухайце, Рыгор, што я вам скажу. Усім у Расіі кіруе цар. Гэта самы багаты пан. Багацей за яго няма нікога. Таму ён абараняе такіх жа, як і сам, багацеяў. У Расіі іх не так многа. На кожнага пана прыходзіцца можа тысяча ці дзве мужыкоў. А зямля ўся ў паноў. Мужыкі ж душацца на сваіх надзелах, ідуць батрачыць і ўсё роўна гібеюць ад голаду. І зямля ўся ў паноў, і ўлада ў іх руках. А мужык, які дзень і ноч працуе на іх, ніякага права не мае. Як ты мяркуеш, справядліва гэта ці не?

— Дык жа цар таму і знішчыў прыгон, — нясмела засупярэчыў я.

— Як жа ён знішчыў? Паны нічога ад таго вызвалення не страцілі. Мужыкі выкупілі ў паноў зямлю. Бачыш, як Залуцкія разбагацелі на адмене прыгону. Адзін пабудаваў млын, дамы ў горадзе, купіў цагельны завод і жыве прыпяваючы. Другі застаўся ў маёнтку. Трэці ў Пецярбургу вучыцца на чыноўніка. А ты вось парабкуеш. Цар баяўся, каб мужыкі самі не адабралі ў паноў зямлю. Вось ён і прыдумаў такое вызваленне. І не паны, як ты кажаш, рабілі замах на цара, а сумленныя людзі, што не маглі цярпець здзек з мужыкоў. Усіх паноў трэба перастраляць, як шалёных сабак, тады і мужыку будзе лягчэй.

— Пакуль іх перастраляюць, дык яны хутчэй. У паноў вунь і жандары, і паліцэйскія.

— Нічога, — запэўніла Цыля, — сто заб'юць, а астатнія памякчэюць і самі аддадуць зямлю мужыкам.

Гэта спадабалася мне. Сапраўды, нагнаць бы на паноў страху, каб баяліся бедных, і не толькі на іх, але і на Яўмена, на ўсіх багатых. Але тут я ўспомніў, як на санях ляжаў забіты Тарас Тарасавіч, і мой ваяўнічы запал знік.

— Адкуль ты пра ўсё ведаеш? — запытаўся я ў Цылі.

— З кніг, вядома. Дрэнна, што ты не ўмееш чытаць. Бачыш, да чаго цар давёў людзей. Цемра, невуцтва. Каб ты хоць чытаць навучыўся. Тады многае зразумеў бы. Хочаш, я навучу цябе чытаць? — яна пачала гаварыць са мной, як з роўным. Я адчуў, што Цыля, нібы Аўгінка, зусім зразумелы чалавек.

— Дзе ўжо мне. Часу ніколі няма.

— Захочаш, знойдзеш час. Прыходзь заўтра ўвечары. Праз чорны ход толькі...

— Не ведаю, калі ўпраўлюся.

— Загаварылася я з табой. Рада, што сустрэла чалавека. У карчме адны п'яныя. А пра што з вамі п'янымі пагаворыш? Бацька, калі не гандлюе, дык богу моліцца або талмуд чытае.

Сум прыгнятаў і мяне. Таму я разумеў Цылю. Толькі не ведаў, чаго яшчэ сумаваць карчмаровай дачцы?

— Добра, прыйду, — сказаў я.

## *Дзень шаснаццаты*

На малюнку — сані. Цыля тыцкае тонкім пальцам у літары пад малюнкам:

— Вось гэтая літара, што падобна на серп — «эс», «с-с-с», — Цыля смешна адтапырвае ніжнюю таўставатую губу і доўга сыкае, быццам баіцца, што я магу не пачуць яе. — А вось гэтая «а»— «а-а-а». Запомніў? Цяпер разам яны чытаюцца як «са» — «с» і «а» будзе «са». Далей дзве палачкі і перамычка — гэта «эн» — «н-н-н», далей тыя ж дзве палачкі, злучаныя наўкос—«и», а разам «ни». Дык як чытаюцца першыя дзве літары разам?

— «Са», — адказваю я.

— А разам «са-ні».

Адкрыццё хітрых і незразумелых значкоў, з якіх складаецца такое зразумелае слова, здзіўляе мяне. Няўжо кожнае слова складаецца з такіх значкоў. Я шукаю вачыма такія ж спалучэнні літар, як і ў знаёмым слове і, нарэшце, знаходжу іх.

— Са, — кажу я, паказваючы пальцам радкоў на пяць ніжэй. Далей стаіць нейкі незразумелы значок, раскірэчасты, як дзве кроквы. Яго я не ведаю.

— Правільна,—усміхаецца Цыля. — У цябе такая добрая памяць. Гэта «м-м-м». «Самі». «Сані — самі». Адна іншая літара і новае слова.

Мы сядзім за сталом у Цыліным пакоі. Унізе ходзіць Нохан. Ён не падазрае, што ў карчме ёсць нехта чужы, і крычыць:

— Цыля, кумагер!

— Зараз, — адказвае Цыля і шэптам просіць мяне пачакаць.

Яна выходзіць, а я зноў шукаю знаёмыя мне значкі ў кнізе. На ілбе выступае пот, у вачах скачуць ад непрывычкі агеньчыкі. За дзвярыма чутны галасы Цылі і Нохана. Пра што яны гавораць? Шкада, што я не ведаю іх мовы. Нарэшце Цыля вяртаецца. І зноў я вучу літары, варочаю іх, як цяжкое каменне, прыстаўляю адну да другой і бясконца дзіўлюся словам, што ўзнікаюць перада мной.

Мы размаўляем шэптам, каб не пачуў Нохан. Таму ўсё выдае таямніча. Шэсць радкоў, як шэсць шнурочкаў-слядоў на снезе, паступова набываюць выразны сэнс. Спачатку я разумею толькі кожнае слова паасобку, потым пачынаю разумець увесь радок. Дзіўна! І як ўсё проста. Хто мог прыдумаць такое? Відаць, нейкі вельмі разумны чалавек.

Поспехі ў вучобе радуюць мяне. Перашкаджае толькі няёмкае пачуццё да Цылі. Часам яе рука кранаецца маёй, і тады мне нясцерпна горача. Цыля не можа спакойна сядзець на месцы. То яна ўзлазіць каленямі на крэсла і нізка схіляецца над кніжкай: Цыля дрэнна бачыць. Мне відаць роўны белы прабор і гладка прычасаныя валасы. Яны аж блішчаць. Ад іх чамусьці пахне суніцамі. Потым яна злазіць са стула, штурхаючы мяне доўгімі нагамі, і зноў лезе ў кнігу, прыціскаецца да майго пляча сваім. І зноў я думаю не пра вучобу, а пра Цылю. Няўжо яна не адчувае, што мне няёмка? Яе чорныя вочы скіраваны ў кнігу, і толькі тады, як я блытаюся, яна з дакорам глядзіць на мяне.

Раней я думаў, што бянтэжлівасць — вынік маёй баязлівасці. Пасля, калі пачуццё няёмкасці ўзмацнілася, я зразумеў, што хвалюе мяне Цыля. Яе постаць узнікала перад маімі вачыма знячэўку, нават тады, калі я не бачыў дзяўчыну. Толькі гэта нейкае іншае пачуццё, зусім не падобнае на тое, што было ў мяне да Аўгінкі. Цылі я пабойваюся. Яна ўмее гаварыць незнаёмыя прыгожыя словы і, здаецца, зусім не звяртае ўвагі на маё хваляванне. Так, мабыць, адчувае сябе вучань перад настаўніцай.

— На сёння хопіць, — сказала Цыля і зірнула на мяне сваімі блізарукімі вачыма. — Пра што ты думаў?

Пытанне Цылі напалохала мяне. Нібы яна падслухала мае думкі.

— Так, ні пра што, — адказаў я і пачырванеў.

— Не, не так, не хлусі, — яна адбеглася да акна, абапёрлася рукамі на падаконнік. — Кажы, пра што думаў.

Як я мог прызнацца ёй. Давялося хлусіць.

— Што падумае твой бацька, калі ўбачыць мяне?

— Баішся?

— Чаму? Хоць, разумееш, вёска...

— Мне на плёткі напляваць. Абы сам перад сабой быў чысты.

Ці не пра гэта ў апошнюю сустрэчу гаварыла мне і Аўгінка. У галаве цяжка варушыліся думкі, нязграбныя, як ракі. Бялявая Аўгінка і чорная доўгая Цыля так былі падобны сваімі размовамі.

— Я — пайду. Заўтра, відаць, не здолею быць.

— А мне без цябе будзе сумна. Прывыкла, — у яе голасе і сапраўды пачулася невыказная туга. — Вазьмі з сабой кнігу. Можа знойдзеш час пачытаць. Бывай здароў, Грыша...

Я паціснуў яе руку, баючыся падняць вочы. Глядзеў на падлогу. Там, пад сталом ляжала маленькае шэрае кацяня, і яму не было ніякіх спраў да мяне.



— Я думаю, Грыша, табе варта было б пашукаць месца ў горадзе. Няма чаго гібець у вёсцы. Тут жа здурэць можна. Хочаш, я табе памагу ўладзіцца? Ды чаго ты пахмуры? Што з табой?

Яна задумалася, быццам хацела здагадацца, чаму я сам не свой. А я думаў над тым, што і сапраўды лепш пайсці ў горад. Ды такога рашэння ўрэшце вымагала і маё новае пачуццё да Цылі. Яго я баяўся. Не раз ставіў сябе побач з Цыляй і разумеў, што гэта толькі мроі. Па-першае, яна вучаная, і я ніяк не падыходзіў да яе. Па-другое, не давала спакою і тая акалічнасць, што мы з Цыляй рознай веры.

— У горад? Чаму ж. Толькі, што мне рабіць там? Хіба дворнікам?

— Вось дурны. Які з цябе дворнік. На завод табе трэба. Ёсць там у мяне знаёмыя — уладзяць.

— Добра. Толькі пазней, як прыпар кончыцца.

Яна зноў падала мне руку. І тут дзверы пагрозліва рыпнулі. Я спалохана адскочыў. Стары Нохан скрушліва ківаў даўгаватай галавой. Ён быў бледны. Спачатку Нохан не мог вымавіць ніводнага слова, потым з ягонага рота разам з пырскамі сліны вырваўся пісклявы крык. Я не разумеў, што кажа Нохан, і толькі пазіраў на Цылю. Яна, нібы нічога не здарылася, спакойна пазірала на бацьку.

Уволю накрычаўшыся, Нохан накінуўся на мяне.

— Вон, гіцаль, разбойнік, хам, свіння, вон! Хочаш, каб я паскардзіўся старасту? Я гукну людзей, і яны звяжуць цябе. Каб ты на сто вёрст абходзіў нас.

Мне было толькі сорамна і крыўдна. Узяўшы кнігу, я выйшаў, хістаючыся. Дзве бабы, што стаялі ля карчмы, убачыўшы мяне, усміхнуліся:

— Во, набраўся... Пайду выганю нашых, а то і дамоў не давядзеш іх, гадаў...

У Яўменавай клеці мужыкі рэзаліся ў ачко. Заціскалі ў далоні карты, лаяліся. Пахла гарэлкай і прэлым зернем. Мяне сустрэлі кпінамі:

— Глядзі, Рыгор паявіўся!

— Куды ён толькі ходзіць? Ці не да Аўгінкі?

— Матруну абхаджвае.

— Яе няма чаго. Пастаў паўкварты, і валяй.

— Мы, дурні, рэжамся, а ён, ціхоня, да баб.

Раней я не звяртаў ніякай увагі на іх кпіны. Цяпер жа было агідна. «Збягу ў горад», — вырашыў я.

## Раздзел восьмы

— Ці хутка ты вызвалішся?

— Зараз. Во толькі закончым...

— Мне трэба з табой пагаварыць...

Ліля на імгненне азірнулася. Ларыса стаяла строгая, з выразнай трывогай на твары. Дырыжор гучна пастукваў палачкай па краі стала, на якім ляжалі ноты. Музыка адразу абарвалася. Настала цішыня.

— Дашчынская, што здарылася?

— Прабачце... Я крыху заслухалася.

— Пачнем спачатку, — дырыжор зноў пастукаў палачкай.

— Я зараз, гэта нядоўга, — шапнула Ліля.

Ларыса выйшла на калідор, абапёрлася на чыгунную рашотку. За дзвярыма грымела музыка, вясёлая, гарэзлівая. А на сэрцы было цяж-

ка. Ларыса падбірала словы, бо тыя, што паявіліся ў дарозе, здаваліся цяпер лёгкаважкімі і таму непатрэбнымі. Хутчэй бы канчалася рэпетыцыя. Не хапала сіл чакаць і пакутліва думаць над тым, што адбылося. Яна дастала з сумачкі канверт, зноў пачала перачытваць ліст, кароткі, напісаны ў спешцы ці мо' ў вялікім узрушэнні.

«Ларыса Нічыпараўна! Мне невыказна сорамна і балюча. Не перад ёю, а перад вамі. Я не магу глянуць вам у вочы, але я і не магу маўчаць. Вы, мабыць, пачулі пра ўсё, што здарылася са мной. Паверце, я не вінаваты. Я мог бы расказаць членам камітэта ўсю праўду, але я падумаў, што ёсць вы, і таму я змоўчаў. Не верце, калі вам будуць казаць пра мяне дрэннае. Гэта так важна. Прашу вас, Ларыса Нічыпараўна, зразумейце мяне. Я не прападу. Мне толькі вельмі сорамна. Мне хочацца зрабіць нешта такое вялікае, каб усё, што было, забылася назаўсёды. Мне так не хацелася кідаць брыгаду, завод. Яны — мой дом. Прызначце на маё месца Віценьку Гараева. У ніжняй шуфлядцы вашага стала вы знойдзеце скрутак. У ім новы разец. Здаецца, гэта тое, што трэба. Ён ўстойлівы і стружку будзе ламаць. Перадайце хлопцам прывітанне. Я вінаваты перад імі. Дзякуй вам за ўсё. Анатоль».

У кожным радку ліста была загадка. Што здарылася?

За пяць апошніх год яна ўпершыню здолела паехаць у дом адпачынку, бо раней не было на каго кінуць дзяцей. У нядзелю яна вярнулася дамоў і адразу пачула, што сястра ляжыць у бальніцы. У водведкі яна пайшла з патаемнай надзеяй сустрэць Дывінца ў Лілі. Хацелася хутчэй распытаць пра завод. Анатоля ў бальніцы не было. Яна крыху здзівілася, але чамусьці пасаромелася спытаць пра яго. Ды і не было як. Народу ў Лілі сабралася шмат. Было непрыемна слухаць, як Лілíны сябры абгаворваюць тых, хто не прыйшоў на спатканне. Не было сілы доўга сядзець і слухаць нікчэмныя размовы. Яна пажадала Лілі хутчэй выздараўліваць і пайшла. Назаўтра хацела заглянуць на завод, але дома назбіралася шмат працы. Так прайшло яшчэ чатыры дні. І раптам гэты ліст, незразумелы, поўны нейкіх страшэнных намёкаў. Чаму Ліля нічога тады не сказала пра Анатоля? Ці можа яна і сама нічога не ведае?

Музыка абарвалася нечакана. На калідор выходзілі хлопцы, курылі. Лілі не было. Ларыса зірнула ў адчыненыя дзверы. Сястра, не спяшаючыся, складвала ноты ў папку, камусьці ўсміхаючыся. «Якая яна ўсё ж прыгожая!» — падумала Ларыса.

Ліля паявілася пад руку з дырыжорам.

— Пазнаёмцеся, мая сястра, інжынер, — апошняе слова яна неяк асабліва падкрэсліла.

Дырыжор падаў руку, скупа ўсміхнуўшыся, прамармытаў імя ці прозвішча — зразумець было цяжка.

— У вашай сястры выдатныя здольнасці, — сказаў ён Ларысе. — Рэдкае спалучэнне добрага музыканта і драматычнай актрысы.

— Вы, аднак, вельмі шчодрыя на кампліменты, — адказала Ліля.

— Не больш, як таго заслугоўвае ваш талент, — дырыжор пакланіўся, але ён, відаць, і не збіраўся пакідаць іх. Ларыса вымушана была чакаць, пакуль яны закончаць размову.

Ліля міла ўсміхалася, кідала на дырыжора тыя кароткія поўныя замілавання позіркі, якія заўсёды здаваліся Ларысе не шчырымі. «Навошта яна прыкідваецца? — думала Ларыса. — Няўжо гэты пасівелы чалавек не чуе хлусні ў яе голасе? Не паспее ён адысціся, як Ліля выкажацца аб ім знішчальна, але шчыра».

І сапраўды, як толькі дырыжор пакінуў іх, Ліля злосна ўсміхнулася:

— Стары балбатун!.. Хоць, трэба прызнацца, здабываць грошы ён добра навучыўся. Ведаеш, хто гэта? Яршэцкі. Славутасць. Нашы плоцяць яму тысячу дзвесце, каб ён хоць раз у месяц займаўся з аркестрам. Вось як трэба жыць!

Ларыса паморшчылася. Было агідна слухаць сястру, якая нядаўна нагаварыла чалавеку так многа прыгожых слоў. Ліля адразу перамяніла размову.

— Як ты надумалася зайсці? Я толькі заўчора выпісалася. Далі на два дні бюлетэнь, а сёння вось не вытрымала, прыбегла ў клуб.

Ларыса дапытліва паглядзела на Лілю. Хацела даведацца, гаворыць яна цяпер праўду ці зноў хлусіць.

— Можа выйдзем у сквер? Тут душна, — прапанавала Ліля.

«Хлусіць, — падумала Ларыса. — І ёй сорамна. Значыць, усё, што пісаў Анатоль, праўда. Яны разышліся. І вінавата ў гэтым яна, Ліля. Такога хлопца кінула, зганьбіла...»

Ларыса раптам адчула, што ва ўсёй гэтай гісторыі вінавата і яна сама. Навошта было зводзіць Анатоля з Ліляй. Хіба яна не ведала сваю сястру? Хіба ёй не было агідна слухаць яе няшчырыя размовы? Як жа яна магла дазволіць, каб Анатоль ажаніўся на гэтай спешчанай дзяўчыне?..

Ліля, між тым, пачала збягаць па прыступках уніз. Шырокае плацце раздувалася парусам, тонкія абцасікі басаножак гучна цокалі аб каменныя пліты. Збегшы ўніз, Ліля крутнулася на месцы і зарагатала, бестурботна і весела.

«Якая крывадушнасць», — падумала Ларыса і запыталася ў сястры:

— Ліля, што здарылася з Анатолем?

— З Анатолем? Не ведаю. Я яго яшчэ не бачыла.

— Не хлусі... Вы разышліся?

Ліля не адказала. Яна выбегла на вуліцу, заплюшчыла вочы ад сонца.

— Ой, як хораша!.. — залішне бадзёра выгукнула яна, і Ларыса зноў зразумела, што сястра ўсяляк стараецца адцягнуць размову пра Анатоля.

— Пакінь, калі ласка, крыўляцца, — Ларыса ледзьве стрымлівала сябе. — Я хачу ведаць, што здарылася? Я, здаецца, маю на гэта права?

Ліля спынілася.

— Няўжо гэта так цябе турбуе? Я ўжо не маленькая. Калі мы ўбачылі, што зусім розныя людзі, — разышліся...

Яна старалася гаварыць весела, але Ларыса адчувала ў яе словах нейкую трывогу.

— Вы ж любілі адзін аднаго. Няўжо так хутка...

— Можа і не, — перапыніла яе Ліля. — Так, выдумлялі каханне. Няўжо ты толькі таму і прыйшла да мяне?

Ларыса выняла пісьмо Дывінца, падала Лілі.

— Чытай.

Ліля неахвотна ўзялася чытаць.

— Гэтага я не хацела. Думаеш, мне было вельмі прыемна адказваць гэтым членам камісіі. Потым я зусім не дабівалася, каб яго выкінулі з завода. Па мне, хай працуе.

— Расказвай толкам, я нічога не разумею.

Ліля паціснула плячыма.

— Знаеш, абрыдла. Кожнага цікавіць, чаму, навошта, як, па якой прычыне? А ўсё проста. Чалавек толькі здалёк таямнічы, а зблізку — ён просты. Паглядзіш, і моташна стане. Але ж не заўсёды зблізку глядзіш на чалавека. Часам можна закахацца здалёк. Закахаешся, не пас-

пееш азірнуцца — замужам. А каханне, як цацка: два дні пагуляў — надакучыла, хочацца новую купіць.

— Ліля, перастань. Мне праціўна слухаць. Што ты вярзеш? За што Анатоля выгналі з завода?

— Толькі не з-за мяне. Маці ты нашу, мабыць, добра ведаеш? Яна і паскардзілася. Я, вядома, не прыніжалася б.

Ларыса схапіла яе за плечы. Ліля паспрабавала вызваліцца, але дужыя, учэпістыя рукі трымалі яе моцна.

— Хіба ты на заводзе адна? Пра мяне вы забыліся ці, можа, не хацелі ўспамінаць?

Ліля раптам прытулілася да Ларысіных грудзей.

— Каб ты ведала, як мне было сорамна. Камісіі, допыты, размовы, кожны тыцкае пальцам. Добра яшчэ, што захварэла і камітэт разглядаў матчыну скаргу без мяне.

Ліля ўсхліпвала і Ларысе стала шкада яе. Узнікла бессаромная думка: «Няўжо ён кахае мяне і таму кінуў яе». Ад яе зрабілася прыкра, сорамна. Ларыса пяшчотна пагладзіла сястру па галаве.

— Усё яшчэ абыдзецца, — паспрабавала яна супакоіць Лілю. — Можа ён крыху гарачы. Гэта праўда. Ён пакрыўдзіў цябе? У жыцці рознае бывае. Мы з Мішам таксама сварыліся і тут жа мірыліся.

Яна суцяшала сястру, а сама думала: «Дзеці яшчэ. Паспрачаліся... Каб на яе месцы была я, дык ужо ведала б, як да яго падысці».

Ліля ўжо не плакала. Яна вырвалася з Ларысіных абдымкаў і злосна пачала гаварыць:

— А я не хачу так. Колькі таго жыцця, і тое ідзе на спрэчкі. Хопіць, што я цярпліва слухаю дыскусіі ў клубе. Дома я хачу жыць, а не прыкідвацца. На поўныя грудзі жыць. Я маладая і прыгожая. У мяне ўсё наперадзе. І мне сумна, моташна ад яго славы, поспехаў і размоў пра разцы. Ці можа ты лічыш, што дзеля яго славы варта было прыкідвацца закаханай. Каб не ён, я даўно выйшла б замуж за Браткова і не сядзела б цяпер у гэтым клубе, не ўсміхалася б бяздарным заводскім талентам, што ўявілі сябе музыкантамі.

Ларыса слухала яе, апусціўшы галаву... Словы ляцелі здалёк, бы з іншага свету. Чужыя словы. Хацелася крыкнуць, адштурхнуць ад сябе чалавека, які не сароме́ўся так цынічна і прасталінейна выкрываць сябе.

Раптам прыгадаліся далёкія дні маленства, размовы напаўшэпт. Маці асцерагалася тады гаварыць вось такое ўголас. І ўсё ж яна часам не стрымлівала сябе, вядома, у кампаніі блізкіх людзей, такіх, як і яна сама, адшчапенцаў. Ларыса не любіла гэтага злоснага шэпту, кплівых намёкаў, тужлівых уздыхаў па мінулых днях. Яе падхапіла іншая плынь, імклівая, бурная, з гарачымі спрэчкамі, зацятай барацьбой не толькі сярод дарослых, але і дзяцей. Было балюча слухаць, як маці абгаворвае бацькоў яе сяброў, насміхаецца з іх гарачай упэўненасці. У школе, у піянерскім атрадзе яна адчувала сябе, як дома. А дома — усё выдавала чужым. Можа таму яна, не закончыўшы сямі класаў, збегла на завод і пасялілася ў інтэрнат. Дома было неяк душна і няўтульна. Хацелася вырвацца на волю, да людзей.

Адзін з успамінаў неяк па-новаму асвятліў «сямейную ўтульнасць» матчынага дома. Было гэта зусім нядаўна. Маці, раскінуўшыся ў крэсле, апавядала тром Ліліным сяброўкам пра званыя абеды ў губернатара. Тыя слухалі, разявіўшы раты, стараючыся не прапусціць ніводнага слова. Тады Ларыса толькі ўсміхнулася. Бач ты, як расхрабрылася старая. Некалі яна не адважвалася на такія рызыкоўныя экскурсіі ў мінулае, а сябе выдавала за дачку збяднелага млынара. Цяпер усё ўявілася іначш. Яе матуля змірылася з усім, і ўсё ж у душы яна насіла сваю маленькую, недарэчную мару пра нейкае іншае жыццё, бесклапотнае, без абавязкаў і адказнасці. Прыладзілася, прыстасавалася. Няўжо і Ліля толькі прыкідвалася, калі ўважліва слухала Анатоля, мяне пра заводскае жыццё? Няўжо і тады яна песціла ў думках іншыя мары, пра іншае жыццё, такое ж, якім жыла іх маці? Пустое, нікчэмнае жыццё мяшчанкі. А можа ўсё, што Ліля нагаварыла цяпер, было сказана ў злосці?..

— Ліля, я слухала цябе, і, павер, мне было няёмка, — Ларыса гаварыла ціха. — Я ў чатырнаццаць гадоў пайшла на завод. Зарабляла сабе на хлеб вось гэтымі рукамі. І я ганаруся гэтым. Калі б мне сказалі, што я магу пачаць усё спачатку — інакш я не пачала б сваё жыццё. Таму я не магу пагадзіцца з табой, Ліля. Табе здаецца, што жыць — значыць гуляць, весяліцца, ні пра што не дбаць і ні за што не адказваць. Няўжо табе падабаецца гэта? Так жыць кожны дурань умее. А добра, з карысцю, каб самому радасна было і людзям прыемна — вось гэта не так проста. Тое, што я пачула сёння, страшэнна ўразіла мяне. Дзе ты набралася такіх думак? Чужыя яны нам, Ліля...

— Дужа ты правільная, — перапыніла яе Ліля. — А толькі з гэтай тваёй правільнасці адно атрымалася: удавой засталася.

— Змоўкні, — крыкнула Ларыса.

— Не крычы, калі ласка. Думаеш, я веру ў шчырасць тваіх слоў... Выстаўляецеся на паказ. Думаеце, ацэняць, заўважаць, у гісторыю ўвойдзеце. Усё роўна адна плата ўсім.

Ларыса злосна прыжмурыла вочы.

— Не думала я, што ты такая дрэнь! — Яна рэзка паднялася з лаўкі. — І ўсё ж я шкадую цябе. Накіп заўсёды выкідваюць у памыйніцу. Дачакаешся і ты свайго канца. І нікуды ты не ўцячэш.

Яна хутка пайшла па сцежцы да шырокай вуліцы, па якой спяшаліся на працу рабочыя.

* * *

Дывінец моўчкі падаў пропуск высокаму, худому вартаўніку. Той доўга круціў у руках пропуск, прыглядаўся да Дывінца.

— Значыць, назусім? — запытаўся ён.

— Свет вялікі, не прападу, — адказаў Анатоль.

— Яно так... А толькі ўцякаць з-за нейкай бабы нашаму брату непрыстойна.

Дывінец раззлаваўся. Хацеў адказаць рэзка і з'едліва, але, убачыўшы на твары вартаўніка спачуванне, устрымаўся.

— Усё роўна нявыкрутка. З горкі пакоцішся — утрымацца нялёгка.

— А ты, браце, нос не вешай, — супакоіў яго вартаўнік. — Рукі ў цябе залатыя. На любы завод возьмуць.

Анатоль выйшаў з прахадной на плошчу, спыніўся і неяк мімаволі азірнуўся назад. На заводскім двары лянiва пыхкаў парай паравозік. Два аўтакраны сноўдалі ад склада да вагонаў. Чалавек шэсць грузчыкаў завіхаліся на платформах, мацавалі станкі сталёвымі тросамі. Крыху далей, на стэндзе выпрабоўвалі новы станок. Там сабралася ўсё начальства. Людзі стаялі ў цесным гурце і ўважліва сачылі, як інжынер Селіванаў працуе на станку. З ліцейнага цэха адзін за другім выйшлі два паязды аўтакараў, нагружаных дэталямі. Пярэднім кіравала Каця. Тая Каця, якая аднаго разу, паспрачаўшыся з хлопцамі, правяла аўтакар з ліцейкі ў механічны цэх з завязанымі вачыма. Яна і цяпер вяла яго ўсляпую. Не даехаўшы тры крокі да механічнага,

яна спыніла свой поезд, лёгка саскочыла з пляцоўкі, пабегла адчыняць дзверы. Анатоль з захапленнем глядзеў на яе. «Мастачка! Трэба ж так запомніць дарогу».

Ён ледзьве не крыкнуў ёй, якая яна малайчына, але тут жа ўспомніў, што ўжо не мае ніякага дачынення да завода, да Каці, да ўсіх людзей, якія засталіся па той бок агарожы. Зрабілася ніякавата. Сэрца балюча сціснулася, а ў горле засеў горкі, калючы камяк.

Анатоль звярнуў на сцежку. Не хацелася сустракацца са знаёмымі, слухаць іх спачуванні, а можа і горкія словы папроку. Лепш пабыць аднаму. Сцежка пятляла між дрэў старога лесу, у якім некалькі гадоў назад быў пабудаваны завод. Даўно, калі Анатоль быў яшчэ ў дзіцячым доме, іх прыводзілі сюды на ўлонне прыроды адпачываць. Тады лес быў густы, а пад соснамі расла мяккая вахкаватая трава. Цяпер лес парадзеў, сосны пажаўцелі, а трава павыгарала, зрабілася калючай і жорсткай. Там-сям былі пастаўлены лаўкі, невялікія альтанкі, палаткі з газіраванай вадой. Лес дажываў апошнія дні. З таго боку, ад шашы, на яго наступаў рабочы пасёлак. Беленькія стандартныя дамы вырасталі ў лесе, як баравікі цёплым дажджлівым летам. Яшчэ нядаўна Анатоль абураўся тым, што будаўнікі нібы знарок высякаюць лес, каб паставіць на яго месцы дамы. Ці мала ім прастору па той бок шашы, на пустэчы. Дык не, пхнуцца бліжэй да завода, знішчаюць такую прыгажосць. Цяпер Анатоль быў рады таму, што можна непрыкмечаным падысці да свайго дома. Быццам будаўнікі ведалі, што некалі з ім здарыцца няшчасце, што яму будзе сорамна паказацца людзям.

Ля дома, у якім жыў Анатоль, хлопцы гулялі ў валейбол. Дывінец спыніўся, схаваўся за сасну, доўга пазіраў, як лётае ў паветры чырвоны мяч. Падысці да сяброў не адважыўся. Чамусьці было сорамна. Ён спрабаваў угаварыць сябе, што хлопцы спачуваюць яму, але адвагі не прыбаўлялася. Тады ён павярнуў назад. Доўга сядзеў у альтанцы і думаў пра ўсё, што здарылася. Зноў перад ім праляцела ўсё жыццё. Партызанскі атрад. Доўгія начныя паходы. Бамбёжка. Блакада. Разведка, у час якой ён ледзьве не трапіў да немцаў. Тая сонечная раніца, калі ён першы ўбачыў савецкі танк, што быў замаскіраваны ў лесе. Маленькі гарадок, у якім яны апынуліся пасля вызвалення. Тады камісар сказаў яму: «Мы, браце, ідзём дабіваць Гітлера ў яго логаве. А ты заставайся тут. Пасля вайны я цябе абавязкова адшукаю». Ён хацеў таксама ваяваць. Але яго не пусцілі, накіравалі ў дзіцячы дом. Чаму? Няхай бы ён лепш загінуў пад Берлінам, як камісар. Тады не спазнаў бы той ганьбы, якая не дае яму супакою.

Успомніў, як збег быў з дзіцячага дома. Недзе ў Польшчы патруль выцягнуў яго з-пад вагона, адправіў назад. Па дарозе ён зноў спрабаваў уцячы. Яго перадалі міліцыі. А адтуль адправілі ў калонію. Потым, калі разабраліся, накіравалі ў дзіцячы дом, дзе ён жыў да паступлення ў ФЗН.

Там і знайшло яго пісьмо ад камісара. «...Калі табе часам будзе цяжка, Анатоль, ідзі да людзей са сваім горам. Яны дапамогуць табе». Гэтыя радкі з пісьма ўзрушылі яго.

Як магло здарыцца, што ён забыўся і пра камісара і пра яго наказ? Чаму толькі сёння ўспомніў пра самага дарагога чалавека? Анатоль строга судзіў сябе і бязлітасна дакараў за ўсё тое, што адбылося потым. І неяк па-новаму прагучалі камісаравы словы, сказаныя ў часе блакады: «Адзін крок адступіш — ганьба, два — смерць». А колькі крокаў зрабіў ён, адступаючы перад Ліляй і яе маці?



Толя, ты павінен пайсці да дырэктара,— гаварыла маці,— і сказаць, што не можаш жыць у адным пакойчыку. Ён не адмовіць табе...

І ён ішоў, хоць добра ведаў, што на заводзе не хапае жылля. Яму далі кватэру, а ў яго пакойчык пасялілі сям'ю з пяці душ.

— Толя, папрасі два дываны. У вас так бедна ў кватэры.

І ён ішоў, выпісваў дываны, прывозіў цёшчы, хоць ніхто не здагадваўся, як цяжка і брыдка было яму.

— Толя, у Лілі няма футра. Няёмка, каб жонка такога славутага токара, хадзіла ў старым паліто. Давай прададзім дываны. Якраз можна на футра зарабіць.

І ён згаджаўся. У Лілі паяўлялася футра.

— Толя, вазьмі мае залатыя пярсцёнкі. За мяжой, кажуць, можна абмяняць іх на рэчы. Грошай жа ў цябе не вельмі шмат. А без падарункаў прыязджаць дамоў няёмка.

І ён узяў залатыя рэчы. Праўда, ён не павёз іх за мяжу. Занёс у Львове ў скупачны магазін, прадаў. Але ж усё роўна адступіў.

Анатоль ужо не мог спакойна сядзець, аддавацца ўспамінам. Як апантаны, ён ішоў па вуліцы, сам не ведаючы, куды і чаму ідзе. Было прыкра, сорамна і няўтульна. Ён нават не заўважыў, як апынуўся ля дома, у якім жыў камсорг іх цэха Віктар Гараеў.

— Выйдзі на хвілінку, — папрасіў Дывінец Віктара, калі той адчыніў дзверы.

— Заходзь, чаго ты! Дома адна маці.

— Не, пагутарым тут.

Віктар дапытліва пагледзеў на сябра.

— Ну, што яшчэ выбрыкнуў? Па вачах бачу, — Віктар, аднак, усміхаўся.

— Зволіўся, — выдыхнуў Анатоль.

— Не брашы... Што ты, Толя!.. Чаму?

Дывінец маўчаў. Віктар прабегся па пляцоўцы, злосна сказаў:

— Не думаў я, што ты такі. Васількову вунь ужо чатыры вымовы запісалі, і нічога...

— А я не магу, — крыкнуў Анатоль і ўжо больш спакойна дадаў: — Ды і не ў гэтым справа. Сорамна. Перад вамі сорамна. Каб ты ўсё ведаў, дык не глядзеў бы так на мяне. Ад маіх учынкаў нікуды не схаваешся.

— Якія там у цябе ўчынкі! Ну, развёўся. Хваліць цябе, сам разумееш, за гэта ніхто не будзе. Сям'я, браце, таксама камуністычная ячэйка, як кажа Васількоў. А толькі надта і пакутаваць не трэба. Тым больш, што пакаралі мы цябе моцна. Другі раз такое не зробіш. Трэба, браце, шанаваць сям'ю. І наогул, ніяк я не разумею, чаго ты з ёй пасварыўся. Усё ж яна не благая дзяўчына.

Дывінец усміхнуўся. Некалі і ён гаварыў вось так. А жыццё павярнула інакш.

— Пакінем пра гэта. Я яшчэ і сам не зразумеў, што здарылася. Проста моташна мне. Таму і прыйшоў. Можа дапаможаш пакойчык які знайсці.

Віктар зноў пачаў бегаць па пляцоўцы. Дывінец назіраў за ім, думаў: «Эх, Віценька, Віценька, дарэмна ты прыдумваеш прыгожыя словы»...

— Вось што, — нарэшце спыніўся Віктар. — Нікуды я цябе не пушчу. У мяне будзеш жыць. Ясна? А не, дык тут побач. Ведаеш, хто за гэтымі дзвярыма жыве? Агнёў. Не чуў? Вось бы ён табе адразу даказаў, што нарабіў ты глупства. Ну, дык пайшлі. Пабачыш, маці ўзрадуецца.

У той жа дзень Віктар Гараеў нясмела пастукаўся ў дзверы да Рыгора Яўхімавіча. Запытаўся дзеля выгляду аб здароўі, потым расказаў

пра «аднаго хлопца». З блытанага расказа Рыгор Яўхімавіч зразумеў толькі адно: хтосьці збег з завода і цяпер не мае нават месца, дзе пераначаваць.

— Лайдак, мусіць, нейкі, — сказаў Агнёў.

— Не, што вы! Добры хлопец. Заблытаўся ён толькі. Самі пабачыце.

— Прывядзі, — адказаў Агнёў.

Віктар адчыніў дзверы, весела гукнуў:

— Заходзь, Анатоль. Я ж табе казаў...

У пакой нясмела зайшоў бялявы, з сінімі сарамлівымі вачыма хлопец. Ён няёмка пераступіў з нагі на нагу, зняў паношаную кепку, прывітаўся.

— Чаму збег з завода? — Агнёў сам адчуў, што ў яго голасе пачуліся ноткі следчага. Мабыць, не зусім выветрылася старая чакісцкая прывычка. — Я так сабе, дзеля цікаўнасці запытаўся. Можаш, вядома, не адказваць.

— Калі жыць давядзецца разам, чаму ж не сказаць. — Хлопец прыўзняў галаву, падумаў крыху. — Здарылася вось так. Ажаніўся, ды ўбачыў, што не туды трапіў. Разышліся мы з ёй, назусім. Далі мне вымову, вось я ад сораму і збег.

— Слабы, выходзіць.

— Сорамна проста...

— Ну што ж, пажывём разам, мо' і спадабаемся адзін аднаму.

Так і застаўся Анатоль Дывінец на кватэры ў Агнёва. Маўклівы, засяроджаны, ён адразу спадабаўся Рыгору Яўхімавічу. Але спрактыкаванае вока старога адразу заўважыла разлад у Анатолевай душы. Ён пачаў спакваля распытваць пра яго жыццё. Анатоль адказваў скупа, быццам баяўся не патрапіць яму ў тон. Потым ён зусім нечакана расказаў Агнёву пра ўсё. Было гэта ўвечары. Рыгор Яўхімавіч, пасля доўгага перапынку, выцягнуў свой сшытак, каб запісаць туды хоць некалькі слоў.

— Пра што гэта вы пішаце? — не стрымаўся Анатоль.

— Жыццё сваё апісваю. А жыццё, брат, — адвечная барацьба. Як ні кінеш вокам, людзі заўсёды вялі змаганне за лепшую долю. Гінулі адны — на іх месца прыходзілі другія, больш вопытныя і настойлівыя...

— Вам пашанцавала, — сумна вымавіў Анатоль. — Усё ясна было. Пан, буржуй — вораг. Яго трэба знішчыць. А што, скажыце, рабіць, калі чалавек знешне на сто працэнтаў наш. Паслухаеш яго — здаецца, лепшага на свеце і не знойдзеш, а зазірнеш глыбей у душу — там адна гніль. Вось як з такімі быць?

Анатоль прагнуў пачуць адказ, але Агнёў чамусьці маўчаў. Гэта бянтэжыла хлопца. Яму хацелася пачуць такое, што апраўдала б яго перад уласнымі думкамі.

Агнёў раскрыў сшытак. Надзеўшы на нос акуляры, доўга ўзіраўся ў крывыя радкі.

— Здалёку ўсё выдае простым. А нам таксама не лёгка было. Народнікі, анархісты, сацыялісты розных адценняў, тэрарысты, лібералы, легальныя і нелегальныя,— кожны плёў сваё. А цяпер нават вучань першага класа ведае: толькі марксісты казалі праўду. Думаеш, я адразу зразумеў, як трэба змагацца супраць паноў. Навучыла жыццё, адукавалі людзі. Цяпер я ўжо зайздрошчу вам. Вам відней. Вось і ты загаварыў пра чалавечую душу. Значыць, можаш адрозніць, што наша ў ёй, а што чужое, што добрае, а што дрэннае. Бачыш, Анатоль, адна справа была знішчыць буржуяў. Гэта вядома, не лёгка. Але куды цяжэй выхаваць чалавека, зрабіць яго сапраўдным будаўніком таго новага жыцця, пра якое марылі мы. Ад старога ладу нам засталося шмат дурных звычак, якія называюць цяпер перажыткамі мінулага. Пройдуць гады, а старыя звычкі, як тая хранічная хвароба, не-не ды і акажуцца. Каб можна было адразу скінуць гэтыя праклятыя перажыткі, людзі адчулі б сябе так, нібы знялі цяжкі кажух. А іншы чалавек прэе, пакутуе, а адкінуць перажыткі не можа. Хабарнік бярэ хабар і — увесь час дрыжыць, каб яго не злавілі за руку. Гультай адлыньвае ад працы і — увесь час адчувае пагарду тысяч людзей. Баязлівец-бюракрат, падпісваючы непатрэбную паперку, загадзя страхуецца перад пагрозай адказнасці і — усё роўна ў яго на душы неспакойна. Якое ж гэта жыццё? Пакута. Але ж ён не толькі сам пакутуе. Ён нам перашкаджае жыць. Трэба дапамагчы людзям атрэсці гэты непатрэбны груз.

Дывінец перапыніў Рыгора Яўхімавіча.

— Але як?

— Як? Аднаму, вядома, такое не па сіле. А калі разам выступіць ды расказаць, як лягчэй становіцца чалавеку, калі ён скідае лішні груз, тады ён, можа, і не так хутка, але выздаравее. Мы, браце, часта гаворым пра чуласць. Больш патрабуем яе для сябе і забываем, што яна патрэбна ўсім. Толькі людзям патрэбна не тая слязлівая чуласць, а наша, бальшавіцкая: давай руку, пойдзем разам, будзе цяжка — паможам, але адстаць не дазволім.

Вось тады, у той вечар, Анатоль Дывінец і адважыўся прызнацца ва ўсім. Ён расказваў пра сваё жыццё з Ліляй Дашчынскай, пра пасяджэнне камітэта, пра тое, як утаіў ад сяброў усю праўду, бо гэта магло пакрыўдзіць Ларысу Нічыпараўну — чалавека, якога ён паважае. Агнёў не перапыняў яго, слухаў, схіліўшы галаву. «Дык вось як адгукнуліся словы той ганарлівай дзяўчыны», — падумаў ён, а ўголас вымавіў:

— Што ж ты, Толя, так лёгка адступіў? Без барацьбы вырашыў здацца? Хіба ты такі? А пытаешся яшчэ, як трэба змагацца. Ты ж і слова ў сваю абарону не сказаў, а Ларысу Нічыпараўну яшчэ больш падвёў. Ну ды абыдзецца...

Назаўтра Агнёў паплёўся на завод. Настрой у яго быў ваяўнічы. За такога хлопца, як Дывінец, ён гатовы быў змагацца з усіх сіл. І ўсё ж хваляваўся, калі падыходзіў да заводаўпраўлення. Невядома, як яшчэ паставіцца да яго прыходу дырэктар. «Знайшоўся паверany», — чмыхне ён. «Тады я ў гарком пайду, у ЦК, а свайго дамагуся», — падумаў Агнёў, адчыняючы дзверы прыёмнай.

Пажылая сакратарка трохі здзіўлена паглядзела на Агнёва, калі той папрасіўся на прыём.

— Вам па якой справе?

— Чалавека ратаваць прыйшоў, — пахмура адказаў Агнёў.

Яна знікла за дзвярыма, абабітымі дэрманцінам. Хвіліны тры з кабінета даносілася нягучная гаворка. «Бюракрат нейкі. Ну, пачакай жа, я табе абламаю рогі», — падумаў Агнёў.

— Дырэктар просіць зайсці, — сакратарка зноў здзіўлена паглядзела на Агнёва. Але яму ўжо было ўсё роўна. Праз дзверы ён бачыў таўставатага чалавека, шырокага ў плячах, даўганосага і надзвычай строгага. Дырэктар стаяў, абапёршыся рукамі на стол, і, нахмурыўшы бровы, глядзеў, як Агнёў павольна ідзе праз кабінет да стала. Раптам дырэктарскі твар павесялеў, расплыўся ўсмешкай:

— Рыгор Яўхімавіч, ці вы гэта?

Агнёў спатыкнуўся аб дывановую дарожку, спыніўся. Ён ніяк не мог прыпомніць, ці бачыў калі гэтага чалавека. Здаецца, ніколі не сустракаліся.

— Няўжо вы мяне не пазнаеце? Карнееў я. Міхась Карнееў. Сакратар рабфакаўскага камсамола.

Рыгор Яўхімавіч намагаўся ўспомніць, калі сустракаўся з ім. Прыгадаўся маленькі хлапчук, што аднаго разу ўварваўся проста на пасяджэнне бюро. «У мяне няма часу, каб чакаць. Таварыш у бяду трапіў, так што выбачайце ўжо».

Давялося яго выслухаць.

— Гэта вы прыбягалі тады, каб выручыць сваю студэнтку? На яе, здаецца, узвялі тады паклёп, хацелі выключыць з рабфака?

— Успомнілі ўсё ж.

— Памужнелі вы.

— Даўно было. А я тады так і не падзякаваў вам за дапамогу.

— А дзе ж тая студэнтка цяпер?

Дырэктар усміхнуўся:

— Тут, непадалёк.

— А-а-а, разумею.

— Мы з ёю заўсёды сварыліся, а пасля таго пасябравалі. А той паклёпнік Багданаў, ведаеце, у акупацыю гітлераўцам прыслужваў.

— Лагічны канец. Што ж, рад за вас. А цяпер, бачыце, я за дапамогай прыйшоў. Хлопца аднаго вы пакрыўдзілі. Дывінца. Можа ведаеце такога?

Дырэктар падхапіўся, выбег з-за стала.

— Дзе ён, паганец? Вось якая цяпер моладзь пайшла — слова не скажы насуперак. Адразу заява. Ды нічога, калі сумленны, вернецца, а не — выходзіць памыліліся.

— А можа тут і ваша віна, таварыш Карнееў?

Міхась Андрэевіч адказаў з развагай:

— Магчыма, за ўсім хіба дагледзіш. У мяне план, завод, вунь якая махіна.

Агнёў паківаў галавой, строга паглядзеў на Карнеева, але пачаў гаварыць лагодна:

— Не планы, Міхасёк, а людзі камунізм будуюць.

І пэўна таму, шо Рыгор Яўхімавіч назваў дырэктара Міхаськом, той адразу неяк паменшаў ростам і цяпер быў падобны на хлапчука, што пачынае разумець сваю віну.

— Уладзім, Рыгор Яўхімавіч, — ціха вымавіў ён. — Ды і жонка ў яго асоба пустая. Родная сястра так і сказала — пустышка яна. Але ж, разумееце, папусціся — на галаву сядуць.

— Не, Міхась Андрэевіч, зноў ты не тое кажаш. У маладыя гады ты не так разважаў. На бюро ўварваўся, бо ведаў, што на чалавека паклёп узвялі. І правільна зрабіў. Пустая, кажаш, гэтая Дашчынская? А калі глыбей глянуць. Часу не хапіла? Ці можа лічыш, што нічога асаблівага не здарылася?

— Што вы, Рыгор Яўхімавіч. Зусім я такое не думаю.

— Гэта добра. Мы з табой павінны ўсё бачыць. Далёка наперад заглядаць. Кожнага чалавека, хто побач ідзе, ведаць. А ты і Дывінца, і яго жонку ў адну шарэнгу паставіў. Спатыкнуўся Дывінец — пяць нарадаў яму. А Дывінцу падножку паставілі — гэтага ты і не ўбачыў.

— Рыгор Яўхімавіч, чэснае слова, выправім. Адчуваю, што памыліўся, на Васількова паспадзяваўся, на камсорга нашага.

Агнёў адчуваў, што нядаўняя хвароба зноў пачала трывожыць сэрца. Ён дастаў з кішэні таблеткі нітрагліцэрыну, паклаў пад язык.

— Сэрца? — спачувальна запытаўся дырэктар.

— На гэтым тыдні з бальніцы толькі...

Карнееў прыкусіў губу. Было няёмка перад гэтым старым, хворым чалавекам, якому прынёс столькі турбот.

— Рыгор Яўхімавіч, я сам прыеду да вас, усё раскажу, што мы



зробім, а цяпер я выклічу машыну. Ну, навошта было ісці? Пазванілі б мне.

— Дзякую, таварыш Карнееў. Але ж пакуль сэрца б'ецца і ногі ходзяць, буду назаляць і табе, і Дашчынскай. Рана яшчэ размову канчаць. Тут, браце, дырэктарскага слова мала. Трэба, каб людзі сваё слова сказалі. Людзі, а не ты. Няхай і гэтая Ліля Дашчынская паслухае, напэўна, што-небудзь зразумее. І для іншых навука будзе.

Карнееў слухаў Рыгора Яўхімавіча і думаў над тым, што ўся яго слава працавітага, разумнага, вопытнага кіраўніка неяк пагасла перад сціплай прастатой гэтага неспакойнага чалавека.

## Раздзел дзевяты

### *Дзень семнаццаты*

Непадалёк ад станцыі стаяла закураная будыніна, абнесеная высокай цаглянай сцяной. Уздоўж сцяны — калючы дрот. Днём з высокага коміна, што ўзносіўся ў неба, валіў чорна-буры дым. Гэта — завод «Герке и сын. Скобяные изделия». Сам Герке — тоўсты, з малінавым тварам чалавек, якога гадоў пяць назад спаралізавала, на заводзе паяўляўся рэдка. Затое сын увесь дзень тырчэў там.

Мы адлівалі дзверцы і паддувалы для печаў, юшкі, пліты, скавароды, цяжкія каналізацыйныя люкі, шасцяронкі, агарожу, тумбы, лаўкі для губернатарскага саду, рашоткі, — усё, што куплялі ў лаўках. У дзвюх печках-катлах няспынна варыўся чыгун. Яго разлівалі ў формы. Дрэва і зямля гарэлі ад спёкі, белы ўдушлівы дым слаўся па зямлі, клубіўся пад столлю, вырываўся праз пабітыя вокны на вуліцу. У дыме снаўдалі людзі, цягалі каўшы з расплаўленым чыгуном, разліваючы яго ў формы, потым даставалі гатовыя рэчы, пакідаючы на падлозе гурбы пяску і шлаку. Завод пасля работы выдаваў могілкамі. Герке-малодшы лаяўся, патрабаваў, каб мы захоўвалі на заводзе чысціню і парадак. Але мы былі так стомлены, што нас зусім не палохала геркава буркатня. Даводзілася прыходзіць на працу раней, каб навесці такі-сякі парадак і зноў бегаць па земляной падлозе завода.

Часам Герке-малодшы спускаўся ўніз. Апрануты ў сіні камбінезон, ён разам з майстрамі поўзаў па пяску, апякаў рукі, да крыві абіваў іх калатушкай. Рабочыя хвалілі маладога гаспадара — свой, не цураецца бруду. І ён ведаў пра тое. У абед падсаджваўся да нас, адломваў нямытымі рукамі кавалак хлеба, браў у каго-небудзь скрылёк сала і еў. Нагадваў ён мне Тараса Тарасавіча, які заўсёды ішоў першы ў пракосе. Адстаць ад яго было няёмка.

Кожнага рабочага Герке-малодшы ведаў у твар, знаў яго жонку і нават дзяцей. Але ў шынок з рабочымі не хадзіў — Герке-малодшы не браў у рот гарэлкі.

Калі паяўляўся вялікі заказ, Герке выцягваў з кішэні партманет, даставаў адтуль асігнацыю і падаваў яе старому, высокаму майстру.

— Закончыце да вечара — выпіце тады за маё здароўе.

Майстар здымаў шапку, кланяўся у пояс.

— Дзякуем, Густаў Робертавіч, зробім. Як, хлопцы, зробім?

— Зробім, — дружна адгукваліся рабочыя.

— Пастараемся...

І пачыналася раз'юшаная беганіна. Перад канцом працы двое рабочых беглі ў шынок насупраць, прыносілі два вядры гарэлкі, некалькі боханаў хлеба і вядро гуркоў. Герке-малодшы падносіў да губ медную конаўку, прыгубляў гарэлку і перадаваў майстру.

Пілі ўсе. Елі гуркі. Цалаваліся. Хвалілі Герке і старога майстра. Часам паяўляліся нецярплівыя жонкі, прысаджваліся побач на пясок і таксама цягнулі гарэлку.

Усё мяне здзіўляла. Жанчыны, не па-вясковаму баявыя і спрытныя на язык, мужчыны — маўклівыя ў працы і буяны, калі вып'юць, гаспадар, падобны на пана і на рабочага, размовы пра рабочы гонар і пагарда да грошай. Я адчуваў сябе ніякавата. Баяўся вымавіць слова, яшчэ засмяюць. Ды і гаварыць так, як рабочыя, не ўмеў.

— Хто ёсць ты? — пытаўся ў мяне рабы, каржакаваты Іван Цупрун. — Ты ёсць рабочы. А што значыць рабочы? Душа ў яго во, — ён разводзіў доўгія рукі, — не тое, што ў мужыка, дробная, паганая. Мужык дрыжыць. Перад ураднікам дрыжыць, перад старастам дрыжыць, перад жонкай дрыжыць, за капейку калоціцца. Заяц ён, і душа ў яго заечая. А я нічога не баюся, бо я рабочы. Самога гаспадара не баюся. Што ён мне зробіць? У мяне рукі залатыя. Хто яму так адалье рашотку — ніхто. Праўду я кажу, Густаў Робертавіч?

Герке-малодшы згодна ківаў галавой: так, без Івана Цупруна ён як без рук.

— Чуеш, як без рук, а рукі яны вось — у мяне. І я іх не аддам. Яны мае. Захачу, прадам, захачу — не. Ясна? А мужыковы рукі, што вунь тыя абцугі — папрацаваў імі і кінуў. Ага, бачыш. Зноў жа арцель у нас. Сказаў зробім заказ, і зрабілі, бо мы — сіла.

Я і сам адчуваў, што таварыскай згоды тут куды больш, чым на вёсцы. Там кожны сам па сабе, тут усе разам, робяць адну справу, і таму залежаць адзін ад другога. Але словы Цупруна абражалі мяне. Я — селянін. Завод не надта цешыў мяне. У вёсцы вальней. Тут прыпар кожны дзень, там — толькі ўлетку. Ды і то хапала часу паляжаць пад кустом, выкупацца ў рэчцы, а то і падрамаць хвілін дваццаць. На заводзе трэ' было цягнуць жылы з усіх сіл, дыхаць дымам і ўвесь час адчуваць нядрэмнае вока Герке-малодшага. А жылі рабочыя не багацей за самых бедных сялян.

— А я кажу, што зап'ю, і не ўгаворвай мяне, — крычаў хударлявы, даўганосы разносчык Сцяпан Самасейка. Гаспадар паціху даказваў яму нешта. Сцяпан куражыўся, як малое дзіця. — Можа ў мяне планета такая. Унутры агонь, як у той печы, бушуе. Яго заліць трэба. Да панядзелка і не чакай, загадзя кажу, каб пасля не лаяўся.

— Добра, абыдземся неяк, — нарэшце згадзіўся Герке.

— Вось так бы і раней. Ну і гульну ж я, хлопцы, — Сцяпан Самасейка так шчыра выгукнуў гэта, што ў мяне раптам заныла сэрца. Я заплюшчыў вочы, а калі адкрыў іх, дык уся п'яная кампанія здалася мне чужой і незнаёмай.

— Слухай, — нахіліўся да мяне падручны Віктар Кавынька. — Давай збяжым адсюль. За свае грошы мы што-небудзь і цікавейшае знойдзем.

— Нялоўка неяк, — усумніўся я.

— Падумаеш. А нам напляваць.

Мы выйшлі на двор. Віцька выцягнуў грошы, пералічыў іх, адклаў нейкую паперку ў другую кішэню, астатнія засунуў назад.

— Я заўсёды сабе пакідаю крыху. У маці потым не выдурыш. Ну, ты хутчэй пераапранайся і да мяне заходзь. Я вунь у тым «палацы» жыву.

Найперш за ўсё я купіў сабе гарнітур-тройку, не дарагі, але пасля вясковых рызманоў ён здаваўся мне панскім. Апрануўшы яго, я выбег



на вуліцу. Віцька ўжо чакаў мяне ля хаты. Ён таксама быў у новым гарнітуры і з палкай у руцэ.

—Навошта яна табе? — здзівіўся я.

— Дзівак. Без яе не кавалер. Ды калі і сунецца хто, будзе чым адбівацца. Ці ведаеш, куды мы пойдзем?

Я, вядома, не ведаў. Падазраваў, што Віцька павядзе мяне ў залінейны сад, дзе гуляў увесь прывакзальны раён. За грыўню там можна было пакатацца на каруселі, пагушкацца на качэлях і проста адпачыць на лаўках, якія майстраваў наш завод.

— Пойдзем, браце, да прадзільшчыц. Сем вёрст не круг, затое, брат, дзеўкі там — пальца ў рот не кладзі. Да локця руку адкусяць. Ды не чырваней ты...

Адступаць не было як. Ды, шчыра кажучы, разбірала цікаўнасць паглядзець на прадзільшчыц.

Фабрыка стаяла за чыгункай, на краі поля, праз якое ляжала пыльная дарога. У манастыры званілі на вячэрню. За нейкую паўгадзіну мы былі ўжо ля доўгага барака з мноствам дашчатых сенцаў. Ля барака на жэрдках сушылася бялізна. Тры маладзіцы з высока падаткнутымі спадніцамі звонка смяяліся, выскаляючы белыя зубы. Воддаль гулялі дзеці — адзін кідаў камень, астатнія спрабавалі пацэліць па ім. Немаладая жанчына ў кароткай сподняй кашулі мыла квяцістыя анучкі. Убачыўшы нас, яна не засаромелася і не адвярнулася, толькі выпрасталася і, не спяшаючыся, захінула кашулю на грудзях.

— Во занудa... — незласліва сказаў Віцька.

— У нас бы такую заплявалі, — сказаў я, не без гордасці хвалячыся вясковай прыстойнасцю.

— У нас, у нас, — перадражніў Віцька. — У вас і з мякіны квас, а ў нас і з хлеба не выходзіць. Вунь я да Герке на цагельным заводзе ў Залуцкага працаваў. У бараку жыў. Доўгая такая стадола. Пасялілі нас туды і халастых, і жанатых. На цагельны завод, ведаеш, хто ідзе — каму прытулку няма. Дык я там усяго нагледзеўся. Нікуды, брат, не схаваешся. Стане да цябе баба спіной і пераапранаецца. Спачатку няёмка было, а пасля прывык. Глупства ўсё. Гора, яно да ўсяго прывучыць.

Мы зайшлі ў вялізны няўтульны пакой. Ля сцен стаяла дванаццаць ложкаў — шырокіх і вузкіх, моцна збітых з кляновых дошак. Дзяўчаты сядзелі на ложках. Нас яны сустрэлі смехам.

— Нюрка, ухажор прыйшоў!

Нюрка, высокая, шыракатварая дзяўчына ў белай кофце, высунула галаву з-за печы.

— Ну, чаго прыцягнуўся? — запыталася яна, але ў яе голасе не чулася злосці.

— Даўно не бачыў, можа і засумаваў трохі.

— А каб ты скіс. Праз усё лета вачэй не паказваў.

Астатнія ўжо не звярталі на нас ніякай увагі. У кутку каля ложка плакала тоўсценькая дзяўчына.

— А гэта чаго сырасць разводзіць? — Віцька кіўнуў галавой на дзяўчыну.

— Майстар пасватаўся, вось і распусціла нюні,— растлумачыла тая, што прасавала чорную атласную спадніцу на стале. Тоўсценькая заплакала мацней.

— Перастань, Верка, агоркла, — сыкнула Нюрка. — Плюнула б яму ў морду, дык сама ж згадзілася, а цяпер румзае.

— Дык ён жа сказаў, што са свету звядзе, — ледзьве перамагаючы плач, вымавіла дзяўчына.

— А ты ўжо і спалохалася.

Я адчуваў, што з дзяўчынай здарылася нешта страшнае, мабыць, такое, як з Аўгінкай, але было незразумела, хто яе прымушае ісці замуж за нялюбага. Пра гэта я і запытаўся ў дзяўчат. Тыя дружна зарагаталі. Нават і Верка ўсміхнулася.

— Адкуль ты яго прывалок, можа з манастыра? — давячыся смехам, запыталася Нюрка ў Віктара.

Тая, што прасавала спадніцу, растлумачыла:

— Наш майстар да кожнай новенькай сватаецца. Прыглянецца каторая, дык ён яе на суботу і кліча разам з ім пайсці.

Я знямеў. Дзіка пазіраў на дзяўчат, на Віцьку. Нясцерпная духата ахутала мяне, спёрла дыханне. Усмешкі знікалі з твараў дзяўчат. І раптам яны загаманілі наперабой.

— Хрэн стары, ніякай літасці ў яго няма.

— Кіслатой бы яму высмаліць вочы.

— Дуньку да смерці давёў.

— Штрафамі ціснe. Не пойдзеш, дык з голаду здохнеш.

Калі гоман надціх, Віцька скрыгатнуў зубамі.

— Мала мы яго тады білі, гада. Дабярэмся зноў. Тады нос перабілі, цяпер шыю зломім.

Настала жудасная цішыня. Нават перастала смаркацца Верка. Усе стаялі, як скамянелыя, адзін Віцька бегаў па пакоі, шпурляў нагамі табурэткі.

— Віцька, не трэба, ну яе, — кінулася да Віктара Нюрка.

— Не лезь, — адштурхнуў яе Віктар. — Авечкі вы бязмозглыя. Ды каб у нас такі майстар быў, мы яго ўраз адвучылі б. Калі ён табе казаў прыйсці? Сёння? Дык вось, нікуды не пойдзеш. Ясна? А заўтра я з хлопцамі пагутару. Няхай толькі пальцам кране. Чуеш? Ты адкуль?

Віцька прысеў на ложак, паклаў руку на Верына плячо. Яна прыхінулася да яго грудзей і зноў пачала ўсхліпваць, ледзь выгаворваючы словы:

— З Казлоўшчыны я. Пагарэлі мы сёлета. Айчым адправіў на заробкі.

— А ты не плач. Дурань твой айчым, як бот. Заробіш ты тут... Гэта табе не Казлоўшчына. Ясна?

Звычайныя простыя людзі, якія нічым не вызначаліся сярод другіх, неяк заўсёды паварочваліся да мяне іншым бокам, і тады я шчыра дзівіўся іх характвом. Так было і з Віктарам. Выскаляка, перасмешнік, задзіра, Віктар аказаўся чалавекам чулай і добрай душы. Цяпер я больш уважліва пачаў прыглядацца да тых, з кім працаваў, спрабуючы адшукаць у іх нешта новае, светлае і прывабнае.

І зноў жа я адкрыў гэтае светлае там, дзе не чакаў знайсці яго. Аднойчы мяне паставілі на разноску, бо Сцяпан Самасейка зноў загуляў. На трэці дзень я спаткнуўся і ледзьве не выпусціў з рук коўш з расплаўленым чыгуном. Гарачы метал плюхнуўся мне пад ногі. Я паспрабаваў адскочыць, але чыгун, нібы падсцерагаючы мяне, выплеснуўся на другі бок каўша. Штосьці вострае кальнула ў нагу.

— Кідай! — пачуў я нейчы крык. Мой памочнік кінуў коўш, я таксама адскочыў. З каўша, пырскаючы іскрамі, выліваўся чыгун. Мы стаялі разгубленыя, а майстар тушыў на мне вопратку. З канторы прыбег Герке-малодшы. З усяго размаху ён ударыў мяне па твары.

— Не добра робіш, — неяк ціха, прыглушана сказаў гаспадару майстар. — Дзякуй богу, што так абышлося, мог хлопец калекай астацца.

Герке адразу прыціх. Я прысеў на пясок, скінуў апалены расплаўленым чыгуном чаравік. На назе вырастаў белы з чырвонымі краямі пухір. Апечанае месца нясцерпна балела. Назаўтра я ўжо не мог пайсці на работу. Ляжаў на ложку, думаў: куды падацца працаваць, калі Герке зволіць з завода?

Пад вечар да мяне завітаў нечаканы госць Сцяпан Самасейка. Ён быў зусім цвярозы, трымаў пад пахай пакунак. Прысеўшы на край ложка, ён паклаў пакунак мне на грудзі.

— Табе вось, каб папраўляўся хутчэй. Прабач, брат, што так атрымалася. Усё я вінаваты. Не мог сцярпець, калі чорт пацягнуў мяне запіць.

Сцяпан мяў у руках шапку, глядзеў уніз, быццам саромеўся паказаць вочы. А я ніяк не мог уцяміць, чаму ён вінаваты ў маім няшчасці. Самасейку лічылі на заводзе за вопытнага рабочага. Ім даражыў гаспадар, з яго думкай лічыўся нават стары майстар. Раз у два месяцы Самасейка запіваў. Дзень і ноч сядзеў у шынку, спаў пад плотам з бутэлькай у руцэ. Прачнуўшыся, ён падносіў бутэльку да рота, адпіваў некалькі глыткоў і зноў засынаў. Казалі, нібы ён некалі быў студэнтам, ды спіўся і трапіў да Герке-малодшага. З гаспадаром Сцяпан не ладзіў. Агрызаўся, нават цвярозы не баяўся выказаць яму ў вочы рабочую праўду. Яго жыццё для ўсіх здавалася таямніцай, для мяне тым больш. І вось цяпер гэты азызлы, з паклычанымі валасамі чалавек, сядзеў побач са мной і прасіў прабачэння.

— Сам вінаваты, — супакоіў я Самасейку. — Не трэба варон страляць.

— Не кажы, малец! Як пачуў я пра цябе, дык хмель нібы рукой зняло. Месца сабе не знаходзіў. Няхай бы лепей са мной такое здарылася. Усё роўна ўжо. Ды і гэты сквапень Герке толькі крычаць умее. Заказаў вунь колькі нахапаў, а рабочыя тыя ж, што і пяць гадоў назад былі.

Я даўно заўважыў, што на крутых паваротах жыцця людзі ахвотна раскрываюць сваю душу, нібы спавядаюцца перад сабой. І цяпер я адчуў, што пачую нейкую незвычайную гісторыю. Самасейка, аднак, не спяшаўся. Ён болей распытваў пра вёску, пра мужыкоў, пра іх жыццё. Вёску ён ведаў дасканала. Гэта яшчэ больш распальвала маю цікаўнасць.

— Адкуль вы так добра ведаеце вясковае жыццё? — запытаўся я ў Сцяпана.

— А мне, малец, усяго на сваім вяку давялося пабачыць. Бацька мой некалі ў паноў Гарэцкіх карэтнікам працаваў. Пасля паншчыны ўзяў надзел зямлі, паставіў кузню. Працаваў дзень і ноч. Каваль ён быў славуты. Таму грошы вадзіліся. Вось і задумаў ён вывучыць мяне на адваката. Каб я панам стаў.

Я з недаверам паглядзеў на Сцяпана. Ці не хлусіць ён?

Сцяпан, відаць, заўважыў мой недаверлівы позірк.

— Ты хочаш вер, хочаш не, мне ўсё роўна. Дык вось, кончыў я двухкласнае, пайшоў у гімназію, а потым надумаў паступіць у Пецярбургскі ўніверсітэт. Паступіў. Сам я цяпер дзіўлюся, як вытрымаў экзамены. Год, браце ты мой, грыз я навуку. Ні сяброў, ні знаёмых. Абкладуся кнігамі і — чытаю. Грошай, вядома, не хапала. Жыў галодны. Неяк пазнаёміўся з адным чалавекам. Пагутарыў з ім раз, другі. І ахапіла мяне туга. Расказаў яму аднойчы пра свае думкі. Паківаў ён галавой ды і кажа мне:

— Туга цябе таму адолела, што ты не сапраўднай справай займаешся. Жывеш, а дзеля чаго — не ведаеш.

— Гэта праўда.

— А сэнс жыцця ў тым, каб несці людзям святло. Мужык наш у цемры гібее і, як сляпое кацяня, сам не ведае, куды паўзе. Трэба яму

вочы адкрыць, бо ён у Расіі — сіла. Былі ў яго свае правадыры — Балотнікаў, Сценька Разін, Пугачоў, толькі яны самі, як кацяняты, нічога не бачылі. І ўсё ж страху нагналі. Уся Расія, як асінавы ліст, дрыжэла. А хто дапаможа мужыку з цемры выбіцца? Мы. Вось і трэба ісці ў народ. Мужык цяпер у моду ўваходзіць. Разгарні любы часопіс — усё пра мужыка пішуць. А толкам ніхто не ведае, што такое мужык. Сабралася нас тут некалькі чалавек. Давай далучайся да нас, паедзем мужыкам вочы адкрываць.

Я, вядома, узгарэўся. Хоць на край свету гатоў паехаць. Забраліся мы, малец, у Цвярскую губерню, у такую глухамань, што і выбрацца цяжка. Дзікасць. Галеча. Бруд. Зямлі — кот наплакаў. Мужчына ўскіне струмент на спіну і пайшоў па Віцебшчыне ды Магілёўшчыне з крыкам: «Каму пілы нарэзаць, сярпы тачыць, катлы заліваць?» А бабы ў зямлі, як жукі, корпаюцца. Есці няма чаго, лавачнік на павер тавары не адпускае, хоць у пятлю галавой. У абшчыне вясковыя міраеды заварочваюць. Ходзяць такія барадатыя скарпіёны ды глядзяць, каго б так уджаліць, каб балела доўга. Мы гарачыя былі, бо маладыя ўсе. Натуральна, на ражон палезлі. Усіх міраедаў супраць сябе настроілі. Неяк пад восень (а ў іх пад канец лета мужыкі збіраліся пасля адыходу) наладзілі ў царкве малебен. Нейкае прастольнае свята было. Узвіжанне ці прачыстая — не помню. Параіліся мы і таксама пайшлі ў царкву. Трэба ж быць з народам. Бачым, мужыкі нядобра вочы касавураць на нас, перашэптваюцца. Быў у нас свой хлопец, з мясцовых, разумны такі. «Уцякайце, кажа, бо вас біць збіраюцца».

Нам бы сапраўды ўцячы, а мы стаім. Мужыкі п'яныя. Богу моляцца, а нас з вачэй не спускаюць. Мы на ганак, і мужыкі за намі. Ну і пайшла гуляць губерня. Царква на могілках стаяла, дык усе крыжы пераламалі на нашых галовах. Добра яшчэ, што крыжы былі гнілыя. Двух усё ж забілі. А я ўцёк. Можа і не выратаваўся б, каб не ўдава адна. Замкнула яна мяне ў свіран і не выпускае. «Ты, кажа, нібы палоннік мой»,— а сама рагоча. «Давай, кажа, слова, што абвянчаешся са мной, іначай мужыкоў клікну». Сяджу я, як пацук у пастцы. Чортведама, што дурной бабе ў галаву стукне. Далей-болей, бачу, ратавацца трэба. Ні за грош прападзеш. Ноччу выбраўся са свірна ды наўцёкі.

Бацька ў мяне чалавек суровы. Ды і зразумець яго трэба: песціў усё жыццё думку, што сын панам стане, а я дамоў галадранцам вярнуўся. Сек ён мяне бязлітасна. Потым задумаў у прымы аддаць. Была ў суседняй вёсцы ўдава з трыма дзецьмі. Вось бацька і наказаў ёй у сваты да мяне прыязджаць. Паглядзеў я на сваю нявесту і думаю: уцякай, браце Сцяпан, пакуль не позна. Ды як ты ўцячэш, калі бацька праз паліцыю можа дамоў вярнуць. І ўсё ж збег я. Туляўся па свеце, пакуль не злавілі. На гэты раз секлі мяне ўсёй вёскай. А я сваё крычу: «Хоць насмерць забіце — усё роўна ўцяку». Можа і засеклі б, каб не губернатар. Ехаў ён аднекуль праз нашу вёску, пачуў, як я лементую, заступіўся, загадаў выдаць мне пашпарт і забраў з сабою. Думаў я, да смерці верна буду яму служыць. А прыгледзеўся лепей і ўбачыў, які гэта дабрадзей. Не чалавек — звер. Роднага брата свайго, хворага на сухоты, у магілу звёў.

Сцяпан задумаўся. Было відаць, што ён хоча сказаць мне штосьці вельмі важнае, але не адважваецца. Я маўчаў, уражаны яго расказам. Сцяпанава жыццё было вельмі падобна на маё. Таму вырастала ў мяне да гэтага азызлага, п'янага чалавека нейкае цёплае, шчырае пачуццё.

— Эх, так і быць, раскажу табе ўсё, як на споведзі,— Сцяпан рашуча трасануў галавой.— Слухай, брат, што было далей. У губернатара, як я ўжо казаў, брат быў, хворы на сухоты. Жыў ён вёрст за трыццаць у маёнтку. Чакаў смерці, але за гаспадаркай глядзеў. Пра яго багацце



слава далёка ішла. А трэба сказаць, што быў ён не жанаты, хоць і не халасты. Было ў яго ад пакаёўкі трое дзяцей незаконных. Аднаго разу прысылае пакаёўка па майго гаспадара сані. Брат, маўляў, перад смерцю хоча завяшчанне пакінуць.

Загадаў мне губернатар збірацца ў дарогу. А я ніяк не ўцямлю, навошта яму там спатрэблюся. Прыехалі мы пад вечар. Ніхто нас не сустракае. Аказваецца, пакаёўка па доктара пабегла. Гаспадар мой адразу ў спальню да брата пайшоў, а я сеў ля дзвярэй, слухаю, пра што яны гавораць. Чую, просіць брат майго гаспадара за яго сям'ёй дагледзіць. Хоць і незаконныя дзеці, а шкада. А мой гаспадар маўчыць. Нарэшце пытаецца: «Завяшчанне напісаў ужо?» «Напісаў»,— адказвае хворы. «Дзе яно?». «Аддам, як жонка прыйдзе, пры сведках аддам». Я сабе і думаю: «Малайчына, гаспадару майму толькі дурань паверыць». Зноў, чую, спрэчка ўшчалася, потым прыглушаная важданіна. Нічога не магу зразумець. Раптам гаспадар выбягае і мяне ў спальню цягне. «Памажы,— кажа,— у гэтага дзівака завяшчанне ўзяць. Мала таго, што з мужычкай жыў і тым ганьбу ўсяму нашаму роду прынёс, дык яшчэ хоча ўсю маёмасць гэтай дзеўцы аддаць». Я стаю спалатнелы, пазіраю на хворага і не ведаю, што мне рабіць. Страшна за чалавека брацца, які ўжо адной нагой у магіле стаіць. Але каб сказаў мне гаспадар што-небудзь яшчэ больш дрэннае зрабіць, паслухаўся б яго. Разумееш, гэткая сабачая адданасць у мяне да гаспадара была. Зрабіў я крокі два да ложка, а хворы як закрычыць! Потым выхапіў з-пад падушкі партфель, прыціснуў да грудзей і кажа: «Толькі ў мёртвага адберацe». Гаспадар падштурхнуў мяне ў плечы: «Не бойся, кажа. Я за ўсё адкажу».

Я, здаецца, не вельмі каб моцна трасянуў хворага за грудзі, але раптам адчуў, як ягоныя рукі аслаблі, а галава матлянулася. З рота кроў цурком пабегла. Я хацеў быў за кім-небудзь пабегчы, каб дапамаглі хвораму. Але гаспадар не пусціў. «Сядзі,— кажа,— тут». Сам жа выбраў з партфеля паперы і ў камін кінуў.

Вось, браце, які ў мяне грэх на душы ляжыць. Таму і п'ю.

Сцяпан зноў апусціў галаву. Ён доўга маўчаў. А мне было жудасна і няёмка.

— Што ж потым было? — запытаўся я.

— Што было? Брата пахавалі. Маёнтак губернатару дастаўся, а пакаёўка з дзецьмі па людзях пайшла. Я ўжо не мог больш працаваць у яго. Збег. Пачаў піць, ды толькі ніякай гарэлкай той грэх не зальеш. Адно губернатару назаляю. Падпільную, як на дачу едзе, кідаюся пад ногі коням. Заўсёды асігнацыю дасць. Баіцца ці дабрадзея строіць — ліха яго ведае.

Сцяпан засабіраўся дамоў. На развітанне сказаў мне:

— Пайду зноў зап'ю. Моташна мне, аж жыць не хочацца.

Я астаўся адзін. Ляжаў, думаў. Чаму так водзіцца на свеце, што нідзе не схаваешся ад людскіх пакут? Хутка знайшоў адказ — вінавата багацце. Людзі палююць за ім, пільнуюць адзін другога ў цёмных куточках, перагрызаюць з-за яго горла не толькі чужым, але знаёмым і родным. Мо' і сапраўды не патрэбны грошы, багацце, лішнія клопаты пра заўтрашні дзень? Напіся сёння да ачмурэння, а заўтра дасць бог дзень, дасць і на дзень.

Сцяпан Самасейка навучыў мяне ненавідзець багацце, уладную сілу грошай, раскошу, асабісты дабрабыт і чалавечую прагнасць. Да чаго б гэта вучоба прывяла, цяжка сказаць, каб крута не змянілася ўсё маё жыццё.

## *Дзень васемнаццаты*

— Вас чакае дзяўчына,— сустрэла мяне гаспадыня, у якой я кватараваў.

У пакоі сядзела Цыля. З ёю мы даўно ўжо не бачыліся. На Цылі было кароценькае футра і доўгая чорная спадніца. На галаве зграбны капялюшык і густая чорная вуаль. Спачатку я не пазнаў Цылі. Толькі тады, калі яна засмяялася знаёмым мне грудным мяккім смехам, я здагадаўся, што гэта яна. Цыля адкінула вуаль, працягнула руку.

— Не хацела, каб твая гаспадыня бачыла, што да цябе заходзіла яўрэйка,— так растлумачыла яна мне свой маскарад.— Хваліся, як жывеш? Хоць я і сама чула тое-сёе.

Я расказаў пра Віцьку, пра майстра, пра Сцёпку Самасейку, пра тое, як аднаго разу вучылі ласага да дзяўчат майстра з прадзільнай фабрыкі. Цыля слухала моўчкі. Ухваляе яна ці непрыхільна ставіцца да таго, пра што я расказваў? Чаму паявілася так нечакана? Я адчуваў, што ў Цыліным жыцці адбыліся нейкія змены, якія перайначылі яе. Выдавала, што Цыля паспакайнела, набыла больш развагі. А можа я і памыляюся?..

— А я вось засумавала і вырашыла пабачыць цябе. Нічога, што я так нечакана?

— Не. Як там вёска?

— Ды я ўжо месяцы два, як адтуль. Не выпадала адведаць цябе. Ды і кватэру ты памяняў.

— Тут зручней.

Размова, для абаіх непатрэбная, пустая, хутка абарвалася. Шчыра кажучы, я адчуваў незвычайную нялоўкасць. За перагародкай хадзіла гаспадыня і, відаць, вастрыла вушы, каб хоць што-небудзь пачуць. Яшчэ тады, як я перасяляўся ў свой пакойчык, гаспадыня папярэдзіла мяне:

— Толькі вось што: дзевак не вадзіць.

Пра што яна думае цяпер, я добра здагадваўся. І можа таму няёмкасць мая ўзмацнялася. Зрэшты, за кватэру я плачу спраўна. Не яе справа, што за ўвесь месяц да мяне завітаў першы госць.

— Вучышся патроху ці можа закінуў? — вывела мяне з задуменнасці Цыля.

— Дзе там! Не вельмі. Так, часам зазірну ў кнігу.

— То зусім дрэнна.

Я паспяшаўся запэўніць, што даволі хутка ўжо магу прачытаць старонкі дзве-тры.

— Малавата,— зазначыла Цыля. Падумаўшы, запыталася: — У цябе знойдзецца вольная хвіліна?

— Бадай. А што?

— Можа сходзім да маіх знаёмых? Табе цікава будзе паслухаць.

Я зірнуў на свой рабочы гарнітур. Трэба было б пераапрануцца. Потым, што там за людзі? Як яны сустрэнуць мяне?

— Не ведаю нават,— прамармытаў я.— Час, вядома, ёсць.

— Тады прыходзь. Мне яшчэ трэба дамоў забегчы. Але я цябе сустрэну. Людзі там збяруцца цікавыя. На Задунаўскай вуліцы направа за ровам трэці дом. Знойдзеш? Са двара па лесвіцы на другі паверх. Там адны дзверы. Не заблудзішся.

Яна закрыла твар вуаллю і, яшчэ раз растлумачыўшы, як знайсці патрэбную кватэру, выйшла. У пакой адразу ж прашмыгнула гаспадыня.

— Хто гэта? — пацікавілася яна.



— Так, знаёмая.

Гаспадыня паківала пальцам перад маім носам і пакінула мяне аднаго.

...На двары адчуваўся подых вясны. Хрустка рыпеў наздрасты, выветраны за дзень снег. На захадзе яшчэ дагарала зара, і неба было там чырвонае, як кашуля гулякі-хлопца. А над галавой яно было фіялетавае, высокае і рабое ад зорак. У далечыні цьмяна гарэў ліхтар, а пад ім туліліся да слупа дзве адзінокія постаці. Вуліца была пустая і прыціхлая. Толькі за платамі яшчэ варушыліся людзі. Недзе ўсхліпнуў і змоўк гармонік. На станцыі пранізліва свіснула «кукушка». А тут драмалі хаты, прысады, платы. І неяк няёмка было абуджаць хадою гэтую ленаватую цішыню.

Мяне бралі сумненні. Чаго і куды я іду? І ўсё ж я ішоў, хутчэй за ўсё таму, што было ў гэтым штосьці таямнічае.

Цыля сустрэла мяне на вуліцы. Твар яе ўсё яшчэ быў схаваны пад вуаллю, і гэта таксама было нязвычна. У мяне, здаецца, моцна калацілася сэрца, калі я падымаўся па стромкай чыгуннай лесвіцы некуды пад самы дах.

У вялізным пакоі ярка гарэла лямпа. Валасаты, даўгатвары чалавек у камізэльцы, без пінжака, размахваў рукамі, крычаў на шыракатварага ў акулярах, што сядзеў, смешна асядлаўшы крэсла.

— Вы мне Германіяй не тыцкайце. Да-с-с. Германія — не Расія. І тое, што добра для яе, зусім не падыходзіць нам. Я хачу запытаць: знаў ці не знаў Маркс рускага мужыка? Да-с, пытаюся.

— Дазвольце,— спрабаваў утачыцца ў імклівую плынь прамовы шыракатвары.

— А я не дазволю. Да-с-с... Захад даволі нахлябтаўся чалавечай крыві. Цяпер вы хочаце затапіць крывёю Расію.

— Гэта не спрэчка па сутнасці, а дэмагагічны лямант,— выкарыстаўшы маўчанне хударлявага, нарэшце ўставіў некалькі слоў шыракатвары.

Хударлявы ўскіпеў, як малако ў бляшанцы. Але, заўважыўшы нас, кінуўся ў калідор.

— О, Цыля, нарэшце. Памажыце мне даказаць Рыбакову абсурднасць яго ідыёцкіх тэорый.

Пры гэтым ён спрытна пацалаваў руку ў Цылі, зняў з яе жакет і спрытна павесіў на сценку.

— Гэта мой даўні знаёмы і сябар, Рыгор, рабочы з геркавага завода,— сказала Цыля.

— Антон Сітнікоўскі, — хударлявы сунуў мне гарачую, потную руку і адразу ж звярнуўся да Цылі.— Не, ты разумееш, ён мяне хоча пераканаць Марксам. А ты дай мне нашага рускага тэарэтыка, тады я не буду з табой спрачацца.

Шыракатвары падаў голас з пакоя:

— І рускія ёсць.

— Хто? — крыкнуў з калідора Сітнікоўскі.

— Пляханаў, Ульянаў.

— Ульянаў? Не чуў. Пляханаў? Чуў. Да-с, чуў і не згодзен.

Цыля ўзяла мяне пад руку, правяла ў пакой.

— Прашу любіць і жалаваць. Рабочы з завода скабяных вырабаў Рыгор.

— Рыбакоў, вельмі прыемна,— пакланіўся шыракатвары.— А гэта Наташа Малініна.

Маладая дзяўчына, бялявая і чырванашчокая, дробна топаючы ка-

роткімі ножкамі, падляцела да мяне, ухапіла руку і доўга трэсла яе, прыгаворваючы:

— Дык вы рабочы? Рабочы? Ой, праўда?

У кутку ля круглага століка сядзеў чалавек з пачварнай усмешкай на твары. Ён мне адразу кінуўся ў вочы. Усё ў ім было незвычайнае. Белыя валасы і чорныя праніклівыя вочы. Вялікая галава ледзь трымалася на тонкай шыі. Ён усміхаўся, але ўсмешка хутчэй была падобна на грымасу болю. Можа ў чалавека балеў зуб. Мне давялося падысці да яго. Ён неахвотна падаў руку, буркнуўшы:

— Зачэпа... Сідар.

Гаспадар кватэры Ісак Сагал паявіўся аднекуль з бакоўкі з самаварам у руках. На ім таксама была атласная камізэлька і шырокія штаны, засунутыя ў хромавыя, даволі стаптаныя боты. Павітаўшыся з Цыляй, ён падаў руку мне.

— Ісак. Малюю карціны, слухаю спрэчкі вось гэтых паноў і паю іх чаем, бо інакш яны даўно сапсавалі б глоткі. Будзьце, як дома. Цыля мне расказвала пра вас, і ўсё з такім захапленнем, што я даўно хацеў пабачыць вас. Даруйце, што не сустрэў на парозе. Надакучыла слухаць, вось я і пайшоў самаварчык паставіць. Праўда, яны мне не перашкаджаюць. Нават самая недарэчная спрэчка — цікавая, бо дае магчымасць назіраць за людзьмі. У спрэчках, апрача таго, адточваецца думка, бударажыцца мозг. Так што прадаўжайце, сябры мае, а я пакуль з Цыляй пагутару.

Спрэчка, перапыненая нашым паяўленнем, зноў пачала разгарацца. Сітнікоўскі задзіраўся, але Рыбакоў астуджваў яго пыл усяго двума-трыма словамі. Размова круцілася вакол незразумелых, чужых для слыху слоў: эканамісты, сацыял-дэмакраты, анархізм, народніцтва, бланкізм, гараглядства, манізм, эксплуатацыя... Я спрабаваў унікнуць у іх сэнс, разабрацца сваім мужыцкім розумам, але яшчэ больш заблытаўся і нарэшце перастаў разумець самыя звычайныя словы. Калі Наташа Малініна папрасіла падсунуць ёй сухарніцу, дык я доўга, як абалдзелы, не мог зразумець, што яна ад мяне хоча.

Адзін Зачэпа ўсё сядзеў у сваім кутку і ўсміхаўся здзеклівай, страшнай усмешкай. Аднаго разу ён, праўда, кінуў некалькі слоў:

— Я за сто звычайных рабочых вазьму аднаго — смелага.

— Адзін — толькі адзін,— абыякава адказаў яму Рыбакоў.

— Калі б змова ўдалася Каталіне, дык ваш сацыялізм быў бы пабудаваны тысячу год назад.

Вось пасля гэтага спрэчка ўзгарэлася з новай сілай. Зачэпа, аднак, у ёй не ўдзельнічаў. Ён па-ранейшаму маўчаў, часам чмыхаў носам і крывіў твар.

— Не надакучыла яшчэ? — Сагал ціха пакратаў мяне за плячо.— Хадземце, пакажу вам сваю работу.

Праз баковачку, ён павёў мяне пад самы дах, запаліў лямпу. Я быў вельмі здзіўлены. Ад зашклёнага даху адлюстроўвалася святло лямпы, мякка залівала мноства карцін на сценах, на падлозе. Людзі, як жывыя, пазіралі на мяне, адны з прыязнай усмешкай, другія, сурова насупіўшы вочы, трэція цікавалі спадылба, чацвёртыя, занятыя сваімі справамі, не звярталі на нас увагі.

— Няўжо вы ўсё зрабілі?

— Вось гэтымі рукамі,— Ісак працягнуў рукі.— Яны вось спрачаюцца, а я пішу. Мастацтва гэта ўсё, дарагі мой сябар. Мяняліся правіцелі, грамадскія фармацыі; пралятаді над зямлёй войны, рэвалюцыі; раствараліся модныя тэорыі; здаваліся ў архіў рэцэпты алхімікаў, абвяргаліся адкрыцці; на змену адной рэлігіі прыходзілі другія, язычнікі рабіліся католікамі, а католікі язычнікамі,— і толькі адно заставалася назаўсёды — мастацтва. Наскальны малюнак параненага бізона і цяпер уражае сваёй закончанасцю, маленькая фігурка пісца — сваёй праўдай, Венера Мілоская — сваёй прыгажосцю, Рафаэль — уменнем заглянуць у душу чалавека, Рэмбрандт — жыццерадаснасцю, якая б'е ў вочы, кліча жыць, а не паміраць, Дам'е — выяўленнем усяго страшнага і агіднага. А што такое Каталіна? Эпізод, пра які забыліся праз дзесяць гадоў. Нават прамовы Цыцэрона — далёкія і незразумелыя нам, бо яны не выяўляюць сутнасці душы чалавечай. Яны — халодны разлік. Вось так... Мне хочацца намаляваць вас. Можа вы згодзіцеся пазіраваць мне? Я глядзеў на вас і бачыў вашу неасэнсаваную цягу да высокага, так сказаць, пажаданасць і нязбытнасць. У гэтым трагедыя нашага маладога чалавека. Яму здаецца, што перад ім тысячы дарог і — ніводнай. Бо няма каму паказаць яму шлях. Дык як, згодны?

Я згадзіўся. Тое, пра што гаварыў Сагал, было зразумела, хоць многія словы я чуў першы раз. Я здагадваўся аб іх сэнсе па выразных жэстах, па голасе. І наогул, Ісак выказваўся не крыкліва, а па-мужыцку разважліва. Можа таму яго словы даходзілі да сэрца.

У пакоі ўсё яшчэ спрачаліся. Цыля расчырванелася і цяпер, як і некалі ў карчме, не магла ўседзець на месцы. Сітнікоўскі размахваў рукамі, а Рыбакоў усё так жа спакойна казаў яму:

— Усё, што вы нагаварылі тут — дзікае трызненне. У Пецербургу толькі б пасмяяліся з вас. Ваша крытыка Маркса, якога вы не чыталі, абсурд, ваша стаўка на мірнае вырашэнне спрэчак рабочага з капіталістамі — двайны абсурд, ваша жаданне весці Расію сваім шляхам — зноў абсурд. І ўвесь вы нашпігаваны правінцыяльнымі тэорыямі — трайны абсурд. І наогул, чорт вас разбярэ, хто вы? Мядуза.

— Правінцыя — сіла! — стараўся перакрычаць Рыбакова Сітнікоўскі. — Мы — сіла, а не яны. Не паперы зробяць усё, а мужык, да-с, мужык...

— На сёння, дарагія мае, хопіць,— перапыніў спрэчку Сагал.— Скажыце дзякуй, што дазволіў вам аж тры гадзіны спрачацца, а цяпер і сумленне трэба мець. Спаць хачу.

Усе адчулі палёгку. Мабыць, спрачацца абрыдла ўсім. Гуртам высыпалі на вуліцу.

— Хто ж Цылю правядзе? — Сітнікоўскі пытаўся так, нібы хацеў сказаць: «Цылю буду праводзіць я».

— Мяне будзе праводзіць Рыгор,—адрэзала Цыля і ўзяла мяне пад руку. А калі мы крыху адышліся, запыталася:— Ну як, спадабалася? Наогул, многа шуму, але карысна паслухаць, як кажа Ісак.

— Не зразумеў я нічога,— адказаў я.

— Прывыкнеш. Чытаць трэба. Рыбакоў цікавы чалавек, хоць я з ім і не зусім згодна. Ён — марксіст. Разумееш, у яго стаўка на рабочых. Ён даказвае, што толькі рабочыя могуць скінуць цара. А Сітнікоўскі і сапраўды сам не ведае, чаго дамагаецца. Адзін час за народнікаў быў.

— А той... Зачэпа?

— Зачэпа? А ён ні на рабочых, ні на сялян не робіць стаўкі. На сябе.

Я не зразумеў гэтага. Але пытацца не захацеў, і так у галаве гулі мудрыя словы.

— У наступную суботу зноў прыходзь. Добра? — Цыля прытулілася, спрабавала заглянуць мне ў вочы.

— Добра,— паабяцаў я.

— І яшчэ, не вельмі расказвай пра нашы размовы. За гэта і ў турму можна трапіць.

Я адказаў, што ўмею трымаць язык. Мы пастаялі моўчкі ля Цылінай хаты і разышліся. Цылін голас яшчэ доўга гучаў у маіх вушах.

## *Дзень дзевятнаццаты*

— Я доўга прыглядаўся да вас, і вы мне спадабаліся,—здзівіў мяне аднаго разу Зачэпа, калі ў нядзелю я сустрэў яго ў залінейным садзе.

Ад збянтэжанасці я не ведаў, што сказаць. Толькі чырванеў.

— Языком мянціць вы не майстар, а наконт смеласці вашай чуў ад Цылі. Ухваляю.

Я не мог уцяміць, пра што ён гаворыць. Калі я праявіў сваю смеласць? Баязліўцам, праўда, я сябе не лічыў.

— Як у вас наконт нерваў? Моцныя? Гэта галоўнае. Давайце сядзем вунь на тую лаўку, — мы адышліся і селі. Зачэпа прадаўжаў: — Мне здаецца, што вы добра ўяснілі, што галоўны наш вораг багатыя — цар, міністр, губернатар, пан. Усе яны бандыты. Цяпер адкажыце мне, што вы зрабілі б, каб бандыт палез у вашу хату за вашым дабром?

— Стукнуў бы абухам і ўсё,— усміхнуўся я, не ведаючы, куды хіліць размову Зачэпа.

— Вось-вось, я так і думаў. Іменна абухам па галаве. Толькі так, а не іначай можна давесці царскім сатрапам нашу сілу. Нам кажуць: на месцы аднаго паявіцца другі, няхай, але і ён будзе заўсёды хадзіць пад страхам смерці. Святая помста — вось што галоўнае, вось той рычаг, які пераверне ўклад жыцця. Азірніцеся на ўрокі гісторыі. Колькі прыкладаў таго, як смерць ненавіснага правіцеля была і смерцю яго варварскага рэжыму. Вы чулі гэтага балбатуна Сітнікоўскага? Ён прапануе вымольваць у багацеяў грошы. А я кажу, іх трэба браць са зброяй у руках. Іх дабро — наша дабро. Яны нарабавалі яго, а мы забярэм у іх. Згодзен ты са мной ці не?

Мне было цяжка пярэчыць. Я згаджаўся з кожным, хто выступаў супраць багатых і ненавісных мне людзей. Сваёй думкі ў мяне не было. Па-свойму меў рацыю Сцяпан Самасейка, Ісак Сагал, Сітнікоўскі і Рыбакоў — у кожнага я знаходзіў зярняты тае агульнай праўды, што настаў час выступаць супраць багацеяў. Што канкрэтна трэба рабіць, на гэта ў мяне не было пэўнай думкі. Таму я згадзіўся з Зачэпам.

— Ты ведаеш, хто тыя двое, якія загінулі ў вашай вёсцы? Гэта мае сябры. Лепшыя людзі Расіі. І мы павінны адпомсціць за іх. Пакляніся, што не пашкадуеш свайго жыцця дзеля помсты забойцам маіх сяброў.

Я пакляўся. Было страшнавата. Адчуваў я сябе так, нібы ляцеў у прорву. Займала дыханне.

— Праз тыдзень а пятай гадзіне я сустрэну цябе ля Васкрасенскай царквы. Пра далейшае пагаворым пасля,— ён падаў мне руку і неяк адразу знік, я нават не ўбачыў, куды.

Насталі дні пакутлівага чакання. Два разы я сустракаўся з Цыляй, але сустрэчы не цешылі мяне. І не таму, што я перапалохаўся. Страху я не адчуваў. Але клятва, дзіўная таямнічасць і надакучлівае чаканне раз'ядалі мяне, як іржа жалеза. Горш нічога няма ў жыцці, як невядомасць. А дзеля таго, каб даведацца, што я павінен рабіць, трэба была чакаць і чакаць.

Цыля, мабыць, заўважыла маю ўзрушанасць. Але ж не так проста выцягнуць з мяне слова. Мы, помню, паспрачаліся, а потым я надзвычай пакутаваў. Цыля мне падабалася ўсё больш і больш. Была яна не такая, як усе дзяўчаты, хоць, шчыра прызнацца, на іх я не вельмі заглядаўся. Прадзільшчыцы бянтэжылі мяне сваёй рэзкай смеласцю, выдавала, быццам яны знарок выстаўляюць яе, хаваючы дзявочую сціпласць за сем замкоў. Маладзенькія мяшчаначкі сарамліва хавалі вочы, размаўлялі, складаючы губы трубачкай, а ў цёмных закутках дазвалялі мацаць грудзі, пахваляліся іх дзявочай пругкасцю і да смерці баяліся пацалункаў. Галянастыя чыноўніцкія дочкі на людзях пагардліва крывілі вусны, а калі даводзілася заставацца сам-насам, заводзілі нудныя размовы пра «папенек і маменек». Бадай адна Аўгінка крыху нагадвала Цылю. Той жа шчыры позірк, тая ж прывабная ўсмешка, тая ж лагоднасць і непадробная пяшчота.

Цыля прываблівала сваёй адукаванасцю, смелымі думкамі і ўменнем паправіць чалавека, не робячы яму крыўды.

Толькі я чамусьці саромеўся Цылі, а калі сустракаўся, дык больш маўчаў. Здавалася, што я і не так, як трэба, вымаўляю словы, і не тое зусім гавару. Праўда, першыя хвіліны збянтэжанасці хутка праходзілі; Цыля ўмела захапіць жартам, спрэчкамі. З ёй прыемна было нават сядзець моўчкі. Можа таму я гарнуўся да дзяўчыны. Цяпер між мной і Цыляй паўстала тайна, якая ледзьве не разлучыла нас назаўсёды. Але ж яна і зблізіла нас.

Было гэта так.

У наступную суботу я пайшоў да Васкрасенскай царквы. На сходках і ўздоўж тратуара сядзелі жабракі, узнімаючы дзікі лямант кожны раз, калі паўз іх праходзіў абывацель, а пасля дзялілі грошы і злосна лаяліся між сабой. На мяне яны пaглядалі з падазронасцю і страхам.

— Чаго зрэнкі вылупіў? — ускіпеў хударлявы стары ў цяжкіх вярыгах. — Ідзі ў царкву, а не, дык правальвай сваёй дарогай.

Але я не мог адысціся, баяўся, што Зачэпа не знойдзе мяне. На каланчы прабіла шэсць гадзін, а Зачэпы ўсё не было. Я не ведаў, што мне рабіць. Хацеў быў пайсці ў царкву, каб не тырчэць тут, ды збаяўся. Народу падыходзіла да царквы ўсё меней, бо вячэрня пачалася. Ля мяне разы са два прайшлася круглатварая, невысокая дзяўчына. Рукі яна трымала ў муфтачцы, якую ўвесь час прыкладала да твару, мабыць, грэла нос. Хоць снегу ўжо не было, але марозіла моцна. Праходзячы ля мяне трэці раз, яна, нібы між іншым, вымавіла толькі адно слова «Зачэпа». Я ўздрыгнуў і дапытліва паглядзеў на яе. Яна ўсміхнулася. Крута павярнуўшы, зноў пайшла да мяне.

— Вы Рыгор?

— Так.

— Ідзіце за мной.

Гэта было падобна на казку пра Івана Іванавіча, Насцю-Прыўкрасцю і Кашчэя Бяссмертнага. Як зачараваны, я падыбаў следам за ёю ў царкву. Народу было не шмат. «Насця-Прыўкрасця» апусцілася на калені ля вялізнай калоны і паказала галавой, што тое ж павінен зрабіць і я. Мяне разбіраў смех. На ліха такая гульня?! Дзяўчына пачала хрысціцца, і тут я пачуў, што шэпча яна не словы малітвы. Давялося нахіліцца, каб пачуць яе.

— ...туды пад'едуць на парцы коней і забяруць цябе.

— Куды? — перапытаў я.

— На другую вярсту Кацярынінскага шляху. Слухайце далей. Пароль — «падвязіце з вярсту».

Я нічога не разумеў. Які пароль? Дзяўчына, час ад часу хрысцячыся, растлумачыла:

— Пароль — умоўнае слова. Убачыш парку коней, адразу і скажы

тым, што на возе: «Падвязіце з вярсту». Калі табе адкажуць: «Садзіся, весялей будзе», дык свае, і ты садзіся да іх. А цяпер ідзі. Ды хоць перахрысціся.

Яна пачала кланяцца. Мне заставалася толькі ісці шукаць другую вярсту на Кацярынінскім шляху.

Старыя бярозы, распусціўшы голле-косы, драмалі ў начной цішы. Навокал ні жывой душы, толькі дзесьці далёка мігала агеньчыкамі вёска. Адмерыўшы дзве вярсты, я спыніўся ля дарожнага слупа. У канаве яшчэ ляжаў снег, бялеў у цемрачы. Вакол жа распасціралася глухая чарната. Я чутка прыслухоўваўся да начных гукаў. Тарахцення колаў не было чуваць. Час цягнуўся марудна. Здавалася, што я стаю тут доўга-доўга. У галаву тачыліся думкі, дзікія і неверагодныя. Нарэшце пачуўсяляскат колаў. Нехта спяшаўся. Чуваць было, як цокаюць капытамі коні.

— Падвязіце з вярсту,— папрасіўся я, як толькі павозка параўнялася са мной.

— Садзіся, весялей будзе,— адказалі мне.

Я сеў, стараўся прыглёдзецца да таямнічых пасажыраў. Іх было трое. Яны сядзелі, затуліўшыся ў высокія каўняры. Які з іх Зачэпа? Адгадаць было цяжка. Людзі маўчалі.

Незнаёмы голас запытаўся:

— Зачакаўся, мабыць?

— Ды ўжо ж. А куды мы едзем?

— Бач ты, цікаўны!

Коні беглі дружна. У насцярожанай маўклівасці мінулі гадзіны дзве. Вазніца звярнуў са шляху на прасёлкавую дарогу. Наперадзе чарнеў лес, выдавала, што ўзвышаецца пад самае неба гара. Колы заскакалі па карэннях. Нас кідала з боку на бок. Так мы мінулі доўгую грэблю, абапал якой цьмяна пабліскваў лёд. Зноў ехалі лесам, потым полем і зноў лесам. Спачатку мяне трывожыла і начная цішыня, і маўклівасць спадарожнікаў, і пануры шум лесу, потым трывога прайшла, мяне пачало хіліць на сон.

Прачнуўся я ад цішы. Азірнуўся. Коні стаялі.

— Прыехалі,— сказаў вазніца.

Людзі на калёсах заварушыліся.

— Давайце абмяркуем усё як трэба,— сказаў адзін з падарожнікаў. У яго голасе я пазнаў Зачэпу.—Па-першае, трэба растлумачыць усё нашаму сябру Рыгору. Дазвольце, паны, зрабіць гэта мне... Мы — тэрарысты, паслядоўнікі лепшых рэвалюцыйна настроеных людзей Расіі — Сцяпана Халтурына, Жалябава, Пяроўскай, абапіраючыся на вучэнне Прудона-Бакуніна, адвяргаем спробы баязліўцаў і балбатуноў адцягнуць рэвалюцыйны выбух да таго часу, пакуль не вырасце рабочы клас і пакуль не паспее сялянства, каб удзельнічаць у рэвалюцыі, ставім перад сабой ясную і строгую задачу — дамагчыся звяржэння царскага самаўладства шляхам тэрарыстычных актаў супраць найбольш небяспечных царскіх сатрапаў. Мы добра ведаем, што рызыкуем жыццём, але памерці ў імя вызвалення людзей ад прыгнёту царызма — святая справа. Мы не пахіснуліся тады, калі на вісельню трапілі Халтурын, Жалябаў і Пяроўская, мы не спалохаліся пазней, калі той жа лёс напаткаў Аляксандра Ульянава. На іх месца прыйшлі новыя людзі, яны прадоўжаць іх святую справу. Недалёк той час, калі цар і яго верныя служкі кончаць сваё агіднае жыццё ад бомбы і кулі нашых людзей. Няхай баязліўцы зычаць нам няўдачу і смерць — мы не саступім. Няхай мы раз'яднаны — у гэтым наша сіла, а не слабасць. Калі я чую, што недзе забілі губернатара, паліцмайстара ці ненавіснага пана — у мяне бушуе





ў грудзях радасць. Гэта зрабілі нашы. Мы жывыя і — змагаемся. І мы будзем змагацца, як славуты Ахіл.

Я дзівіўся, што звычайна маўклівы Зачэпа цяпер гаворыць так многа і страсна. Яго словы, у многім для мяне незразумелыя, распальвалі душу, клікалі некуды на страшныя і цяжкія справы. Можа ён гаварыў бы і далей, але яго перапыніў фурман:

— Запознімся, Сідар Андрэевіч.

Зачэпа абарваў сваю прамову і ўжо з халоднай разважлівасцю сказаў:

— Для падрыхтоўкі тэрарыстычных актаў нам трэба грошы. Цар іх нам не дасць. Мы павінны ўзяць іх самі. Вунь за тым паркам — палац былога душагуба і карніка, царскага генерала Антропава, што праславіўся сваёй жорсткасцю з бяззбройным народам. Цар дараваў Антропаву маёнтак, няхай ён дымам пойдзе сёння ў ноч, а грошы генеральскія няхай паслужаць службу святой справе.

Усё далейшае адбывалася, як у сне, хоць дасюль помню я кожную драбніцу тых падзей, чую пісталетны стрэл, бачу кволы агенёк запалкі і яркі выбух газы, адчуваю шалёны галоп коней, а ў вушах стаіць прыдушаны голас Зачэпы:

— Гані!

Мы ехалі нейкай незнаёмай дарогай, спыняліся ў лесе і зноў гналі коней. На ўскраіне горада за дубовымі варотамі мы кінулі калёсы, коней і фурмана. Зачэпа накіраваўся на вакзал, каб паехаць у Пецярбург па зброю. Я пайшоў дамоў. Назаўтра мяне разбудзіла гаспадыня.

— Спіш вось і не чуў, што сёння ўночы забілі генерала Антропава і спалілі яго маёнтак. Хоць і злодзей ён быў, а неяк шкада, усё ж чалавек. Госпадзі, куды толькі ты глядзіш?

«А ці патрэбна гэта было?— падумаў я.— Мабыць трэба. З багатымі інакш размаўляць нельга».

## *Дзень дваццаты*

Заказы паступалі партыямі. У першыя дні мы працавалі, як чэрці. Потым не было чаго рабіць. Герке плаціў лепш за другіх, але толькі за тыя дні, калі былі заказы. З вясны пачалося зусім «прывольнае» жыццё. Не было чаго рабіць. Многія з рабочых, што жылі ў сваіх хатах, мелі невялікія гароды, трымалі кароў, коз, свіней. Ім мала абыходзіла вымушанае беспрацоўе. Такім жа, як я, даводзілася тугавата. Праўда, Герке знаходзіў нам работу, але кожны раз даводзілася таргавацца, як заўзятым гандлярам. Выходзіла, быццам мы ўжо не рабочыя, а падзёншчыкі, якіх можна хоць сёння выкінуць на вуліцу. З перабоямі працавала і

прадзільная фабрыка. Дзяўчаты з пахілага барака лаялі майстроў, гаспадара, употай плакалі.

У Сагала ўсё часцей збіраліся госці. Паявілася некалькі новых чалавек. Спрачаліся да хрыпаты, даказвалі, пераконвалі адзін аднаго. Зачэпа слухаў усіх, усміхаўся сваёй мёртвай усмешкай. Сітнікоўскі размахваў рукамі, гарачыўся. Цыля больш маўчала. Сагал жа маляваў.

Кожную раніцу на пустэчу ля прадзільнай фабрыкі бравы афіцэрык прыводзіў на вучэнне салдат. Яны ўвесь дзень хадзілі ў страі па пустэчы, аддавалі чэсць гніломy, чорнаму слупу, немаведама для чаго тут укапанаму. Казалі, што салдацкія стрэльбы зараджаны кулямі. Прадзільшчыцы, праходзячы ля салдат, кпілі, лаяліся. Салдаты адварочваліся, маўчалі. Было неспакойна, як перад бурай.

На цагельным заводзе Залуцкага дзень і ноч гудзеў шынок. П'яныя білі шклянкі, ганялі перапалоханых крамнікаў-яўрэяў, быццам усе гароты былі ад іх. Пышнавусы майстар-удавец падбухторваў разграміць краму старога Боруха, з якім даўно быў у контрах. Але нечакана сам трапіў у бяду з-за жонкі абпальшчыка цэглы Петрачонка, п'яніцы і забіякі. Нехта даведаў Петрачонку, што майстар ходзіць да яго жонкі. З шынка рушылі п'яным натоўпам да хаціны Петрачонка і сапраўды засталі там майстра. Пачалася бойка, у якую ўмяшаўся гарадавы. Раз'ятраны натоўп забіў гарадавога, пабіў майстра і яго памочніка, зламаў помпу на заводзе. Петрачонка і яшчэ двух рабочых забралі ў паліцэйскі ўчастак. Назаўтра палова рабочых да самага абеду не бралася за работу.

Рыбакоў увечары горача растлумачваў Сітнікоўскаму:

— Адмахвацца ад выступлення цагельнікаў мы не можам. Гэта не звычайная бойка, а выступленне супраць прыгнёту, няроўнасці і эксплуатацыі. Яно не набыло шырокага размаху, бо рабочыя яшчэ не згуртаваны, а мы вядзём бескарысныя дэбаты.

Сітнікоўскі, мераючы пакой, закідваў валасы рукой назад.

— У нас б'юцца кожнае свята. Гэта дзікасць, а не рэвалюцыйнае выступленне.

— Гэта не дзікасць, а проба сіл.

Сітнікоўскі пагардліва чмыхаў носам. Зачэпа барабаніў пальцамі па стале. Раптам ён падняўся і пайшоў да дзвярэй.

— Выйдзі, — шапнуў ён мне.

Я ўстрапянуўся. Адчуў: так сабе Зачэпа не пакліча.

— Што ён табе сказаў? — запыталася Цыля.

Я не адказаў ёй. Як толькі спрэчка ўзгарэлася з новай сілай, я выйшаў. Зачэпа чакаў мяне.

— Пойдзем, пагаворым, — і мы пайшлі.

У доме на Губернатарскай вуліцы нас чакаў яшчэ адзін чалавек, сівы, але малады з твару.

— Вось ён, — сказаў Зачэпа, паказваючы на мяне.

— Сядайце, — у сівога быў густы, басавіты голас. — Вы яму не сказалі?

— Не.

— Вам выпала шчасце ўдзельнічаць у справядлівай помсце. Вы гатовы на гэта?

— Так.

— Мы павінны даказаць, што тактыка тэрору не ўстарэла. Яна жыве. Гэтаму пацверджанне забойства гарадавога на цагельным заводзе Мы павінны растлумачыць людзям, што гарадавы дробязь, трэба падсякаць пад корань вярхі. Мы вынеслі прысуд генерал-губернатару, і выкагаць волю народа маеце гонар вы.



У адной і той жа з'яве Рыбакоў, Сітнікоўскі і гэты сівы чалавек бачылі рознае, але верылі ў тое, што робяць. А я неяк згаджаўся з усімі, і мне было крыўдна і сорамна.

— Што мне рабіць?

— Кожную раніцу ў нядзелю генерал-губернатар едзе на сваю дачу за горад. Ваша задача кінуць пад яго карэту бомбу. Яе вы атрымаеце заўтра раніцай. Дзейнічаць будзеце так. Вось тут, — сівы тыцнуў пальцам у план горада, — пляцоўка, Задунаўскі рынак. Народу тут бывае не многа. Вось дом і ў ім шынок. На тым баку другі дом, за ім агароды і роў. Вы будзеце чакаць тут. Як толькі ён параўняецца з вамі, кідайце бомбу і бяжыце вось сюды. Тут вас будзе чакаць рамізнік. Калі шлях сюды, выпадкам, перакрыюць, бяжыце вось сюды. Тут дом. Непрыкметна забяжыце ў яго. Там будуць нашы. Ясна?

Мне было ўсё ясна. І нават не страшна. Палохала толькі ноч. Няхай бы мне сказалі пра гэта заўтра.

— Спаць застанецеся тут. Вам трэба добра выспацца. Выпіце гэтай мікстуры, і вы адразу засняце.

Але я не мог заснуць. Чуў, як Зачэпа і стары пра нешта доўга размаўлялі. З усяго я зразумеў толькі адно, што нехта і недзе супраць тэрору, што нехта пасля смерці свайго брата пакляўся весці барацьбу супраць царызма іншым шляхам. Але стары і Зачэпа не адступяць. Лепш памерці за сапраўдную справу, чым за лісток друкаванай паперы.

Я прахапіўся ад казытлівага сонечнага промня. І раптам успомніў усё. Варухнулася бязлітасная думка, што можа я ў апошні раз бачу сонечную раніцу. Шчыра кажучы, наш гарадок, няхай і губернскі, здаўся мне надзвычай малым, каб у ім можна было схавацца пасля замаху на губернатара. Усё тут на відавоку. Я ўявіў, як мяне ловяць, звязваюць вяроўкамі і цягнуць у турму. Прыгадаліся іншыя дні, калі пры святле смалякоў мяне вязалі на Браткавым двары. Перад вачыма паўстала Аўгінка, потым паявілася Ганначка, мой хросны, салдатка Матруна. Я падумаў, што калі на першым часе мне давядзецца ўцячы, дык лепшага месца, як Вёска, няма.

Каб разагнаць панурыя думкі, я пачаў успамінаць сустрэчы ў Сагала. Успомніў Рыбакова, Сітнікоўскага, Цылю, Зачэпу. Хто б з іх пайшоў на такую рызыку? Сітнікоўскі, напэўна, збаяўся б. А Рыбакоў? Гэты, напэўна, пайшоў бы. І выгляду не падаў бы, што яму боязна. Спакойны, разважлівы Рыбакоў чамусьці ўсё больш і больш падабаўся мне. А ці адважыўся б Сагал узяць у рукі бомбу? Паразважаўшы, я вырашыў, што не пабаяўся б і, напэўна, зрабіў бы гэта спакойна, як і ўсё, што ён робіць. Адчуваў я сябе ўжо лягчэй, быццам побач прысутнічалі ўсе мае сябры.

У Мікалаеўскім саборы ўрачыста і гучна блямкнуў звон. Водгулле пракацілася над горадам, змоўкла недзе за ракой у лесе. Адразу ж ва ўсіх трыццаці сямі царквах загулі званы, весела, урачыста.

Увайшоў сівы чалавек. Сеў на крэсла, казлом паставіўшы рукі на калені.

— Ну-с, як спалася, малады чалавек?

— Добра, — бадзёра адказаў я.

— Праз гадзіну вы павінны быць на месцы.

Ён выйшаў і неўзабаве вярнуўся з пакункам. Асцярожна паклаў яго на стол.

— Вось і ваша зброя. Асноўная. Як толькі ён параўняецца з вамі, кідайце пад карэту, а самі хутчэй уцякайце. Як толькі замяцеце сляды, ідзіце памалу. Не хвалюйцеся. А цяпер давайце крыху падмалюем вас.

Наклеім вусы і бародку. Гэта кідаецца ў вочы, а калі вы пачняце ўцякаць — сарвіце іх. Лягчэй будзе замесці сляды.

Неўзабаве я ўжо выходзіў з дому, несучы ў руках загорнуты пакунак. Мяне хвалявалі вусы і барада. Здавалася, усе кідаюць на мяне зацікаўленыя позіркі. Я ішоў, крыху хістаючыся, выдаючы сябе за п'янага.

У царкву памалу клыпалі абывацелі. Ляскалі па бруку павозкі. Барадатыя дзядзькі спяшаліся на рынак. Перагукваліся гандляркі. З кошыкамі ў руках спаважна ішлі кухаркі. Крамнікі адчынялі крамы. Жыццё кіпела на вуліцах гарадка.

У Задунаўскім шынку ўжо гарлапанілі песні. Пад плотам ляжаў жабрак. Я прайшоўся разы са два ля шынка. Тоўсты, чырванатвары гарадавы слізгануў па маёй постаці маленькімі, заплылымі ад тлушчу вачыма і падыбаў да тоўстай гандляркі, што масцілася са столікам ля тратуара.

— Правальвай, — гаркнуў ён.

Я ўздрыгнуў.

Гандлярка штосьці сказала гарадавому, той піхнуў столік. Вяцкія пернікі пасыпаліся на зямлю. Гандлярка залемантавала. Хлапчукі кінуліся падбіраць прысмакі. Мужыкі на вазах рагаталі, аж трэсліся доўгія бароды.

Я не мог устаяць на месцы, хоць добра ведаў, што занадта многа хадзіць рызыкоўна. А час, як на злосць, цягнуўся марудна. Нарэшце пачуўся ляскат падкоў. Удалечыні паказалася тройка белых, як снег, коней. Яны як бы гарцавалі на месцы. Я моцна сціснуў пакунак, азірнуўся, прымерваючыся, куды ўсё ж лепей уцякаць. Мужыкі зашапталіся: «Губернатар едзе...» Найбольш цікаўныя адыходзілі ад вазоў.

### *Дзень дваццаць першы*

Я прытаіўся за шынком. Адсюль мне добра была відаць вуліца, пустыя баракі, зарослыя вішняком агароды і алешнік у Духаўскім рове. Сэрца моцна калацілася. «Як толькі ён параўняецца са слупам, я размахнуся і шпурну бомбу, — думаў я, — а сам кінуся да баракаў».

Коні, прытанцоўваючы, набліжаліся. Праз іх галовы мне ўжо добра была відаць чорная барада фурмана. Вось ужо коні вынеслі карэту на пляц. Заставалася не болей ста крокаў. Я моцна ўпёрся нагою ў зямлю, бомбу ўзяў у правую руку, адвёў яе за спіну.

Я чуў, як трымцяць бляшаныя жалязкі на шлеях, бачыў чырвонае вока карэнніка. І раптам з шынка мільганула шэрая чалавечая постаць. Яна кінулася пад ногі коням. Фурман ледзьве ўтрымаў іх. Чалавек ляжаў, распластаўшыся на зямлі. З карэты выскачыў нейкі чын, ухапіў чалавека за каўнер, прыўзняў і паставіў на ногі. Мне здалося, што цяпер у самы раз кінуць бомбу. Я хутка набліжаўся да карэты. Бачыў я толькі сівыя бакенбарды губернатара і яго спалоханыя вочы. Ён стаяў у карэце, высокі і мажны. «Вось цяпер я з ходу кіну бомбу», — падумаў я і раптам спыніўся: генерал усміхаўся.

— А-а-а, Сцяпан! Выпіць хочаш?

— Хачу, — адказаў Сцяпан. — Можа не дасі?

Сцяпан Самасейка няцвёрдай паходкай падышоў да карэты. Губернатар дастаў сінюю паперку, падаў Сцяпану:

— Выпі, брацец, за маё здароўе.

У натоўпе ахнулі. Сцяпан стаяў разгублены, нешта памыкаўся сказаць, але, відаць, не мог.

— Паехалі, — крыкнуў генерал і плюхнуўся на сядзенне.





— Не, ваша правасхадзіцельства, асігнацыя тут не паможа, — Сцяпан бег поплеч з карэтай. Ногі яго не слухаліся. Нарэшце ён адстаў. Стаяў, пазіраючы ўслед, камечыў грошы. Потым ён размахнуўся і шпурнуў паперку. З хвіліну натоўп маўчаў, пасля загаманіў, кінуўся да асігнацыі.

— Назад,... вашу маць! — п'яным, надтрэснутым голасам залемантаваў Самасейка.

Натоўп, як ні дзіўна, спыніўся. Тоўсты гарадавы падняў паперку, разгладзіў яе на далоні.

— Падай сюды, ваша благароддзе, свіння ў гародзе, — паманіў Сцяпан пальцам гарадавога.

Той паднёс паперку, скрушліва паківаў галавой.

— Непарадак, Сцяпан, непарадак.

Сцяпан учапіўся ў гарадавога, і яны пайшлі да шынка.

Толькі цяпер я дапяў, што так і не выканаў задання сваіх сяброў. У галаву ўдарыла гарачая кроў, затахкала ў вушах. Спужаўся? Няўжо спужаўся? Не, я абавязкова выканаў бы прысуд, каб не Сцяпан. У яго я не мог кідаць бомбу. Але ўсё роўна свайго дамагуся. Прастаю дзень і ноч, але дачакаюся, калі губернатар будзе вяртацца ў горад. Тады ўжо ніхто не спыніць мяне. Я ішоў, не разумеючы, куды і чаму іду. На Губернатарскую, да сівога мне не хацелася вяртацца. Пра тое, што там хвалююцца, я неяк не думаў.

— Куды ты бяжыш? Што з табой? — голас здзівіў мяне, але не спыніў. Тады чыясьці рука ўхапілася за мяне. Я азірнуўся: так, гэта была Цыля.

— Ты хіба п'яны? Як не сорамна толькі?

Я схаваў пакунак за спіну. Цыля пранікліва паглядзела на мяне і нечакана пацягнула мяне ў нейкі завулак.

Спачатку я ўпіраўся. Грызла неадчэпная думка: «Рэвалюцыянера з мяне не выйдзе. Баязлівец». Потым неяк абмяк, некуды ішоў. Апамятаўся я ў Цылі на кватэры. Цыля трэсла мяне за штрыфлі пінжака, прыгаворваючы:

— Дурны, ой, які ты дурны...

— Цыля, я агідны баязлівец.

— Сядай, вось сюды. Зараз я за Рыбаковым пайду. Як я толькі адразу не здагадалася.

— Я баязлівец, — цвярдзіў я. — Лепш загінуць, чым так жыць.

— Ну і дзівак. Зараз я з табой пагавару, вось толькі напішу запіску.

Яна, стоячы ля стала, хуценька напісала запіску, паклікала нейкую дзяўчынку, і тая стрымгалоў кінулася з хаты.

— А цяпер слухай, — Цыля пасадзіла мяне на канапу. — Я павінна была раней здагадацца. Нам з Зачэпам не па дарозе. Іх тактыка асуджана па ўсёй Расіі. Асуджана даўно. Яна прыносіць толькі шкоду рабочаму класу. Тваё забойства паставіла б пад удар усіх нас. Рабочы рух на ўздыме, і вось такі замах мог задушыць яго. Ты разумееш, што ты мог нарабіць? На каго была зроблена гэтая бомба? На паліцмайстара, палкоўніка, жандара ці самога губернатара? Што б вы дамагліся? Не, Рыгор, ворагаў трэба знішчаць не па адным, а ўсіх разам. У рэвалюцыйным баі.

— Дзе вашы тыя баі?..— злосна буркнуў я.

— Будуць, але трэба чакаць і цярпліва рыхтавацца да іх. Гэта ўсё твая дробнабуржуазная стыхія бунтуе. Не, Рыгор, мы цябе ім не аддамо.

Нарэшце прыйшоў Рыбакоў, моўчкі выслухаў блытаны Цылін расказ. Нахмурыўшы бровы, пільна паглядзеў на мяне.

— Спужаўся, значыць? — у голасе яго было асуджэнне маёй баязлівасці. Лепей бы ён ударыў мяне па твары.

— Я ўсё роўна заб'ю яго. Каб не Сцяпан.... — я задыхаўся.

— Які Сцяпан? Пачакай, Цыля, няхай раскажа ўсё па парадку...

Хвалюючыся, глытаючы словы, я расказаў, як усё было. Расказаў без утайкі, толькі не назваў тых, хто дзейнічалі са мной. Ды Рыбакоў гэтым і не цікавіўся.



— Малайчына, — цвёрда вымавіў Рыбакоў. — А я думаў, задрыжала рука. У нас яна павінна быць цвёрдая. Пралетарская. Вось так. Свайго чалавека пашкадаваў — гэта добра. Зачэпа не пашкадаваў бы. Ён жа герой, асоба. А зрэшты — ён нуль. Не адпірайся — усё ведаю. Здагадваюся. За смеласць хвалю. На такое не кожны рызыкне. На тэрарыстаў плюнь. Не туды пнешся, хлопец. Тактыку тэрору ўжо даўно асудзілі сапраўдныя рэвалюцыянеры — марксісты. Пра Пляханава чуў? Не? Дрэнна. А пра Ульянава? Таксама не? Бачыш... Тут наша віна. За цябе я сам вазьмуся.

Рыбакоў доўга расказваў мне аб пралетарыяце, пра марксізм, пра тое, як згуртоўваецца рабочы клас у Расіі і хто перашкаджае гэтаму згуртаванню. З яго слоў выходзіла так, што я, хоць і несвядома, але якраз і стаяў на шляху гэтай згуртаванасці. Многае я тады не разумеў, але раптам адчуў, што Рыбакоў паказаў мне дарогу, па якой трэба ісці супраць паноў Залуцкіх, Яўмена, Герке, майстра з прадзільнай фабрыкі, губернатара, цара.

## Раздзел дзесяты

Анатоля разбудзіла тое падсвядомае пачуццё трывогі і нецярплівасці, якое так добра вядома пасажыру. Задрэмлеш на жорсткай вакзальнай лаўцы і раптам прахопішся ад страху, што заспаў, спазніўся на цягнік. Як ачмурэлы, азіраешся навокал і нарэшце пачынаеш разумець, што цягнік яшчэ не прыходзіў, што можна было спакойна дагледзець сон. Але спаць ужо не можаш. Дарожныя турботы адольваюць, захопліваюць у палон, аж да таго часу, пакуль не зоймеш сваё месца ў вагоне.

Сонца яшчэ не ўзыходзіла. Але высокія рэдкія воблачкі ўжо набылі серабрысты блеск. Яшчэ некалькі хвілін, і ўсё наваколле зазіхаціць ад першых промняў.

Анатоль зірнуў на гадзіннік. Да пачатку работы заставалася яшчэ каля трох гадзін. Ён паспрабаваў заснуць. Нацягнуў на галаву коўдру, заплюшчыў вочы. Сон збег і нізашто не хацеў вяртацца.

Хацелася хутчэй ускочыць з пасцелі, імчацца на завод, у свой цэх, да свайго станка. Але трэба было чакаць, пакуль маруда-гадзіннік праб'е шэсць разоў: Анатоль баяўся разбудзіць Рыгора Яўхімавіча. У той жа час яму вельмі захацелася пагутарыць з ім, расказаць яму пра свае трывогі і сумненні. Яны ўзнікалі нечакана, смешныя і недарэчныя, як пытанні трохгадовага хлапчука. Чаму гарыць абмотка на якары электраматора? Чаму нельга павялічыць хуткасць рэзання? Чаму крышыцца разец? Чаму стружка не крышыцца, а згінаецца, прыліпае да дэталі? На кожнае такое «чаму?» Анатоль знаходзіў адказ. Але яму ўжо здавалася, што ён развучыўся кіраваць станком, чытаць чарцяжы і, наогул, што-небудзь рабіць.

З вуліцы далятаў шум горада. Грымелі першыя трамваі. Ля хлебнага магазіна перагаворваліся грузчыкі. Раз-поразу шваркалі мётламі дворнікі. Недзе высока-высока ў небе звінеў самалёт, цененька, як шмель. Анатоль, слухаючы гэтыя абуджаныя раніцай гукі, раптам яскрава ўявіў, што робіцца зараз на заводзе, у іх цэху.

Працаваць у трэцюю змену рабочыя не любяць. Па-першае, не заў-

сёды хапае работы. Часта даводзіцца сядзець без справы. Якія ўжо тут заробкі! Па-другое, уначы адольвае сон. Ад яго няма ніякага ратунку. У вачах нeяк муляе, ломіць сківіцы пазяханне, і ўвесь час надакучае жаданне забрацца куды-небудзь у зацішак, выцягнуць здрантвелыя ногі, раскінуць рукі і хоць на хвіліну прымжыць павекі. Уначы і станкі неяк гудуць інакш, зморана, аднатонна, наганяючы сон. Даводзіцца траціць сілу і на працу, і на барацьбу з сабой.

Але першыя сонечныя промні праганяюць сон і зморанасць. Да людзей зноў вяртаецца бадзёрасць. Толькі ў галаве застаецца прыкры цяжар. Каб пазбавіцца ад яго, трэба больш жвава варушыцца, размаўляць і смяяцца. Таму ў канцы трэцяй змены заўсёды бывае вельмі тлумна. Рабочыя штурхаюцца, гучна перамаўляюцца, знарок моцна бразгаюць, здаючы дэталі прыёмшчыкам. Час ад часу ўспыхваюць сваркі, не злосныя, але шумныя.

У гэтую пару сонечны прамень якраз падае на станок, за якім цяпер працуе Ліда Варачкіна. Анатоль добра ўявіў, як Ліда моршчыцца ад рэзкага святла, нацягвае на лоб касынку і крычыць:

— Эй, Лёшка, павесь свой капялюш на сонца, а то аслепну зусім.

Лёшка, запусціўшы станок, здымае чорны, з абвіслымі палямі капялюш і, падбегшы да Ліды, спрабуе «закрыць» сонца. Хто-небудзь з хлопцаў параіць засланіць сонца вушамі. У Лёшкі і сапраўды залішне вялікаватыя вушы. Звычайна, калі хто намякае пра гэта ўдзень, Лёшка крыўдзіцца, кідаецца ў бойку. Але цяпер ён зробіць выгляд, што не пачуў абразы. Тады хлопцы вырвуць капялюш з Лёшкавых рук і пачнуць пасавацца ім, як валейбольным мячом. Лёшка кінецца адбіраць капялюш. Тут хто-небудзь напалохае хлопца, залемантаваўшы на ўвесь цэх голасам начальніка ўчастка:

— Брындаеш, ліха на цябе. Зноў брак...

Лёшка, як апантаны, пабяжыць да станка, а ўсе будуць рагатаць.

Колькі разоў Анатолю даводзілася змагацца вось з такім блазенствам. Як ні кажы, а днём працуецца спарней. У першую і другую змену у цэху поўна начальства. Дзе тут ужо дурэць. Ноччу начальства спіць. Усе клопаты кладуцца на плечы брыгадзіра. Сапсаваўся матор — шукай электрыка, які забраўся далей ад чалавечых вачэй, высвістваe носам «сонныя вальсы». Не хапіла разцоў — дакарай сябе, што не здолеў паклапаціцца пра іх загадзя. Не разумее хто чарцёж — памагай яму разбірацца, бо інакш будзе брак. За ўсё адказвае брыгадзір. Не, Анатоль не любіў трэцяй змены. І ўсё ж лепей кожны дзень працаваць у трэцюю змену, чым сланяцца без справы. За гэтыя дні, што Анатоль не працаваў, ён зразумеў, як цяжка і сумна жыць без работы. Дні здаваліся бясконца доўгія, шэрыя, нудныя, падобныя адзін да аднаго. Нішто не цешыць. Нішто не выклікае радасці. Дзесяць разоў бярэшся за кнігу, але чытанне не ідзе ў галаву. Здаецца, хтосьці штурхае пад бок, гоніць на вуліцу. Падымаешся, ідзеш і неяк незаўважна скіроўваеш на завод. Схаваўшыся ля плоту, слухаеш, як гудзе, уздрыгвае кожны заводскі гмах, і так робіцца моташна, што нічога ўжо не заўважаеш навокал: ні сонца, ні людзей, ні свайго ўласнага існавання. Не жыццё, а зняволенне ў камеры-адзіночцы, пра якую яму расказваў Агнёў.

Анатолю робіцца прыкра. Сапраўды, як ён мог адважыцца падаць заяву, каб яго звольнілі з завода? Было сорамна перад Ларысай Нічыпараўнай? Не хацелася расказваць ёй пра сваю бяду? Дзівак! Хіба можна схавацца ад людзей? Хіба бывае лягчэй, калі аб табе дрэнна гавораць за вочы? Толькі баязліўцы не любяць слухаць праўду. Дык няўжо ён баязлівец? Няўжо ён не сапраўдны чалавек? Міхась Андрэевіч так і сказаў тады: «Калі ты сапраўдны чалавек, дык вернешся на завод. Не вернешся — ліха з табой, прападай». Цяпер ён вяртаецца да сваіх сяброў, у свой цэх. Але ж не ён, а Рыгор Яўхімавіч дамогся гэтага...

Анатоля мучылі сумненні. Хто ж ён, урэшце? Баязлівец? Схібіў, бо пацярпеў дарэмную абразу? Адказу на гэтыя пытанні не знаходзілася. Рыгор Яўхімавіч, напэўна, знайшоў бы адказ. Але Агнёў яшчэ спаў.

Зноў і зноў Анатоль перабіраў у памяці падзеі апошніх дзён. Нібы той, непрадузяты суддзя цярпліва і бязлітасна запытваў сваё сумленне, жорстка дакараў сябе за памылкі. Першая з іх — паспешлівая жаніцьба на Лілі. Успомніў, як прызнаваўся ёй у каханні і ўгаворваў выходзіць за яго замуж. Тады яны сядзелі ў маленькім Ліліным пакоі. Цямнела, але святла яны не запальвалі. І Анатоль быў рады гэтаму.

— Ліля,— сказаў ён,— ці змаглі б вы...

Ён запнуўся, бо апошнія словы «выйсці за мяне замуж» было надзвычай цяжка вымавіць. Але яна, відаць, зразумела, што ён хацеў сказаць.

— Мы так яшчэ мала ведаем адзін аднаго,— сказала яна і моцна пацiснула яго руку.

Анатоль падумаў, што гэта сказана ад няёмкасці ці можа ад сарамлівасці.

— Вы, Ліля, такая... такая разумная. Я люблю вас і думаю пра вас. Вы як сястра ваша...

Ліля адняла руку.

— Анатоль, людзі вельмі шмат трацяць слоў, каб выказаць сваю думку проста і ясна. Вы прапануеце мне выйсці за вас замуж?

Тады Анатолю вельмі спадабалася гэтая непасрэднасць. Сапраўды навошта шмат гаварыць, калі ён любіць яе. Дзівак! Мямля! Увесь дзень рыхтаваў нейкія ўзнёслыя словы. Думаў, калі яна актрыса, дык пра свае пачуцці трэба гаварыць неяк інакш, як заўсёды.

— Так, — адказаў ён і тут жа паспяшаўся запэўніць, што будзе кахаць яе яшчэ мацней, песціць, шанаваць...

Яна ўсміхалася. У змроку яе ўсмешка выдавала кплівай.

— У мяне дрэнны характар,— ці то жартам, ці то ўсур'ёз папярэдзіла Ліля.— Улічыце гэта.

Ён запярэчыў горача, шчыра. Ліля зноў усміхнулася. На гэты раз ён добра разгледзеў, што ўсмешка была здзеклівая, абразлівая.

— У мяне дрэнны характар, але я не люблю цельпукоў, што ідуць на паваду ў жонкі.

— А я і не пайду,— выгукнуў Анатоль.

— Тады я за вас не хачу ісці замуж.

Анатоль разгубіўся. Ліха яе ведае, чаго яна хоча. Ніяк ёй не дагадзіць. І яшчэ больш настойліва ён пачаў угаворваць яе даць згоду на шлюб.

Цяпер уся тая іхняя размова нагадала Анатолю ганебны торг, у час якога Ліля дамагалася выставіць сябе і прынізіць яго.

Нарэшце яна сказала Анатолю:

— Схадзіце да маці. Як яна скажа, так і будзе.

Анатолю страшэнна не хацелася размаўляць з напышлівай Адзелаідай Сяргееўнай. Але Ліля паглядзела на яго з такім дакорам, што ён моўчкі падняўся і пайшоў.

Заікаючыся, чырванеючы, ён расказаў пра свой намер жаніцца на Лілі. Адзелаіда Сяргееўна слухала яго няўважліва. Яе непакоіла, што збянтэжаны жаніх разаб'е нефрытавы флакон, які ён вярцеў у руках. Нарэшце яна не вытрымала:

— Гэты флакон быў паднесены мне мужам. Ці не праўда, цудоў-

ная работа? — Яна забрала флакон, паставіла далей ад Дывінца. — Дык вы наконт Лілі? Гэта так нечакана.

Яна працягнула руку, і ён вымушаны быў пацалаваць яе. Потым Адзелаіда Сяргееўна намякнула яму, што Ліля магла б выйсці замуж больш выгадна. Але што яна не хоча разбіваць каханне «двух сэрцаў, якія імкнуцца да найвышэйшай асалоды». Нарэшце, яна дала зразумець, што Анатолю аказана вялікая пашана, што ён павінен заўсёды памятаць пра гэта.

Цяпер Дывінцу было прыкра за тое сваё прыніжэнне, за тую ўступку, што была зроблена напышлівай Адзелаідзе Сяргееўне і ганарыстай, разважлівай Лілі. Усё далейшае — вынік той першай памылкі.

Другая памылка, якую Анатоль не мог дараваць сабе,— запальчывасць, якую ён дапусціў на пасяджэнні камітэта. «Чаму ён не расказаў Віктару, Зоі, Аляксею пра сваё няўдалае жыццё? Саромеўся? Так. Але не толькі гэта? Спадзяваўся, што не зачэпяць, пабаяцца? Так, было і гэта, — прызнаўся Анатоль. І зноў зрабілася прыкра. — Хлапчук! Якія там у цябе былі заслугі. Хацеў прыкрыцца імі? Не, за імі не схаваешся...»

Трэцяя памылка — звальненне з завода. «Заганарыўся. Думаў, будуць угаворваць. Цалаваць руку так, як некалі ты цалаваў Адзелаідзе Сяргееўне. Ах ты, шчанюк!..»

Відаць, апошнія словы Анатоль вымавіў услых, бо Рыгор Яўхімавіч адразу пацікавіўся:

— Чаго ты лаешся? Хто гэты шчанюк?

— Я... Сябе лаю. Ляжу і думаю, як шмат чаго я не разумеў.

— А цяпер? — Рыгор Яўхімавіч прыўзняўся, абапёршыся на локаць, пазіраў на Анатоля.

— Нават не ведаю,— сумеўся Анатоль.— Здаецца, больш.

У рэпрадуктары глуха трэснула, загуло, потым настала цішыня. Неўзабаве адтуль паліліся ўрачыстыя і бадзёрыя гукі гімна. Анатоль падхапіўся.

Падняўся і Рыгор Яўхімавіч.

— Паляжалі б вы яшчэ...

Агнёў дакорліва паглядзеў на Анатоля.

— Ты для мяне, як родны сын стаў. Палюбіў я цябе, Толя. Можа таму залішне часам дапякаў. Дык ці магу я сёння ляжаць спакойна. Справа, браце ты мой, не ў тым, што ты зноў на завод вяртаешся, а ў тым, што да людзей ідзеш, якіх абразіў сваім учынкам. Яны вунь як за цябе з дырэктарам сварыліся. І хто ж цябе павядзе да іх, як не Рыгор Агнёў. Ды, шчыра кажучы, і самому мне вельмі хочацца прайсціся ў адным страі з рабочымі. На жаль, толькі прайсціся...

Яны ішлі па шырокай вуліцы, запруджанай цяпер рабочымі. Як зглядзець вокам, спяшаліся на завод людзі. Плыла людская рака, і здавалася, што ніякія перашкоды не могуць спыніць яе. Яны загубіліся ў натоўпе, нібы зліліся з гэтай імклівай плынню.

Ля прахадной Рыгор Яўхімавіч падаў Дывінцу руку, моўчкі паціснуў яе. Так, пабраўшыся за рукі, яны стаялі доўга. Нехта гукнуў Анатоля, і неўзабаве іх абкружылі члены былой Анатолевай брыгады. Яны выказвалі радасць па-свойму: ляпалі па плячы, штурхалі пад бок, а адзін з хлопцаў абхапіў Дывінца, потым насунуў шапку на вочы.

— А мы ведалі, што вернешся, — сказаў ён. — Ты ж свой...

Рыгора Яўхімавіча адцёрлі ўбок. Але ён не крыўдаваў. Яны — маладыя, у іх свае клопаты. Хлопцы падхапілі Анатоля пад рукі, павялі... Ён выбавіўся з іх учэпістых рук, падбег да Агнёва:

— Дзякую, Рыгор Яўхімавіч. Каб не вы...



Агнёў перапыніў яго:

— Зайздрошчу я табе, Анатоль. Ну, ідзі...

Анатоль дагнаў сяброў, і яны зніклі за дзвярыма прахадной.

А Рыгор Яўхімавіч яшчэ доўга глядзеў, як ідуць рабочыя...

* * *

Ператасаваўшы калоду карт, Адзелаіда Сяргееўна ў трэці раз пачала раскладваць пасьянс. Сёння, як на злосць, пасьянс не выходзіў. Быццам хто зачараваў карты. Увачавідкі псаваўся настрой. Пацягнула да пухлага томіка ў чорнай вокладцы — старога зборніка сентыментальна-маркотных вершаў. Вершы, бы той восеньскі цёплы дождж, наводзілі тугу. Яны стасаваліся да настрою. Здавалася, з далечы гадоў даносяцца прызнанні такіх жа, як і яна, адзінокіх душ. Амаль з кожнай старонкі на яе пазіралі невыразныя цені, вочы некалі модных паэтаў. Паэты канулі ў нябыт. Ніхто іх ужо не памятае. І вершы іхнія ніхто не разумее цяпер. Нават Ліля пагардліва моршчылася. «Меранхлюдзія, — казала яна, крывячы вусны.— Дзе яны ўсе гэтыя Маргарыты Сабашнікавы, Інакенціі Аненскія, Дзімітрыі Цэнзары, Анны Саксаганскія? Пыл. Міраж. Глупства. Гульня ў сум. А я не хачу сумаваць. Мне буры хочацца, такой, каб закружыла, панесла на крылах».

— Лагоднай буры, — падказвала Адзелаіда Сяргееўна.

Яна не разумела дачку. Было ў ёй нешта новае, чужое, чаго яна баялася. Усё ж гэта была яе дачка, такая ж, як і яна сама, прагавітая да жыцця, і такая ж разважлівая, вечна незадаволеная. Свая кашуля, вядома, бліжэй да грэшнага цела.

Чаму толькі людзі не хочуць прызнаць за імі права жыць па-свойму. «Зайздросцяць», — думала Адзелаіда Сяргееўна.

Незакончаны пасьянс прадракаў нейкае ўзрушэнне. Вершы трапляліся сумныя, аж хацелася плакаць. І, як на тое ліха, недзе затрымаўся муж. Не было з кім нават пасварыцца.

А за акном шумеў горад. Глуха шоргалі шыны легкавых машын. На тым баку вуліцы ўзад-уперад соўгаўся доўгі вежавы кран. На двор увесь час прыязджалі грузавікі, згружалі цэмент, цэглу, дошкі, жалеза. Усюды завіхаліся людзі, і нідзе, нават ў сваёй кватэры, не было як схавацца ад іх. Адзелаіда Сяргееўна зачыніла акно. Адразу стала ціха. Тады яна апусціла крэмавую штору. Наступіў паўзмрок.

Яна наўздагад разгарнула зборнік. На вочы трапілі вершы, падобныя на прароцтва: «Точно вымерло всё в доме... Жёлт и чёрен мой огонь...» Адгарнула яшчэ некалькі старонак:

Круг от лампы жёлтый.
Шорохам внимаю:
От чего ушёл ты,
Я не понимаю.

«А я хіба разумею? — падумалася ёй. — Куды ўсе спяшаюцца? Чаго? Зрэшты, якая мне да таго справа?»

Дзверы гулка стукнулі. На акне закалыхалася штора.

— Фу, душна як,—Ліля падбегла да акна, пачала падымаць штору. Пакой зноў наліўся яркім святлом, аж пачало рэзаць у вачах.

— Не трэба, там шумна, — папрасіла Адзелаіда Сяргееўна дачку, калі тая захацела адчыніць акно.

— Ну і задыхайся,— злосна фыркнула Ліля.

Адзелаіда Сяргееўна адразу адчула, што з дачкой нешта здарылася. Мабыць зноў не паладзіла з Захарам Максімавічам. Дурная яшчэ.

Ліля зграбла карты са стала, шпурнула ў шуфляду. Потым той жа лёс напаткаў і томік старых вершаў.

— Чаго ты ўсхадзілася, — не вытрымала Адзелаіда Сяргееўна. — Я тваіх пласцінак не кідаю, хоць гэтыя бугі-вугі не вельмі падабаюцца мне. Аслінае рыканне — інакш не назавеш.

— Тут зараўеш... завыеш. На заўтра прызначан сход. Зноў пачнуць перабіраць па костачках. Агнёва такога ніколі не чула? Што ён хоча? Лезуць у душу...

Адзелаіда Сяргееўна наморшчылася:

— Няўжо Грышка?

— Не Грышка, а Рыгор Яўхімавіч, кінь свае старыя звычкі. Значыць, ведаеш! Я так і думала.

— Дык што ён?— Адзелаіда Сяргееўна ў роспачы апусцілася на канапку. — Што ён ад цябе хоча?

— Вось я і пытаюся ў цябе. Мне няма ніякіх спраў да вашых старых рахункаў. Гэта, урэшце, подла, прыпісваць мне нейкія старыя вашы грахі.

Ліля бегала па пакоі. Адзелаіда Сяргееўна ўспамінала апошнюю сустрэчу з Агнёвым. Божа, як даўно гэта было! Трыццаць пяць гадоў! Няўжо ён хоча прыпомніць старое? Чаму ж ён тады не арыштаваў яе? Ці можа тады не было падстаў, а цяпер яны знайшліся? Праз гэтулькі часу? Дык жа за даўнасцю ніякія законы не могуць яе асудзіць.

Былое да драбніц паўставала перад вачыма.

.... Неяк у вялікі пост да іх завітаў брудны, неахайны стары-жабрак. Перахрысціўшыся на абразы, ён, нібы незнарок, зазірнуў у пакой.

— Бацюхны вашага дома няма? — запытаўся ён.

— Няма.

— Прывітанне яму ад брата Канстанціна, вашага дзядзькі.

Адзелаіда Сяргееўна сумелася. Шэптам і дома пагаварвалі аб тым, што малодшы Залуцкі вяяваў у Дзянікіна. Было незразумела, як ён паявіўся тут.

Дзед прайшоў у пакой, зняў зрэбныя торбы, паклаў на падлогу.

— Сканфіскавалі, значыць, бальшавікі дамы вашыя? — запытаўся ён, аглядаючы цесны пакой, густа застаўлены старой мэбляй. — Нічога, харомы, канешне, забраць можна. Усё, што рукамі чалавечымі зроблена, таксама можна на свой розум перарабіць. А вось што бог стварыў, гэтага нікому не ўдасца перайначыць. Душа чалавечая застанецца. Як ні хітраць камісары, а душы яны не пераробяць, не. Пагуляюць людзі ў рэвалюцыю, ды і зноў за сваё. Давай — маё мне. Вось у чым дзела. Ага, не думала? А ты падумай. Пакуль душа ў палоне — нічога не выйдзе ў іх. Вось як... Запісачку я вам прынёс. Цётка ваша, сястра Алімпія, наказвае ў госці прыехаць.

Адзелаіда Сяргееўна ўсміхнулася. Пра цётку Ксенію даляталі да яе нядобрыя весткі. Казалі, што пражыла яна разгульнае жыццё, а пад старасць пастрыглася ў манашкі, зрабілася ігуменняй. Навошта яна кліча пляменніцу?

Запіска здзівіла Адзелаіду. З яе нічога нельга было зразумець. Тады неахайны стары растлумачыў усё ў трох словах. Яна ж Залуцкая і — павінна ім памагчы. А як памагчы, ён ёй скажа заўтра. Няхай яна толькі прыйдзе на Задунаўскую пляцоўку ды прыхопіць з сабой якія-небудзь транты, нібы дзеля таго, каб абмяняць іх у вёсцы на хлеб.

Ён знік нечакана, пакінуўшы Адзелаіду разгубленай. Прыгадваліся раманы Купера, Майн-Рыда. Выдавала, быццам і яна сама адна з гераінь гэтых незабыўных твораў.

Бацька, пачуўшы пра яе паездку, памыляў вуснамі, крактануў і нічога не сказаў.

Назаўтра на ўскраіне горада за велізарнай брамай яе пасадзілі на воз. Гаспадар адчыніў браму, перахрысціў на дарогу. «З богам» — і яна паехала ў манастыр. Пад сенам ляжала нешта цвёрдае.

За горадам яе спыніў патруль. Трое хлопцаў у шлемах абступілі воз, запыталіся, хто яна і што вязе. Каб Адзелаіда Сяргееўна ведала, што вязе, дык ніколі не змагла б так міла і шчыра ўсміхацца, і тады чырвонаармейцы, напэўна, знайшлі б зброю, што ляжала пад сенам.

Гадзіны праз тры, калі Адзелаіда Сяргееўна паіла каня ў рэчцы, яна ўбачыла пад сенам вінтоўкі. Спачатку спалохалася, а пасля нават узрадавалася. Першая прыгода абышлася як не трэба лепш. Праўда, цяпер яна ехала з асцярогай, бо ўсё яшчэ магла натрапіць на камбедаўцаў, што вартавалі вёскі ад налётаў банды Яўменюка.

У жаночым манастыры яе сустрэла цётка. Воз закацілі ў хлеў, і, пакуль ішла абедня, ён стаяў там. А пасля на яго сеў здаровы, пахмуры мужык і немаладая ўжо, але прыгожая жанчына.

Мужчына сцебануў пугай каня, і той вынес воз за манастырскую агарожу. Цётка Ксеня, ці як яе цяпер звалі Алімпія, перахрысцілася:

— Слава богу, а я ўжо ўся перакалацілася ад страху. Не давядзі божа, угледзеў бы хто — усім «чакі» не мінаваць. Гэта Яўменюку падарункі прывозіла.

Пацягнуліся сумныя, аднастайныя дні. З мужчынскага манастыра часам прыходзілі манахі, старыя і гідкія, як тлустыя жукі. Шапталіся з Алімпіяй, выпівалі келіх-другі віна і знікалі. А напярэдадні вялікадня Адзелаіду ціха разбудзіла цётка.

— Хадзем, развітайся з дзядзькам, — яна ўзяла Адзелаіду за руку, павяла не па калідоры, а па лесвіцы ўніз, нейкім патаемным ходам.

У рызніцы манастырскай царквы цьмяна гарэла лампадка. Пад шкляным каўпаком пабліскваў дыяментамі крыж, побач — дзве чашы. Вялізнае евангелле, разгорнутае на сярэдзіне, ляжала на аналоі. Ля яго стаяла бутэлька з віном і кубак. Канстанцін, аброслы, як Робін Гуд, сядзеў на лавачцы, абабітай чырвоным аксамітам. Ён ускочыў, калі пачуў іх крокі.

— А-а-а, пляменніца! Дзякую, што прыйшла. І за зброю дзякую. Хоць яна і не памагла нам. Каго б я задушыў вось гэтымі рукамі, дык гэта Грышку Агнёва.

Алімпія яхідна ўсміхнулася.

— Табе няма на каго крыўдаваць. За грахі твае і кара адпаведная. Сказана так ў святым пісанні...

Канстанцін адмахнуўся ад сястрыных слоў.

— Навучылася каркаць. Варона. Свае грахі палічы, а мае я вось такім крыжам знішчу, — ён выцягнуў з-за пазухі пісталет.

Адзелаідзе здавалася, быццам яна бачыць дзіўны сон.

— Адэля,— адарваў яе ад думак дзядзька.— Скажаш бацьку, каб усё золата, што мне належыць, аддаў табе. А ты аддасі таму дзядзьку, што запіску прынёс. Ён цябе будзе чакаць у праводную нядзелю, на могілках. А цяпер бывай, можа не хутка ўбачымся.

Ён абняў яе і пацалаваў у вусны. Яна ледзьве не задыхнулася ад едкага паху тытуню і гарэлкі.

— Яўменюка разграмілі. Казаў жа дурню... Нічога для яго святога не было. «Спасіцель» айчыны. Божа, да чаго дакацілася Расія,— здавалася, ён заплакаў.

Алімпія штурханула яго ў плечы.

— Ідзі ўжо. Не хачу, каб на святое месца цень падаў.— Яна адамкнула бакавыя дзверы і амаль выштурхнула брата.

— Куды ён? — запыталася Адзелаіда.

— За мяжу, відаць. Ваякі. Мы, бабы, лепей бы справіліся з бальшавікамі. Адна Юдзіф зрабіла болей, чым усё воінства.

Адзелаіда слухала падобную на трызненне балбатню цёткі. Хацелася хутчэй зашыцца пад коўдру.

— Маліся, дачка мая, за душы людскія,— мармытала Алімпія, ідучы ўверх па вузкіх сходцах.— Як ні стараліся язычнікі-рымляне запаланіць душы верай богу няўгоднай, а хрысціянства выцерпела ўсё і, на руінах старой язычніцкай імперыі, дала ўсходы...

Здавалася, на манастыр раптам абрушыўся буран. Нехта з усяе сілы грукатаў у дзверы. Алімпія заспяшалася да сябе ў келлю. Адзелаіда выглянула ў вузкае акно. На двор паўзлі падводы, людзі.

Яна таксама пабегла ў келлю. Прыцішылася на вузкім ложку, услухоўвалася ў гоман, што далятаў са двара. Потым загрукацелі масянічкі ў калідоры. Нехта тузануў дзверы, увайшоў у келлю. Яркі агонёк запальнічкі асвятліў чалавека ў скураной тужурцы з маўзерам на баку. Недзе ў глыбіні калідора лемантавала Алімпія.

— Хто вы, хіба не манашка?

— Не, я пляменніца ігуменні. Прыехала ў госці.

— Падымайцеся, нешта вы ўсе сюды зляцеліся,— чалавек у скураной тужурцы выйшаў.

— Рыгор Яўхімавіч, то сапраўды мая пляменніца. Бацька прыслаў. У горадзе, ведаеце, як цяпер. А брата свайго я даўно ўжо не бачыла. Манастыр тут, а не казарма.

Адзелаіда калацілася ад страху. Думала: «Калі пранясе ліха, ніколі больш нават слова супраць іх не скажу. Так нядоўга і пад расстрэл трапіць».

Хацелася хутчэй збегчы з манастыра. А яго пераварочвалі ўверх дном, шукалі кагосьці ці чагосьці. Пачынала світаць. Адзелаіда глянула ў акно і жахнулася: на вазах ляжалі забітыя.

Манашак вывелі на двор. Яны праходзілі ля падвод, зазіралі ў твары бандытаў, коратка, нібы казалі «амінь», паўтаралі: «Не ведаем».

— І вы не ведаеце? — запытаўся ў ігуменні Агнёў.— Дрэнная ў вас памяць, калі сваю пакаёўку не пазнаяце.

— Няўжо яна? — здзіўлена перапытала Алімпія, неяк не па-манастырску, а па-свецкаму. — Праўда, гэта Насця. Яна. Грэх які.

Адзелаіда крыху асвойталася. Цяпер яна з цікавасцю паглядала на Агнёва, пра якога не раз чула ад бацькі і цёткі. Ён стаяў, шыракаплечы, мажны. Здавалася, яго нішто не можа зрушыць з месца.

— Стары свет чапляецца за ўсялякую дрэнь, — разважна пачаў ён. — Разбэшчаная Насця. Сын Яўмена, забойцы Тараса Братка. Усе падонкі сабраліся ў бандзе. А хто галоўны натхніцель? Вы,— ён паказаў пальцам на Алімпію.— Любуйцеся, гэта вы давялі Насцю да гібелі. І перастаньце хрысціцца. Сляды ў банду вялі адсюль.

— З жанчынамі лёгка ваяваць, — азвалася Алімпія.

— Мы з ідэалогіяй вашай ваюем і будзем яшчэ доўга ваяваць,— адрэзаў ён.

Потым бандытаў везлі ў горад. Адзелаіда сядзела на пярэднім возе, побач з Агнёвым.

— Ну, што ж, паненка, захацелася з намі паваяваць, ці не так? Яна вырашыла хітрыць.



— Дзе ўжо мне... Няхай мужчыны шалеюць. Жанчыне заўсёды знойдзецца месца ў жыцці. Яна ціхенька ваюе, непрыкметна.

— Думаеце, што такім чынам здолееце перамагчы рэвалюцыю. Яна ўсміхнулася яму. Адкуль толькі ўзялася храбрасць.

— Дзіўны вы чалавек. Я многа пра вас чула. Нават уяўляла вас іменна такім. І ўсё ж я вас не разумею. Ці вы так упэўнены ў свае сілы, ці проста фантазіруеце. Пераваротаў у гісторыі было нямала. Толькі пасля іх мала што мянялася ў жыцці. Мае дзеці будуць падобны на мяне...

Агнёў злосна бліснуў вачыма. Але адказаў спакойна, быццам на якім вучоным дыспуце:

— Дарэмна суцяшаеце сябе такімі надзеямі. Мы пойдзем далей у барацьбе за новага чалавека. І калі вашы дзеці будуць падобны на вас, мы будзем змагацца і супраць іх.

... Адзелаіда Сяргееўна сумелася. Няўжо Агнёў памятае тую размову? Неверагодна. Яна, Адзелаіда Сяргееўна Залуцкая, жыла ціха. Канешне, яна не вельмі змянілася. Але якая каму справа да таго?

Ліля нарэшце перастала бегаць. Яна села на канапу, злосна пазірала на маці.

— Паслухай маёй парады, Ліля. Я многа перажыла за свой век. Думаеш, мне было лёгка? Уласная дачка збегла з дому, і яшчэ цяпер пазірае дзікай кошкай. Я разумею цябе і ўсё ж вымушана сказаць, што ты не ўмееш жыць з людзьмі.

— Гэта я ўжо сто разоў чула.

— Але не рабіла так, як я цябе вучыла.

— Гэтага цяпер мала — умець дагаджаць людзям. Цяпер трэба не шкадаваць сябе для людзей, быць заўсёды першай у вучобе, працы. Хоць бы ты калі-небудзь заглянула ў газеты,— Ліля гаварыла злосна.—Я ў цябе пытаюся, мне дадзена права на самастойнасць? Я хачу жыць так, як мне падабаецца, і не горш, а лепш за цябе. Усё ты са сваім золатам, з ідыёцкімі размовамі і павучаннямі. Ты, ты вінавата.

Размова набывала непажаданы паварот. Не раз ужо адбываліся вось такія сваркі. Выходзіла так, быццам у тым, што яе дачка не умее жыць, вінавата толькі маці. Часам Адзелаіда Сяргееўна ў гарачцы паказвала на дзверы, намякаючы на тое, што Ліля можа зрабіць так, як некалі зрабіла Ларыса. Тады дачка замаўкала. Пакідаць хатнюю ўтульнасць, раскошу, абжыты цёплы куток яна баялася. Гэта па-свойму радавала Адзелаіду Сяргееўну.

На гэты раз паказаць на дзверы Адзелаіда Сяргееўна не паспела. Ліля падбегла да шафы, пачала выкідаць свае сукенкі, бялізну. Адзелаіда Сяргееўна моўчкі назірала, як Ліля шпурляла на падлогу рэчы, і старалася стрымацца. Было балюча, што дачка, якую яна так песціла, кідае яе.

— Куды ж ты? — нясмела запыталася яна. — Можа дапамагчы?

— Не трэба, сама ўпраўлюся. Хоць не будуць папікаць тваім мінулым.

— За сябе падумай, — адказала Адзелаіда Сяргееўна і, каб не нагаварыць лішняга, схавалася на кухні.

Ліля склала рэчы ў чамадан. Выпрасталася. Раптам прапала ахвота кідаць родны, абжыты кут. Ці не ўсё роўна, што скажуць людзі? Хіба ўсім дагодзіш? І ўсё ж трэба ўцякаць адсюль. Пасля маці будзе здрадліва ўсміхацца.

Не развітаўшыся, яна выйшла на вуліцу. І тут ужо канчаткова вырашыла, што залішне пагарачылася. Невядома, як яшчэ сустрэне

яе паяўленне Захар Максімавіч. Чамусьці настойліва ўспаміналася размова з ім у бальнічным вестыбюлі. Але іншага выйсця не было.

Захар Максімавіч Браткоў, ці проста Зоха, як яго звала Ліля, жыў на вуліцы Бакуніна. «Пабеда» ўміг дамчала Лілю туды. Пакінуўшы чамадан у машыне, Ліля паднялася на трэці паверх. Сэрца трывожна сціскалася.

Захар Максімавіч, адчыніўшы дзверы, узрадаваўся:

— Вось гэта сюрпрыз!

— Я назусім,— выпаліла Ліля.—Больш не магу.

Ён крыху разгубіўся. Яна бачыла, як пабялелі яго вусны.

— Што-небудзь здарылася?

— Так, і вельмі непрыемнае. Агнёў, памятаеш, той стары, што сядзеў тады у бальніцы на крэсле і нешта крэмзаў у сшытку, накляпаў дырэктару. Заўтра будуць разглядаць на сходзе мае паводзіны, і наогул...

Яны стаялі на калідоры. Захар Максімавіч пахмура маўчаў. А Ліля чакала ад яго парады. Урэшце ён запрасіў у пакой.

— Са мной рэчы,— ледзь чутна вымавіла Ліля.

— Дык нясі іх сюды, — яна чакала, што ён пойдзе да машыны па чамадан, але ён стаяў, відаць, уражаны яе ўчынкам. Давялося самой бегчы ўніз.

Калі яна вярнулася, Захар Максімавіч усміхнуўся той усмешкай, якая заўсёды бянтэжыла Лілю. На гэты раз яна падумала: «Цяпер ужо ты нідзе не дзенешся».

— Надзвычайная экстравагантнасць,— вымавіў ён.— Не спадзяваўся, скажу шчыра. Але хвалю. Ты не баялася, што я магу цябе не прыняць?

Яна сумелася. Ці не падрыхтоўка гэта да сур'ёзнай размовы, якая можа закончыцца поўным разладам?

— Не, я верыла ў тваю прыстойнасць.

Ён зарагатаў.

— Якая там прыстойнасць. Проста ты патрэбна мне. Інакш я размаўляў бы не так. Як жа ты думаеш жыць? Мне здаецца, незаконная сувязь становіцца законным ярмом?

— Я хачу здымацца ў фільме. І ты можаш гэта ўладзіць. Рэжысёру ўсё дазволена. Урэшце я — прыгожая. Сорамна табе не будзе. Хіба спалохаешся Агнёва?

Браткоў абняў Лілю за плечы.

— Не бойся, пакуль ён да нас дабярэцца, дык мы пойдзем ужо на пенсію. Ці мо' зробімся славутасцямі, і тады зноў жа ён нічога нам не зробіць. Усё гэта куды больш складана, чым уяўляецца яму.

І ўсё ж Лілі было боязна, чагосьці. І крыўдна. Чаму не даюць жыць так, як ёй хочацца, ціха, утульна, весела і раскошна. Нават не ўзрадавала абяцанне Захара Максімавіча ўладзіць яе на галоўную ролю ў новы кінафільм.

...Стары хударлявы адвакат слухаў іх моўчкі, час ад часу барабанячы па стале доўгімі пальцамі. Ліля пазірала на чорны пярсцёнак з вялікім зялёным каменем, што пабліскваў на адвакацкім мізінцы. Пярсцёнак, бадай, быў на многа старэй за свайго гаспадара. Можа таму ў Лілі адразу ж паявіўся нейкі недавер да адваката. Што ён зразумее ў складаным, дарэшты перакручаным яе жыцці?

Гаварылі Захар Максімавіч і маці. Ліля не ўмешвалася ў размову. Яна сядзела на вузкай старой канапе, падкурчыўшы ногі. Слухала. Захар Максімавіч, не спяшаючыся, з глыбокім роздумам у кожным слове, расказваў пра справы, якія прывялі іх да адваката. У яго расказе адчувалася ўпэўненасць. Маці часам устаўляла некалькі слоў, як здавалася Лілі, пустых, недарэчных. Але адвакат, пачуўшы яе капрызны голас, адрываў заклапочаны позірк ад доўгага лакіраванага пазногця і праз шкельцы рагавых акуляраў пазіраў на маці праніклівым позіркам, быццам хацеў заглянуць у глыбіню яе чорных вачэй. Маці ледзь прыкметна паводзіла плячыма, міла ўсміхалася адвакату. Упершыню Лілі было праціўна глядзець на матчына какецтва.

Захар Максімавіч змоўк, адкінуўся на спінку крэсла. Адвакат памацаў тоўстыя дужкі акуляраў, узяў у рукі аловак, пераплёў ім пальцы.

— Я не бачу тут прэцэдэнта, — спакойна заўважыў адвакат. — Наколькі я зразумеў вас, Ліля Мікалаеўна фактычна ўжо не знаходзіцца ў шлюбе з Дывінцом. Закон не мае права, такім чынам, юрыдычна захоўваць на далей шлюб, фактычнасць распаду якога відавочная. Безумоўна, згодна закону аб сям'і і шлюбе, зацікаўленыя бакі абавязаны фармальна скасаваць шлюб у адпаведных інстанцыях, якія, зноў паўтараю, не маюць права адмовіць вам у справядлівай просьбе. Як бачыце, з гэтага боку права на вашым баку. І мне зусім не зразумела ўмяшанне ў абсалютна ясную справу грамадскіх арганізацый. Тым больш, што ні адзін з зацікаўленых бакоў не ўзбуджаў гэтую справу перад грамадскімі арганізацыямі.

— Прабачце, — перапыніў адваката Захар Максімавіч, — але факт застаецца фактам. На заводзе збіраюць сход, каб абмеркаваць паводзіны чалавека, які нічога благога не зрабіў. І ўлічыце, што сход гэты адбудзецца якраз тады, калі Лілі Мікалаеўне трэба будзе прыступаць да здымкаў у фільме. Згадзіцеся, пасля такога ўзрушэння яна не зможа распачаць працу.

— На жаль, прававыя нормы часам не ўлічваюцца нашай грамадскасцю. Што ж, мода: грамадскасць — вышэйшы суддзя, — адвакат развёў рукамі.

— Нібы веча, — падказаў Захар Максімавіч.

Адвакат спрытна пакруціў аловак між пальцаў.

— Ва ўсякім разе, закон на вашым баку. Я магу параіць толькі адно: Ліля Мікалаеўна мае поўнае права не з'яўляцца на гэты сход.

— Нам хацелася, каб вы растлумачылі, што незаконна турбаваць маю дачку, — нясмела заўважыла Адзелаіда Сяргееўна.

— На жаль... — адвакат зноў развёў рукамі. — Толькі ў выпадку прымянення незаконных дзеянняў з боку грамадскасці, мы можам пратэставаць на аснове агульных законапалажэнняў.

Ён падняўся, даючы зразумець, што прыём закончан.

На вуліцы Захар Максімавіч злосна вылаяўся.

— Законнік!.. Як вужака, вывіваецца. Такія ніколі не зробяць памылку.

— І ўсё ж ён параіў: Лілі не трэба ісці на сход.

— Гэта я і без яго ведаў, — буркнуў Захар Максімавіч.

Захар Максімавіч і маці пачалі спрачацца: ісці альбо не ісці на сход. Яны гаварылі пра гэта так, быццам вырашалі: варта глядзець новы спектакль ці не варта. Лілі здавалася, быццам ім няма ніякай справы да яе перажыванняў, думак і сумненняў. Ёй хацелася збегчы, як мага далей ад усяго гэтага тлуму, ад людзей, якія хочуць, каб яна была нейкай іншай.

Раптам яе апанаваў страх. Недарэчны, але такі моцны, што яна азірнулася. Ніхто на яе не звяртаў увагі. Усе некуды спяшаліся. У кожнага была свая справа. Чаго яна спалохалася? Насустрач ішлі хлопцы

і дзяўчаты, апранутыя ў камбінезоны, заляпаныя вапнай... «Будаўнікі, — падумала Ліля. — Чаго яны ўсміхаюцца?..» І раптам Ліля здрыганулася. Яна зразумела, што баіцца людзей, іх усмешак, іх слоў. Цяпер яна ўжо добра ведала, што ніколі не пойдзе на той сход. Няхай лаюць за вочы. Абы ёй нічога не чуць, нічога не бачыць. Паглядзеўшы на Захара Максімавіча, падумала: каб выратавацца, яна цяпер гатова на ўсё, нават на тую ролю, якую прапаноўваў ёй Браток — ролю любоўніцы, а не жонкі.

А яны ўсё яшчэ вырашалі праклятае пытанне: ісці ці не ісці ёй на сход. Ліля не магла далей трываць:

— Дарэмна вы спрачаецеся. Агоркла ўжо. Кіньце.

Маці здзівілася, вырачыла вочы. Захар Максімавіч усміхнуўся.

## Раздзел адзінаццаты

### *Дзень дваццаць другі*

Вузкая доўгая камера даўно вымерана. Шэрыя, патрэсканыя сцены даўно вывучаны. Толькі маленькі, з чалавечую далонь, кавалак неба — вечна жывы і недасягальна далёкі, ды вартавы па той бок дзвярэй прыцягваюць маю ўвагу. Здаецца, навокал няма ніводнай жывой душы. Адзін маўклівы камень, мокры і запляснелы.

Я адмерваю дзве тысячы крокаў, раблю з хлебнага мякіша маленькі шарык, кладу на край стала. Потым зноў лічу да двух тысяч і зноў раблю шарык. Так — дванаццаць разоў. Тузін шарыкаў гаворыць мне, што за гэты час я прайшоў адлегласць ад горада да маёй вёскі, дзе цяпер жывуць Цыля і мой сын Андрэй. Уяўляць мне ніхто не можа забараніць, нават сам начальнік турмы. І я аддаюся марам. Я заходжу ў хату, вітаюся з жонкай, бяру на калені сына. Ён цягнецца да маёй барады кволымі, мяккімі ручкамі, кратае пальцамі мае вусны. Я бяру яго тоненькія пальчыкі ў рот і ўсміхаюся шчаслівай усмешкай. Побач стаіць Цыля. Яна таксама вельмі рада, што я зайшоў іх адведаць. Яе вялікія карыя вочы глядзяць на мяне з пяшчотай і любасцю. Цыля падымае руку, прыгладжвае мае непаслухмяныя валасы.

— Нічога, — кажа яна, — мы не прападзём. Вось падгадую крыху Андрэйку, зноў пайду ў горад. Паступлю на фабрыку. А можа ўдасца дзе-небудзь уладзіцца рэпетытарам.

Я кручу галавой. Няўжо ты не разумееш, што ў багатыя сем'і табе зачынен уваход. А бедныя ў рэпетытарах не маюць патрэбы. Пасля таго, як твой бацька выгнаў цябе з хаты, пракляўшы на ўсё жыццё, Задунаўе адвярнулася ад цябе. Для іх ты — адшчапенец, няверная дачка свайго народа, якую варта пабіць каменнямі. Але ты не стала бліжэй і да другіх. Для іх ты яўрэйка, якая выраклася сваёй веры і не далучылася да чужой і непатрэбнай.

Якое глупства! Рэлігія, традыцыі, уласнасць, забабоны... Якая нам справа да ўсяго гэтага. Мы кахаем адзін аднаго. Мы разам змагаліся і будзем змагацца.

Цыля садзіцца побач, туліцца да майго пляча.

— А мне тут страшна, — кажа яна. — Змрочна, і людзі непрыветлівыя. Сцяпан неяк паглядае коса, ды і Ганна, быццам, не вельмі рада. Няхай бы я засталася ў Сагала.

— Дзівачка, у Сагала я цябе не мог пакінуць. Усё ж тут свае, крэўныя. Як бы ні было, а ў бядзе не пакінуць. Ды і Ганначка павінна



памятаць, што дзеля яе шчасця я ахвяраваў сваім. А нам нічога ад яе не патрэбна — толькі прытулак... Можа, вядома, не варта было рызыкаваць?..

Цыля закрывае мой рот рукой.

— Не кажы так, любы. Ты зрабіў правільна.

Мне яшчэ раз хочацца растлумачыць ёй свой учынак. Я і тады думаў пра яе і пра сына. Але я не мог інакш зрабіць. Рыбакоў — мой бацька. Хіба ж я меў права дапусціць, каб пакрыўдзілі яго?

— Гэта ён кінуўся да жандараў, калі яны ўварваліся на завод, — расказваю я Цылі. — Ён паявіўся нечакана, відаць, улез праз акно. Бо калі пачалася забастоўка, яго не было на заводзе. Малады жандарскі афіцэр выцяў яго шабляй, плазам. Ён упаў і адразу ўскочыў з доўгім жалезным прутам. Афіцэр зноў махнуў шабляй, і Рыбакоў упаў. Жандары пачалі біць яго. Нехта крыкнуў з натоўпу: «Браточкі, што ж гэта робіцца? Нашых б'юць, а мы стаім!» Вось тады ломам, якім збіваюць акаліну, я і ўдарыў афіцэра. Ён зваліўся побач, астатнія выбеглі за дзверы.

Нас больш за суткі трымалі на заводзе, патрабавалі, каб мы распачалі работу. Але мы дамагаліся свайго. Мы хацелі, каб зноў прынялі на цагельны завод тых пяцярых рабочых, што звольніў Залуцкі. Мы баставалі ў знак салідарнасці.

Калі сцямнела, мы здолелі вынесці Рыбакова з завода, а самі прадаўжалі змагацца. У нас не было зброі. Але мы трымаліся да апошняга, аж пакуль Залуцкі не прыняў на працу звольненых рабочых і не адмяніў чатырнаццацігадзінны дзень.

— Я ўсё добра разумею, — кажа мне Цыля. — Ты інакш не мог зрабіць. Але навошта табе было ісці ў горад? Хай бы ты перачакаў, пакуль скончацца арышты.

На хвіліну знікае ўяўленне, што я дома, у старой хаце. Я зноў бачу брудную цёмную камеру, чую цяжкія крокі вартавога па той бок дзвярэй.

Не, Цыля не магла папікаць мяне за тое, што я, уладзіўшы яе з сынам у Ганначкі, пайшоў у горад. Яна сама тады сказала мне:

«Рыгорка, можа справы паклічуць цябе ў горад, дык не зважай на мяне. Барацьба не бывае без ахвяр...»

Мне самому не надта хацелася пакідаць яе і маленькага сына. Але я вымушаны быў пайсці.

У горадзе шнырылі шпікі. Шукалі мяне, Рыбакова, Наташу Малініну. Сагал дапамог мне сустрэцца з Малінінай. За гэты час Наташа памужнела, пасталела і ўжо больш цвяроза глядзела на жыццё. З ёй мы выпусцілі лістоўку-заклік да рабочых гуртавацца вакол РСДРП. Намі кіраваў Рыбакоў. Ён жыў недзе за чыгуначным садам, хаваўся ад жандараў. Па яго ўказанню была створана першая ў нашым горадзе партыйная арганізацыя. Неўзабаве Рыбакоў быў перапраўлены за граніцу на партыйны з'езд. Пасля ад'езду Рыбакова на мае плечы лягла ўся работа па стварэнню падполля ў горадзе.

І раптам арышт, правал. Допыт. Камера. А наперадзе суд. Апошні, які, напэўна, паставіць кропку ў канцы майго жыцця. Крыўдна і балюча. Цешыць толькі адно, што справу, за якую давядзецца загінуць мне, прадаўжаюць другія.

...Неяк у час допыту ў пакой увялі Сітнікоўскага. Ён ішоў расслабленай паходкай, быццам асуджаны на смерць.

— Што ж вы не вітаецеся са сваім аднадумцам? — усміхнуўся следчы.

— У нас з ім розныя погляды на рэвалюцыйную барацьбу, — адка-

заў Сітнікоўскі. — Я належу да той меншасці, якая не згадзілася з Ульянавым. Больш я вам нічога не скажу.

Ён змоўк, знарок пазіраў на акно, дзе весела чырыкалі вераб'і, быццам выхваляліся: жыў, жыў-жыў. Так я ўпершыню даведаўся, што нашы спрэчкі з Сітнікоўскім выйшлі за рамкі мясцовых, набылі ўсерасійскі характар, што Рыбакоў і я аказаліся на правільнай дарозе. І калі таварыш Арсен жывы, значыць, барацьба будзе прадаўжацца.

Зноў я пачынаю думаць пра Цылю. Дзіўнае, аднак, стварэнне чалавек. То падымаецца высока ў паднябессе, то апускаецца на зямлю, да роднага ачага, удыхаючы яго салодкі пах. А можа і дарэмна ён раздзяляе сябе між хатнім ачагом і вялікімі грамадскімі справамі? Урэшце, хатні ачаг часцінка агульнага жыцця. Я лаўлю сябе на гэтай думцы і адразу жорстка дакараю сябе за такія вывады. Стары свет павінен быць разбуран да асновы, да таго самага ачага, пра які я мару цяпер. Рэвалюцыянеру сорамна думаць пра асабістае шчасце. Яно нішто ў параўнанні з той мэтай, да якой мы імкнемся.

Турма не толькі месца зняволення. Яна ціхая затока, дзе можна ўдоваль падумаць над усім жыццём. Не толькі над тым, што прайшло, але і над тым, што будзе.

Я імкнуся ўявіць, што будзе праз дваццаць, пяцьдзесят год. Перада мной увачавідкі паўстае новы свет, пазбаўлены ланцугоў самаўладства. Рэвалюцыя змяла цара, паноў і фабрыкантаў, і працоўны люд, вольны і шчаслівы, па-новаму будуе сваё жыццё. Уяўляецца нешта велічнае, прыгожае, але даволі туманнае. Ясна толькі адно: тады не будзе ні эксплуатацыі, ні ўласнасці, ні забабонаў, ні прагнасці, ні ашуканства. Рэвалюцыя спапяліла не толькі стары свет, але ўсю яго спадчыну, і чалавек выйшаў з яго прыгожы і добры, як нашая мара.

Мы, радавыя байцы пралетарскай арміі, часам вельмі наіўна ўяўлялі нашу будучыню. Рэвалюцыя здавалася нам вялізным кастром, у якім дашчэнту згарыць не толькі прагнілы да падмуркаў стары варожы свет, але і ўсе яго забабоны, і чалавек, апалены полымем рэвалюцыі, увойдзе ў новае жыццё крыштальна чысты і бездакорны. То была наша мара, можа залішне рамантычная, але прыгожая і светлая. Мы верылі ў яе, як у само жыццё, як у свае сілы. Яна і мы былі нераздзельныя. Яна нарадзіла нас, мы — яе. Нават тады, калі старэйшыя па барацьбе сябры ахаладжвалі наш запал разважлівым роздумам, мы не вельмі прыслухоўваліся да іх цвярозага голасу. Нам хацелася на трэці дзень рэвалюцыі стварыць камуну, а на трэці год пераступіць парог камунізма.

Не дакарайце нас за такія юначыя мары. Яны заўсёды апярэджваюць чалавека, заносяць яго далёка на сваіх лёгкіх крылах. Такі ўжо чалавек — самая крылатая з жывых істот. Мы шчыра хацелі зруйнаваць старую збуцвелую крэпасць — рускую імперыю. Але мы забывалі пра тое, што лягчэй разбурыць крэпасць, чым знішчыць цвіль, якая застанецца пасля яе. Нам здавалася, што варта знішчыць будынак, як цвіль прападзе сама.

Цвіль гэтая — спадчына старога свету. Яна падкрадаецца да чалавека непрыкметна, і тады знікаюць светлыя, узнёслыя мары. Чалавек забывае на ўсё добрае і ўжо ў новых умовах спрабуе ладзіць сваё жыццё па-старому.

Мы многае не маглі ўлічыць. Многае не маглі ўбачыць. Само жыццё вучыла нас. І ўжо куды пазней я добра зразумеў адно: хваробы старога свету давядзецца лячыць не аднаму пакаленню. І калі я сёння змагаюся супраць заган, якія пакінуў стары свет, супраць людзей, што моцна трымаюцца за свае адсталыя погляды на жыццё, дык я хачу аднаго: хутчэй наблізіць камунізм. Вось чаму, сын майго сына, я хачу, каб ты заўсёды меў вялікую мэту ў жыцці. Вось чаму я расказваю табе пра сваё жыццё.

Гэтыя думкі прыйшлі пазней. А тады я дабіраўся да іх спакваля. Але мне хацелася быць чалавекам і вельмі хацелася жыць. Можа гэтае імкненне і выратавала мяне ад смерці.

### *Дзень дваццаць трэці*

Наглядчык доўга бразгаў ключамі. Нарэшце дзверы неяк нясмела адчыніліся. Камеру заліло сонца. На падлогу лёг чорны цень ад кратаў. Я зажмурыўся. Сонца асляпіла мяне. Калі расплюшчыў вочы, у камеры зноў было змрочна. Гэта наглядчык знарок засціў святло сваёй шырокай постаццю.

Ён стаяў на парозе, абапёршыся аб вушак, моцна прыціснуўшы да сябе дзверы, і яхідна ўсміхаўся. Ягоныя вусы зласліва варушыліся, а вочы пільна сачылі за мной. Я ведаў, што робіць ён гэта для таго, каб я не мог зазірнуць у калідор. Неяк я перахітрыў яго. Калі ён аднойчы закешкаўся, я паспеў разгледзець праз адчыненыя дзверы шырокае закратаванае акно, а за ім густую разгалістую ліпу, усю ў квецені. Мне так хацелася зноў убачыць тую прыгажуню ліпу, сонечны дзень і шырокую рыначную плошчу. Наглядчык добра разумеў гэта і рабіў усё, каб лішні раз паздзекавацца з мяне. Здавалася, што ён жыве на свеце, каб назаляць мне, рабіць агіднае. Часам я не мог стрымаць сябе, тады ён радаваўся і, як мне здавалася, з асаблівай асалодай вёў у карцар — цёмную, смярдзючую яму.

Пачалося гэта нядаўна, калі ў мяне кончыліся грошы. Раней ён ставіўся да мяне куды лепш. Адчыняў дзверы, і я мог, пакуль прыбіраў камеру, удосталь любавацца святлом, што лілося на калідор праз акно. Ён нават тое-сёе расказваў пра сябе. За пяцьдзесят год ён нямала пабачыў гора. Быў салдатам, хадзіў паходам на Бухару, каштаваў шпіцрутаны. Пасля служыў дзеншчыком і дзядзькам пры сыне нейкага вайсковага чына, фурманам у пана, пажарнікам і нарэшце наглядчыкам у турме. Пра сваё жыццё ён расказваў ахвотна, больш за ўсё пра тое, як яго секлі, білі па мордзе, выганялі босага на мароз, паілі гарэлкай напалам з перцам і паленым коркам. Здавалася, што ён з прыемнасцю ўспамінае былое. А я абураўся, стараўся давесці яму агіднасць тых здзекаў. Наглядчык, слухаючы мяне, круціў вусы, ды час ад часу кідаў незразумелыя словы:

— У каня не пытаюць, ці цяжка яму... Жыццё — «кучка мала», хто выбраўся наверх, можа весяліцца.

Хутка ён зненавідзеў мяне. І тады маё турэмнае жыццё стала сапраўднай катаргай. Я змагаўся са сваім ворагам, але сіла была на яго баку. Мне заставалася адно: рабіць выгляд, што я не заўважаю яго здзекаў.

Я адвярнуўся да сцяны. Маўчаў. Стараўся думаць пра Цылю, пра сына, пра вёску. Хутка жніво. Напэўна, ужо налілося жыта, а на паплавах стаяць копы духмянага сена. Маўчалі мы доўга. Я стараўся стрымаць сябе, але адчуваў, як закіпае кроў, моцна грукоча ў скроні. Нарэшце наглядчык не вытрымаў.

— Бяры вось мятлу, — я пачуў, як нешта глуха ўпала на падлогу.

Я падняў вочы, пачаў пазіраць на сцяну. Трэшчыны размалявалі яе дзіўнымі ўзорамі. Якіх толькі няма тут малюнкаў. Трэба, праўда, добра прыгледзецца. Вунь бяжыць конь на трох нагах. Над ім сядзіць заяц

потым, знямоглы, упаў на табурэтку. Ці не памыліўся я? Як жа я траплю ў трынаццатую камеру. Дзе яна? Чаму адтуль я павінен уцякаць, а не адсюль? Паперкі ўжо не было, і я дакараў сябе што залішне хутка знішчыў яе.

Думкі блыталіся. У галаве гуло. Мне пачало здавацца, што я проста сасніў і адваката і паперку. Якая там воля, калі ўся Расія падобна на турму. Чаго я ўзрадаваўся? Хто дапаможа мне? Сябры? Але як яны зробяць гэта? Пра якога наглядчыка пісалася ў запісцы? Я ведаў кожнага. Хто з іх рызыкне?.. Хіба што за грошы. Той жа адстаўны салдат, калі ў мяне былі грошы, ставіўся да мяне не блага... А ўсё ж добра было б уцячы з турмы. Перш за ўсё я пайшоў бы да Цылі і сына. Адзін раз зірнуць бы на іх, прытуліць да сябе.

Я добра ўявіў, як адбудзецца наша сустрэча. Ці ведае толькі Цыля пра тое, што я рыхтуюся ўцякаць? Мабыць, ведае і таксама хвалюецца. Родная, любая Цыля, разумная і разважлівая, таварыш і настаўнік мой, я хутка прыйду да цябе.

Перад вачыма мроіліся прывабныя малюнкі, іншыя вечары. Самавар. Ласкавы позірк любімай. Яе лагодны, прывабны голас.

За дзвярыма грукнуў вартавы — ішла замена. Прывід сустрэчы знік. Я зноў апынуўся ў шэрай, няўтульнай камеры. Вартавы зазірнуў праз вочка ў дзвярах. «Ну, ты, цішэй», — нязлосна прамовіў ён, відаць, больш ад суму.

«Рэвалюцыянер, — я сцяў зубы. — Пра што ты марыш! Пяшчоты! Аднаму сабе хочаш здабыць волю?» І вось тады я ўпершыню задумаўся над тым, для чаго чалавек жыве на свеце. Толькі таму, каб здабыць сабе маленькае шчасце? І што такое шчасце? Не так даўно мне здавалася шчасцем катарга. Потым за найвялікшае шчасце для сябе я палічыў уцёкі з турмы. А цяпер я бачыў ужо, што маё шчасце не ў тым, каб апынуцца на волі, не ў тым, каб мяне пакінулі ў спакоі, нават не ў тым, каб займець кавалак зямлі і бестурботна дажыць век, а ў тым, каб усё жыццё змагацца за лепшую будучыню народа.

Я адразу акрыяў. Так, трэба змагацца і перамагчы. Я павінен уцячы, чаго б гэта ні каштавала. Узлезшы на ложак, я пачаў тузаць краты. Яны не паддаваліся. Успомніўся расказ Рыбакова пра нейкага катаржаніна, які заўсёды насіў з сабой пілу, схаваную ў манеце. Мець бы мне такую пілу!..

Назаўтра, як заўсёды, наглядчык зайшоў у камеру. Але цяпер ён не спыніўся на парозе, каб засланіць ад мяне акно. Дзверы засталіся адчыненыя, і я мог глядзець на ліпу пад акном колькі захачу.

— Збірай рэчы,— загадаў мне наглядчык.

— Навошта? — не стрымаўся я, хоць добра ведаў, што пра гэта ў турэмшчыкаў не пытаюць.

— Пабачыш...

Наглядчык выйшаў у калідор. Я ўзяў драўляную міску і лыжку і таксама выйшаў з камеры. Вартавы стаяў непадалёк, трымаючы стрэльбу руляй уніз.

— Пайшлі...

Па сходках мы спусціліся на першы паверх, потым пачалі падымацца ўгору па вузкай пакручастай лесвіцы. Узабраліся на маленькую пляцоўку. Наглядчык адчыніў дзверы.

— Вось тваё новае жыллё. Тут не пабаламуціш.

Дзверы заскрыгаталі. Я апынуўся ў цеснай каморцы з круглымі сценамі.

— Эй, — гукнуў я наглядчыка. — Якая гэта камера?



— Трынаццатая, — адказаў ён з-за дзвярэй.

«Яна. Але як адсюль уцячы? Я адразу здагадаўся, што камера знаходзіцца ў вежы. Сюды запіралі самых злосных злачынцаў. І пакуль што адсюль, здаецца, ніхто яшчэ нават не спрабаваў уцячы.

Камера была падобна на вялізную бочку з двума адтулінамі. Адна з іх — дзверы, цяжкія, акаваныя жалезам. Другая — акно, круглае, закратаванае і такое бруднае, што праз яго ледзьве прабівалася сонечнае святло. Пад акном — цяжкая табурэтка. Ля яе — ахапак рудой саломы.

Мяне ахапіла роспач. Дурань, каму паверыў? Буржую? Ён, напэўна, смяецца цяпер з маёй наіўнасці. Лоўка паздзекаваўся з мяне!

Я доўга хадзіў, пакуль не закружылася галава. Потым лёг і неяк адразу заснуў. Прачнуўся ад бразгату. Нехта адчыняў дзверы. У камеру заглянуў наглядчык, паклаў на табурэтку скрутак.

— Гэта табе, дазволілі... Я не дазволіў бы.

Ён пайшоў, моцна грукнуўшы дзвярыма.

Які яшчэ здзек прыдумалі мае каты? Калі кончацца гэтыя пакуты?

Я доўга ляжаў. Не было сіл падняцца. Хацелася піць. Вусны былі сухія, як лісце бяссмертніка. Нарэшце, я не вытрымаў, разгарнуў анучку. Рука намацала бохан хлеба, кавалак сала і некалькі цыбулін. Скіўіцы звяла сутарга. Страшэнна хацелася есці. Я разламаў бохан напалам, потым яшчэ напалам... Раптам мяне ашаломіла думка: хто мог паслаць мне гэтую перадачу? Цыля? Сябры? Калі яны, тады ці не ў гэтай пасылцы маё збавенне? Голад адразу прапаў. Я стаў на калені ля табурэткі, пачаў уважліва прыглядацца да прысмакаў. Куды схаваны ліст? Я не сумняваўся, што ён абавязкова ёсць. Вядома, яго запяклі ў бохан. Я разламаў хлеб на дробныя кавалкі, але ніякай запіскі там не было. Як апантаны, я агледзеў кожную цыбуліну. Дзе ж ліст? Хіба ў сале? Недарэчна. Тады дзе ён? А можа я проста трачу розум? Можа ўсё гэта адзін кашмарны сон.

Нейкі час я ляжаў на саломе ў забыцці. Было ціха, як у магіле. Праз акенца ў камеру нясмела заглядаў чырвоны сонечны прамень, хутка настане ноч. Так пройдзе і нядзеля, на якую я ўскладаў столькі надзей.

Голад прымусіў падняцца. Я падбіраў кавалачкі хлеба, прагна еў. Мой позірк скіраваўся на анучку. Яна была ў зашыўках. Я пачаў аддзіраць іх, і раптам на вочы мне трапіў маленькі папяровы шарык, як гарошына.

Асцярожна разгарнуў яго, разгладзіў на далоні, чытаў і не верыў. Гэта было падобна на цуд. Дык вось чаму мяне перавялі ў гэтую вежу!

Я не знаходзіў месца. Але маленькая камера ўжо не здавалася такой цеснай. Хутчэй бы субота — маё збавенне ад турмы, суду, вісельні. Я падбег да дзвярэй, паспрабаваў адчыніць іх. Замкнуты. А можа дарэмна ўзрадаваўся. Не, не дарэмна. Цяпер я веры ў хуткае вызваленне.

І вось прыйшла субота. Сёння за наглядчыка стары, пануры чалавек з сівой барадой. Пад вечар ён адчыніў дзверы, патупаў на месцы і зноў зачыніў іх. Мне здалося, што ён кіўнуў галавой: усё, маўляў, ідзе як трэба.

Дзень цягнуўся марудна. Я чуў, як званілі вячэрню ў Петрапаўлаўскай царкве. Як на пажарнай вежы дванаццаць разоў ударыў гадзіннік. Пара!

Я зняў боты, асцярожна падышоў да дзвярэй, злёгку націснуў плячом. Яны паддаліся, прыадчыніліся. Я праціснуўся на пляцоўку, зачыніў дзверы.

Цяпер трэба спусціцца ў самы ніз. Там вартавы. Ён робіць шэсць крокаў да павароту ў галоўны калідор і зноў вяртаецца назад. У гэты

час я павінен прашмыгнуць ля яго, схавацца за ганкам турэмнай царквы. Калі ён зноў павернецца да мяне спіной, я схаваюся ў царкве.

Толькі б не зарыпелі прыступкі. Я абліваюся потам. Кожны неасцярожны крок можа загубіць усё. Я асцярожна стаўлю нагу на ніжнюю прыступку і чакаю: вось-вось здрадлівая прыступка выдасць мяне. Нарэшце нага намацвае цэглу. Цяпер можна смялей. Я прыгінаюся, ледзьве не кладуся на жывот. Услухоўваюся ў цішыню. Вартавога не чуваць. Дзе ён? Мо' падпільноўвае? А што, калі ён спіць? Здараецца ж і такое. Цёмна. Ціха. Яшчэ некалькі крокаў. Сэрца замёрла. Дыхаць ужо няма чым.

Вартавы стаіць, прыхіліўшыся да сцяны. Я бачу яго постаць. Чаму ён не ходзіць? Чаму стаіць? Я прытуліўся да халоднай сцяны, затаіў дыханне. Вартавы паварушыўся.

— Э-э-гэй, — нягучна крычыць ён.

— Э-э-г-эй! — адказваюць яму аднекуль з даху.

Я спалохана прыціскаюся да сцяны. Няўжо заўважылі мяне? Вартавы робіць некалькі крокаў, спыняецца, потым вытыркае галаву на вуліцу.

— Ціха, — кажа камусьці ён.

Яму ніхто не адгукаецца. І тады я пачынаю разумець, што вартавы баіцца. Яму страшна. Таму ён не ходзіць, як усе, а стаіць на месцы.

Няхай бы ён лепш не баяўся. Тады б усё ішло, як па пісанаму. Вартавы бурчыць штосьці пад нос, відаць, падбадзёрвае сябе. Я чакаю.

Нарэшце ён пачынае хадзіць. Ідзе ён памалу, з асцярогай. Зробіць крокі два, потым спыніцца. Мабыць, прыслухоўваецца.

Вось ён павярнуўся да мяне спіной. Я зрываюся з месца, бягу проста да царквы. Дзверы лёгка адчыняюцца, але з такім візгам, што я ледзь не трачу развагу. Я зачыняю іх, закладаю знутры на завалу. Пераводжу дыханне. Потым асцярожна іду ў рызніцу. Ціха. Праз акно ледзьледзь прасвечвае неба. Падсоўваю аналой, узлажу на яго. Тонкія краткі лёгка паддаюцца маім рукам. Нарэшце можна паспрабаваць прасунуць галаву. Я асцярожна высоўваюся. Побач турэмная сцяна. Яшчэ крыху рассунуць жалезныя пруты. Я з усяе сілы налягаю на іх. Потым пачынаю выбірацца. Рукі паспешліва хапаюцца за калючы дрот. Балюча. Але я не звяртаю на гэта ўвагі. Падцягваюся. Выпростваю адну нагу, знаходжу апору. І вось я на сцяне. Пераступаю цераз дрот, кідаюся ўніз.

Ногі намацваюць зямлю. Воля!

Я бягу праз пустэчу. Напярэймы мне кідаецца цень, хапае за руку.

— Сюды...

Мы бяжым. Я задыхаюся.

— Адпачніце крыху.

Я пазнаю Наташу.

— Гэта вы?..

— Я.

— Дзе Цыля? — пытаюся я.

Наташа маўчыць. Мне здаецца, здарылася штосьці жудаснае.

— Пайшлі хутчэй, — кажа Наташа.

Мы бяжым агародамі. Пераходзім чыгунку. За ёй, непадалёк ад касцёла, заходзім у маленькую хатку.

— З вызваленнем, — кажа Наташа.

— Дзе Цыля? Што з ёю? — зноў пытаюся я.

— Цыля?.. Яна на вёсцы... Толькі, ведаеце, Грыша, яе трэба хутчэй забраць адтуль. Вось вам пашпарт на імя Агнёва. З ім вы дабярацеся да Рыгі. Там вас сустрэнуць. Уладзіцеся, забярыце Цылю. Мы перададзім ёй...



Наташа спяшаецца. Я не затрымліваю яе. Каб можна было, Наташа так хутка не пакінула б мяне.

Гаспадыня вядзе мяне ў хлеў. Там за стажком сена зроблены катух — цесна і цёмна. Я застаюся адзін са сваімі думкамі. Чаму Наташа наказвала хутчэй забраць Цылю? Хто яе можа пакрыўдзіць? І чым больш я думаў, тым мацней хацелася мне пабачыць жонку і сына. Нарэшце я не сцярпеў. Вылез са свайго сховішча, папярэдне напісаўшы запіску, што вярнуся праз два дні, і падаўся да роднай вёскі.

Было цёмна і душна. Я задыхаўся і ўсё ж бег і бег, абмінаючы вёскі. Вось ужо і мая родная хата. Я спыніўся, прыслухоўваючыся да цішы. Нідзе ні гуку. Людзі спяць па сваіх закутках.

Я асцярожна стукаю ў шыбіну. Сэрца моцна калоціцца ў грудзях. Зараз я пачую Цылін голас. Яна першая здагадаецца, хто можа так асцярожна барабаніць па шыбіне.

Хтосьці, толькі не Цыля, падыходзіць да акна, прыкладаецца тварам да шкла. То Сцяпан, мой швагер.

— Каго трэба? — пытаецца ён.

— Пусці ў хату, — прашуся я.

Сцяпан выходзіць на ганак, прыглядаецца да мяне і раптам паспешліва адступае ў сенцы. Я чую, як ляскаюць яго зубы.

— Хто там? — далятае з хаты жаночы голас. Гэта пытаецца Ганначка, але мне здаецца, быццам гэта не сястра, а маці.

Сцяпан не адказвае. Зачыняе дзверы, пачынае корпацца ў прыпечку.

— Дзе Цыля? — пытаюся я, і адчуваю, як дрыжыць мой голас.

Сцяпан, згорбіўшыся ля прыпечка, раздзімае агонь. Ганначка злазіць з печы.

— Здароў, братка, — кажа яна.

— Дзе Цыля?

— Не ведаем нават. Сышла. Вядома, не нашай крыві чалавек. Не ўпадабала нас. Сышла. А куды — не ведаем.

Ганначка гаворыць паспешліва. Так бывае, калі чалавек хоча апраўдацца.

— Звязаў ты, Рыгор, свой лёс не з той, — ужо больш спакойна і разважліва кажа Сцяпан.—Ці мала на вёсцы было дзевак? Жыў бы сабе ціха, араў зямлю. Нам многа не трэба. А то вось зацягнула *яна* цябе... А мы, слава богу, зажыліся крыху, не горш за людзей. За цябе богу молімся.

Я маўчу. Злосць душыць мяне. Хочацца крыкнуць: «А ваша шчасце на чыёй бядзе вырасла? На маёй? Дык жа кожнае вось такое шчасце вырастае толькі на чужой бядзе». Але мяне хвалюе другое: дзе мая жонка і сын?

— Ты назусім? — у Ганначкі насцярожаны голас.

— Я ўцёк, — адказваю я.

Яны змаўкаюць, але ў іх маўчанні я адчуваю радасць. Няўжо яны рады таму, што цяпер я не забяру сваю частку зямлі?

— Дык як жа ты будзеш жыць? — нясмела пытаецца Сцяпан.

— Пайду на завод...

— Яно, канешне, на паўнадзеле якое там жыццё. Ды яшчэ і Зміцерку хутка трэба будзе зямля.

— Мне зямля не трэба. Я тут жыць не збіраюся, — супакойваю я сястру.

— Дык чаго ж мы стаім. Частуй брата, — загадвае Сцяпан.

— Не, — кажу я, — мне трэба ісці. Хачу толькі Зміцерку пабачыць.



І. Стасевіч. Ангара, Ангара...



І Давідовіч. Вялікі пачын.



А. Дзітлаў. На плошчы імя Леніна.

Другая ўсесаюзная фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні».

У. Лупейка. Знатны муляр Салігорска Генадзь Качур.

Другая ўсесаюзная фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні».

без вушэй і з доўгімі, як у таракана, вусамі. Крыху вышэй чарцяня едзе на пачварнай жывёліне з чалавечай галавой. Галава лысая, як у жандара, што дапытваў мяне.

— Чаго маўчыш? Бач ты, ганарысты вельмі. Ды я цябе ў казіны рог скручу. Наглядчык для яго не чалавек, быдла. А вось я цябе...

Я пераводжу позірк на акно. Яно закратавана тоўстымі жалезнымі палкамі. Знадворку да акна прымацавана засланка. Яна закрывае ад мяне свет. Толькі ўверсе відаць вузкая стужка яркага блакітнага неба. Яно недасягальнае, далёкае і выдае несапраўдным.

— Макар, — крычыць наглядчык, — хадзі сюды, Макар!

Макар — турэмны кат. Здаровы, мурласты, з маленькімі, заплылымі вочкамі і нізкім ілбом. Гадоў пяць назад ён сам трапіў у турму. На волі ён закатаваў трох жонак. У яго нейкая ненажэрная прага да здзекаў, грубых, бесчалавечных. Убачыўшы ахвяру, ён доўга глядзіць на яе сваімі хціўымі вочкамі і скрыгоча зубамі. Потым нечакана і моцна б'е па твары, хапае за вушы, нос, ірве іх да крыві. Такіх катаў можа нараджаць толькі турма. Яго баяцца. Адно яго імя выклікае жах. Я таксама мімаволі ўздрыгваю.

— Навучы іх благароддзе рэвалюцыянера, — здзекліва кажа наглядчык. — Пляваць, кажа, мне на Макара.

Я чую, як сапе Макар, падыходзячы да мяне. Галава ўтульваецца ў плечы. Я нічога не магу зрабіць з сабой. Чакаю, калі Макар пачне біць. Але ён не спяшаецца. Гэта выводзіць мяне з здрантвення. Я паварочваюся і злосна гляджу на свайго ка́та. Потым паволі пачынаю ісці да яго. Мае рукі сціснуты ў кулакі, цела напружылася, а вочы палаюць гневам. Макар робіць крок назад. Але я не заўважаю гэтага. Мне здаецца, што я іду яму насустрач надта марудна.

— Ну-ну, — кажа Макар і засланяецца рукой.

— Вон! — крычу я. — Вон, кат, турэмны пацук!

Макар натыкаецца на наглядчыка, выштурхоўвае яго за дзверы. Зноў сонца залівае камеру. На падлозе выразна ляжаць дзве пачварныя цені. Дзверы гулка хлопаюць. Я застаюся адзін. Я ведаю, што даб-ром гэта не кончыцца. Але мяне ахоплівае радасць. Я — перамог. Я зноў у страі. Мне хочацца замацаваць сваю перамогу. Бяру табурэтку і з усяе сілы б'ю ёю аб жалезныя дзверы. Табурэтка рассыпаецца. У маіх руках застаецца толькі ножка. Я пачынаю малаціць ёю. Чую, як недзе далёка таксама хтосьці калоціць у дзверы. Чую, як бягуць па калідоры наглядчыкі. Сэрца захліпваецца ад прагі да змагання. Як я змог дасюль цярпліва пераносіць здзекі наглядчыка. Змагацца трэба ўсюды. Змаганне — жыццё.



**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**

Гісторыка-рэвалюцыйная тэма ў творчасці мастака Ісака **Давідовіча** даўно ўжо займае значнае месца. Яшчэ на першай дэкаднай мастацкай выстаўцы ў Маскве экспанавалася яго карціна «Курлоўскі расстрэл», прысвечаная падзеям рэвалюцыі 1905 года на Беларусі. Вобраз стваральніка камуністычнай партыі і арганізатара першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, правадыра працоўных усяго свету Уладзіміра Ільіча Леніна натхніў мастака на стварэнне жывапіснага палатна «Вялікі пачын».



У камеру заходзіць жандар.

— Спыніць! — пагрозліва крычыць ён.

— Мы не спынім бунт, пакуль не дачакаемся чалавечых адносін, — адказваю я.

Аднекуль далятаюць гукі бадзёрай рэвалюцыйнай песні. Значыць, я тут не адзін. Нават, калі нас тут двое, мы пераможам.

— Я далажу пра вашы патрабаванні, — кажа жандар і паспешліва выходзіць.

Нехта выстуквае літары. Я стараюся здагадацца, што перадаюць мне. Але я нічога не разумею. У адным толькі я ўпэўнены: невядомы сябар падтрымлівае мяне, заклікае трымацца...

Праходзіць дзён пяць. Мяне выклікаюць у следчы пакой. За сталом нейкі пан.

— Я прыйшоў дзеля таго, каб паведаміць вам, што вашы родныя турбуюцца за ваш лёс. Яны нанялі мяне за адваката.

Чалавек у пенснэ разгарнуў зялёную папку, выцягнуў батыставую хустачку, правёў ёю па чорных да сінізны вусах. Я пазіраў на яго і губляўся ў здагадках. Хто з родных мог турбавацца пра мяне і нават наймаць адваката? На такую справу ў Цылі не хапіла б грошай. Каго ж мае на ўвазе адвакат?

— Як жа вы, малады чалавек, так неразважліва кінуліся на прадстаўніка ўлад яго царскай вялікасці? Няўжо вы думаеце, што такімі метадамі можна змяніць што-небудзь у жыцці? Відаць, гэта было зроблена ў хвіліну неразважлівай узбуджанасці?

Словы адваката напаміналі мне размову Рыбакова са мной пасля няўдалага замаху на губернатара. Няўжо адваката прыслаў Рыбакоў? Адвакат, між тым, прадаўжаў расказваць пра ход следства.

— ...Вас чакае пакаранне смерцю. На маю долю выпала цяжкая задача, дамагчыся змякчэння прыгавору.

У адваката густыя чорныя вейкі. Яны хаваюць ад мяне вочы. І я не магу здагадацца, хто сядзіць насупраць мяне: сябар ці вораг. Я адказваў коратка, неахвотна — баюся сказаць што-небудзь лішняе.

— Цяпер прашу распісацца вось тут, — ён неяк нязграбна падаў мне пяро.

Я адчуў у сваёй руцэ маленькі папяровы камячок. Не жадаючы таго, глянуў на адваката. Той, прытрымліваючы пальцамі ліст, пазіраў некуды ўбок.

— Вось і ўсё, — сказаў ён, калі я паставіў свой подпіс.

— Ці не можна было б мне сустрэцца з жонкай?

— На жаль... — ён падняў вочы і ўпершыню за гэтых некалькі хвілін я ўбачыў: яны былі сінія-сінія, — на жаль, не магу дапамагчы.

Ён развітаўся суха, ледзь схіліў галаву і выйшаў. А мяне па калідорах і сходках зноў павялі ў адзіночку. Папяровы камячок размяк у маёй руцэ. Здавалася, яшчэ крыху — і ён распаўзецца, расплывецца ў поце.

Дробныя літары цьмяна выступалі на тонкай празрыстай паперы. Я хваляваўся. Мабыць таму да мяне з цяжкасцю даходзіў сэнс напісанага. Я прайшоўся па камеры, знарок грукаючы нагамі. Вартавы зазірнуў у камеру, рагатнуў: «Гэй ты, конь ламавы» і адышоўся. Я стаў спіной да дзвярэй і цяпер ужо больш уважліва прачытаў паперку...

«Сябры рыхтуюць уцёкі. Будзе падкуплены наглядчык. Уцякайце ў нядзелю ўначы з трынаццатай камеры».

Уцёкі! Яшчэ раз зазірнуўшы на паперку, паклаў яе ў рот, праглынуў.

Ад шчасця можна звар'яцець. Я доўга бегаў па камеры. Думак не было. Адно слова — воля — не выходзіла з галавы. І раптам я спыніўся,

— А ён у свірне спіць. Ідзі, Сцяпан, разбудзі яго.

Зміцерка вырас. Ладны такі хлопец. Ён бянтэжыцца. Хоча заглянуць мне ў вочы, але навокал цемра.

— Куды ж яна пайшла? — больш у сябе, чым у сястры, пытаюся я.

— Нічагусенькі не сказала, — адказвае Ганна. — А хіба ж мы ёй не дагаджалі. Страху набраліся. Што, калі і яе і нас забяруць ды ў Сібір пагоняць.

Мне няма чаго тут рабіць. Але я стаю. Потым разам са Зміцеркам іду начаваць у свіран.

— Нахлусілі яны табе, — сумна кажа Зміцерка. — Прагнасць іх заела, вось што. Гатовы свайго ў лыжцы вады ўтапіць. За зямлю горла перагрызуць. Я таксама пайду. Абрыдла іхняя сквапнасць. Пра Цылю яны табе што сказалі? Не вер ім. Грызлі яе, як галодныя сабакі. Кавалкам хлеба папікалі. Сцяпан усё. Ён і мужыкоў падбухторваў. Навыдумляў, што яна вядзьмарка, чорныя кніжкі чытае. А яна добрыя кніжкі чытала. Мне расказвала. Супраць паноў тыя кніжкі былі. Я іх прыхаваў. Навучуся чытаць, усё напамяць вывучу. А мужыкі нашы сам ведаеш якія. Цёмныя. Пагражалі, што заб'юць. Вось і пайшла яна. Толькі не ў наш горад. Забыўся, у які. І Андрэйку забрала.

І, напэўна, тады ўпершыню зразумеў я, як шмат давядзецца ваяваць нам, каб кожны чалавек пазбавіўся тых хібаў, якімі так шчодра надзяліў яго варожы свет.

## Раздзел дванаццаты

Свет да таго маленькі і цесны, змешчаны ў сцены старога пахілага млына, раптам расчыніў перад Нічыпарам свае дзверы. І тады Нічыпар Метлюжок убачыў, што пакуль жыў вельмі кепска.

Як быццам нічога і не змянілася. Як і раней, ён увішна тупаў па млыне, малоў зерне, спрачаўся з настырнымі шаферамі, выпісваў квіткі, але цяпер усё гэта мела ўжо іншы, не зусім яшчэ зразумелы для Нічыпара сэнс. Свае клопаты адсунуліся ў бок. Нічыпар нечакана для сябе заўважыў, што яны дробныя і нікчэмныя. Такім жа нікчэмным выдавала і ўсё яго мінулае жыццё. Было крыўдна і сорамна, што так лёгка і недарэчна змардаваў яго. Для чаго ашукваў сябе і людзей? Што прынесла яму бестурботнае жыццё? Старасць, ва ўсякім разе, яно не ўпрыгожыла. Наадварот, выклікала расчараванне. Няхай бы раней сустрэўся яму Агнёў, няхай бы раней узрушыў яго спакой. Тады не трэба, было б саромецца дачкі. А здавалася ж, што жыве ён правільна, хітрэй за астатніх. Хітраваў, а каго ж абдурыў? Вось і вылазіць тая хітрасць бокам. Такія, як Агнёў, добра разумеюць, навошта яны жывуць на свеце. А для чаго жыве ён?

Нічыпар пакутліва задумаўся. Для чаго? І наогул, навошта чалавек жыве на свеце? Дасюль такія думкі не паяўляліся, і вось на табе: запаланілі, не даюць адхланення. Агнёў, той, напэўна, здолеў бы ўсё раскласці па паліцах. А вось ён не ўмее. У маленькім млыне ён не дрэнны гаспадар. А выбраўся за яго сцены і не ўмее ступіць кроку. Нават баязна пайсці да дачкі.

Успамін пра Ларысу скіраваў думкі на іншы лад. Ёй, відаць, не вельмі лёгка адной з двума хлапчукамі. Можа не хапае чаго? Чаму б яму хоць цяпер не дапамагчы ёй? Грошы ў яго былі. На чорны дзень. Ляжалі яны ў акаванай скрынцы, захутаныя ў анучку.



Нічыпар адамкнуў скрыню, дастаў скрутак, асцярожна разгарнуў анучку. Грошы пахлі нафталінам і цвіллю. Паперкі зляжаліся, прысыпалі адна да другой. Нічыпар паклаў пачак на стол, акуратна расправіў кожную паперку. Грошы ўсё роўна скручваліся, як бяроста. Колькі іх тут? Нічыпар нават дакладна не ведаў. Часам браў, часам дакладаў.

Ён аддзяліў пяць паперак, паклаў іх у кішэню. Калі ўжо ісці да дачкі, дык не з пустымі рукамі. Няхай ведае, што бацька не нейкі латруга, а сумленны і чулы чалавек. Толькі які падарунак лепей купіць? Дачцы ці ўнукам. Вядома, унукам. Во ўзрадуюцца!

Нічыпар успомніў, што на ўнуках былі старэнькія штонікі. Добра было б купіць гарнітурчыкі. Такія, як на хлопчыку, якога ён бачыў аднойчы на вуліцы: флоцкі кіцель, шырокія штаны і бесказырка з істужкамі. І Ларысе трэба нешта купіць. Хіба яму шкада грошай? Ды і навошта яны, калі заробку хапае, ды і на цвёрдую пенсію можна спадзявацца.

Падумаўшы, Нічыпар адлічыў яшчэ пяць паперак. Уласная шчодрасць узрушыла яго. Уявілася, як унукі залезуць да яго на калені, будуць абдымаць за шыю, казытаць бараду. І так лёгка, цёпла зрабілася ў грудзях, так захацелася дзіцячай ласкі. Здавалася, ён і жыў толькі дзеля гэтай сустрэчы з унукамі. Толькі для іх ён і ашчаджаў грошы. Цяпер ён добра разумеў Агнёва: радасць чалавека ў тым, каб зрабіць радасць для другога, блізкага і роднага.

Нічыпар пачаў загортваць астатнія грошы ў анучку. Пэўна ад таго, што яго рукі прыкметна дрыжэлі, хрусткія паперкі вылузваліся. Адна з іх, заляпаная чорнай фарбай, прыцягнула ўвагу Нічыпара. Яна нагадала адзін даўні выпадак. Неяк да яго завітаў дырэктар нарыхтоўчай канторы. Гэта быў нізенькі, пузаты чалавек, з вялікімі вачыма і доўгім носам. Адвёўшы Нічыпара ў закутак, ён прапанаваў «вернае дзельца». Справа і сапраўды была простая. Такія не раз даводзілася рабіць Нічыпару. Трэ' было толькі не ўзважваць зерне, якое паступала з базы. Нічыпар тады адразу здагадаўся, што з базы будуць прывозіць зерня многа болей, чым напісана ў квітках. Рэшткі пойдуць на чорны рынак. Непакоіла толькі тое, каб часам які рэвізор не выявіў лішкі на млыне. Але дырэктар супакоіў, што «верныя» людзі забяруць «рэшткі» своечасова. Пасля таго, як было распіта паўлітра маскоўскай, дырэктар і падаў яму задатак: сто рублёў, заляпаных чорнай фарбай. Потым Нічыпар атрымаў яшчэ. І ніхто ніколі не даведаўся пра тое «вернае дзельца».

Цяпер успамін збянтэжыў Нічыпара. Кожная сторублёўка напамінала вось пра такія махлярствы. Прыпіскі, знішчаныя квітанцыі, праданыя мяхі мукі, барышы, пустыя пляшкі ад гарэлкі ўзнікалі перад вачыма. За кожнай сотняй рублёў таілася несумленнасць. Яму зрабілася страшна. Раптам хто пабачыць гэтулькі грошай і запытае: адкуль яны ў яго?

Нічыпар хуценька згарнуў абы-як грошы, схаваў у скрыню, сеў на вечка. На твары выступіў пот. Як ён адважыцца пайсці купляць такія дарагія гарнітуры ўнукам. А калі хто заўважыць? Пойдзе гаворка. Чаго добрага, так і дакапацца могуць да яго другога жыцця, схаванага ад сумленных людзей. Грошы апякалі. Грошы выкрывалі яго. Ад іх не было дзе схавацца.

Нічыпар дастаў адкладзеную на падарункі тысячу, схаваў яе ў скрыню. Тады зрабілася горка, што радасць, якая так узрушыла, знікла. І зноў яго абкружаў цесны свет млына.

Грошы паўсталі на шляху да дачкі. Без іх Нічыпару здавалася не можна ісці да Ларысы. З пустымі рукамі пасля доўгіх гадоў вымуша-

най разлукі? Нізавошта. Ён пачаў супакойваць сябе. Якая каму справа, адкуль у яго паявіліся грошы? Хіба ён не працаваў? Проста спалохаўся, нагнаў на сябе страху. Пачаў старэць. Раней над такімі дробязямі не задумваўся. А Ларыса была б рада. Гэта ж для яе і рабіў такое... Ну, няхай не для яе. Цяпер грошы належаць ёй. І ўнукам. Іх трэба паставіць на ногі, вывучыць. Без бацькі зрабіць такое нялёгка.

А ці возьме Ларыса грошы? Калі даведаецца, як яны здабываліся,— не возьме. Адкуль узялася ў яго такая ўпэўненасць, Нічыпар не ведаў, але верыў, што дачка не возьме грошы. І навошта ён дачцы, вось такі брудны і несумленны?

Ён дастаў з паліцы пляшку, наліў у шклянку гарэлкі і адным дыхам выпіў. Закусіў. Потым наліў яшчэ. Пасля другой шклянкі ў галаве загуло, а перад вачыма паплылі дробныя іскры. Нічыпар сеў на табурэтку, апусціў галаву. Было ціха, так ціха, бы залез у труну. Ён варухнуў плячыма, быццам хацеў скінуць з сябе вечка гэтай труны. Вочы абыякава глядзелі на скрыню з вялікім замком. У скрыні грошы. А ён бедны, жабрак, бо не можа імі распарадзіцца.

Калі-небудзь падкрадзецца смерць, і ніхто не ўбачыць, як ён памрэ. Ніхто нават не ўспомніць, што жыў калісьці на свеце Нічыпар Метлюжок. Жыў. А ці жыў ён? Хіба гэта жыццё? Пакуты... Ён выцягнуў грошы і, седзячы на рагу скрыні, перабіраў сторублёўкі, пазіраючы на іх мутнымі вачыма. «Дастануцца яны чорту лысаму, які абзаве цябе дурнем». Загарэлася было жаданне парваць іх, але не хапіла сілы. Усё ж грошы. І ён зноў замкнуў іх.

Прачнуўся рана. Ніяк не мог успомніць, з якой прычыны ўчора напіўся. Здаецца, некуды збіраўся ісці?.. Ага, да Ларысы. І тады прыгадалася ўсё да драбніц. Зноў пачуццё адзіноты ахапіла яго. Не было як выбавіцца з яе ўчэпістых лап. Ён выбег на двор. Сонца асляпіла яго. Калі расплюшчыў вочы, дык убачыў, што па вуліцы ідуць людзі, вясёлыя, радасныя.

Ён, не спяшаючыся, зайшоў у пакой, адамкнуў замок на скрыні, дастаў скрутак з грашыма і гэтак жа паволі, але з незвычайнай рашучасцю пайшоў у кантору ўпраўлення.

Там яшчэ нікога не было. Старая прыбіральшчыца падмятала падлогу, узнімаючы пыл.

— Чаго прываліокся так рана? — няветліва запыталася яна.

— Ты як мяцеш? Цяжка табе вадой падлогу папырскаць? Тут жа людзі працаваць будуць.

Прыбіральшчыца нешта буркнула ў адказ, але паслухалася. Яна нават больш старанна пачала працаваць венікам. Нічыпар сеў у калідоры на канапе, схаваў за спіну скрутак.

— Мабыць, прачуў, што млын твой апошнія дні дажывае, вось і прыляцеў ні свет ні зара? — прыбіральшчыца спынілася перад ім з венікам.

Нічыпар сумеўся. Чаму млын дажывае апошнія дні? Ці не здалося яму?

— Як гэта дажывае?

— Учора засядалі ў начальніка. Электрастанцыю на месцы млына будаваць будуць. Так што канец яму. А цябе на пенсію. Хопіць ужо, напрацаваўся.

Навіна спалохала Нічыпара. Як жа ён далей будзе жыць? За паўсотню гадоў прывык да млына, лічыў яго роднай хатай і на табе — млын разбураць! Не трэба ўжо будзе падмятаць падлогу, ладзіць жорны, спрачацца з шафёрамі, дыхаць саладкаватым мучным паветрам. Застанецца адно — лавіць рыбу ля плаціны. Даўней Нічыпар марыў



пра такі адпачынак. Думаў, атрымае некалі пенсію і будзе жыць, як пан. На пенсію ён мог пайсці даўно, але хацелася яшчэ больш сабраць грошай, каб да самай смерці не ведаць нястачы. Таму і працаваў. А выходзіць, што ён проста не можа сядзець без работы. Не можа, а яго прымушаюць, гвалтоўна, нават не параіўшыся з ім, не запытаўшы ў яго, хоча ён ці не хоча кідаць работу.

Можа збрахала языкатая жанчына. Толькі паслухай, дык чортведама якія плёткі пачуеш.

— Як жа так нечакана? — запытаўся ён хутчэй у сябе, чым у прыбіральшчыцы.— Дзе ж людзі зерне малоць будуць?

— Дык жа за восень мяркуюць збудаваць новы млын...

У Нічыпара адлягло на сэрцы. Калі млын застанецца, дык ніхто яго не адправіць на пенсію. Потым падумалася, што ён наўрад ці здолее працаваць на такім млыне. Адно вадзяны, дзе ўсё знаёма, іншая справа — электрычны. Ліха яго ведае, як там пойдзе работа.

Рука намацала скрутак, пальцы да болю сціснулі грошы. А што, калі ён, Нічыпар, проста здурэў? Аддаць столькі грошай, калі, можа, заўтра давядзецца кінуць працу. Колькі там яшчэ дадуць пенсіі? Хіба ён адзін, хто вось так набывае багацце? Дырэктар нарыхтоўчай канторы, пэўна, не аддасць свае зберажэнні? А ён вунь як шыкоўна жыве. Пабудаваў дачу, купіў «Пабеду», і цяпер яму мала абыходзіць, што прагналі з работы.

Успомнілася, як устрывожыўся Агнёў, калі касір перадала яму лішак грошай. Стала сорамна. Хіба ў мельніка менш сумлення, як у пенсіянера Агнёва? Не, ён, Нічыпар, таксама хоча быць сумленным і шчырым, хоча смела глядзець у вочы такім жа сумленным людзям.

— Добры дзень, Нічыпар Аўсеевіч, — Нічыпар уздрыгнуў, быццам спалохаўся, што нехта падслухаў яго думкі. — А я толькі хацеў пасылаць за вамі. Добра, што самі прыйшлі.

Гэта быў начальнік, малады, разважлівы чалавек. Нічыпар яго паважаў і крыху пабойваўся. Часам яму здавалася, што начальнік здагадваецца пра яго махінацыі, але чамусьці маўчыць. Адамкнуўшы дзверы кабінета, начальнік прапусціў наперад Нічыпара, здзіўлена зірнуў на скрутак і паспешліва адвёў вочы.

— Сядайце, Нічыпар Аўсеевіч, пагутарым.

Нічыпар цяжка апусціўся на мяккае крэсла, паклаў грошы на калені. Не ведаў, як распачаць гаворку пра свае клопаты.

— Вынеслі мы ўчора рашэнне зламаць стары млын. Вы, мабыць, яшчэ і не чулі пра гэта?

— Давялося ўжо, Васіль Васільевіч, — адказаў Нічыпар.

— Прынята, нарэшце, рашэнне будаваць на Выпі электрастанцыю. З вясны пачнуць закладваць плаціну. Вось так, Нічыпар Аўсеевіч. Апошнія дні дажывае млын. Шкада, напэўна. Вы ж на ім паўстагоддзя адпрацавалі. Толькі мы лепшы пабудуем, электрычны млын, камбінат. Грошы ўжо адпушчаны, каштарыс зацверджаны...

— А што ж я рабіць буду?..

Васіль Васільевіч сеў у крэсла насупраць.

— Вы даволі папрацавалі за сваё жыццё. Можна і адпачыць. Пенсія будзе добрая. І кватэру дадзім. Але ёсць у нас да вас вялікая просьба. Вядома, калі згодзіцеся. Прымушаць мы вас не маем права. Такіх спецыялістаў, як вы, у нашым горадзе не багата, скажам прама — адзін вы. Хацелася б, каб вы дапамаглі нам будаваць новы млын. Вашы парады вельмі памогуць нам.

Каб не выдаць сваёй радасці, Нічыпар запытаўся:

— Што я буду рабіць?

— Думаем паставіць вас прарабам. Чалавек вы сталы, сумленны, а нам такія вельмі патрэбны...

Нічыпару здалося, што Васіль Васільевіч жартуе: «Не такі ўжо Метлюжок і сумленны. Ён толькі хоча быць чалавекам».

Але Васіль Васільевіч, як відаць, не жартаваў.

— Давайце згоду, Нічыпар Аўсеевіч. Я, шчыра прызнацца, і загад на вас падрыхтаваў.

Нічыпар памацаў скрутак, патрымаў яго ў руках, але аддаць не адважыўся. Трэба ж было Васілю Васільевічу іменна цяпер распачаць гэтую гаворку. Ну, як яму скажаш пра свае «грахі»? Няёмка. Нібы пакрыўдзіш чалавека. Няхай бы яны згарэлі, гэтыя грошы...

— Яно, вядома, шчыра вам дзякую, толькі...

Васіль Васільевіч перапыніў яго:

— Ніякіх толькі, Нічыпар Аўсеевіч. Справіцеся, ды і мы не за гарамі. Звяртайцеся, дапаможам.

«Які ты даверлівы чалавек, — падумаў Нічыпар. — Дык як жа я магу ашукаць цябе? Ашукваў, але больш не змагу. А наконт грошай з Рыгорам параюся, як ён скажа, так і будзе».

— Добра, згодзен, — сказаў Нічыпар. — Можаце спадзявацца, больш вам сорамна за мяне не будзе.

Васіль Васільевіч здзівіўся, шырока развёў рукі:

— Што вы, таварыш Метлюжок...

Нічыпар хуценька развітаўся. «Спачатку да Ларысы зайду, пасля ўжо да Агнёва», — вырашыў ён і бадзёра пакрочыў на трамвайны прыпынак.

* * *

Дывінец абтачыў апошнюю дэталь, зірнуў на гадзіннік. Да канца змены заставалася пятнаццаць хвілін. Як хутка праляцеў час! Здаецца, толькі адчуў смак, а ўжо трэба ісці дамоў.

Хлопцы яшчэ працавалі. Станкі гулі бадзёра, лёгка. Падсобніцы завіхаліся ля цялежак, спяшаліся адправіць дэталі ў другі цэх.

Высокая, чарнявая жанчына падкаціла цялежку да стала, пачала згружаць дэталі. Дывінец узяўся памагаць ёй.

— Забегаліся мы, — усміхнулася падсобніца. — Як ачмурэлі вы сёння. Нібы навыперадкі бежыцё. Рублёў сто сёння выгнаў?

Анатоль выпрастаўся, стаяў з цяжкой жалезнай балванкай у руках. «Пра што яна гаворыць? — падумаў ён. — Ага, колькі я сёння выпрацаваў? Якое глупства. Нават не думаў. Проста, вельмі ўжо ў ахвоту працавалася».

— Не лічыў, — адрэзаў ён.

— А што там лічыць, усе твае будуць.

Яна пачала штурхаць перад сабой цялежку па бетаніраванай сцежцы. Анатоль пазіраў ёй услед. Грошы. Калі іх ужо не будзе. Ёсць жа аматары ўсё зводзіць да размовы, колькі выпрацаваў, атрымаў... Было так добра, і вось табе — сапсавалі настрой.

Раптам ён адчуў, што хтосьці стаіць непадалёк і пільна пазірае на яго. І адразу ж прамільгнула думка: «Гэта ж яна». Зрабілася горача. Баяўся азірнуцца. Стаяў, як прываraны да падлогі. Потым не вытрымаў, павярнуўся. Іх вочы сустрэліся і адразу ж спалохана апусціліся долу.

Ларыса падала руку. Ён, усё яшчэ саромечыся, паціснуў яе.

— Не крыўдуйце на мяне, Ларыса Нічыпараўна, — прашаптаў Анатоль. Адчуў, як перасмяглі вусны, а твар заліўся чырванню.





— А я шукала вас. Хацела сёння раніцай прыйсці, ды вось затрымалася.

Ён чакаў, што Ларыса пачне дакараць яго. Таму вельмі ўзрадаваўся яе словам. І ўпершыню адважыўся зірнуць ёй у твар. Яна пахарашэла. Загарэла. І здаецца, крыху патаўсцела. Але на твары не было той пяшчотнай, мілай усмешкі, якая так падабалася яму. Мабыць, яна злуецца, толькі не падае выгляду. Не, у яе вачах не відаць злосці. Яны такія ж ласкавыя, як і раней. І ўсё ж было чамусьці няёмка. Размова не ладзілася. Анатоль увесь час хацеў запытацца, як яна адпачывала, але стрымліваў сябе. Хіба гэта галоўнае...

Рабочы дзень канчаўся. Сціхаў грукат станкоў, усё выразней чулася людская гамонка, тупат ног, смех. Хлопцы на хаду скідалі камбінезоны і неяк адразу пертвараліся з нязграбных мурзаў у франтаватых маладых людзей.

— Пачакай мяне, Толя, пойдзем разам, — папрасіла Ларыса.

Ён згадзіўся, хоць, шчыра кажучы, баяўся надоўга заставацца з ёю на адзіноце. Ларыса пайшла ў канторку, а ён паволі патэпаў у душавую.

— Мабыць, спавядала швагерка? — запытаўся хтосьці з хлопцаў.

Ён прамаўчаў. Затое за Ларысу Нічыпараўну адразу ж заступіліся Рымчук і Віктар Гараеў.

— Яе да Лількі не раўняйце.

— Яна наша...

Анатолю было прыемна слухаць, як хлопцы з ухвалай гавораць пра Ларысу. «Яна наша», — паўтараў у думках ён.

— Заўтра мы гэтую Лілю наждачком прачысцім, — паабяцаў Лёшка Рымчук.

— Вельмі яна спалохалася. Гарбатага магіла выправіць.

— Як ні кажы, а паклёпы ўзводзіць больш не будзе.

Хлопцы заспрачаліся. Адны даводзілі, што Ліля не вельмі спалохаецца іх крытыкі, другія настойвалі на сваім, што пасля сходу яна перайначыцца. Сорамна ж будзе людзям у вочы глядзець.

Дывінец засабіраўся. Хлопцы прасілі пачакаць іх. Але ён, спаслаўшыся на нейкія неадкладныя справы, развітаўся і паспешліва выбег на вуліцу. Ларыса Нічыпараўна ўжо чакала яго. Нейкі час яны ішлі моўчкі. Потым Ларыса ўзяла яго за руку.

— Я хацела пасварыцца на цябе, але зразумела, што ты і сам усё зразумеў. Чаму ты мне ніколі не расказаў пра сваё жыццё? Хоць я і сама вінавата. Не дагледзела. Хутчэй, не разгледзела. Сястра яна ўсё ж мне. Ды і не яна вінавата, што такой вырасла... з радзімымі плямамі. Шкада мне яе. Шкада, Толя.

Дывінец маўчаў. Не хацелася крыўдзіць чалавека, якога паважаў, не, якога кахаў. Ларыса, відаць, зразумела, чаму ён маўчыць. Яна адразу ж загаварыла пра другое.

— Ты так і не запытаўся, чаму я не змагла прыйсці ўдзень... Я нават не веру, што гэта праўда. Жыла і ніколі не думала, што ў мяне ёсць бацька. Дзіўна, ці не так? Трыццаць гадоў не было, і раптам паявіўся. Я нават разгубілася. Што ты на гэта скажаш?..

Анатоль не ведаў, што сказаць. Вось каб цяпер паявіўся яго бацька, ён расказаў бы яму пра ўсё. І пра тое, як жыў у дзіцячым доме, як вучыўся, ламаў разцы і як няўдала ажаніўся, а потым разышоўся... Але яго бацька ніколі не прыйдзе. І маці таксама... Можа таму і нарабіў глупства, што не было каму параіць, нават палаяць? І ці будзе каму? Раптам ён успомніў Рыгора Яўхімавіча, сённяшнія провады, і яму зрабілася няёмка за свае думкі. Хіба ж ён не мой бацька. Ён жа ўсіх нас бацька...



Яны развіталіся каля Ларысінага дома. Яна запрашала яго зайсці, пагутарыць, але ён адмовіўся. Былое ўжо нельга было вярнуць.

Анатоль вырашыў прайсціся. Хацелася пабыць аднаму, паразважаць. Што, уласна кажучы, адбылося ў яго жыцці? Просты разлад з блізкім чалавекам ці нешта больш значнае? Чаму цяпер усё пачало выглядаць інакш? Дробнае, нязначнае набыло нейкі іншы сэнс. Быццам выйшаў з вялікага бою, намнога пасталеў і паразумнеў. І ці ёсць яно ў нашым жыцці дробнае, нязначнае, на што не варта звяртаць увагі? Здаецца, няма.

Яго ледзьве не падбіла машына. Яна крута развярнулася на вуліцы, заскочыла на тратуар, потым выраўнялася, прайшла крыху і спынілася ля пад'езда карычневага дома з мноствам балконаў. Шафёр выскачыў з машыны, памахаў яму рукой. Відаць, прасіў даравагь, што ледзьве не падбіў. З пад'езда паказаўся лысы чалавек з чамаданамі ў руках. Шафёр адчыніў багажнік, спрытна падхапіў у лысаватага чамаданы. Анатоль насцярожана спыніўся. Ён пазнаў лысаватага. Гэта быў Захар Браткоў, рэжысёр са студыі, пра якога часта гаварыла Адзелаіда Сяргееўна, калі хацела дапячы Анатолю. Неўзабаве ля машыны паявілася Ліля, у дарожным пыльніку. Анатоль схаваўся за вугал дома. Сустракацца з Ліляй яму не хацелася. Чамусьці зрабілася зябка. Быццам нешта халоднае і слізкае паўзло па спіне.

Ліля паддобрывалася да Браткова. Вось яна зняла парушынку з яго пляча, міла зазірнула ў вочы. Ён штосьці сказаў, нібы ў злосці, і яна прыгнулася, але прадаўжала ласкава ўсміхацца. Цяпер яна была вельмі падобна на сваю маці. Тая таксама, калі каго пабойвалася, гэтак жа лісліва ўсміхалася, прыгіналася і аддана заглядала ў вочы.

— На вакзал, — загадаў Браткоў і першы сеў побач з шафёрам.

Ліля занадта паспешліва, быццам баялася, што яе пакінуць, адчыніла дзверцы і неяк не села, а нырнула ў машыну.

«Вось і ўсё», — падумаў Анатоль. Было прыкра і балюча.

... У Рыгора Яўхімавіча сядзеў госць — Кветны. Сам Рыгор Яўхімавіч узрушана хадзіў па пакоі. Убачыўшы Анатоля, ён бадзёра выгукнуў:

— А вось і яшчэ адзін мой сын. Знаёмся, таварыш Кветны, з гэтым анархістам.

Кветны падаў руку.

— Я Дывінца даўно ведаю... Па партрэтах. Прачуў быў пра яго справы, ды і падумаў, не буду ўтойваць, відаць, рана мы яго пачалі хваліць. Аж не. Загартоўка ў яго не благая.

Анатоль бянтэжыўся, не ведаў, куды схаваць рукі.

— Загартоўку жыццё робіць. Нічога, што такое здарылася, мацней жыццё будзе любіць, — адказаў за яго Рыгор Яўхімавіч. — І мяне павіншаваць можаш. Унука знайшоў. Пачытай, што піша.

Агнёў падаў невялікі лісток паперы. Анатоль нясмела ўзяў яго. Дробным почыркам, наўскасяк крывулькамі пісаў Андрэй, унук Рыгора Яўхімавіча.

«Дарагі дзядуля! Жыццё за гэтыя гады так часта кідала мяне на ўхабы, што думаў, ці застануся ўжо жывы. А мне хацелася не толькі жыць, але быць чалавекам. І як ні стараліся ворагі, яны нічога не маглі зрабіць. Я застаўся такім, якім быў ты і мой бацька. Цяпер я далёка, і не так лёгка выбрацца адсюль. Я там, дзе ідзе вайна за вызваленне цэлага народа. Я рады, што пасля доўгіх прыгод і пакут ваюю за шчасце працоўнага люду. Вайна тут такая, як некалі была ў нас, на Беларусі, калі грамілі акупантаў. Але ваяваць тут цяжэй. Мы калісьці

ведалі, што нам прыйдзе на дапамогу армія. А тут людзі спадзяюцца толькі на сябе.

Я ніяк не мог вярнуцца раней. Я не мог напісаць табе. Спачатку мне было сорамна. Пасля трымалі ў турме. І я ледзьве выбавіўся адтуль. Тады мяне завезлі за мора ў глухмень. Наўкола пяскі, пустыня. Не было чаго і думаць збегчы адсюль. Я шукаў выйсця і знайшоў яго. Мяне пазнаёмілі з людзьмі, якія вялі барацьбу за сваё вызваленне. Не хістаючыся, я стаў на іх бок. Потым пачалася сапраўдная вайна. Я зусім аказаўся адрэзаны ад Радзімы. Аднаго разу нашы падпольшчыкі перадалі мне ліст чалавека, з якім мне даводзілася ваяваць на Радзіме. У ім быў твой адрас. Я баяўся, што гэта правакацыя. Але мяне запэўнілі, і вось я пішу табе. Не турбуйся, мой родны, старэнькі дзядуля. Мы яшчэ сустрэнемся».

Анатоль здзіўлена паглядзеў на Кветнага.

— Дык дзе ж ён?

— Там, дзе ідзе вайна. Прыедзе, пра ўсё даведаемся. Я ўжо хадзіў у міністэрства. Абяцалі пацікавіцца гэтай справай.

Рыгор Яўхімавіч аж ззяў ад шчасця. Ён хадзіў па пакоі, паціраючы рукі.

— Малайчына!.. Вось ён, наш пралетарскі гарт... Давайце, хлопчыкі, па кілішку віна. Двайная ў мяне радасць сёння.

Ён спрытна дастаў з шафы бутэльку віна, прынёс чаркі.

— А Лілька збегла, — чамусьці зусім недарэчы ўспомніў Анатоль.— Заўтра ж сход...

Агнёў разліў віно ў чаркі.

— Збегла, кажаш... Ад людской ганьбы не ўцячэш. Збегла, значыць, разумее, што вінавата. Толькі сумленныя людзі заўсёды разгадаюць такіх, як яна. Уцячы няма куды... Ну, хлопцы, давайце вып'ем за тых, хто ваюе са старым светам. За неспакойных...





**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**

## ГОРНЫ МАЛЮНАК



яршыні гор пад небасхіл ўзляцелі.
(Не закрані іх, сонца, крыху збоч.)
Заўжды тут ночы доўгія, як цені,
Ці можа цені доўгія, як ноч.

А як
Зайграюць промні, быццам струны,
На шумнацечнай плыні горных рэк,—
Вяршыні ў небе, нібы ў морах шхуны,
А вадаспад, як серабрысты штрэк.

Ты стань пад ім,
І ўбачыш ты дэталі
Вясёлкавай шматколернай ігры.
У святле дзівосным заіскрацца далі,
Нібы ў бурштынным полымі зары.

Садружнасць рэчаіснасці і казкі
Спавіта тут мелодыяй адной.
На горным лузе палымнеюць краскі,
Ні разу не кранутыя касой.

Зіхцяць на сонцы лысыя вяршыні,
А ўнізе кучаравяцца лясы.
Жывы пейзаж тут трапна завяршылі
Непалахлівых птушак галасы.

І ў апраўданне, што хто-небудзь скажа:
«Не ява гэта, а чароўны сон!..» —
Гучыць тут, як дадатак да пейзажа,
Гуцульскіх песень дзіўны перазвон.

**Сцяпан ЛІХАДЗІЕЎСКІ**

# КАШУ ТУГУ



Спакойна плошча спачывае,
І шум машын зусім пагас,
А я пісьмо твае чытаю
Каторы раз, каторы раз!

Я вызубрыў яго напамяць,
Бо з ім лажуся і ўстаю.
Кашу тугу — ляжыць снапамі,
Губляю розум, не ўтаю.

А, ты скупая, як бывала,
Ты бессардэчна, гэта так.
Вось ты ўзяла і напісала —
Так жабраку даюць пятак.

Тут ландышы ў спакоі госцяць,
А на душы маёй зіма.
Маўчыш, чакаеш ты чагосьці,
І весткі новае няма.

І справа тут не ў простай вестцы...
О, калі б ты — дзе слоў знайсці? —
Уцяміла, якое месца
Ты заняла ў маім жыцці!

Кастры надзей гараць тужліва,
Расце сумненне, як раней.
Калі б кахала ты, мажліва,
Ты так не мучыла б мяне.

* * *



Праводкаю з вакзала да вакзала
Нясла мяне трывожная пара.
І ты, мая маёвая зара,
Святлом кахання цемень пранізала.

Пайшоў я ў вершы — верная адзнака,
Што я жыву, што я яшчэ не здаў.
І навакол часовага гнязда
Я сузіраў паўднёвы росквіт макаў.

Куды ж інакай думкі панясу,
Як не табе, лятункаў гераіня!
Знайшлі мы зор чароўную красу,

Шатры садоў у сонечнай краіне,
Здаровай раніцы празрыстую расу
І шлях, які ў туманах не загіне.





## З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ

Задума карціны «Ангара, Ангара...» узнікла ў мяне даўно, яшчэ калі ў 1956 годзе студэнтам Маскоўскага мастацкага інстытута імя Сурыкава давялося пабываць на будоўлі Іркуцкай ГЭС. Мы, студэнты, былі вельмі ўражаны тым, што ўбачылі: велізарны, як зглядзець вокам, катлаван застаўлен вежавымі і партальнымі кранамі, выснаван эстакадамі, па якіх няспынным патокам плывуць магутныя машыны. Усё вакол у руху, у грукаце, і чалавека не чуваць, не відаць, але адчуваеш яго энтузіязм, скіраваны на здзяйсненне вялікага працоўнага подзвігу.

У тое лета пачыналася ўтаймаванне Ангары. Ніколі не знікне з маёй памяці той хвалюючы момант, калі мінскія МАЗы-волаты арганізаваным маршам рынуліся ў наступ на раз'юшаную раку. Больш за суткі цягнуўся гэты наступ, і людзі, што стаялі на беразе абапал ракі,— рабочыя, іх жонкі, дзеці, бацькі,— не ішлі дамоў, бо хваляваліся за поспех аперацыі, як і ўсе, хто яе ажыццяўляў. Не ішлі і тады, калі разгулялася навальніца з такім страшэнным ліўнем, што, здавалася, уся прырода заступалася за Ангару, абараняючы яе ад замаху чалавека. А ён, усемагутны, наперакор стыхіі, усё ж перамог прыроду.

Тады і былі зроблены першыя накіды, эцюды да гэтага палатна. Мінула гады тры, калі я вярнуўся да здзяйснення сваёй задумы. Узяўся за пэндзаль і адчуў, што чагосьці не хапае, каб стварыць абагульнены вобраз наступу савецкага чалавека на стыхійныя сілы прыроды. Мяне зноў пацягнула на ўсход, на гэты раз да вядомых Падунскіх парогаў на Ангары, дзе невычэрпнай крыніцай бушавала працоўнае жыццё савецкіх будаўнікоў.

Цяжка перадаць словамі тыя пачуцці, што ахапілі мяне, калі з вышыні ста з лішнім метраў глядзеў я на панараму гіганцкай будоўлі Брацкай ГЭС. Направа — уцёсы парогаў і схаваны ў дымцы горад будаўнікоў, за якім мора таёжнага лесу, якое павінна будзе ператварыцца пасля затаплення ў самае звычайнае мора-вадасховішча. Унізе бушуе амаль кіламетровай шырыні рака, бушуе апошнія дні.

Зноў, як і тры гады таму назад, я быў сведкам трыумфу працы. Зноў у наступ рушылі 25-тонныя мінскія самазвалы, і сэрца маё напоўнілася гонарам за родны беларускі народ, які стварыў гэтае цуда тэхнікі, пакліканае на вялікі працоўны подзвіг. Вось тут, мне здаецца, я і адчуў той невымерны энтузіязм савецкага чалавека, які выказала неяк адна з будаўніц камсамолка Ларыса Падручная: «Мяне ніколі не пакідае пачуццё вялікай карыснасці твае працы і думка аб тым, што не дарма ты жывеш на свеце...»

Сапраўды, якія высокія патрыятычныя імкненні ў савецкіх людзей. Праца для іх — не проста занятак, каб існаваць, а подзвіг, поўны самаадданасці і гераізму дзеля шчасця і міру ўсенароднага. Вось гэты працоўны подзвіг мне і хацелася адлюстраваць у сваіх творах апошняга часу.

**Іван СТАСЕВІЧ.**

Вядомы беларускі паэт Валянцін Таўлай нарадзіўся ў 1914 годзе у Баранавічах у сям'і рабочага-чыгуначніка.

Юнаком ён стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Некаторы час працаваў у Варшаве ў рэдакцыі камуністычнай газеты «Чырвоны сцяг», потым рэдагаваў у Вільні легальны рэвалюцыйны орган — «Беларускую газету». Малады змагар неаднаразова арыштоўваўся польскай дэфензівай. Ён прасядзеў у турмах каля сямі год.

Каб пазбегнуць чарговага арышту, Валянцін Таўлай у 1930 годзе перайшоў граніцу і працаваў у Мінску ў рэдакцыі газеты «Звязда». Неўзабаве вярнуўся зноў у Заходнюю Беларусь, каб прадаўжаць змаганне за ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай дзяржаве.

У гады Айчыннай вайны Валянцін Таўлай быў сувязным партызанскага атрада, прымаў актыўны ўдзел у падпольным друку. Пасля вайны паэт працаваў старшым навуковым супрацоўнікам музея Янкі Купалы. Але не доўга. Цяжкая хвароба падарвала сілы Валянціна Таўлая, і ён памёр 27 красавіка 1947 года яшчэ маладым чалавекам.

У выдавецтвах Беларусі выйшла некалькі зборнікаў яго вершаў. Творы паэта перакладаліся на рускую, украінскую, літоўскую і іншыя мовы народаў СССР.

Ніжэй друкуюцца малавядомыя вершы Валянціна Таўлая.



**Валянцін ТАЎЛАЙ**

* * *



алі атуліць ноч зямлю
і засмяюцца з неба зоры,
лунаць я думкамі люблю
там, дзе для іх ёсць шмат прастору.

І вось, лунаючы душой,
дзе ззяе воблік зор халодных,
я для сябе знайшоў спакой
і ў няволі стаў свабодны.

Так — пачуцця не заглушыць!
Яно са мною — назаўсёды!
Браты! Пакуль я буду жыць,
я буду сынам — для свабоды!

3.X.1929 г.

* * *



не волю адабралі,
мне адабралі рух,
і рукі мне скавалі,
скаваць хацелі й дух.



Хацелі вырваць сэрца
навек з маіх грудзей,
загнаць жывым ў магілу
хацелі ад людзей.

Вось метад ваш, тыраны.
Вось сіла ваша — тут.
Над вамі ўзбунтаваны
народ учыніць суд.

І гэтага уздыму
не хопіць сіл стрымаць.
Усё ўверх дном падыме
ўзбунтованая рацьǃ

Гродна, астрог, 1929 г.

* * *



ддайце мне волю, тыраны,
а не — дык вазьму яе сам:
пагляньце — крывавяцца раны.
Я ўсё вам з пракляццем аддам.

Аддам я жыццё маладое,
аддам я бунтарскія дні,
ды здзейсню імкненне святое —
не дам, каб загаслі агні.

Агні, што прарочаць нам волю,
агні, што нам сіл дадаюць,
агні, што не згаснуць ніколі,
агні, што нас к мэце вядуць.

Гродна, астрог, 1929 г.

* * *



умяць бары, вясніцу выклікаюць —
нясецца гэты спеў над скованай зямлёй,
і хоць яшчэ снягі зімовыя не таюць —
ўжо чуцен нейкі рух пад маскай ледзяной.

Шумяць бары... Разносіць вецер песню,
а ў ёй пяе, што хутка ўжо вясна,
што хутка на рацэ лядок зімовы трэсне,
прачнецца да жыцця і працы старана.

Шумяць бары. І з цiхім трапятаннем
нясецца гэты спеў і над зямлёй звініць.
А тут і там — чутно жыцця дыханне.
А там і тут — жыццё ужо не спіць.

Гродна. Сакавік, 1930 г.



Алесь Ставер нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага і працуе загадчыкам літаратурнай часткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

У 1959 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў першы зборнік яго вершаў «Золак над Бярозай», а сёлета выходзіць другі пад назвай «Касцёр не гасне».

**Алесь СТАВЕР**

## СПОВЕДЗЬ

Дзед Чэча ў Маргавіцы
жыў, —
Хлапцом быў я тады, —
Ён з нашай моладдзю
любіў
Пагутарыць заўжды.
Любіў ён часта паўтарацць,
Крануўшы вус сівы:
— Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы!

Быў на хрысцінах у сяле
Дзед Чэча неяк раз,
Гарэлкі ўзяў, павесялеў,
Павёў такі расказ:
— Нямнога зеллейка
глынуў,
А ўжо я ледзь жывы.
Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы.



Як перайначваўся свет, —
Мы не былі ў цяньку.
Перажылі нямала бед
Мы на сваім вяку.
Ды беды не сагнулі нас
Нідзе ніжэй травы.
Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы.

Не раз былі ў чужым краю,
У рознай грамадзе,
Але ніколі чэсць сваю
Не зганьбілі нідзе.
Пад сто ўжо мне. Сяброў
маіх
Даўно няма ў жывых.
Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы.

І нашу мову берaглі
Між розных іншых моў,
І ў сэрцы любасць пранясли
Да нашанскіх лугоў.
Мы не знаходзілі нідзе
Мякчэйшай муравы.
Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы.

Мы знaлі бляск дзявочых
воч.
З-за павачкі сваёй,
Бывала, сорак вёрст за ноч
Рабіў я пехатой.
А абвянчаецца з другім —
Не вешаў галавы.
Бывалі дні, гулялі мы,
Цяпер гуляйце вы.

А працавалі мы — ого!
Нам дзякуй скажа ўнук.
Куды ні глянеце — кругом
Работа нашых рук.
І не шукалі сцежак мы
Таемных і крывых.
Мы слаўна пражылі свой
век,
Цяпер жывіце вы!

* * *

Слова злосці, што пароша ў вока,
У душу міжволі западзе,
І на сэрцы адтаго нялёгка,
І настрой атручаны на дзень.

Глянь, які сягоння дзень прыгожы.
Усміхніся лепей хоць на міг...
Падзяліць мы толькі шчасце
можам,
А яно адно ў нас на дваіх.

## РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

Любімая вёска...
Хат новых нямала...
Тут я нарадзіўся,
тут рос і тут жыў я.
Узгорак,
з якога ў дзяцінстве, бывала,
З сябрамі зімою на санках кружыў я...
А побач
магутная ліпа красуе,
Дзе ўвесну
Нярэдка зязюля кукуе...
А воддаль за ліпай
рачулка малая,
Лужок сакавіты яе акружае.
Дзе ўранні малочныя таюць туманы,
Дзе ўвосень начлежнікаў ззяюць
кастры.
А далей —
прасторы палёў узараных,
Дзе ўвесну спявае жаўрук на зары.
Кругом —
лес сасновы, яловы, смалісты,
І далей —
лугі і палі,
лазнякі,
І плыні Бярозы
шырокай, празрыстай, —
Ну, хіба дзе знойдзеш
прастор вось такі?!.





Расл ДЭВІС

# ТАКІЯ ДНІ

### Апавяданне

Мал. Л. Дубара

У першы панядзелак чэрвеня я скончыў каледж і атрымаў дыплом бакалаўра англійскай славеснасці. Назаўтра цэлы дзень не сціхаў дождж, і я прамачыў сабе ногі, калі адносіў у горад студэнцкі берэт і плашч, якія браў напракат. Моцна прастудзіўся і хварэў дзесяць дзён.

Вядома, я пластам не ляжаў. Схадзіў разок у прыгарадную бібліятэку, напісаў ліст падзякі да хроснай (за падарунак, які яна прыслала мне ў гонар таго, што я скончыў каледж), аднойчы вечарам пабываў са сваёй нявестай Мідж у бліжэйшым кіно і неяк памог маці перанесці сёе-тое на гарышча.

Але не паспеў я паправіцца, як на нас навалілася небывалая хваля нясцерпнай гарачыні. Каўнерык за дзве хвіліны ператвараўся ў мокрую анучу, нервы напружваліся, як тыя струны, асабліва, здавалася мне, у прадпрыемцаў, якіх, магчыма, даймалі просьбамі аб рабоце.

Таму я не пайшоў шукаць работы, а сядзеў на верандзе голы па пояс, у белых парусінавых штанах, папіваючы халодную, з лёдам, ваду.

На трэці дзень гэтай упартай спякоты мой бацька рана вярнуўся

дадому. Паставіў машыну на лужок пад засень дрэў, выключыў матор, вылез з кабіны і пачаў паволі падымацца на ганак. Яго шырокі друзлы твар пакрыўся потам, сарочка (пінжак ён перакінуў праз руку) была ў потных плямах.

— Ну і ну! — усклікнуў ён, зняўшы з галавы саламяны капялюш і ставячы яго донцам на парэнчы веранды. Потым цяжка апусціўся на крэсла. Праз хвіліну ён павярнуўся ў мой бок.

— Хадзіў па работу? — спытаўся ён.

— Яшчэ не,— адказаў я.

— Калі думаеш?

Я не адрываў вачэй ад кнігі.

— О! Хутка!

— Хутка?

Я моцна прыціснуў кончык языка да верхніх зубоў.

— Так.

— Што-небудзь надумаў?

— Ага,— прамовіў я,— вядома.

— Што іменна?

Я збянтэжана заварушыўся ў крэсле. Ён не адступаўся, як і тая спёка.

— Рашыў пашукаць якіх-небудзь выдаўцоў.

— Выдаўцоў? — перапытаў ён.

— Людзей,— адказаў я злаcліва, бо ведаў, што ён наўмысна, як Сакрат, выклікае мяне на размову,— людзей, што выдаюць розныя рэчы... кнігі...

Ён быццам не заўважыў майго раздражнення.

— А якую ты папросіш у іх работу? — спытаўся ён мякка.

— Чытчыка.

— Чытчыка?

— Ага.

— А што гэта такое?

— Ну як жа — чалавек, які чытае тое, што дасылаюць у рэдакцыю... Рукапісы... Усе яны ідуць да чытчыкаў. Ёсць першыя чытчыкі, другія і гэтак далей. Адна з пасад у выдавецтвах.— Калі бацька ставіў свае пытанні так мякка і шчыра, мая злосць заўсёды праходзіла.

— А каторым будзеш ты? — пацікавіўся ён.

— Я?.. І сам не ведаю... Думаю, усё, на што магу разлічваць, дык гэта быць самым апошнім.

— А ты асабіста ведаеш хоць каго з іх?

— Не.

Наступіла кароткая цішыня, і раптам я зразумеў усю негрунтоўнасць маёй надзеі атрымаць якую-небудзь работу. Адчуўшы, што ён таксама падумаў пра гэта, я павярнуўся да яго.

— Наогул, калі пашанцуе, то, думаю, я мог бы... але, па-праўдзе, я не вельмі імкнуся... думаю, што мог бы зрабіцца аўтарам і...— мой позірк слізгануў міма бацькі і трапіў на саламяны капялюш, што ляжаў на парэнчах,— і пісаць.

— Га? — вымавіў бацька.— Што пісаць?

Я нахмурыўся.

— Як што? Кнігі, вядома... раманы! Я хачу толькі сказаць, што мог бы іх пісаць.

— Сам?

— Вядома, сам!

— А хто будзе плаціць табе?

— Выдаўцы, вядома.



— Ага, цяпер я разумею. Ты хочаш сказаць, што нешта такое напішаш і пашлеш выдаўцам, а тыя возьмуць і надрукуюць, а потым дадуць табе ганарар.

— Ну, вядома, вядома!

— А як хутка яны заплоцяць?

— Хто іх там ведае,— адказаў я.

— Праз тыдзень?

— Не, мабыць, праз некалькі. А то можа і праз большы час. Гэта ж не так хутка робіцца.

— Праз месяц,— не сунімаўся бацька.

— Магчыма пройдзе некалькі месяцаў... Пакуль усё распачнецца.

— Ты хочаш сказаць, пакуль пачнуць прыходзіць грошы?

— Так. Але наогул цяжка сказаць... Божа мой, нельга ж адразу ўзяць ды зарабіць мільён долараў!

— А на што будзеш жыць, пакуль будзеш распачынаць?

— Ну як жа, а ты?

— Можаш развітацца з гэтай ідэяй,— буркнуў бацька.

Зноў памаўчалі. Я асцярожна варушыўся ў крэсле, адчуваючы, як па рэбрах коцяцца ўніз дзве кропелькі поту. Як я ні намагаўся сканцэнтраваць сваю ўвагу на кнізе, мае вочы нічога не бачылі. Бацька падняўся з крэсла і стаў перада мной.

— Эліат!

Я прыўзняў галаву.

— Ты скончыў каледж.

— Ведаю,— адказаў я.

— Я хачу, каб ты пашукаў работу.

— Добра.

— Ты разумееш?

— Разумею.

— Я хачу, каб ты пашукаў работу.

— Добра, пашукаю.— Я глянуў яму проста ў вочы, ён не адвёў іх.

— І заўтра ж, — прамовіў ён.

— Добра, калі...— я трохі павагаўся: успомніў пра спякоту. Хоць бы крышачку пахаладнела. Я і сам думаў пайсці што-небудзь пашукаць, калі пахаладнее.

— Заўтра ж раніцай, — сказаў бацька.

Мы пільна глянулі адзін аднаму ў вочы.

Надвечар я пайшоў да Мідж. Яна сядзела на верандзе ў шэзлонгу, паглыбіўшыся ў чытанне кінематаграфічнага часопіса.

— Алё! — павітаўся я.

— Алё,— буркнула яна і на секунду павярнулася ў мой бок, не адарваўшы вачэй ад часопіса. Яна зрабіла так знарок, бо тут сядзела ўся сям'я.

— Божа, як горача, праўда? — сказала яе маці — больш буйная і не такая бялявая копія Мідж. Яна сядзела ў нізенькім крэсле, вусны яе трохі ўздрыгвалі, нібы ад нейкай тайнай трывогі, але голас прагучаў бадзёра.

— Горача,— пацвердзіў я.

— Як вашы?

— Нічога.

Старэйшая сястра сядзела ў плеценым крэсле. Кісці яе рук вялa звісалі між каленяў. Маладая жанчына была худая, ростам вышэйшая за Мідж, не такая прыгожая і больш рэзкая ў манерах.

— Падай яму крэсла, Эд,— сказала Лілі.

Эд, яе муж, сядзеў на драўляным раскладным крэсле, прытуліўшыся спіной да сцяны і выставіўшы, нібы напаказ, свае вострыя калені. У руцэ ён трымаў каля рота сігарэту. Здавалася, яго чорныя вочы гараць не менш ярка, чым кончык сігарэты. Ён быў непаголены. Пільна глянуўшы на мяне, Эд пашнырыў ззаду і выцягнуў яшчэ адно раскладное крэсла.

— Дзякую,— сказаў я.

— Калі ласка...— папыхкваючы сігарэтай, ён сачыў, як я садзіўся.— Як справы?

— Нічога,— адказаў я і глянуў на Мідж, якая па-ранейшаму не адрывала вачэй ад свайго часопіса.

— Скончылі вучэнне? — спытаў Эд.

— Скончыў,— сказаў я.

— Ёсць месца? Напэўна ёсць, бо вы ж скончылі каледж. Асабіста я, як вы, можа, ведаеце, каледжа не канчаў.

З вуснаў Лілі сарваўся нейкі злаславы гук, ад якога Эд паморшчыўся.

— Асабіста я,— працягваў Эд,— лічу, што справы пайшлі туга. Я чуў, што многія такой жа думкі.

Я змоўчаў. Міма праехала машына, на рагу вуліцы прагучаў яе клаксон. Ніхто не павярнуў у той бок галавы.

— Можа,— не сунімаўся Эд,— вы дазволіце задаць вам адно простае пытанне?

Лілі павярнула галаву і глянула яму ў твар. Але Эд не зважаў на яе.

— Вы знайшлі работу? — спытаўся ён.

— Не шукаў яшчэ,— адказаў я.

— Не шукалі! — усклікнуў Эд. Ён нахіліўся ўперад, каб лепш разгледзець мяне. Я адхіліўся ад яго пільнага позірку.— Што ж вы надумалі? Вярнуцца ў каледж яшчэ па адзін дыплом?

— Што вы! Я буду шукаць работу.

— Калі?

— Ужо хутка.

— Якую?

— Ну, божа мой, ці твая гэта справа! — узарвалася Лілі.

Эд скоса глянуў на яе.

— А ты не ўмешвайся, разумееш?

Лілiны зрэнкі расшырыліся.

— Гэта ты не ўмешвайся! Не твая гэта...

— Я хачу толькі падумаць сабе, якую работу можа знайсці выпускнік кале...

— Не твая справа!— пранізліва крыкнула Лілі.

— Добра, хай ён мне сам гэта скажа.

— Ён не скажа. Бо вельмі далікатны. Табе не роўня!

— Ды сціхні ты,— сказаў Эд.

— Думаю,— пачаў я,— пашукаць што ў выдавецкай справе. Я-я...— павагаўшыся, я змоўк, зразумеўшы, што Эд не слухае: ён ссутуліўся на сваім крэсле, утаропіўся ў бязлюдную вуліцу,выпускаючы клубы дыму. Размова са мной яму надакучыла.

— А што, дзеткі, можа згуляем у карты? — спыталася маці.

«Божа!» — падумаў я. Ніхто не азваўся на яе прапанову, ніхто і не пярэчыў. «Калі яны будуць так марудзіць, я ніколі не выцягну Мідж з дому».

— Генры? — гукнула місіс Паркхерст, павярнуўшыся кудысьці ўбок.

І толькі тут я заўважыў містэра Паркхерста, які сядзеў ля расчыненага акна: праз гардзіны шарэла яго нечасаная галава і рука, якая трымала вячэрнюю газету.

— Мы збіраемся згуляць у карты, даражэнькі. Ці не выйдзеш да нас?

Галава містэра Паркхерста павярнулася трохі ўбок і так застыла, нібы яе гаспадар хацеў паслухаць, што яшчэ скажуць. Але жонка маўчала. Тады ён паволі ўзняўся з крэсла і адышоў ад акна.

Эд шумна пазяхнуў і злез з крэсла.

— Куды ты? — сказала Лілі.

— Пайду прайдуся.

— Не трэба.

Мне таксама хацелася трохі падыхаць паветрам.

— Што ж тут кепскага?

— Мы ж будзем гуляць у карты.

— Га?

— Чаму ты заўсёды ўсё псуеш?

Ля дзвярэй пачуліся нейкія гукі: гэта з'явіўся містэр Паркхерст — з картамі, блакнотам для запісу ачкоў і алоўкам. Ён нёс таксама раскладны картачны столік, але адна ножка століка раскрылася і зачапілася за касяк. Ён пазіраў на яе скрозь шкелцы сваіх рагавых акуляраў і намагаўся вызваліць столік нагой.

— Памажы яму, Эд,— крыкнула Лілі.

— А што там? — стомлена прагаварыў Эд.

Тым часам містэр Паркхерст сам справіўся са сваім столікам і выйшаў на веранду. Калі ён паставіў столік, місіс Паркхерст ласкава сказала:

— Ну, дзеткі, рассаджвайцеся.

Містэр Паркхерст азіраўся, шукаючы, на што б сесці.

— Эд, падай яму крэсла,— загадала Лілі.

Але Эд не пачуў ці мо' зрабіў выгляд, што не чуе, і містэр Паркхерст сам знайшоў раскладны стул, разняў яго, сеў і пачаў разграфляць свой блакнот, уверсе кожнай калонкі ён паставіў нашы імёны. Мне стала неяк шкада яго. Ягоны твар здаваўся мне пастарэлым. Ці не хворы ён?

— Чатыры без козыра,— абвясціў Эд, калі яго падагналі ўзяць карты.

— Даражэнькі,— сказала місіс Паркхерст,— хіба ж мы гуляем у брыдж? Сёння мне нешта не хочацца.

— Не, не ў брыдж, мама,— сказала Лілі.— Эд, спыні ты свае штучкі, а то я пайду спаць.

— Вось гэта дык сапраўдная пагроза,— прабурчэў Эд, разбіраючы карты.— Ну, пачнём.

Калі гульня скончылася, мы з Мідж пайшлі прайсціся, трымаючыся за рукі і пагойдваючы імі. Але неўзабаве яна адняла сваю руку.

— Што такое? — спытаўся я, адчуўшы нешта нядобрае.

— А-а... дома ўсе не ў гуморы.

— Чаму?

Яна прамаўчала.

На рагу вуліцы я ўзяў Мідж за руку.

— Давай пасядзім у парку,— прапанаваў я.

— Не хачу.

— Чаму?

— Так...

Мы пайшлі ў другі бок — у цэнтр пасёлка.

— Міджы...— загаварыў быў я.



— Не пачынай.
— Што не пачынаць?
— Сам ведаеш.
— Усе не ў гуморы, — сказаў я.
Па дарозе я стараўся думаць пра што-небудзь іншае, але не мог.
— Чым ты ўсхвалявана? — неўзабаве спытаўся я.
Яна насупіла бровы.
— Сам ведаеш, — адказала яна пявучым, але нейкім напружаным голасам.— Эд і Ліл... У Ліл хутка дзіця, а Эд даўно ўжо ходзіць без работы. А цяпер вось і тата...
— Твой тата?
— Ага.
— А што такое? З выгляду ён страшэнна спакойны.
— Ты што, не чытаў газет?
— Не. А што здарылася?
— Абутковая кампанія «Эдукейтар» збанкрутавала.
— Збанкрутавала?
Яна сцвярджальна кіўнула галавой.
— Ты хочаш сказаць — уся кампанія?
Яна павярнула да мяне свой устрывожаны твар.
— Вядома, уся!
— Чорт! І ты хочаш сказаць, што бацька твой...
Яна кіўнула галавой.
— Ты гаворыш, што ён цяпер астаўся зусім без работы? — Я вушам сваім не верыў, бо ведаў, што містэр Паркхерст працаваў у гэтай кампаніі ўсё сваё жыццё — пачаў з рассыльнага і паступова ўзняўся вышэй.
— Зусім без работы,— адказала Мідж.— Цяпер толькі адна я працую... А зарабляю я не многа. Містэр Мос плоціць мне толькі дзесяць долараў у тыдзень.
— Дзесяць у тыдзень! — усклікнуў я. Я гэтага не ведаў. Яна ніколі мне не гаварыла, а сам пра гэта не спытаешся... нават у сваёй нявесты. Я меркаваў, што яе заробак, прынамсі, удвая большы.
— Не так ужо і кепска, Эліат. Самае большае, што плоцяць у банку,— трынаццаць долараў.
— Самае большае? — перапытаў я і нібы прырос да бетону тратуара, пазіраючы ёй у твар.
— Жанчынам. А мужчынам — не ведаю. Напэўна, ім плоцяць больш. Але старая міс Гекл зарабляе толькі трынаццаць, а працуе ж там вельмі даўно.
— Божа! — усклікнуў я.
— Дзесяць у тыдзень — не так ужо і кепска. Пачала я з васьмі.
— Божа мой! — зноў усклікнуў я, а сам падумаў, колькі ж мне самому запрасіць. Раней я цешыў сябе надзеяй, што буду зарабляць долараў па трыццаць пяць у тыдзень, нават па сорак, іншы раз апускаўся да дваццаці, потым ацэньваў сваю асобу ў трыццаць. Паводле статыстычных даных, выпускнік каледжа ў сярэднім атрымліваў трыццаць долараў у тыдзень, але, вядома, не адразу. Ну, скажам, дваццаць пяць для пачатку. А з другога боку, справа ж зусім не ў грошах. Калі б мне прапанавалі што-небудзь з вельмі цікавым будучым, якая розніца, колькі за гэта плоцяць,— абы толькі можна было пражыць. У гэтым выпадку, можа, хопіць і дваццаці. Я пачаў думаць уголас. Мідж слухала, не падымаючы галавы.
— Вядома,— сказаў я, не дачакаўшыся яе каментарыяў,— мужчыны зарабляюць больш.

— Калі яны наогул што-небудзь зарабляюць. Як Эд.
— У Эда ж няма адукацыі,— запярэчыў я.
— Ёсць. Ён скончыў сярэднюю школу, як і я.
— Ну, ты ж працуеш сакратаркай...
— А Эд быў механікам.
— Бацька твой што-небудзь знойдзе,— запэўніў я яе.
Яна кіўнула галавой.
— Вядома. Ён жа быў раённым упраўляючым.
Я не меў ніякага ўяўлення, што гэта такое. І раней я здагадваўся што ў яе бацькі нейкая адміністратыўная пасада. З таго, як яна падкрэслена вымавіла «раённы ўпраўляючы», я зразумеў, што гэта не толькі адміністратыўная пасада, але і нешта большае.
— Дык што ж,— сказаў я бадзёра,— калі ён служыў раённым упраўляючым, то, само сабой, вельмі хутка знойдзе сабе іншае месца
— Яго вельмі цэняць у абутковай справе,— заявіла Мідж.
Я адчуў, што і я ў гэты момант гляджу на яго яе вачыма,— як на чалавека, што стаіць на п'едэстале, чалавека, аўтарытэт якога цяпе рашняе цяжкое становішча не паменшыла ні на ёту. Я нават зараў наваў, бо мне здалося, што ў яе адносінах да мяне не было і сотаі долі той павагі, з якой яна ставілася да бацькі.
— Я і сам хутка збіраюся прыглядзецца да чаго-небудзь,— абвяс ціў я.— Хачу паспрабаваць спачатку ў выдавецкай справе.
— Ты думаеш, што знойдзеш месца?
— А хто яго ведае,— упэўненасць раптам выслізнула з-пад маіх ног.
— Вельмі кепска, што «Эдукейтар» закрыўся,— задуменна пра мовіла Мідж.— Ты б мог працаваць там.
— Можа і так, не ведаю. Мяне цікавіць і абутковая справа.. Я хачу сказаць — не дрэнна было б... але...
— Напэўна, пісьменніку не так ужо і многа прасторы, — згадзі лася Мідж, — калі не лічыць рэкламы.
— Ты падала вельмі цікавую ідэю,— сказаў я памяркоўна, з далі катнасці стараючыся запэўніць самога сябе, што рэклама — занятак варты павагі.— Адначасова можна паспрабаваць свае сілы і ў рэкламе
Калі мы ішлі ўздоўж жывой зялёнай агарожы па ціхім, ахутаным перадвячэрнім змрокам завулку, я памкнуўся быў пацалаваць Мідж але яна адхілілася.
— Нікога ж няма,— угаворваў я.
— Не прымушай мяне, — тон яе голасу падаў мне надзею: яна хутчэй за ўсё адхіляла мой метад, а не мэту.
— Можа, вып'ем содавай? — сказаў я.
— Давай.
— Не магу прыйсці да розуму, што непакоіць цябе. Усё ўладзіцца
— Табе што. У цябе бацька працуе.
Я раззлаваўся.
— А ў чым справа? Што ў цябе на сэрцы?
Яна не адказала, толькі шчыльней сціснула вусны.
— Мы ж заручаны,— настойваў я, думаючы, што гэтага довады дастаткова.
— Эх, Эліат, якое гэта мае цяпер значэнне? — Потым, заўважыўшы, што я пакрыўдзіўся, дадала: — Пры цяперашнім становішчы гэта пустыя словы.
— Я знайду сабе работу.
— Эх, Эліат, дзе? Як?
— Не ведаю, але знайду.



— Ты ж нават і не спрабуеш.
— Заўтра ж раніцай пайду ў горад.— Я прытуліў яе да сябе, адной рукой абняў за плечы, а другой ўзяў яе тонкі падбародак. Адзін хуткі пацалунак, — і яна адштурхнула мяне, унурылася. Калі я хацеў яшчэ раз пацалаваць яе, яна адхілілася.
— Ну хопіць, кінь ты,— запярэчыла яна.
— Дай хоць руку ўзяць, чорт вазьмі.
Мы пайшлі далей, а яна сумна гаварыла:
— Ліл з Эдам увесь час сварацца. Адзін жах. А яны ж чакаюць дзіця. Яны любяць адно аднаго, але ім страшна, вось і ўсё.— Яна трасянула галавой.— Працую ж толькі я адна.— Яна вырвала сваю руку з маёй, нібы з нечага ненавіснага, і я ўбачыў на яе вачах слёзы.
Калі мы апынуліся ля першых асветленых крам у цэнтры гарадка, яна выцягнула з рукава насавую хустачку, выцерла вочы і глянула на сваё адлюстраванне ў шкле вітрыны. Потым мы пілі содавую, седзячы ў цесным павільёне. Яе свежы прыгожы твар быў вельмі сур'ёзны. Мы пілі содавую з клубнічным сіропам. Калі яна нахілялася, каб узяць у рот саломінку, на яе лоб падалі цяжкія густыя локаны. Па дарозе дамоў я зноў паспрабаваў пацалаваць яе. Яна не супярэчыла, але і не выказвала энтузіязму. Вусны яе былі халодныя, вочы прыплюшчаны. Калі мы дайшлі да яе дома, яна пажадала мне добрай ночы, пакінула мяне ля брамкі і паднялася на веранду, дзе яшчэ сядзеў яе бацька. Я пачуў, як яна пацалавала яго ў шчаку. Потым пайшла ў хату.
Я ўжо быў павярнуўся, каб ісці, як раптам пачуў сваё імя. Мяне ціха клікаў яе бацька. Я ўвайшоў у двор.
— Навошта вам спяшацца дадому,— сказаў містэр Паркхерст,— пасядзіце трошкі, пагаворым.
Я падняўся на веранду і сеў на крэсла. Містэр Паркхерст набіваў сваю люльку тытунём. Прыкінуўшыся абыякавым, я запаліў сігарэту. На самай справе ў мяне ўсё пахаладзела ў сярэдзіне.
Містэр Паркхерст з хвіліну памаўчаў, потым запытаў:
— Шукаеце работу?
— Ага, — сказаў я, суправаджаючы свой адказ нервовым смяшком. — Спадзяюся пайсці па выдавецкай справе — чытчыкам ці кім-небудзь такім. Не ведаю, можа, і рассыльным. — Мае словы раздражнялі мяне: я гаварыў не тое, што хацеў. Мне, вядома, не хацелася, каб бацька Мідж падумаў, што я згодзен працаваць рассыльным пасля чатырох год вучобы ў каледжы. — Я, бачыце, вывучаў англійскую мову... — дадаў неўпапад.
Містэр Паркхерст адкашляўся.
— А як... як вы даберыцёся да іх?
— Да каго?
— Вы ж самі сказалі, што спадзеяцеся пайсці па выдавецкай справе. Як вы гэта зробіце? Што зробіце перш за ўсё?
— Ну, я... — На момант у паўцемры веранды нашы позіркі сустрэліся. Мяне ўразіла і здзівіла напружанасць, нават суровасць яго твару.— Думаю, проста зайду і спытаю, — закончыў я.
— Каго спытаеце?
— Думаю, рэдактара.
— А як наконт агенцтваў?
— Агенцтваў? О так, можа і там будзе шанц, — сказаў я паволі, дзівячыся яго пранікнёнасці. На самай справе, раней мне гэта і ў галаву не прыходзіла. Праца ў літаратурным агенцтве — чаму ж не? Вось дык ідэя!

Містэр Паркхерст зноў загаварыў:

— А дакладней — што вы зробіце? Напішаце заяву? А далей?

— Н-не, — прагаварыў я. — Гэта... — і тут я раптам зразумеў, што ён гаварыў пра агенцтва па найму, а не пра літаратурнае. Я збянтэжыўся. Раней я ўяўляў сабе, што агенцтвамі па найму карыстаюцца толькі некваліфікаваныя рабочыя і прыслуга. Папаўшы неяк раз у раён докаў, я бачыў, як з такой канторы выштурхнулі ў шыю нейкага п'янага. Цяпер гэтая карціна ажыла ў маёй памяці.

— А колькі яны бяруць камісійных, часам не ведаеце? — працягваў допыт містэр Паркхерст.

— Не, напэўна сказаць не магу. Баюся, у гэтым я мала разумею.

— Не абавязкова за такую работу, якую вы шукаеце, а за любую... ну, скажам, за такую, як мая, ці прыказчыка, напрыклад, прыказчыка ў абутковым магазіне. Колькі яны бяруць за тое, каб знайсці для каго-небудзь такую работу?

— Не ведаю, — адказаў я збянтэжана.

— А як наконт пісьмаў? Ці ведаеце вы, як напісаць пісьмо з просьбай аб рабоце? Наогул, ці пішуць такія пісьмы? Скажам, з просьбай аб рабоце ў бакалейна-гастранамічным магазіне ці на бензазаправачнай? Ці вы проста заходзіце і просіце гаспадара ці ўпраўляючага?

— Гм...— прамармытаў я. — Думаю, трэба проста ўвайсці і спытацца яго...

— Разумею, — задумённа прамовіў містэр Паркхерст. Потым спытаўся: — А як наконт такой работы, як у вашага бацькі. Калі-небудзь думалі пра гэта?

— Быць настаўнікам? Не, я... Я не вельмі люблю гэтую прафесію.

— Але іншы раз бывае вакансія.

— Думаю, бывае, але...

— А ці ёсць якая цяпер у якой-небудзь вядомай вам школе?

— Не. — Мне чамусьці стала вельмі няёмка. Адчуў, як пачынаю пацець, хоць паветра стала крыху халаднейшае. — Мой бацька не займаецца наймам на работу. Ён толькі дырэктар школы, — прамармытаў я.

— А ён не гаварыў, што ёсць вакансія?

— Не, не гаварыў.

— Калі ён пачуе, што ёсць вакансія ці наогул што-небудзь у горадзе або ў другім горадзе, ці калі вы, Эліат, у пошуках работы пачуеце што-небудзь наконт работы, якая падышла б для чалавека сярэдніх год, яшчэ энергічнага, калі ласка, паведаміце мне.

— Ага, — сказаў я, — абавязкова.

— Як вам вядома, я добра ведаю абутковую справу. Але цяпер тут застой. Канешне, гэта пройдзе. З другога боку, я мог бы даць абяцанне застацца на рабоце, пакуль знойдуць добрую замену. Дык калі вам напаткаецца што-небудзь ці, можа, ваш бацька што пачуе, — любая работа, начным вартаўніком, скажам, адразу ж паведаміце мне. Добра, Эліат?

— Ага, — сказаў я, — абавязкова.

— Я б з радасцю заплаціў вам за камісію.

— О не! — усклікнуў я.— Не, я...

Ён падняў руку:

— Я б з вялікай радасцю заплаціў.

Я змоўчаў.

— Здаецца, трохі пахаладнела, — містэр Паркхерст узняўся з крэсла.

Я таксама ўстаў.



— Думаю, час ужо ісці.

— Не забудзьцеся, — сказаў містэр Паркхерст. Ён зрабіў крок да мяне.— Што б вы ні напаткалі...— ён нязграбна пастукаў мяне па плячы, — любая работа... Згода?

— Ага, — адказаў я.

— Дабранач, Эліат.

— Добрай ночы, — я ўсміхнуўся, каб паказаць яму, што з ахвотаю выканаю яго даручэнне.

Але містэр Паркхерст не ўсміхаўся. Вакол яго рота заляглі незвычайна глыбокія маршчыны. Ён раптоўна павярнуўся да мяне спіной і ўвайшоў у дом.

* * *

— Як там, трохі халадней? — запытаўся мой бацька.

Бацька з маці сядзелі на верандзе тварам да вуліцы. Ліхтар, што стаяў на рагу, амаль зусім закрыты густым лісцем дрэў і абкружаны кальцом матылёў, кідаў цьмянае святло, робячы іх плоскімі, нібы намаляванымі на кардоне. Я сеў на ніжняй прыступцы, абапёршы падбародак на кулакі.

Халадней? Цяплей? На квартал адсюль? Я хацеў быў адказаць, але толькі паціснуў плячыма.

— Як там, трохі.. — зноў пачаў бацька.

— Не! — агрызнуўся я і запаліў сігарэту.

Цяпер ужо маці заварушылася ў сваім крэсле і, бразгаючы пальмавым веерам, з суцяшальнай клапатлівасцю спыталася, ці не думаю я, што занадта многа куру.

— Не! — адказаў я.

Недзе па суседству пачалі разыходзіцца госці. Чутны былі галасы, стук дзверцаў машыны, гучны роў старцёра, нудны шум матора, вясёлы смех і развітальныя воклічы, потым пераключэнне перадач: першая; пауза; другая; больш доўгая пауза; рэзкі скрыгат; нарэшце, трэцяя хуткасць і паступова лапатанне глушыцеля, што замірала ўдалечыні. Зноў стала ціха, толькі час ад часу чулася шчоўканне — гэта матылі стукаліся аб шкло вулічнага ліхтара. Стаяла духата. Паветра нібы застыла, лісці дрэў, здавалася, вісяць кожнае паасобку, як бялізна на вяроўцы.

— А я лічу, што ты курыш занадта многа, — сказала маці.

— Абутковая кампанія «Эдукейтар», — заўважыў я, павярнуўшыся ў бок веранды, — збанкрутавала.

— Што такое? Што ты сказаў, — спытаў бацька.

— «Эдукейтар». Яны...

— Вымі сігарэту з рота, каб можна было разабраць, што ты там гаворыш.

Я выняў з рота сігарэту.

— Дык што ты сказаў пра «Эдукейтар»?

Я паціснуў плячыма.

— Яны збанкрутавалі, вось і ўсё.

— Божа мілы! — ўсклікнула маці. Хоць я і сядзеў да іх спіною, але адчуў, як яна ў жаху павярнулася тварам да бацькі.— Ці ж не там працуе містэр Паркхерст?

— Працаваў, — паправіў я.

Маці шумна глытнула паветра.

— Шкада, — заявіў бацька.

— Я нешта не разумею. Калі гэта здарылася?

Я зноў паціснуў плячыма.
— Сёння.
— Ты хочаш сказаць, яго звольнілі без папярэджання? — не супімалася маці. — А што, яны не ведалі?
Я паціснуў плячыма.
— Павярніся сюды, — сказаў бацька, — каб было чутна.
Я павярнуўся да іх.
— Містэр Паркхерст,— абвясціў я,— хоча ведаць, ці ёсць шанцы атрымаць работу. Папрасіў, каб я спытаўся ў цябе. Хоча стаць швейцарам. — Я глянуў на бацьку. Ён утаропіўся ў мяне, сцяўшы зубы. Яго шырокі твар пасуровеў і нібы скамянеў, як твар мерцвяка.
— Такая цудоўная сям'я! — жаласна ўскліпнула маці.
Бацька адкашляўся.
— Упэўнен, што ён знойдзе што-небудзь бліжэй да сваёй спецыяльнасці. У нас ж вакансій няма. — Нейкі момант памаўчаў, потым паклікаў: — Эліат!
— Га?
— У тваім пакоі ёсць будзільнік?
Я паціснуў плячыма, не павярнуўшыся да яго.
— Ці ёсць, Эма?
— Не ведаю, — адгукнулася маці. — А што, ён куды-небудзь пойдзе?
— Так, — адказаў бацька.
— Божа... Куды?
— У горад, шукаць работу.
Я сядзеў па-ранейшаму: паклаў падбародак на кулакі і глядзеў на вуліцу.
— Пастаў яго на сем, — загадаў бацька.
— Добра, — адказала маці.
— Эліат, у цябе ёсць білет на цягнік?
Я не зварухнуўся. Усё гэта мне надакучыла. У іх дыялагу было нешта загадзя зрэпетыраванае і ненатуральнае. Чаму яны не пакінуць мяне ў спакоі?
— У цябе ёсць білет на цягнік? — паўтарыў сваё пытанне бацька.
Я прыўзняў галаву.
— Што? Білет на цягнік? У мяне? Не ведаю. Так... Здаецца, ёсць. Дык што? — я зноў апусціў галаву на рукі.
— Значыць, ёсць? — настойваў бацька.
— Ёсць! Ёсць!
— Не трэба злаваць.
— Хто злуе?
— Твая маці паставіць у тваім пакоі будзільнік, ён разбудзіць цябе а сёмай, каб ты паспеў на цягнік, што адыходзіць у восем пятнаццаць. Ты чуеш, што я гавару?
— Чую, — адказаў я стомлена.
— Якая цяпер гадзіна? — спыталася маці ў бацькі.
— Адзінаццаць дзесяць.
— Ну, я пайду ў дом. — Маці паднялася з крэсла і адпіхнула яго ад сябе. — Добрай ночы. Я пастаўлю ў тваім пакоі будзільнік. Ты чуеш, Эліат?
— Яго слых у поўным парадку, — сказаў бацька.
— Добрай ночы, Эліат.
— Добрай ночы, — адказаў я.
Маці ўвайшла ў дом. У шчыкалатку мне ўпіўся камар. Я раздушыў яго. Наступіла доўгая цішыня, вельмі доўгая, і я падумаў, што, можа,



бацька нячутна прабраўся ў хату і, нарэшце, пакінуў мяне аднаго. Я злёгку павярнуў галаву ўбок, потым яшчэ трохі і ў паўцемры веранды ўбачыў яго няясныя абрысы. Дзе там! Бацька зноў загаварыў:
— Пастарайся надаць сабе прыстойны выгляд. Прычашы валасы, пачысці чаравікі, падрэж пазногці. Гэта больш важна, чым ты думаеш. І голас. Гавары гучна і выразна. Не ведаю, ці ты разумееш, але ў цябе звычка запінацца. Не трэба запінацца. А рукі трымай далей ад твару, асабліва ад носа.
— А-ат! — фыркнуў я з агідай.
— Што?
— Я не збіраюся поўзаць перад імі на жываце.
— Што такое?
— Ніхто не нойме мяне за мой знешні выгляд.
— А за што яны ноймуць цябе?
— Адкуль я ведаю?
— Ты павінен надаць сабе прыстойны выгляд.
— Добра, я надам сабе прыстойны выгляд.
— Ты павінен паказаць сябе з лепшага боку, у гэтым няма нічога ганебнага.
— Ну, добра, але поўзаць перад імі я не збіраюся.
— Ніхто не просіць, каб ты поўзаў. Справа толькі ў тым... — тут бацька нервова адкашляўся, — што адной з прычын цяперашняга дзелавога спаду з'яўляецца тое...— бацькаў тон крыху перамяніўся, нібы ён паўтараў нешта такое, у што верыў, але не зусім разумеў,— што цяпер ёсць шмат людзей, якія проста не хочуць працаваць. Іх можна пазнаць па знешнасці. Апранаюцца яны неахайна, разважаюць аб радыкалізме і жывуць на дапамогу, якая кладзецца цяжарам на плечы ўсіх нас.— Ён нахмурыўся і ўзмахнуў рукой.— Вядома, некаторыя заслугоўваюць дапамогі. Таму мы і не можам адмовіцца ад фондаў дабрачыннасці. Але ёсць і такія, што выкарыстоўваюць сённяшняе становішча ў сваіх мэтах. Гм-м...— бацька зноў прачысціў горла,— вось чаму заўсёды лепш прытрымлівацца правіл прыстойнасці. Толькі дзеля таго, каб не быць падобным на людзей такога гатунку.
Я моцна прыціснуў падбародак да кулакоў і скрозь прыплюшчаныя павекі панура ўтаропіўся ў вулічны ліхтар. Матылі, што кружыліся вакол яго, адкідвалі ад сябе пачварныя цені, падобныя на цені самалётаў. Калі я загаварыў, то ледзь сам пазнаў свой сіплы, злослівы голас:
— Добра, добра. Магу сказаць толькі адно: калі тым людзям гавораць, што яны павінны падрэзаць пазногці, наглянцаваць чаравікі і напамадзіць сабе валасы толькі для таго, каб атрымаць якую-небудзь работу ды яшчэ працаваць на чужых, тады я не вінавачу іх. Не дзіва, што яны не хочуць працаваць! Божа мой, на такіх умовах і я не згаджуся.
Бацька ўстрывожана заварушыўся ў сваім крэсле.
— Не трэба так ставіцца да гэтага,— сказаў ён.
— К чорту ўсё, калі гэта так! — усклікнуў я.
— Не трэба так ставіцца! — хвалюючыся, бацька зрушыў сваё крэсла з месца.— Здаецца, ты не разумееш, што павінен прадаць сябе.
Я павярнуўся да яго.
— Прадаць сябе? Хто я — вулічная дзеўка?
Бацька адразу не адказаў. Памаўчаў, потым спакойна прамовіў:
— Няма прычын крычаць.
І больш нічога. Ён зноў пачаў неспакойна і бязмэтна глядзець у паўзмрок вуліцы. Яму ўжо не было чаго гаварыць.

Я ўстаў.

— Ну, добрай ночы,— сказаў я неяк збянтэжана і пачакаў, што ён скажа. Але ён толькі пажадаў мне добрай ночы, і я ўвайшоў у дом. Падымаючыся ў свой пакой, я бачыў перад сабой друзлы, потны, заклапочаны твар бацькі.

Я сеў на ложак і, зняўшы чаравікі і шкарпэткі, пачаў нажніцамі падразаць на нагах пазногці. Раптам звякнула клямка і дзверы адчыніліся.

— Эліат?

Гэта быў бацька, я нават зазлаваў. «Хіба ён не пакіне мяне ў спакоі? Чаму ён не адступаецца ад мяне? Божа!»

— Што там яшчэ? — спытаўся я такім тонам, нібы сам стаў бацькам, а той — вельмі надакучлівым дзіцем.

— Ша-ша...— Ён увайшоў у пакой.

— Ну? — спытаўся я.

— Ша, ты разбудзіш маці.— Ён палез у кішэню штаноў і выцягнуў адтуль паперку. — Вось пяць долараў. Табе спатрэбіцца на снеданне і трамвай.

Мне стала сорамна.

— А-а,— сказаў я ціха.— Дзякую!

Ён павярнуўся да дзвярэй і адчыніў іх.

— Добрай ночы.

— Добрай ночы,— прамямліў я.

Калі я скончыў з пазногцямі на нагах, то ўзяўся за пазногці на руках — падрэзаў і пачысціў іх, потым надзеў свае чорныя чаравікі і да глянцу начысціў іх насоўкай. Агледзеў у люстра валасы і галаву, састрыг канцы валаскоў на скронях, чыстай насоўкай, змазанай у сліне, працёр валасы на ілбе і ля вушэй. Нарэшце, выбраў верхнюю сарочку і скромны гальштук, дастаў касцюм і старанна пачысціў яго сваёй армейскай шчоткай. Адзеўся. Потым стаў перад люстрам шыфаньеркі.



— Шэсць шэрых шэршняў, — прашаптаў я выразна. — Шэсць... шэрых... шэршняў...— Я аблізнуў абсмяглыя вусны. — Шэсць... шэрых... Я вельмі... хачу... аддаць... вашай фірме... усе свае... здольнасці, — я памаўчаў і з нянавісцю глянуў сабе ў вочы, — усе свае здольнасці.

Пераклаў з англійскай мовы
**С. ДОРСКІ.**

**Ояр ВАЦЫЕЦІС**

# МАЁЙ ПЕСНІ



Песня, апрані шынель
салдацкі!
Сэрца непаддзельным, трапяткім
Дарагой вяснянцы аддаю я,
Аб табе, а болей ні аб кім —
Думаю, турбуюся, бядую.

Дык бяры ты свой шынель салдацкі!

Песня, я табою даражу.
Аддаю табе усё, што маю,
А не маю — гэтак і скажу,
Ты не пакрыўдуеш, добра знаю.

*Песня, апрані шынель салдацкі!*

Ты з сябрамі выйдзі на парад
І туды, дзе новы свет будуем.
Ну, а з тымі, хто жыццю не рад,
Песня, песня, мы не пасябруем.

Ім не па душы шынель салдацкі!

Хто баіцца неўпапад міргнуць
І рашучы крок зрабіць не хоча:
Ну, а раптам у адказ штурхнуць
Або вораг кпліва зарагоча?

Песня, апрані шынель салдацкі!

Шлях не гэтакі ў нас. Адусюль
У любы мы наступ крочым прама;
Друг разгледзіць меціны ад куль,
Ворагі — гразі наліпшай плямы

На паходным шынялі салдацкім.

Пасня, ты заўжды насі шынель —
І на лузе ў кветкавым убранні,
І ля саду, дзе віецца хмель,
І калі прысвечана каханню, —

Ты заўжды насі шынель салдацкі.
Сэрца непаддзельным, трапяткім
Дарагой вяснянцы аддаю я,
Аб табе, а болей ні аб кім —
Думаю, турбуюся, бядую...

Песня, апрані шынель салдацкі!

**Пераклала Е. Лось.**

**Тэрэнь МАСЭНКА**

## СКАРГА

**Н. Л.**



Мяне маці калісь пакідала
На іржышчы пад явара
шум —
То каб ножкі да болю
звыкалі...
Ты ж параніла мне і душу.

І не ўеўцца да шчасця
дарога
Без цябе. І журботны
прасцяг.
Ты забыла мяне, як малога,
На суровых дарогах жыцця.

## «АДНАЛЮБ»



Хваліўся друг
Сваім адзіным
шлюбам,
Што праведна
І сціпла век пражыў.
О, так, ён быў
Вялікім адналюбам:
Апроч сябе...
Нікога не любіў.

**Пераклаў з украінскай мовы**
**П. ПАНЧАНКА.**





**Л. МАКСІМАЎ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ДАВЕР'Е ПАРТЫІ АПРАЎДАЕМ!

Фота Ф. Бачылы.

Ёсць падзеі, якія хвалююць усіх, нікога не пакідаючы абыякавым. Яны выклікаюць радасць, гонар, запальваюць сэрцы, нараджаюць нястрымнае жаданне працаваць, тварыць, дзярзаць.

Да такіх падзей можна аднесці Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС, які адбыўся ў студзені гэтага года і разгледзеў пытанні далейшага развіцця сельскай гаспадаркі ў нашай краіне, абмеркаваў даклад аб выніках Нарады прадстаўнікоў Камуністычных і рабочых партый у Маскве, абвясціў аб скліканні чарговага партыйнага з'езда.

Камсамольцы і моладзь Беларусі, як і ўсе працоўныя нашай краіны, з велізарным натхненнем і пачуццём гонару за сваю Радзіму, за Камуністычную партыю сустрэлі гістарычныя рашэнні Пленума ЦК, якія выклікалі ў беларускай моладзі новы прыліў творчай актыўнасці, працоўнага энтузіязму. Крыніцы камсамольскай ініцыятывы, народжаныя рашэннямі Пленума, ператвараюцца ў магутную плынь патрыятычных спраў.

Разам з усім народам моладзь Беларусі сустракае XXII з'езд роднай партыі з вялікай верай у будучыню. Яна поўная неўтаймоўнай энергіі і жадання сваёй працай узвялічыць нашу Айчыну, выканаць і перавыканаць самыя смелыя планы.

## ІМІ ГАНАРЫЦЦА РАДЗІМА



**Савецкая моладзь выхоўваецца і загартоўваецца ў працы. Удзельнікамі 5-га пленума ЦК ЛКСМБ былі маладыя перадавікі сельскай гаспадаркі** (злева направа): **трактарыст конесаўгаса Гомельскага раёна Уладзімір Герашчанка, токар Брэсцкай РМТС Яўген Андрыюк, звеннявая па ільну з саўгаса «Паплавы» Бярэзінскага раёна Надзя Красоўская, даярка калгаса «Кастрычнік» Слаўгарадскага раёна Надзя Барадаценка, цялятніца калгаса імя Леніна Баранавіцкага раёна Клаўдзя Дзерман.**



**Даярка з калгаса «Савецкая Беларусь» Мастоўскага раёна Крыстына Навумчык.**

Магутным шырокім поступам крочыць краіна Саветаў у камуністычнае заўтра. Кожны дзень нашых кіпучых будняў азнаменаваны вялікімі перамогамі савецкага чалавека.

Мы ганарымся дасягненнямі нашай сацыялістычнай індустрыі.

Вялікія поспехі за апошнія гады дасягнуты і ў развіцці сельскай гаспадаркі. Ніколі яшчэ наша краіна не ведала такіх тэмпаў развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці, як у апошнія сем год. Гэтыя тэмпы характэрны і для нашай рэспублікі. За сем гадоў пасеўныя плошчы расшырыліся на 535 тысяч гектараў, вытворчасць збожжа ўзрасла на 47 працэнтаў, бульбы — на 32, гародніны — на 37 працэнтаў, ільнавалакна — у 4,2 раза, мяса — у 1,7, малака — у 1,6 раза.

Глыбокім гонарам напаўняе нас усведамленне таго, што і камсамол, моладзь нашай рэспублікі ўносяць свой пасільны ўклад у справу паспяховага выканання заданняў партыі.

Толькі ў мінулым годзе больш дваццаці шасці тысяч юнакоў і дзяўчат прыйшлі па пуцёўках камсамола на жывёлагадоўчыя фермы. Маладыя кукурузаводы сабралі з кожнага з 280 тысяч камсамольскіх гектараў па 520 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі. Выгадавана сем мільёнаў галоў птушкі. Маладыя працаўнікі сельскай гаспадаркі дапамагалі павышаць прадуктыўнасць жывёлагадоўлі, механізаваць фермы, зніжаць сабекошт прадукцыі, падымаць культуру земляробства. Камсамол рэспублікі выхаваў нямала выдатных майстроў сваёй справы, такіх, як славутыя свінаркі — тысячніцы Лілія Баравіцкая і Галіна Лагунова, даяркі Марыя Дзегцярова і Таісія Палавец, птушніца Аліна Кезік і Тэрэза Багародзь, Клаўдзія Коцікава і многія-многія іншыя.

Сапраўднай гераіняй сямігодкі, якая сваёй самаадданай працай упісала новую старонку ў летапіс камсамольскай славы, з'яўляецца даярка саўгаса «Падалессе» Рэчыцкага раёна Ніна Пастухова. Ніна, учарашняя дзесяцікласніца, замяняе цяпер на ферме восем даярак. Яна адна даглядае 95 кароў. Гэтая дзяўчына, выхаванка камсамола, — тыповы прадстаўнік новага пакалення сельскіх працаўнікоў, людзей адукаваных і культурных, якія маюць не толькі залатыя рукі, гарачае камсамольскае сэрца, але і трывалыя веды. Такім, як Ніна, не па душы застой і адстаroom



**Свінар з калгаса «Чырвоны маяк» Шаркоўшчынскага раёна Афінаген Латыш.**





**Даяр з калгаса імя Кірава Воранаўскага раёна Генадзь Сінкевіч. Ад кожнай з 12 кароў, якія замацаваны за ім, ён надаіў па 3 500 кг малака.**

ласць, яны імкнуцца да ўсяго новага, перадавога, не баяцца цяжкасцей.

На такіх цяпер раўняецца ўся моладзь. Але не толькі пра гэта ішла гаворка на V пленуме ЦК ЛКСМ Беларусі, які нядаўна адбыўся. І нават галоўным чынам не пра гэта. Сотні перадавікоў сельскай гаспадаркі, камсамольскія важакі, прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў, якія сабраліся на гэты самы вялікі маладзёжны форум у сталіцы нашай рэспублікі, вялі сур'ёзную гаворку аб рэзервах, аб тым, што трэба яшчэ зрабіць, чым парадаваць партыю да адкрыцця яе чарговага XXII з'езда.

Добра разумеючы, што дасягнуты (хоць і высокі) узровень і хуткія тэмпы росту вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў і асабліва прадуктаў жывёлагадоўлі з'яўляюцца недастатковымі, удзельнікі Пленума вызначылі свае камсамольскія рубяжы, намецілі камсамольскую трасу на трэці год сямігодкі, імкнуліся больш поўна і дакладна вызначыць той уклад, які можа ўнесці моладзь рэспублікі ў выкананне велічных і адказных заданняў партыі.

А гэтыя заданні не лёгкія. Беларусь павінна ўжо ў бліжэйшы час даваць штогод у агульнасаюзны фонд 23 мільёны пудоў збожжа, 510 тысяч тон мяса і 2 мільёны тон малака. Камсамольскія арганізацыі, кожны малады працаўнік сяла лічыць сваім найпершым абавязкам зрабіць усё для таго, каб памагчы партыйным органам, усім працоўным хутчэй дасягнуць гэтых рубяжоў. Камсамольцы нашай рэспублікі абавязаліся ў 1961 годзе стаць гаспадарамі ўсіх кукурузных плантацый і вырасціць на кожным гектары не менш, чым па 500—600 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі. Пленум горача адобрыў выдатны пачын вядомай звеннявой з калгаса «Орша» Марыі Канцавой, якая вырашыла навучыцца вадзіць трактар і ўзначаліць механізаванае звяно. Кінут кліч: «Кукурузаводы — на трактар!»

Сіламі камсамольцаў і моладзі сёлета будзе адкормлена не менш мільёна галоў свіней, выгадавана 1 400 000 трусоў. Моладзь вырашыла ўзяць у свае рукі ўсю птушкагадоўлю і выгадаваць не менш 10 мільёнаў 200 тысяч галоў птушкі.

На студзеньскім Пленуме ЦК КПСС нашу рэспубліку крытыкавалі за слабы прырост дойнага статку. Камсамольцы абавязаны памагчы ліквідаваць гэты сур'ёзны недахоп. У рэспубліцы ўжо



**Люба Сакун — даярка з калгаса «Перамога» Бабруйскага раёна.**



**Люда Сіўко—званнявая па кукурузе з калгаса «Дружба» Пліскага раёна.**

ёсць добры вопыт вырошчвання маладняку буйнай рагатай жывёлы. У Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці камсамольцы вырашылі стварыць дваццаць дзве спецыялізаваныя фермы па вырошчванню адзінаццаці тысяч цялушак.

У сучасны момант калгасы і саўгасы рэспублікі маюць значны рэзерв росту дойнага статку за кошт уласнага ўзнаўлення. Яны маюць 750 тысяч цялушак і 152 тысячы нецеляў. Значыць, ёсць усе магчымасці на працягу трох гадоў павялічыць колькасць кароў прыкладна на 450 тысяч галоў, у тым ліку ўжо сёлета — на 120 тысяч галоў. Напрамкавае вырошчванне цялушак, вырашылі камсамольцы, будзе адной з ударных, галоўных задач сельскай моладзі, вызначаных студзеньскім Пленумам ЦК КПСС.

Асаблівую вастрыню ў сучасны момант набывае праблема механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Без механізацыі немагчыма паспяхова вырашаць задачы сямігодкі па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і дабіцца значнага яе падзешаўлення. Умець вадзіць трактар, камбайн, стаць, калі трэба, на сеялку, да зернепагрузчыка, умець ліквідаваць непаладкі ў сельскагаспадарчай машыне — вось як многа патрабуецца цяпер ад механізатара. На нарадзе ў Варонежы Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў адобрыў заклік камсамольцаў авалодаць тэхнікай: «Моладзь, за руль трактара! Гэта добры заклік. Калі моладзь усёй краіны падтрымае гэты заклік, калі тысячы юнакоў і дзяўчат сядуць за руль трактара, авалодаюць тэхнікай, дык будзе зроблена вельмі вялікая і важная справа».

Вось чаму Пленум ЦК ЛКСМБ паставіў задачу значна палепшыць работу камсамольскіх арганізацый сярод маладых механізатараў, разгарнуць між імі баявое камсамольскае спаборніцтва, узяць сельскагаспадарчую тэхніку ў рукі моладзі, навучыць дзесяткі тысяч маладых людзей прафесіі механізатара. Галоўная ўвага пры гэтым будзе звернута на колькасць і якасць выпрацаваных гектараў умоўнага ворыва, павелічэнне міжрамонтных тэрмінаў эксплуатацыі тэхнікі, сістэматычнае павышэнне кваліфікацыі маладых механізатараў, уцягненне іх у рух за рацыяналізацыю і вынаходніцтва, за ўсямерную эканомію гаруча-змазачных матэрыялаў і сродкаў на рамонт.

Пленум заклікаў маладых механізатараў выйсці ў паход за эканомію і беражлівасць у сельскай гаспадарцы, за высокапрадукцыйнае выкарыстанне тэхнікі.

Пленум падтрымаў пачын камсамольскіх арганізацый шэрагу прадпрыемстваў прамысловасці, якія вырашылі стварыць «Беларускі камсамольскі фонд запасных частак» для рамонту сельскагаспадарчых машын у нашай рэспубліцы і на цаліне.

Адной з ударных задач беларускага камсамола сёлета будзе далейшае ўмацаванне кадраў грамадскай жывёлагадоўлі маладымі энергічнымі людзьмі. Вырашана дадаткова паслаць для работы на фермы 20—25 тысяч юнакоў і дзяўчат з тым, каб у 1961 годзе давесці лік моладзі, занятай у жывёлагадоўлі да 100 тысяч чалавек. Гэтая работа будзе праводзіцца пад лозунгам: «Зробім фермы камсамольскімі, а іх калектывы — камуністычнымі!»



Пры гэтым асаблівая ўвага будзе звернута на падбор больш адукаваных юнакоў і дзяўчат і перш за ўсё з ліку выпускнікоў сярэдніх школ. Але паслаць моладзь на работу ў жывёлагадоўлю, як адзначыў пленум, — гэта толькі палова справы. Галоўнае — замацаваць маладыя кадры ў жывёлагадоўлі, навучыць юнакоў і дзяўчат працаваць высокапрадукцыйна, нястомна ўкараняць у вытворчасць усё новае і прагрэсіўнае. Сёння да лозунга «Моладзь — на фермы!» мы павінны дадаць лозунг «Вучыцца майстэрству!».

Многа ўвагі аддаў пленум ЦК ЛКСМБ удзелу камсамола ва ўкараненні ў сельскагаспадарчую вытворчасць дасягненняў навукі і перадавой практыкі. У вырашэнне гэтай надзённай і важнай праблемы адчувальны ўклад можа ўнесці сельскі камсамол рэспублікі і асабліва моладзь, якая мае сярэднюю адукацыю. За апошнія гады ў калгасную вытворчасць нашай рэспублікі прыйшло каля 45 тысяч дзесяцікласнікаў. Гэта новы чалавек на вёсцы, высокаадукаваны і культурны, ён умела выкарыстоўвае ў сваёй працы набытыя ў школе веды. Ён уважліва сочыць за ўсім новым, што нараджаецца ў сельскагаспадарчай вытворчасці, цікавіцца эканомікай гаспадаркі, хутка і ўмела пераймае прагрэсіўныя метады працы, развівае і ўдасканальвае іх.

Вось адзін з прыкладаў. У Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці ў калгасах працуе каля 1 500 юнакоў і дзяўчат з сярэдняй адукацыяй. 110 з іх завочна вучыцца ў ВНУ і тэхнікумах. Гэтыя людзі — вялікая сіла. Яны здольны зрабіць і робяць вельмі многа па ўкараненню ў вытворчасць дасягненняў навукі і перадавой практыкі. Пры іх актыўным удзеле ў раёне шырока прымяняецца квадратна-гнездавая сяўба, хімічны спосаб барацьбы з пустазеллем, правільна ўносяцца арганічныя і мінеральныя ўгнаенні; у жывёлагадоўлі прымяняюцца такія прагрэсіўныя метады, як групавое і бесстаночнае, свабодна-выгульнае ўтрыманне жывёлы, штучнае абсеменьванне, паскораны адкорм маладняку, кармавыя антыбіётыкі і біястымулятары. Каардынуе і накіроўвае работу па ўкараненню дасягненняў навукі і перадавога вопыту ў калгасах створаны пры райкоме камсамола савет маладых спецыялістаў, які шырока прапагандуе вопыт перадавікоў, арганізуе семінары па абмену вопытам.

Крыху інакш, але таксама па вельмі добраму шляху пайшлі маладыя хлебаробы калгаса «17 верасня» Нясвіжскага раёна. Тут створана так званая творчая лабараторыя. Імкнучыся зрабіць сваю працу і веды максімальна карыснымі для калгаса, былыя дзесяцікласнікі аб'ядналіся ў шэраг творчых секцый, мэта і задача якіх — змагацца за ўкараненне ў вытворчасць дасягненняў сельскагаспадарчай навукі.

Выдатная ініцыятыва нясвіжскіх камсамольцаў-дзесяцікласнікаў падтрымана ў шэрагу іншых калгасаў і саўгасаў рэспублікі. Трэба, каб гэты высакародны рух з дня ў дзень шырыўся, рос, каб ён знайшоў сваіх гарачых прыхільнікаў у кожнай арганізацыі.

* * *

На Пленуме ЦК КП Украіны, на нарадах перадавікоў сельскай гаспадаркі ў Растове, Тбілісі, Варонежы Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў



**Іна Осіпчык—цялятніца з калгаса «Барацьба» Пухавіцкага раёна.**

сказаў многа цёплых і добрых слоў аб моладзі. У яго словах не толькі клопат аб нашым пакаленні. У іх высокая патрабавальнасць, надзея і вера ў новыя гераічныя здзяйсненні, якімі так багата гісторыя Ленінскага камсамола. На нарадзе ў Варонежы Мікіта Сяргеевіч гаварыў:

«Камсамол, наша савецкая моладзь — гэта вялікая сіла, таварышы. Яны з'яўляюцца піянерамі многіх слаўных спраў... Калі наша моладзь не толькі з задорам, але і з вялікімі ведамі, якія яна мае, актыўна ўключыцца ў барацьбу за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі, дык яна даб'ецца вялікіх вынікаў».

Для камсамольцаў, юнакоў і дзяўчат Беларусі, як і для ўсёй савецкай моладзі, няма нічога даражэй за гэтае прызнанне іх заслуг.

Але ў той жа час мы разумеем, што гэтая ацэнка патрабуе ад нас, усіх камсамольскіх важакоў і камітэтаў, працаваць у сто разоў лепш, спалучыць творчасць і энергію моладзі з пастаянным імкненнем, пошукамі новых, больш дасканалых форм арганізатарскай і палітычнай работы сярод моладзі. Вось чаму ўдзельнікі V Пленума ЦК ЛКСМБ так адкрыта, проста і востра гаварылі пра тых, хто сваімі недастойнымі паводзінамі, пустазвонствам, выхваленнем, ашуканствам кідае цень на камсамол рэспублікі. Брэсцкая абласная арганізацыя не выканала ні аднаго свайго абавязацельства, хоць шмат «трубіла» пра свае «подзвігі». Па шэрагу паказчыкаў не выканалі абавязацельстваў Магілёўская, Гомельская, Мінская арганізацыі. Работнікі Бешанковіцкага райкома камсамола Віцебскай вобласці ўнеслі ў справаздачу дутыя лічбы. У Гомельскім райкоме камсамола прыпісалі сабе поспех пажылой свінаркі.

Беларуская камсамольская арганізацыя — баявы, дружны і моцны атрад ВЛКСМ. Пленум ЦК ЛКСМБ выказаў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што яна здолее пазбавіцца гэтых недахопаў, даказаць справамі трэцяга года сямігодкі сваю баявітасць, сваю бязмежную адданасць партыі.

Бягучы год асаблівы, незвычайны. Гэта год склікання чарговага XXII з'езда КПСС. Таму кожны камсамольскі работнік і актывіст, кожны юнак і дзяўчына павінны ясна ўсвядоміць, што сёлетні год будзе сур'ёзным экзаменам, баявым выпрабаваннем для ўсяго нашага актыву, для ўсіх камсамольскіх кіраўнікоў. Кантраляваць нашу работу будзе само жыццё, яно ж будзе для нас і самым строгім экзаменатарам.

Адно бясспрэчна, што беларуская моладзь, маладыя працаўнікі вёскі давер'е партыі, высокае давер'е народа апраўдаюць з гонарам.



## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**У буднях сямігодкі, у нашай імклівай хадзе наперад нараджаюцца ўсё новыя імёны — яркія маякі, што асвятляюць шлях у будучыню. Ці ж не такі маяк — даярка саўгаса „Падалессе" Рэчыцкага раёна камсамолка Ніна Пастухова? На механізаванай ферме саўгаса яна адна спраўляецца падаіць 95 кароў.**

**— Мы, работнікі, якія заняты ў жывёлагадоўлі, — гаворыць Ніна Пастухова, — абяцаем, што да адкрыцця XXII з'езда роднай камуністычнай партыі даб'ёмся новых перамог у працы. Я асабіста абавязваюся ад замацаванага за мною статку надаіць 2 200 цэнтнераў малака.**

**Слова камсамолкі — цвёрдае, непарушнае.**

Фота Ф. БАЧЫЛЫ.



**Токар Эдуард Жукоўскі эканоміць за змену каля гадзіны рабочага часу, за які можна зрабіць 25—30 ротараў.**

# МІНУТА — ГЭТА ВЕЛЬМІ МНОГА

Здарылася мне нядаўна ехаць на прыгарадным аўтобусе. Мой сусед, малады чалавек, раз-поразу даставаў з кішэні блакнот, нешта занатоўваў, маляваў нейкія фігуры, вылічваў...

Мы разгаварыліся. Малады чалавек паведаміў, што ён з завода «Электрарухавік». Яго ўвагу займае прыстасаванне да такарнага станка, якое дапаможа берагчы каштоўныя мінуты рабочага часу. Я меў неасцярожнасць выказаць на гэты конт сваё сумненне. Сусед строга паглядзеў мне ў вочы і спытаў:

— Што, не верыце? Малады...

Я прамаўчаў.

— А ведаеце, што лаўрэат Ленінскай прэміі, член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР Ігар Шафарэвіч стаў доктарам у 23 гады? А Сяргей Маргелян за сваё навуковае адкрыццё атрымаў ступень доктара навук у 20 гадоў. Справа тут, выходзіць, не ва ўзросце...

Ён памаўчаў крыху і, ужо зусім не звяртаючы на мяне ўвагі і думаючы нешта сваё, прадаўжаў:

— Тут трэба браць працай, хоць, вядома, патрэбны і здольнасці...

Размова спынілася. Але калі аўтобус ужо ішоў па вуліцах Магілёва, сусед раптам спытаў:

— А ведаеце, што азначае адна мінута рабочага часу?

Пытанне было нечаканае і застала мяне знянацку.

— Гэта вельмі многа,— адказаў я.— Асабліва, калі браць у маштабе краіны...

Сусед раптам павесялеў.

— То-та ж,— працягнуў ён, усміхнуўшыся.— А вось чаму ў нас яшчэ некаторыя лічаць, што мінута — гэта дробязь. Часам пачуеш: «Пачакайце мінутку» ці: «Справа адной мінуты»...

Мой спадарожнік пасля невялікай паўзы гаварыў:

— Мяне заўсёды абурае такая абыякавасць да мінуты. Вось у нас у электраматорным цэху працуе Тамара Паўлава. Для яе мінута — гэта нішто. І колькі я ёй ужо ні даводзіў, што трэба берагчы мінуту, а пераканаць не магу. Мы Тамару нават у нашай гумарыстычнай газеце «Паяльнік» раскрытыкавалі за тое, што яна часта пакідае рабочае месца, каб абмяняцца «інфармацыямі» са сваімі сяброўкамі...

У гэты час аўтобус дайшоў да прыпынку. Пасажыры пачалі выходзіць. Устаў і мой сусед. На развітанне сказаў:

— Недаравальна, што на камсамольскіх сходах мы не абмяркоўваем тых, хто не беражэ рабочай мінуты. Вось калі хто брак дапусціць, з таго спаганяем. А калі б мы раней пацікавіліся, на што чалавек траціць рабочыя мінуты, да чаго імкнецца ў жыцці, як змагаецца за сваю мару абагнаць час,— вось гэта была б дапамога!..

Мы рассталіся, а ў вушах у мяне яшчэ доўга гучэў голас цікаўнага маладога чалавека: «А ведаеце, што азначае адна мінута рабочага часу?» Гэтае пытанне ўжо не толькі патрабавала адказу, але і наводзіла на роздум.

У час Вялікай Айчыннай вайны ўсюды можна было пачуць: «Што ты зрабіў для фронта?» І цяпер, калі намаганні ўсяго народа накіраваны на выкананне вызначаных партыяй планаў, штодзень мы чуем такое ж: «Што ты ўнёс у фонд сямігодкі?»

Веру, што такія заклікі дапамагаюць кожнаму — старому і маладому — вызначыць сваё месца ў агульным страі, працаваць, ствараць у імя здзяйснення сваёй мары.

* * *

Працавітасць — выдатная рыса савецкага чалавека. Любоў да працы ў нас выхоўваецца з маленства. І гэта дае свае цудоўныя вынікі. На заводах і фабрыках, на калгасных і саўгасных палях натхнёна працуе моладзь.

Заглянем у цэхі завода «Электрарухавік», дзе працуюць Тамарыны таварышы. Мы ўбачым, што большасць пера- давікоў — гэта маладыя людзі. А калі спытаеце, што яны зрабілі для таго, каб рацыянальна выкарыстаць кожную рабочую мінуту, вам ахвотна раскажуць пра гэта і прывядуць характэрныя прыклады.

Думка пра эканомію рабочага часу даўно хвалявала маладога токара Эдуарда Жукоўскага. Ён апрацоўвае сардэчнікі — складаныя дэталі электраматораў. Згодна тэхналогіі, Эдуарду неабходна рабіць два пераходы, два разы спыняць станок. Каб не траціць на гэта час, камсамолец рашыў апрацоўваць дэталь, не спыняючы станок.

— Дарэмна тлуміш галаву, дробязны будзе выйгрыш,— адгаворвалі хлопца маловеры.

Але падлікі паказалі, што на апрацоўцы кожнай дэталі па новай тэхналогіі можна сэканоміць аж трыццаць секунд. А колькі гэта збярэцца за змену, за месяц, за год! І малады токар з дапамогай спецыялістаў узяўся за новую тэхналогію.

Эдуард цяпер эканоміць за кожную змену каля гадзіны. Гэтага дастаткова, каб зрабіць звыш плана каля 25—30 ротараў. Вось, аказваецца, якая цана трыццаці секунд, што траціліся раней на непрадукцыйнае спыненне станка.

Секунды. Яны заўсёды вельмі дарагія, калі ты, малады сябар, няспынна шукаеш шляху паляпшэння тэхналогіі вытворчасці, павышэння прадукцыйнасці працы.

За долі секунды з натхненнем змагаюцца людзі, якія заняты на аўтаматычнай лініі па апрацоўцы вінтоў.



**— Наша Рая беражэ кожную мінуту,— гавораць на заводзе пра мантажніцу Раю Бляеву** (злева). **Яна цярпліва перадае свой сакрэт Паліне Жылавачык.**

Працэс вырабу вінта пачынаецца на халодна-высадачным аўтамаце. Сталёвы дрот няспынна паступае на лінію адрэзкі, а адтуль — у магазін аўтамата, які вырабляе паўфабрыкаты вінта з гатовай галоўкай. Затым на другім аўтамаце вінты шліфуюцца і на галоўках робіцца прарэз для адвёрткі. Аперацыя займае ўсяго адну секунду. Але вінт трэба апрацаваць, абчысціць завусеніцы пасля шліфоўкі. Гэта імгненна робіць трэці станок-аўтамат. І вось амаль што гатовы вінт паступае на аўтамат для нарэзкі разьбы. Тут таксама ўсё робіцца за долі секунды.

Кожную мінуту аўтаматычная лінія выпускае 84 вінты. А за змену іх вырабляецца дзесяткі тысяч.

У стварэнні такой аўтаматычнай лініі па апрацоўцы вінтоў вялікая заслуга тэхнолагаў. Але ж не мала тут зрабілі і камсамольцы, іменна яны дапамаглі хутчэй асвоіць аўтаматыку.

...Маладую мантажніцу Раісу Бяляеву мы засталі за бандажыроўкай вывадных канцоў электраматораў. Добрыя навыкі і дасканалае веданне чарцяжоў патрабуецца ад кожнага мантажніка. Увесь працэс тут строга разлічаны. Здаецца, немагчыма сэканоміць ні адной мінуты. Але Рая Бяляева і яе сяброўкі, якія дасканала асвоілі спецыяльнасць, і тут умудраюцца знайсці рэзервы часу.

— Наша Рая беражэ кожную мінуту,— гавораць пра камсамолку на заводзе.

І гэта сапраўды так. Варта прыгледзецца, як працуе дзяўчына, як адразу ўбачыш, што ў яе ні адна секунда не трацiцца дарэмна. Дакладныя і разам з тым спакойныя, размераныя рухі яе рук. Вось яна ўзяла два провады і, прыклаўшы іх адзін да другога, абматала ізаляцыяй. Вывадны канец першай фазы матора ўжо гатовы, і Рая бярэ другую пару правадоў. Зноў імгненны позірк на чарцёж, і другая, а затым і трэцяя фазы выведзены.

Побач працуе Паліна Жалавачык. Знешне здаецца, што і Паліна завіхаецца хутка, але вынікі ў яе не такія. Узяўшы вывадныя канцы, мантажніца памкнулася ўжо бандажыраваць іх, але аказалася, што гэта не тыя правады. Страчана не так ужо шмат часу — секунд 30—40, але ж і з гэтых секунд хутка набягаюць мінуты.

Да сяброўкі падыходзіць Рая Бяляева. Цярпліва паказвае ёй, як трэба рабіць, раскрывае перад ёю свой «сакрэт».

Узаемадапамога — характэрная рыса людзей, якія працуюць на заводзе. І ў гэтым «сакрэт» яго вытворчых поспехаў.

* * *

Зойдзем у другое прасторнае памяшканне, да інструментальшчыкаў. Наш позірк спыніўся на плакаце-закліку: «Усе 420 мінут — вытворчасці!» І калі ўдумацца, то ў гэтых словах і ёсць ключ да разгадкі поспехаў маладых рабочых.

...Характэрны гул станкоў і посвіст стружкі, ствараюць той непаўторны ансамбль гукаў, які пачуеш толькі на металаапрацоўчым прадпрыемстве.

З сакратаром цэхавай камсамольскай арганізацыі слесарам Алегам Зайцавым мы праходзім ля станкоў і варштатаў, над якімі схіліліся токары, слесары, шліфоўшчыкі. Гэта яны першымі на заводзе заваявалі званне ўдарнікаў камуністычнай працы.

Вось ля варштата — камсамолец Леанід Васараўдзіс. Леанід вярнуўся ў цэх пасля службы ў арміі і за кароткі час стаў кваліфікаваным рабочым. Цяпер ён рыхтуе аснастку для механаштамповачнага цэха. Гэта адказнае заданне. Трэба дакладна ведаць чарцяжы, разнастайныя шаблоны, умець хутка зрабіць прыстасаванні да станка. Леанід усё гэта ўмее. Ён — нястомны рацыяналізатар. Узяць хаця б яго апошнія прапановы змяніць канструкцыю ўтулкі да блокаў штампа. Дзякуючы гэтай яго навінцы, прадукцыйнасць працы вырасла на 13 працэнтаў і значна скараціўся расход металу.



**Рэм Меднікаў — не толькі тэхнолаг, але і член грамадскага канструктарска-тэхналагічнага бюро. Ён заўсёды гатовы памагчы рацыяналізатару. На гэты раз да яго зайшоў слесар Валянцін Ліпееў.**





**Цудоўныя хлопцы ў інструментальным цэху!** (Злева направа): **Барыс Бязменаў, Генадзь Каплун, Леанід Васараўдзіс, Алег Зайцаў і Уладзімір Шалохін.**

Спорыцца праца і ў Барыса Бязменава. Міжволі залюбуешся яго ўпэўненымі рухамі. Прыемна глядзець, як Барыс бярэ загатоўку, устаўляе ў спецыяльнае прыстасаванне і падводзіць яго да лёркі — інструменту для нарэзкі разьбы. Нейкую долю секунды патрон разам з лёркай варочаецца. Рух назад — і дэталь гатова...

Змена яшчэ не закончана, а ў Барыса ўжо 135 працэнтаў нормы.

Па суседству з Барысам працуе спакойны малады слесар Валянцін Ліпееў. Яму даручана таксама нарыхтоўка аснасткі для цэхаў. Валянцін, як і іншыя хлопцы, дбайны рацыяналізатар. Ён нядаўна, напрыклад, злучыў два штампы, і цяпер адзін упраўляецца за дваіх рабочых.

Калі мы пачалі размову з Валянцінам, ён сказаў:

— Пра мяне часам гавораць: маўляў, рацыяналізатар ты. І хоць прыемна чуць такое, а ў душы я не згаджаюся. І вось чаму. Вы чулі, напэўна, пра нашага тэхнолага Рэма Меднікава. Ён не толькі дапытлівы, але і ведамі ўзброены. Іменна гэта дапамагае яму бачыць далей і лепш за іншых, прапанаваць іншы раз такое, ад чаго нават самыя кваліфікаваныя канструктары дзівяцца. Аб гэтым я ведаў і раней, але калі пабываў у Рэма, пагутарыў, пабачыў яго асабістую тэхнічную бібліятэку, неяк сорамна стала: я ж да гэтага часу да ўсяго даходжу больш дапытлівасцю ды рукамі, а вось ведаў малавата...

Валянцін адышоў да варштата і ўзяўся за работу. А потым павярнуўся і коратка дадаў:

— А вы ўсё ж пазнаёмцеся з нашым Меднікавым...

Карыстаючыся парадай Валянціна, мы пайшлі ў канторку начальніка цэха. Вось тут я і сустрэў свайго спадарожніка па аўтобусу. Гэта быў Рэм Меднікаў. У хлопца за плячыма ўжо вялікае жыццё. Свой працоўны шлях ён пачаў на заводзе, ля станка. Працуючы, закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум. Ужо тады хлопец прапанаваў такі рэдуктар, які дазволіў намнога паскорыць намотку пружын. Гэта была першая праверка сіл. І яна прайшла даволі ўдала. Пасля таго малады тэхнолаг унёс рад каштоўных прапаноў, якія садзейнічаюць зберажэнню рабочага часу. А колькі ён дапамагае сябрам-рацыяналізатарам у цэху! І гэта зразумела. Рэм — не толькі тэхнолаг, рацыяналізатар, але і член канструктарска-тэхналагічнага бюро.

І на гэты раз, калі мы зайшлі ў канторку да Рэма, ён сядзеў за чарцяжамі...

Не выпадкова, выходзіць, гавораць: калі хочаш ведаць чалавека, паглядзі на яго справы.

Цудоўныя хлопцы ў інструментальным цэху. Усе 420 мінут змены яны аддаюць заводу, вытворчасці, сваёй любімай працы.

Мы прывялі толькі некалькі прыкладаў таго, як моладзь завода «Электрарухавік», стаўшы на працоўную вахту ў гонар XXII з'езда КПСС, змагаецца за эканомію часу. Але і гэтыя прыклады пераканаўча сведчаць пра тое, якіх поспехаў яна ўжо дамаглася. Такія магчымасці ёсць на кожным прадпрыемстве, на кожным рабочым месцы.

Эканоміць час можна і трэба заўсёды і ўсюды. Смялей жа станавіся, малады сябар, у рады змагароў за тэхнічны прагрэс, за здзяйсненне планаў сямігодкі.

г. Магілёў.

**Міхась АЛІСЕЙКА.**

Фота **А. Дзітлава.**

# *Гары, камсамольскі агонёк!*

## ТАКІЯ Ў НАС СЭРЦЫ...

### Пра факультэцкія будні

Хто вінават, што проста на перон
Выходзяць вокны універсітэта
І што фізмат падобен на вагон,
Аблуплены, пабачыўшы
паўсвета?..

Такі верш аднойчы чытаў на вечары адзін з хімфакаўскіх паэтаў. Пасля канцэрта да яго падышоў дэкан. Хлопцы перадалі паэту, што дэкан неяк дзіўна слухаў вершы: уважліва і без усмешкі. Але паэт быў чалавек рашучы.

— Галубок, — мякка прамовіў дэкан. — Растлумачце мне, калі ласка, ідэю вашых вершаў.

Слова «вашых» ён падкрэсліў, нібы вымаўляў яго з вялікай літары. Паэт загаварыў аб рэвалюцыйнай рамантыцы.

— Гм... Значыць, прага падарожжаў... Галубок, калі вы не здасцё «хвост» па тэарэтычнай фізіцы, у вас будзе шмат часу для падарожжаў. І яшчэ: займіцеся грамадскай работай. Гэта таксама ратунак ад суму.

Студэнт пераздаў тэарэтычную фізіку, але вершы пісаць не кінуў, хоць дэкан і намякаў, што паэт — непажаданая з'ява на хімфаку. Між тым, у гэтага паэта шмат аднадумцаў. Тут усе паэты, прынамсі, у душы.

Гэты выпадак я расказаў, каб зацікавіць чытача. Мне вельмі хочацца, каб вы ўсё гэта прачыталі да канца, бо пішу я пра сваіх сяброў.

* * *

Калі вам даводзілася бываць ва ўніверсітэцкім гарадку, то напэўна заўважылі, што за біякорпусам стаіць трохпавярховы будынак хімічнага факультэта. Насупраць яго — двухпавярховы старэнькі фізмат. Паэт якраз і ўбачыў фізмат на лекцыі праз акно...

У хімкорпусе не адны хімікі, там яшчэ і географы. Але хімікі клянуцца, што адразу «выкінуць» географаў, як толькі будзе дабудаваны галоўны корпус. Географы згодны. Яны не пераносяць пах серавадароду.

Пакуль што цесна. Факультэт расце. Зараз хімікаў чатырыста, і з кожным годам будзе ўсё больш. Гэтага патрабуе жыццё.

Пацікавімся факультэцкімі буднямі хімікаў.

## ЗНАЁМЦЕСЯ, ДЗЯРБІНСКІ...

Ігар належыць да той нешматлікай групы студэнтаў, з якімі за руку вітаецца сам дэкан. Гэта — вялікі гонар, і Ігар яго заслугоўвае.

... Лабараторыя аналітычнай хіміі. Тут займаецца другі курс. Вольга Раманаўна Скараход здзіўлена: няма чатырох студэнтаў. Між іншым, адзін неўзабаве з'явіўся. Ён спазніўся. Ён клянецца, што гэта апошні раз.

— Разумееце, Вольга Раманаўна...

Вольга Раманаўна разумее:

— Трэба менш спаць, таварыш Л.

Толькі праз гадзіну прыходзяць Тадэуш Адамовіч, Ігар Дзярбінскі і Дзіма Кляўчэня. Усе трое — члены факультэцкага бюро ЛКСМБ. Сёння яны выбіралі сакратара.

— Ну, як?

— Можаце павіншаваць Ігара, — нялоўка ўсміхаецца Тадэуш. Ён крыху злосны. А мы віншуем Ігара і прыгадваем учарашні камсамольскі сход. Выбіралі бюро. Нехта дазнаўся, што дэканат загадзя прызначыў Тадэуша сакратаром бюро. Гэта здзівіла хімфакаўцаў. Доўга шумелі, крычалі, галасаванне ішло сорак дзве хвіліны. Тадэуш у бюро прайшоў, але барацьба на гэтым не спынілася. Барацьба прадаўжалася і ў бюро. І вось сакратаром выбралі Ігара.

Уласна кажучы, чаму мы яго віншуем? Што мы ведаем аб ім?

Мінчанін. Закончыў ваеннае вучылішча, служыў у званні малодшага лейтэнанта. Дэмабілізаваўся. Прыёмныя экзамены ва ўніверсітэт здаваў у ваеннай форме, не паспеў купіць цывільны гарнітур. Вучыцца добра. Хлопец як быццам нядрэнны...

Так думаем мы. А Ігар робіць доследі таксама, напэўна, думае. Думае аб тым, што работа камсамольскага важака цяжкая і адказная. Патрэбен час, шмат часу! Ігар узмахнуў рукой і нечакана ўпусціў прабірку.

Збоку чуваць:

— Князь Ігар таксама быў



Ігар Дзярбінскі — сакратар факультэцкага камітэта камсамола.



Бясспрэчна, што гэта начынне належыць хімфаку.



Мар'ян Грыгаровіч зрабіў неяк у інтэрнаце сенсацыйны здымак—за кучай смецця на газавай пліце гаспадарыць кот.

вялікі палкаводзец, але нашто ж прабіркі крышыць?

Час! Добра, што цяпер у Ігара вольнае наведванне лекцый. Ён жа не толькі сакратар. Ён яшчэ і член зборнай універсітэта па футболу. Хацелася б і ў навуковым гуртку папрацаваць... Але, напэўна, не выйдзе.

Уладзімір К., былы сакратар, нядрэнна чытаў справаздачны даклад. Студэнты яго цэняць, работу бюро прызналі здавальняючай. Яго паважалі і дэкан, і студэнты, але... Ігару здаецца, што ён амаль нічога не рабіў. Праўда, ёсць нейкія поспехі ў спорце на факультэце. Дык гэта заслуга трэнераў. А мастацкай самадзейнасці зусім няма. Насценгазета выпускалася абы-як...

З гэтага дня Ігара можна было бачыць ва ўніверсітэце і днём, і ўвечары. Вядома, не ўсе лічылі, што гэта Ігарава заслуга, што пачаліся рэпетыцыі хору, народную дружыну хімфака ўжо лічаць лепшай. Усе ніці, якія звязвалі Ігара з факультэтам, так і засталіся незаўважаныя.

Звычайна, убачыўшы гэтага светлавалосага акуратнага студэнта, хімфакаўцы перагаворваліся:

— Зноў Дзярбінскі пабег. Працуе хлопец!

Аднойчы мы сустрэліся ў оперы. Разгаварыліся. Гэта быў адзін з нямногіх вечароў, калі Ігар быў не заняты і адпачываў. Ён гаварыў:

— Як я арганізую сваю работу? Бачыш, у нас на факультэце з'явілася каля дзесятка вельмі актыўных фігур...

## ГАЗЕТА ПАДАЕ ГОЛАС

Вы ведаеце, што такое хромавая сумесь? Гэта вельмі неабходная для хіміка рэч. Робяць яе так: у фарфоравую шклянку насыпаюць храмат калію і ў адпаведнай прапорцыі даліваюць канцэнтраваную серную кіслату. Гэтым рэактывам карыстаюцца для мыцця хімічнага посуду. Хромавая сумесь выпальвае ўсякі бруд. Яе імем і названы сатырычны аддзел нашай насценгазеты «Савецкі хімік».

У мінулым годзе «Хромавая сумесь» у нас з'яўлялася рэдка. Значна радзей, чым сумныя матэрыялы аб тым, як рыхтавацца да сесіі.

— Я лічу, — сказаў новы рэдактар Віталь Змітравіч Сташонак, — што «Хромавая сумесь» павінна быць у кожным нумары.

Рэдкалегія згадзілася.

— І здымкаў больш, — заўважыў нехта.

— Ну, гэта ўжо справа Мар'яна, — усміхнуўся Сташонак.

Эх, Мар'ян, Мар'ян! Ці ж калі было такое, каб першакурсніка ведаў увесь факультэт? А Мар'яна Грыгаровіча ведаюць літаральна ўсе хімікі. І лаюць:

— Пранырa! Усюды паспее...

Мар'ян увекавечыў «гістарычны момант»: сустрэчу хімікаў з неграм, які прыехаў вучыцца ў Маскоўскі ўніверсітэт. Як ён трапіў да нас — гэта ведае толькі адзін Мар'ян.

Мар'ян «увекавечыў» і другі не менш «гістарычны момант» — як студэнт чацвёртага курса Уладзімір Гараеў, прызёр XVII Алімпійскіх гульняў, даваў сваім сябрам шахматны сеанс на сямі дошках.

Ён жа зрабіў у інтэрнаце сенсацыйны здымак — куча смецця на газавай плітцы. З-за кучы выглядае кот. Пад гэтым здымкам быў зроблены надпіс: «Хімікі спаборнічаюць па чысціні з гісторыкамі».

Не дзіўна, што студэнты цяпер тоўпіліся ля кожнага новага нумара газеты. І не толькі таму, што там шмат здымкаў. Газета стала зусім іншай. У ёй паявіліся нарысы, дыскусіі і нават вершы. Вершы пад загадкавым псеўданімам «ЭС».

«ЭС» — Віталь Змітравіч Сташонак.

Сташонак... Як яго зразумець? Як зразумець яго ўсмешку? Ён заўсёды ўсміхаецца. Пры гэтым яго вусы надзімаюцца. Наогул жа — чалавек загадкавы. Выкладчык, але актыўна робіць студэнцкую газету. Навошта гэта яму? Кажуць, зласлівы ён чалавек...

Так думалі студэнты. Але прайшоў некаторы час, і ўсё змянілася. Ігар не дарэмна залічыў гэтага чалавека ў спіс дзесяці лепшых. Віталю Змітравічу трыццаць год, але ён захаваў у сваёй душы агонь студэнцкіх дзён, іх рамантыку. Ні секунды без руху! — такі яго лозунг.

Нумар за нумарам, адзін лепшы за другі. Прыгожыя, цікавыя, змястоўныя. Газета пранікае ва ўсе тайнікі факультэцкага жыцця. І раптам — удар!..

Адразу пасля сходу рэдкалегія зрабіла нечарговы выпуск. У гэты ж дзень нехта выразаў крытычную заметку. Упершыню нахмурыўся дабрадушны Сташонак.

З наступнага нумара нехта злупіў фотакартку. Мар'ян праклінаў «шкоднікаў», але рабіў новыя здымкі. І аднойчы гэтых «шкоднікаў» злавілі. Гэта былі дзве дзяўчыны з фізічнага факультэта. Мар'ян фатаграфаваў іх з усіх бакоў. Потым выпусцілі «Маланку»...

У лабараторыі халаднавата. Мастакі Галя Кісляк і Віктар Мальцаў рыхтуюць чарговы нумар. Работы шмат. Фантазія рэдактара знайшла тэмы для дзесяткаў карыкатур. Сам рэдактар наладжвае магнітафон. І раптам з ленты чутна:

Забота у нас простая,
Забота наша такая:
Жила бы газета родная,
И нету других забот...

Гэта спяваюць члены рэдкалегіі.

Уваходзіць Ала Кніга. Яе абавязак — збіраць матэрыялы. На гэты раз яна нясе ў руках не лісткі з абыякава накіданымі допіса-




— Я лічу, — гаворыць рэдактар факультэцкай насценгазеты Віталь Змітравіч Сташонак (злева), — што «Хромавая сумесь» павінна быць у кожным нумары.



Гэта сапраўдны студэнцкі хор хімфака. Рэпетыцыю вядзе Віталь Перзашкевіч.

мі. Не! У яе руках свежы нумар «Беларускага ўніверсітэта».

— Глядзіце, нас хваляць, — усміхаецца Віталь Змітравіч. — На першай паласе здымак: ля стэнда «Савецкага хіміка» гурбою студэнты. І надпіс: «Кожны нумар насценнай газеты «Савецкі хімік» прыцягвае ўвагу студэнтаў багатай ілюстрацыяй, жывым зместам».

Пакуль Віталь чытае, усе рагочуць. Віктар Мальцаў, мастак, знаўца «Дванаццаці крэслаў» і Казьмы Пруткова, заўважае:

— Таварышы, можа і нам сфатаграфавацца з газетай «Беларускі ўніверсітэт» у руках і напісаць тое ж, што і ў іх напісана?

— Ідэя! — падхоплівае рэдактар.

## НАРАДЖЭННЕ ХОРУ

Вы памятаеце, з чаго пачынаўся гэты расказ пра факультэцкія будні? З таго, як паэт чытаў на вечары вершы. Гэта быў, здаецца, апошні канцэрт на хімфаку. Пасля таго наступіў нейкі перапынак...

Рэакцыя, як кажуць хімікі, спынілася. І вінаваты ў гэтым былі не толькі каталізатары — адказныя за розныя мерапрыемствы. У гэтым былі вінаваты ўсе.

Але што гэта?

... Дорога, дорога
Нас в дальние дали зовёт...

Гэта быў адзіны нумар хімікаў на святочным вечары. Каля трыццаці другакурснікаў з заміраннем сэрца выйшлі на сцэну. І цяжка сказаць, хто больш з іх хваляваўся: Саша Пераверзеў, які акампанаваў хору, Жэня Емельянаў — запявала паняволі (усе спазняліся, а ён не), Жана Тэйф ці Гвідона Шаўчэнка... Напэўна, хваляваліся ўсе. Напэўна таму і спявалі, хто ў лес, а хто па дровы.

... Дорога, дорога...

Дарога, між іншым, толькі пачыналася. У мінулым годзе хімфак не выставіў на агляд ні аднаго нумара. І раптам шквал воплескаў!.. Гэта стараліся хімікі: як жа, свой хор з'явіўся! Неяк не так сорамна перад гісторыкамі, якіх сюды запрасілі.

Гвідона з палёгкай уздыхнула. Усё ж больш за ўсіх хвалявалася яна. У апошні час яе бачылі ўсюды. Танклявая чорненькая дзяўчынка заўсёды некага катурхала, некага ўпрошвала, камусьці загадвала. І вось — нешта ёсць...

А ў «вышэйшых сферах» заварушыліся. Ігар Дзярбінскі тэрмінова склікаў бюро. Пастанавілі ініцыятыву другога курса падтрымаць. Але як і чым? Дзе знайсці кіраўніка? І ў гэты момант з цёмю выплыла новая актыўная фігура.

Ён сам прыйшоў на заняткі хору. Саша Пераверзеў уступіў яму піяніна. Ён назваўся глухаватым голасам:

— Віталь Перзашкевіч.

Хлопец ўпэўнена ўдарыў па клавішах. Гукі вырываліся неяк па-асабліваму — чыста і цвёрда. Ён іграў, а харысты ўгадвалі мелодыі і перашэптваліся:

— Перзашкевіч? З чацвёртага?

Пра яго даўно чулі як пра здольнага музыканта. Але Віталь вельмі рэдка іграў на вечарах. У гэтага бялявага хлопца быў асаблівы характар: ён не цярпеў грубага тону загаду, а да яго ж іменна так і звярталіся:

— Віталь, ты павінен...

— Віталь, ты абавязан...

— Слухайце, Перзашкевіч, ці не час вам пайсці ў фехтавальную секцыю?

— Але ж я займаюся барацьбой!

— Факультэту трэба фехтавальшчыкі...

... Але чаму ён сёння тут? Хто ведае, можа яго ўцягнулі другакурснікі, можа яму проста захацелася памагчы...

Ідзе рэпетыцыя. У руках Віталя акардэон.

— Раздзелімся перш за ўсё на галасы, — загадвае ён. — Я хачу вас папярэдзіць, другім галасам можа спяваць чалавек з больш тонкім слыхам і нізкім голасам...

Так, бюро можа быць спакойна. Хор у надзейных руках. Ігар Дзярбінскі можа сюды ўжо і не заходзіць. Ён зрабіў сваё. Хор будзе. Добры хор... Ці не ад гэтага ўсмешка не сыходзіць з твару Гвідоны?

І вось заняткі закончаны. Усе разыходзяцца, але музыка не заціхае. І калі б хто-небудзь зазірнуў у аўдыторыю, ён убачыў бы незвычайны малюнак. На падаконніку, выцягнуўшы доўгія ногі, сядзіць Валодзя Акаловіч. Ля піяніна — Віталь. Побач стаіць Валянцін Базыльчык. Ён ужо не студэнт, ён закончыў хімфак і цяпер працуе ў акадэміі навук. Усіх іх здружыла любоў да музыкі.

Валянцін Базыльчык цудоўна спявае. Іншы раз ён піша вершы, асабліва калі яго папросіць Віталь. А Віталю патрэбны вершы: ён піша музыку. І вось Валянцін спявае песню, якую ён сам стварыў:

Дождями грустными и золотым нарядом
Проходит осень по родимой стороне.
Когда-то здесь тенистым майским садом
Ты приходила на свидание ко мне.

Словы, вядома, невыразныя, набор штампаў, як кажуць. Але ж ці гэта важна?

Часта да іх заглядае Віталь Змітравіч Сташонак. І ўсе ўчацвярых спяваюць хорам. А потым, натаміўшыся, слухаюць, як Віталь іграе «Лунную санату» Бетховена...

— Не разумею, — гаворыць Перзашкевіч, — як гэта я раней абыходзіўся без хору, я ж цяпер без яго жыць не мог бы. Хутка агляд, і я так хвалююся...

І вось агляд. Яго пачалі чытальнікі. Потым выступалі танцавальныя калектывы. Зараз выступіць хор, і будзе відаць, чаго ён варты. «Бо калі хор ні разу не выступаў, яго, лічы, яшчэ няма». Так сказаў Віталь.

Я сяджу побач з членам журы і хвалююся, як і ўсе. Нешта вельмі доўга не падымаюць заслону. А зала шуміць. Зараз будзе дзіва — хімфакаўскі хор! «Зноў запяюць, як тады, на Кастрычніцкія...»

Я штурхаю ў бок члена журы:

— Вы ж добра слухайце...

І вось узнімаецца заслона.

## БУРМАКІНА, II курс...

... Закончылася першая дзея оперы. Ігар Дзярбінскі неяк дзіўна глядзіць на мяне:

— Ты не падумаў, часам, што я сплю?

Ага, вось яно што. Дзіўны чалавек. Як быццам у мяне толькі таго і клопату, што глядзець: спіць Дзярбінскі ці не!

— А я люблю слухаць музыку з заплюшчанымі вачыма. Можа хто падумае, што сплю. А, уласна, рухі артыстаў толькі замінаюць. Глядзі на іх!..

— А якія цудоўныя дэкарацыі!..

— Ну, дэкарацыі, вядома, выдатныя, я іх адразу запамінаю...

— Ты расказвай далей, гэта ж, спадзяюся, не ўсё?

— Чаму я павінен табе расказваць? Ты сам добра ведаеш. Памятаеш, на тым камсамольскім сходзе...

— Калі цябе выбіралі?

— Так. Ну, тады Тадэўш унёс прапанову: «Кожнаму камсамольцу — грамадскае даручэнне». Наогул, Тадэўш — актыўны хлопец. Ён — намеснік сакратара камсамольскага бюро, удзельнічае ў танцавальным гуртку, на хор ходзіць, у секцыю...

— Ну, хопіць пра Тадэўша. Мы, вядома, вінаваты перад ім... Як выконваецца гэта рашэнне? Яго ж усё-такі прынялі?

Ігар усміхнуўся і страсянуў светлай чупрынай.

— Калі хочаш ведаць, праз яго палова ўсіх нашых поспехаў. Палова хімфака працуе ў народнай дружыне, і яшчэ як! Вось арганізуем драмгуртом, і ў самадзейнасці будзе занята больш ста чалавек. І ўсё ж іншы раз я даведваюся пра такія рэчы, што толькі дзіву даюся: як не ведаў раней!.. Ты пра Галю Бурмакіну чуў?

— З другога курса?

— З другога. Наогул, мой курс мне падабаецца. Ну, а гэта дзяўчына — асабліва. Ты ведаеш, што яна другі год ужо шэфствуе над рабочым з аўтазавода?

Імя яго Ваня. Ваня шмат пабачыў у жыцці, але мала добрага. У вайну страціў бацькоў. Выхоўваўся ў дзіцячым доме, паспеў закончыць толькі сем класаў. Потым — рамеснае вучылішча, работа, армія... Дэмабілізаваўшыся, ён стаў працаваць токарам на аўтазаводзе. І захацелася вучыцца далей. Ох, як цяжка вучыцца ў восьмым класе! Асабліва цяжка даецца хімія. Ды яшчэ матэматыка. Што рабіць? Двойкі, двойкі...

І чалавек можа разгубіцца. Аднойчы ён прыйшоў у камітэт камсамола. Ён толькі прасіў, прасіў ціха і няўпэўнена: якая справа студэнтам да яго, рабочага! Яшчэ скажуць: не можаш вучыцца — не трэба. У нас у саміх часу не хапае...

Але ніхто не сказаў яму гэтак. Члены камітэта ажыўлена пераглянуліся: каго можна папрасіць. Той? Заняты. Гэты? Адмовіцца. І раптам нехта прапанаваў:

— А Галя Бурмакіна? Гэтая, што на першым. Яна, напэўна, згодзіцца.

І вось яны сустрэліся... «Які спакойны, ціхі хлопец!» — адразу ж падумала Галя. Ён глядзеў на яе, нахмурыўшыся, і чакаў адказу...

— Ну, што ж. Дзе ты жывеш?

Гэтае «ты» падбадзёрыла Ваню. Ён узняў вочы і ўсміхнуўся.

Так пачалося шэфства. Ды не, не шэфства, а сапраўдная дружба. Ніколі не было выпадку, каб Галя спазнілася на «ўрок», а калі ёй было цяжка прыходзіць да яго ў інтэрнат, Ваня прыязджаў да яе. Гэта была дружба не «ад званка да званка». Галя дапамагала не толькі па хіміі, яе цікавіла ўсё: матэматыка, літаратура...

Можна сказаць шмат добрых слоў і гэтым абмежавацца. Галя ж дапамагала нават у час сесіі. І ў трэцяй чвэрці ў Ваневым табелі з'явілася чацвёрка па хіміі. А год ён закончыў без троек. Па хіміі — пяцёрка.

Здавалася б, на гэтым можна і закончыць. Але ж дружба прадаўжаецца. І Ваня, які горача любіць машыны і марыў паступіць у палітэхнічны інстытут, цяпер загадвае пра хімфак... Яму засталося не так ужо многа — паўтара года. І калі ўвосень 1962 года ў нашым корпусе з'явіцца гэты добры хлопец, не толькі ён — мы ўсе будзем удзячны Галі.

## МУХІНЦЫ

Вілор Андрыянаў пасяліўся ў пакоі са сваімі аднакурснікамі Валодзем Каханоўскім і Славай С. і яшчэ двума першакурснікамі. Яго прызначылі старастам пакоя.

Ён толькі адчыніў дзверы, як адразу зразумеў, што пасада яго — самая надакучлівая на свеце. У пакоі панаваў беспарадак. Злева на ложку былі звалены ў груду чамаданы, зімняя вопратка; на падлозе — шматкі газет. На адным з чамаданаў ляжалі тры класіфікацыйныя пасведчанні. Усе яны сведчылі, што Мухін Барыс... з'яўляецца штангістам, барцом і баксёрам другога разраду.

А вось яшчэ адно пасведчанне. Самбіст! У пашпарце — фотакартка. Шырокі твар, высокі лоб. Рашучы позірк. І Вілор, дзябёлы здаравяк, непрыкметна адчуў незвычайную павагу да гаспадара гэтых дакументаў.

Раптам у пакой з рогатам уляцелі два першакурснікі — адзін сярэдняга росту, другі крыху ніжэйшы.

— А, прывет! Мы цябе чакалі, староста! Давай знаёміцца.

Той, крыху вышэйшы, сказаў:

— Вадзім Болбас.

А другі ледзь не праспяваў:

— Барыс Мухін. А ты хто?

Вілор збянтэжыўся. Дык вось які Барыс Мухін! Прынамсі, на цэлую галаву ніжэйшы за Вілора.

Так невысокі здаравяк Барыс Мухін уладна ўвайшоў у жыццё не толькі Вілора, а ўсяго факультэта. Дазнаўшыся пра яго здольнасці, хлопцы выбралі яго намеснікам начальніка хімфакаўскай народнай дружыны. Вадзім стаў камандзірам звяна.

... Адгрукалі колы. Старэйшыя курсы ад'язджалі «на бульбу». Барыс у задуме стаяў на пероне. Толькі пазнаёміліся, і вось паехаў Вілор... І толькі цяпер Барыс зразумеў, што гэта не толькі сумна. Паехалі старэйшыя курсы! А як жа дружына? Няхай іх сто чалавек, але ж у першакурснікаў няма ніякага вопыту.

Гэта і адчулі ўвечары. Хадзіў Барыс з хлопцамі, хадзіў, а нікога не затрымаў. Вярнуліся ў штаб. Дзяжурны спытаў:

— Што, усё спакойна?

— Так, нікога не затрымалі.

— А чаму?

— Толькі п'яныя трапляліся. І то не вельмі... Ідзе чалавек, крыху хістаецца...

Дзяжурны сурова паглядзеў на хлопцаў.

— Забіраць такіх трэба...

Праз некалькі дзён Барыс пераканаўся, што дзяжурны меў падставы. Дружыннікі прынеслі ў штаб чалавека. Яго знайшлі пад плотам. Чалавек паміраў ад гарэлкі...



**Гэта не поза. Барыс Мухін — народны дружыннік і часта звоніць па адрасах, удакладняючы асобу затрыманага парушальніка.**

Неспакойная дзейнасць дружыннікаў захапіла Барыса. Ён заўсёды быў повен энергіі. І калі старшакурснікі вярнуліся, то здзівіліся: дружына хімфака стала лепшай ва ўніверсітэце.

І першым паціснуў Барысаву руку Валодзя Лабецкі, студэнт трэцяга курса, дружыннік са стажам. Валодзя — прамая супрацьлегласць Барысу. Калі Барыс малы, то Валодзя мае рост 1 м. 85 см. і вагу больш за сотню кілаграмаў... Звычайна, такія людзі марудныя і спакойныя. А Валодзя гарачы і, як кажуць, заводзіцца з паўабароту. У гэтым ён падобен на Барыса.

У газеце «Савецкі хімік» была аднойчы змешчана серыя фотаздымкаў пра нашых дружыннікаў. Сярод іх ёсць такі: Барыс сядзіць за сталом. У левай руцэ яго тэлефонная трубка, а ў правай — алоўвак. Гэта не поза. Барыс часта звоніць па адрасах...

У інтэрнаце ведаюць Барыса і ахвотна слухаюць яго расказы аб здарэннях. Аб тым, што Барыс трапляе ў цяжкія пераплёты, сведчаць частыя сінякі пад вачыма. І калі што гняце часам Барыса, дык гэта пытанне: як здаваць сесію. Вельмі ўжо шмат часу аддае ён дружыне.

Як Віталь Перзашкевіч без хо-

ру, так Барыс Мухін не змог бы жыць без гэтай неспакойнай, поўнай рызыкі грамадскай нагрузкі.

Аднойчы да Вадзіма Болбаса ў пакой уляцеў нейкі студэнт.

— Дружыннік Болбас тут? Вас выклікае да тэлефона штаб.

Вадзім заспяшаўся на першы паверх, у пакой каменданта, і зняў трубку. Здалёк пачулася пакашліванне і ціхі голас Барыса:

— Дружыннік Болбас?

— Так, Барыс.

— Слухай, Вадзім, я зараз не здолею прыйсці. Ты бульбу варыў?

— Варыў і з'еў.

— Ах ты, чорт, а я спецыяльна званю, каб пакінуў...

Вадзім усміхнуўся:

— Не хвалюйся, я пакінуў... А чаму ты зноў?

— Пасяджэнне. Потым раскажу.

... На пасяджэнне прыйшоў Ігар Дзярбінскі. Моўчкі слухаў. Потым устаў:

— Я хацеў бы вось пра што сказаць... Няхай кожны дружыннік будзе ім не толькі на дзяжурстве, а заўсёды ў жыцці. Тады нідзе не будуць швэндацца хуліганы...

На тым пасяджэнні Барыса Мухіна выбралі намеснікам камандзіра ўніверсітэцкай народнай дружыны.

## ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ

Паэты сваёй справы, як шмат вас на хімфаку! Якія гарачыя, чыстыя сэрцы б'юцца ў вашых грудзях! І зусім не абавязкова, каб вы выбіраліся ў нейкія бюро, камітэты...

Калі Вілора Андрыянава на сходзе вылучылі ў склад бюро, былы камсамольскі важак, аспірант Браніцкі сказаў:

— Вілор добры хлопец, але з работай не справіцца. Гэта чалавек, які захапляецца ўсім. Хапаецца за адно і забывае другое...

Мажліва, гэта была і праўда. Спрачацца цяжка. Вілора называюць энтузіястам. І гэта так. Ужо не першы год працуе Вілор у навуковым гуртку. Прачытаў некалькі лекцый з паказам хімічных доследаў. Арганізаваў на курсе гурток мастацтвазнаўства. Гэта Вілор імчаўся на веласіпедзе аж у Ліду, каб прачытаць там лекцыю.

А Уладзімір Гараеў, праслаўлены лёгкаатлет, прызёр Алімпійскіх гульняў? Ён непрыкметны на хімфаку, але аб чым бы яго ні папрасілі, Уладзімір з радасцю зробіць. За факультэт ён гатовы гуляць і ў валейбол, і ў баскетбол, скакаць, бегаць, змагацца за шахматнай дошкай і пры гэтым добра вучыцца...

Алег Бубель! Хто ведае гэтага чацвёртакурсніка? Амаль што ніхто. Ён мае сям'ю, не жыве ў інтэрнаце. Вельмі заняты. Але іграе ў аркестры, дапамагае выхаду насценгазеты...

Такіх імёнаў шмат.

Але ёсць і людзі, якім нішто не цікава. Гэта людзі, як кажуць, без колеру, смаку і паху. Нібы дыстыляваная вада... Да іх вельмі прыстала мянушка — «пасівісты». Гэта пра іх Віталь Змітравіч Сташонак пісаў:

Пассивисты уксуснокислые,
До чего ж не люблю я вас!

Што робяць гэтыя людзі? Акуратна ўстаюць а восьмай гадзіне. П'юць чай. Ідуць на заняткі. Потым у сталовую. Увечары зноў п'юць чай.

Магчыма, гэта з-за іх аднойчы Ігар Дзярбінскі імкнуўся вызваліцца ад абавязкаў сакратара. Тады яму сказалі: вызваліць цябе можа толькі сход і ў тым выпадку, калі ты заваліш работу.

Між тым, нічога не здарылася. Толькі Ігар пераклаў частку лішніх клопатаў на плечы членаў бюро. Камсамольская работа расце, шырыцца і захоплівае ўсё новыя і новыя слаі «пасівістаў».

«Пасівізм» — гэта грамадскае зло. На сходах пасівісты сядзяць абыякавыя, чытаюць кніжкі, газеты... На апошнім сходзе Віталь Змітравіч Сташонак гнеўна гаварыў:

— Мы, студэнты саракавых гадоў, былі не такімі... Мы жылі цяжка, але ніколі ў нашых сэрцах не патухаў свяшчэнны агонь... І вось цяпер вы седзіцё, маўчыцё і займаецеся сваімі дробязямі. Гэта ў той час, калі абмяркоўваецца такое пытанне!..



**Скончыліся заняткі. Перш чым разысціся, трэба дамовіцца пра планы на вечар.**

На сходзе абмяркоўвалі паводзіны трох студэнтаў, якія напіліся ў інтэрнаце і паскудзілі сцены. Двух з іх выключаюць з універсітэта на год, каб яны адчулі, чым пахне працоўны хлеб. Сёйтой гаварыў, што гэта выпадковасць. Але ж не, гэта прамы вынік пасівізму.

Тады Ігар ледзь не крыкнуў:

— Чаго ж вы маўчыцё, іх жа выключаюць з універсітэта!

Усе маўчалі. Ніхто не хацеў іх абараняць. І гэта быў ужо не пасівізм, а яго прамое асуджэнне.

Неўзабаве настане дзень, калі апошні пасівіст перавернецца ў сваім ложку, пратрэ вочы, паглядзіць на вірлівае жыццё і скажа: «Колькі радасці я праспаў!» І пойдзе працаваць, закасаўшы рукавы. Гэта здарыцца яшчэ на маіх вачах, бо лёд крануўся і набліжаецца паводка.

А прага падарожжаў у нас усё роўна застанецца. І справа зусім не ў тым, што ў адным корпусе з намі займаюцца географы. Не. Проста такія ўжо сэрцы ў нас, студэнтаў.

**Іван ЛАСКОЎ,**

**студэнт II курса хімфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна.**

Фота М. ГРЫГАРОВІЧА.

# *Навука і культура*

## НЕЗВЫЧАЙНЫ КІНАРЭПАРТАЖ

Раніца 15 лютага 1961 г. на Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў пачалася звычайна. У двор раз-пораз заязджалі невялікія газікі-ўсюдыходы, каб праз дзесяць-пятнаццаць мінут загружаныя апаратурай накіравацца на месцы здымак: фабрыкі, заводы, калгасы, інстытуты.

Як заўсёды, няспынна званіў тэлефон, але ў гэты дзень часта набіраўся адзін нумар — бюро прагнозаў надвор'я. Для беларускіх кінааператараў вельмі важна было ведаць, якая будзе раніца — хмурная або сонечная, бо ў 11 гадзін 08 мінут адбудзецца амаль поўнае зацьменне сонца. Да гэтай падзеі кінахроніка рыхтавалася ўжо некалькі дзён. Было вырашана, што калі хмары не закрыюць ад нас Сонца, дык некалькі аператараў у розных месцах здымуць гэтую рэдкую з'яву прыроды рознабакова; калі ж будзе хмарна — на борце спецыяльнага самалёта падымецца апаратар і зробіць толькі здымкі нябеснага свяціла.



У 9 гадзін 15 мінут было вырашана развезці ўсіх аператараў на месца здымак: а можа яшчэ праясніцца. Адзін аператар паехаў у саўгас «Вішнёўка», там меркавалася падглядзецць і зняць цікавыя кадры рэакцыі жывёлы на зацьменне; другі накіраваўся на абсерваторыю — тут рыхтаваліся назіраць сонечнае зацьменне з зямлі.

Трэці ўжо дзяжурыў у аэрапорце.

У 10 гадзін раніцы для ўсіх стала ясна: мінчане, на жаль, не ўбачаць сонечнага зацьмення. Хмары не рассеяліся, а, наадварот, згусціліся.

...Праз некалькі гадзін у невялікай зале студыі праглядалі матэрыял, зняты аператарам на борце самалёта — лятаючай лабараторыі. Гэта былі кадры неапісальнай прыгажосці. Аўтар іх, апаратар Рыгор Масальскі расказвае:

— Каля дзесяці гадзін мы атрымалі самую свежую зводку сіноптыкаў: праяснення не будзе. Трэба падымацца.

Заракаталі матory самалёта, усе мы атрымалі кіслародныя прыборы, бо нікому дакладна невядома, на якую вышыню трэба падымацца. Самалёт упэўнена набірае вышыню. Спачатку нас ахутвае шэры туман: ляцім, нібы праз суцэльны дым. На вышыні 3 000 метраў прабіваем пласт воблакаў, і нам адкрываецца вельмі прыгожы нябесны пейзаж. Белыя барашкавыя воблакі без канца і краю... Гэта трэба бачыць, бо апісаць цяжкавата. А зверху яшчэ воблакі. Зноў падымаемся. 3 500, 3 600. Дыхаць становіцца ўсё цяжэй, адчуваецца разрэджанасць паветра, не хапае кіслароду.

Бортаэролаг вядзе назіранні за атмасферай.

4 000 метраў. Прабіваем апошні пласт воблакаў... І нарэшце... Сонца ў незвычайным ззянні. Замест звыклага сляпучага дыска — серп, які нагадвае Месяц. Нельга адарваць вачэй, хочацца любавацца гэтым цудоўным відовішчам. Але трэба спяшацца здымаць. Хутка мільгаюць метры знятай плёнкі. Здымаць усё цяжэй. Звычайна на зямлі, калі апаратар здымае, ён прытрымлівае дыханне для таго, каб пазбегнуць вагання апарата. І гэта лёгка ўдаецца, а тут кіслароду менш і дыхаць трэба часцей. Кіслародны прыбор я не надзеў, бо ён перашкаджаў бы працаваць.

На борце самалёта знаходзіліся інжынеры бортаэролагі Васіль Яфімавіч Дубовік і Барыс Антонавіч Дубінскі. Я зняў і іх за работай. Яны вялі назіранні за працэсам змянення ваганняў тэмпературы, ціску і запыленасці атмасферы, вільготнасці паветра. Былі атрыманы каштоўныя навуковыя дадзеныя.

Зняў я і лётчыкаў. Яны прадбачліва запасліся цёмнымі фільтрамі і нароўні з усімі намі захапляліся гэтай рэдкай з'явай...

Вось небасхіл зноў пасвятлеў, сонечны серп ператварыўся ў дыск. Зацьменне скончылася. Трэба ісці на пасадку. Але селі мы толькі праз гадзіну. Падымаючыся на вышыню 4 000 метраў, мы непрыкметна заляцелі аж за Бабруйск...



Сонца ў незвычайным ззянні.

Гэтыя рэдкія кадры сонечнага зацьмення многія ўжо бачылі ў кіначасопісе «Савецкая Беларусь».

**Р. ЯСІНСКІ.**

Кадры зняты аператарам Р. МАСАЛЬСКІМ.

## ЭКЗАМЕН НА СТАЛАСЦЬ

Па клубах і выставачных залах рэспублікі вандруе «Выстаўка беларускай мастацкай фатаграфіі другога года сямігодкі». Мастацкая фатаграфія атрымлівае ў Беларусі прызнанне шырокай грамадскасці. Творчае аб'яднанне беларускіх фатографаў нарадзілася разам з сямігодкай. Можа таму яно першыя крокі свайго жыцця пачало вымяраць крокамі сямігодкі.

Лепшыя фатаграфіі выстаўкі прысвечаны тэмам працы, найбольш яркім з'явам сучаснага жыцця: «Сталявары» С. Ананкі, «Праз лясы і балоты» А. Перахода, «Стары майстар» Г. Усламава, «Зброя сямігодкі» М. Мінковіча. Лаканічна і разам з тым вельмі дакладна выказаў сваю думку В. Косцін, аўтар фатаграфіі «Няхай гарматы маўчаць». Песнярамі беларускай прыроды могуць быць названы аўтары пейзажных фатаграфій, такіх, як «Беларускае мора» (М. Белабровік), «На Магілёўшчыне» (М. Жалудовіч), «Вячэрні лоў» (У. Дагаеў), «Перад навальніцай» (М. Петрусёў). Усе гэтыя і шэраг іншых работ былі адзначаны дыпломамі Міністэрства культуры БССР.

У каталагу выстаўкі значацца не толькі спрактыкаваныя фотажурналісты, але і тыя, каго завуць аматарамі. Тут сустрэнеце

імя пісьменніка Уладзіміра Калесніка (Брэст), скрыпачкі Людмілы Арсенкі (Мінск), студэнта Алега Нікіфарава (Мінск), слесара Мікалая Петрусёва (Гродна), мастака Георгія Усламава (Жодзіна) і іншыя.

Бадай ні ў якой іншай галіне мастацтва, ні на якіх іншых выстаўках, акрамя фатаграфічных, аматары і прафесіяналы не сустракаюцца на зусім роўных падставах.

Народнасць фатаграфічнай творчасці бясспрэчная, і толькі часам дзіву даешся, як скептычна ставяцца да яе некаторыя кіруючыя работнікі культуры, ды і наша крытыка. Сярод шырокай сеткі дамоў народнай творчасці толькі адзін сур'ёзна займаецца пытаннямі фатаграфіі. Гэта — Мінскі гарадскі дом народнай творчасці, які мае свой фотаклуб. Большасць кіраўнікоў дамоў народнай творчасці чакае, калі іх нехта «сарыентуе» на фатаграфію.

Прыклад Мінскага фотаклуба варты таго, каб сказаць пра яго некалькі цёплых слоў. На штотыднёвыя «чацвяргі» збіраюцца дзесяткі людзей самага рознага ўзросту — ад старшакласнікаў да сівых пенсіянераў. Яны прыносяць на абмеркаванне свае здымкі, яны разбіраюць пытанні фатаграфічнай тэхналогіі, слухаюць творчыя справаздачы тых, хто мае ўжо вопыт. Многія з членаў клуба апублікавалі свае работы ў перыядычных выданнях, а некалькі членаў сталі ўдзельнікамі рэспубліканскай фотавыстаўкі.

На сёлетняй выстаўцы вырасла не толькі колькасць аўтараў, але расшырыўся круг тэм, значна ўзрасло майстэрства. Больш высокай стала тэхніка друкавання здымкаў.

Якія вывады можна зрабіць з падрыхтоўчага перыяду і агляду сёлетняй выстаўкі?

Многія фатографы яшчэ знаходзяцца пад уладай прымітыўнага ўяўлення аб сваёй працы, калі творчае стаўленне падмяняецца рамесніцтвам. Некалькі такіх рамесніцкіх работ трапіла і на выстаўку. Аўтары, бачачы свае работы на стэндах, мяркуюць пра іх больш аб'ектыўна, чым у сябе ў лабараторыі. Загана, выстаўленая на паказ, ужо і ва ўласным воку здаецца бервяном. Трэба думаць, што выстаўка ў гэтых адносінах паслужыць добрай школай.

Шэраг аўтараў знаходзіцца ў палоне пераймальніцтва і ўскладае вялікія спадзяванні на пастановачныя моманты. Ствараючы фота, яны імкнуцца пераймаць працу мастакоў, не разумеючы, што сама сутнасць фатаграфічнага мастацтва, яго аналітычны характар прама процілеглыя працы жывапісца, графіка, якія ўзброены правам сінтэзу абагульнення, правам умяшання ў тыя ці іншыя рысы вобраза, якія яны ствараюць. Пастановачная фатаграфія не з'яўляецца, вядома, забароненым прыёмам, але яна не можа служыць і асновай фатаграфічнай творчасці. Большыя ўдачы спадарожнічаюць тым, хто арыентуецца на рэпартажны здымак, уменне адлюстраваць падзею, як кажуць, знянацку, у той момант, калі яна адбываецца.

У канцы сакавіка ў Маскве адкрылася другая Усесаюзная мастацкая фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні». На ёй паказваецца і некалькі дзесяткаў беларускіх фотаздымкаў. Гэта — пераканаўчае сведчанне нашых творчых дасягненняў. Усяго ж год таму назад, на ўсесаюзнай выстаўцы, прысвечанай першаму году сямігодкі, экспанавалася толькі дзве работы з Беларусі.

**А. і М. Ананьіны. Ільнаводка Надзея Краскоўская.**





**М. Мінковіч. Зброя сямігодкі.**

**Ф. Бачыла. З пуцёўкай камсамола.**





У. Кітас. Прэзідэнт Акадэміі навук БССР акадэмік В. Ф. Купрэвіч.

Беларускія фотамастакі ўзялі правільны курс.

Адкідаючы ў бок розныя выкрутасы, абстракцыянісцкія практыкаванні, беларускія фатографы ствараюць рэалістычныя фатаграфіі, каб славіць нашу сацыялістычную рэчаіснасць, каб памагаць партыі ў камуністычным выхаванні народа.

«... Больш увагі самым простым, але жывым, з жыцця узятым, жыццём праверaным фактам камуністычнага будаўніцтва, — гэты лозунг трэба нястомна паўтараць усім нам, нашым чытачам, арганізатарам і гэтак далей», — пісаў У. І. Ленін у сваёй бессмяротнай працы «Вялікі пачын». А пазней, даючы практычныя ўказанні Наркамасветы, заўважыў: «... Трэба паказваць не толькі кінакарціны, але і цікавыя для прапаганды фотаздымкі з адпаведнымі надпісамі».

Фатограф — прафесіянальны майстар і аматар мастацкай фатаграфіі — павінен памятаць гэтыя ленінскія выказванні і быць пераконаным у карыснасці сваёй працы для грамадства.

**А. ДЗІТЛАЎ,**
**старшыня фотасекцыі Саюза журналістаў БССР.**

М. Белабровік. На тарфяных палях.



# ІВЯНЕЦКІЯ МАЙСТРЫ



**Ксеня Кільчэўская хутка стала адным з лепшых майстроў мастацкай керамікі.**

Здаўна Івянец славіцца мастацкай керамікай. У раёне, непадалёку ад вёсак Станюшкі і Абрамаўшчына, ёсць вялікія залежы гліны — не простай, якая ідзе на выраб цэглы і кафлі, а «тлустай», вязкай, якую асабліва цэняць майстры керамікі. Раней тут выраблялі посуд. Яго вывозілі на продаж у Маладзечна, Мінск, Вільнюс, Стоўбцы і іншыя гарады.

Выраблялі посуд саматужна. Ганчарны круг, 2—3 чалавекі — вось і майстэрня. Але сярод ганчароў знаходзіліся ўмельцы, якія пачыналі займацца размалёўкай посуду. Паступова размалёўка стала рамяством, якое ўдасканальвалася і развівалася з пакалення ў пакаленне. І цяпер у Івянцы нямала патомных майстроў. Вітольд Феліцыянавіч Кулікоўскі і Франц Іосіфавіч Талішэўскі каля 40 гадоў аддалі любімаму занятку.

Дзесяцігадовым хлопчыкам прыйшоў Кулікоўскі ў ганчарню. Пабыў вучнем, а праз два гады ўзяўся за самастойную працу. У той час гэта не абяцала вялікіх выгад. Пачаліся гады вандравання і работы ў душных, цесных ганчарнях Валожына, Вільні...

Але ў поўную сілу здольнасці Вітольда Феліцыянавіча праявіліся пры савецкай уладзе. Ён першы ўступіў у прамысловую арцель імя Дзяржынскага (цяпер фабрыка мастацкай вышыўкі і керамікі).

Па шляху бацькі пайшлі і яго дзеці. Сын Юрка пасля заканчэння дзесяцігодкі адразу пайшоў працаваць ганчаром і паступіў вучыцца ва ўсесаюзны завочны тэхнікум прамкааперацыі на аддзяленне сілікатнай керамікі.

Вялікі жыццёвы шлях прайшоў Франц Іосіфавіч Талішэўскі. Ён зрабіў за сваё жыццё, мусіць, не адзін чыгуначны эшалон посуду. Цяпер ледзь не ў кожным доме навакольных вёсак можна знайсці прыгожыя збанкі, талеркі, зробленыя яго ўмелымі рукамі.

Старэйшыя майстры свой багаты вопыт перадаюць моладзі.

У ганчарню часта прыбягаў хударлявы, жвавы хлопчык.

— Дзядзечкі, дайце кавалак гліны, — прасіў ён. — Я нешта смешнае вылеплю.

За некалькі хвілін ён камяк гліны ператвараў у герояў любімых дзіцячых казак — Канька-Гарбунка, бабу-ягу, Чырвоную шапачку і іншых.

— Здольны хлопчык, — гаварылі майстры-ўмельцы.

Гэта быў Баніфацы Сасноўскі. Калі некалькі гадоў таму назад камсамолец Сасноўскі дэмабілізаваўся з радоў Савецкай Арміі, яму прапанавалі працаваць на фабрыцы ў цэху мастацкай керамікі і неўзабаве разам са старэйшым майстрам Ф. Талішэўскім накіравалі да алмаацінскіх умельцаў у Казахскую ССР, каб пераняць іх вопыт і ўмельства. Там Сасноўскі вучыўся ў выдатных майстроў іх рамяству. Пасля вучобы яго прызначылі старшым рысавальшчыкам. За апошнія тры гады Баніфацы Сасноўскі навучыў рамяству рысавальшчыка многа юнакоў і дзяўчат.

Неяк дамоў прыбегла ўсхваляваная пышнавалосая дзяўчына Ксеня Кільчэўская. Яна прынесла свайму бацьку, вопытнаму ўмельцу, прыгожа размаляваную вазу.

— Тата, паглядзі!

Бацька доўга і ўважліва разглядаў першую работу дачкі, пасля, усміхаючыся, сказаў:

— Добра, дачушка, што пайшла па маёй дарозе.

Так Вікенці Станіслававіч блаславіў сваю дачку на самастойны працоўны шлях.

Яшчэ дзяўчынкай Ксеня са старэйшым братам Уладзімірам любіла прыходзіць у майстэрню. Яны памагалі бацьку нарыхтаваць гліну, развесці фарбы.



Старэйшы майстар Франц Іосіфавіч Талішэўскі (справа) свой багаты вопыт перадае камсамольцу Сцяпану Зянько.
Фота А. Дзітлава.

З цікавасцю наглядалі, як кавалак гліны ператварыўся ў прыгожы збан.

Калі Вікенці Станіслававіч пайшоў на пенсію, яго месца ля ганчарнага стала заняў сын Уладзімір, цяпер завочнік сілікатнага аддзялення ўсесаюзнага тэхнікума прамкааперацыі.

Неўзабаве ў майстэрню прыйшла і Ксеня. Першую дзяўчыну на фабрыцы сустрэлі недружалюбна, пасмейваліся з яе. Аднак Ксеня хутка стала адным з лепшых майстроў мастацкай керамікі.

Многія ўспамінаюць, як па Івянцы хадзіў без працы малады цыган Антон Каспяровіч. Па праўдзе кажучы, многія баяліся ўзяць яго на работу, думалі: які з яго работнік, чалавек прывык вандраваць, яшчэ бяды наробіць.

Камсамолец Баніфацы Сасноўскі ведаў, *што Каспяровіч любіць маляваць.* Аднойчы ён прапанаваў:

— Прыходзь, Антон, навучу цябе сваёй справе.

Хлопец згадзіўся, прыйшоў на фабрыку і пачаў вучыцца ў Баніфацыя. Неўзабаве авалодаў навыкамі фарбавальшчыка. Цяпер яму даручаюць самыя складаныя работы па афармленню рознага посуду. Каспяровіч уступіў у камсамол, скончыў дзесяць класаў вячэрняй школы і мае намер вучыцца далей.

Керамічны цэх фабрыкі мастацкай вышыўкі і керамікі ў Івянцы падобны на музей. На паліцах расстаўлен розны посуд. Вазы, памятныя падарункі, кубкі, дзіцячыя цацкі зззяюць яркімі фарбамі.

Стала традыцыяй, што на фабрыцы вырабляюцца вазы ў гонар памятных дат і выдатных людзей. Як дарагая рэліквія, захоўваецца ваза, зробленая ў гонар выдатнага рыцара рэвалюцыі Ф. Э. *Дзяржынскага — славутага земляка івянчан.* На адным баку вазы партрэт Дзяржынскага ў дубовым і лаўровым вянку, на другім — дом на хутары Дзяржынава, дзе нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя гады Фелікс Эдмундавіч.

Нацыянальнае свята 40-годдзя БССР умельцы таксама азнаменавалі выпускам вялікай колькасці посуду, прыгожа, з густам аформленага.

Да XXII з'езда КПСС рыхтуецца выпуск серыі ваз, на якіх будуць адлюстраваны дасягненні раёна, рэспублікі, краіны за гады Савецкай улады.

На ўскраіне Івянца ўзвышаецца прыгожы цагляны будынак. Гэта новы керамічны цэх. Тут усе працэсы, пачынаючы ад нарыхтоўкі гліны і да абпальвання, будуць механізаваны. Тады лягчэй будзе праявіць свой талент і маладым майстрам керамікі з Івянца.

**Яўген МАКОЎСКІ.**

# *Крытыка і бібліяграфія*

## ПЛЁН ПОШУКАЎ




Той, хто чытаў папярэдні зборнік Івана Сіняўскага для дзяцей — «Піянерскі гальштук», выдадзены ў 1956 годзе, а цяпер прачытаў новую яго кніжку «Дабрадзейка», * заўважыць, як вырасла майстэрства пісьменніка за гэтыя гады.

Іван Сіняўскі раней не вельмі давяраў сваім чытачам, іх здагадлівасці, іх кемлівасці, іх уменню рабіць вывад з прачытанага. Таму ў многіх сваіх ранніх апавяданнях малады пісьменнік імкнуўся пра ўсё гаварыць павучальна і старанна тлумачыў тое, што і так было зразумела. У новым зборніку надакучлівая дыдактычнасць саступіла месца даверлівай павазе да чытача. Акрэслілася і зрабілася больш выразнай творчая манера пісьменніка.

Уся кніга прасякнута адзіным настроем. Душэўная цеплыня, паэтычнасць сагравае большасць змешчаных у ёй апавяданняў. Пісьменнік апавядае пра сумленнасць, смеласць, чуласць сваіх герояў, пра іх дзіцячую непасрэднасць.

Не ўсе апавяданні зборніка аднолькавыя па сваіх мастацкіх якасцях. Адны з іх прыцягваюць увагу сваёй цэласнасцю, закончанасцю, у другіх што-ніщто засталося недадуманым, але задушэўная нота паэтычнасці і лірызму гучыць у кожным.

Звычайна, назву зборніку дае не толькі самае лепшае, але і самае характэрнае для пісьменніка апавяданне. У апавяданні «Дабрадзейка» настрой душэўнай цеплыні, уласцівы ўсяму зборніку, знайшоў сваё найбольш поўнае выражэнне. Герой апавядання — маленькі Анціпка — даверлівы, непасрэдны, мілы. Ён шчыра верыць, што добрая бабуля-леснічыха і ёсць тая дабрадзейка, якая заўсёды выбавіць чалавека з бяды.

Трэба сказаць, што Івану Сіняўскаму вобразы маленькіх дзяцей удаюцца, бадай, лепш, чым школьнікаў, хоць, здавалася б, намаляваць вобразы старэйшых лягчэй, бо тут ёсць больш магчымасцей для раскрыцця дзіцячай псіхалогіі. Пісьменнік умела знаходзіць канфлікты ў тым асяроддзі, якое акружае яго маленькіх герояў. Нездарма лепшыя апавяданні зборніка — «Дабрадзейка», «Сіротка», «Бабка, Каця і Пеця» — гэта апавяданні пра маленькіх.

* Іван Сіняўскі. Дабрадзейка. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1960.

«Сіротка». Назва гэтая неяк насцярожвае: ці не будзе тут залішняй слязлівасці, сантыментальнасці? Не, няма. Сіротка — гэта куранят. Яго даглядае і гадуе слаўная дзяўчынка Анэлька. З куранём адбываюцца розныя прыгоды. Анэлька назірае за ім і адначасова даведваецца шмат новага пра навакольны свет. Яе адкрыцці цікавыя і ўсім маленькім чытачам.

«Бабка, Каця і Пеця» — гэта апавяданне пра дзіцячую прыхільнасць да ўсяго добрага і пра мудрасць старога чалавека, які ўмее непрыкметна падказаць дзіцяці самыя добрыя, самыя справядлівыя ўчынкі, выклікаць у яго высокія, харошыя пачуцці. Вось чаму маленькая Каця пад уплывам бабульчынай казкі памірылася з забіякам-пеўнікам, а «сонейка гарачае, ласкавае глядзела на іх з вышыні... і ўсім-усім усміхалася: і бабцы, і Каці і нават Пецю». Добра, што пісьменнік падгледзеў гэтую сонечную ўсмешку, каб сагрэць ёю ўсё апавяданне.

У апавяданнях «Дваццаць пяць рублёў», «На начлезе», «Выпадак у полі», «Тэрміновае заданне» дзейнічаюць школьнікі. Калі ў апавяданнях пра маленькіх галоўная ўвага аддавалася раскрыццю характва навакольнага свету і ў ролі адкрывальнікаў выступалі самі маленькія героі, то кожнае з названых апавяданняў пабудавана на пэўным канфлікце, сур'ёзным і значным. Яны чытаюцца з цікавасцю перш за ўсё таму, што героі паказаны з дастатковай псіхалагічнай пераканальнасцю.

Вось, напрыклад, Паўлік і Міхаська з апавядання «На начлезе». Яны вельмі розныя па сваёй натуры. Адзін не такі ўжо і смелы і не вельмі ахвочы зрабіць што-небудзь добрае. Другі — заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу, не лічачыся з цяжкасцямі, нязручнасцямі, страхам. Аўтар раскрывае гэтыя характары ў сутычцы, у канфлікце, каб на простых, звычайных прыкладах расказаць чытачу, як няёмка, сорамна і няўтульна становіцца сярод людзей таму, хто зрабіў не па-таварыску, збаяўся, пераклаў свае абавязкі на другога.

Героі І. Сіняўскага перавыхоўваюцца не адразу і не самі па сабе. Зразумець сваю памылку, слабасць ім дапамагаюць дарослыя, якія, дарэчы, вельмі тактоўна ўводзяцца пісьменнікам у свет дзіцячых клопатаў і дум.

Апавяданне «Выпадак у полі» пабудавана інакш, чым «На начлезе». Тут няма сутыкнення розных характараў. Маленькая Наста і важны, аўтарытэтны Генка дапаўняюць адно аднаго. І Наста, і Генка — слаўныя дзеці, маленькія гаспадары ў сваім калгасе. Яны робяць смелы ўчынак — уціхамірваюць наравістага каня і не надаюць гэтаму свайму ўчынку асаблівага значэння. Яны проста не ведаюць, што магло быць інакш!

Што датычыць «Тэрміновага задання», то, цікавае па задуме, апавяданне гэтае атрымалася расцягнутым, раскіданым кампазіцыйна. Мэтаю апавядання было паказаць, як у характары хлопчыка ўзнікае пачуццё абавязку. Герой яго — Валік ідзе адзін уночы праз лес па ветэрынара. Ідзе таму, што паабяцаў. Сітуацыя цікавая, характар хлопчыка намаляваны псіхалагічна пераканаўча. Але пісьменнік ніяк не можа развітацца са сваім героем і яшчэ доўга расказвае, што «было потым», пасля таго, як Валік перамог свой страх і стрымаў слова. А гэта ўжо — лішняе, бо лагічная кропка пастаўлена раней. Для пісьменніка вельмі важна вось гэтае адчуванне — калі паставіць кропку.

І нарэшце — некалькі слоў пра апавяданне «Сябры». У гэтым апавяданні — замест жывых дзяцей нейкія манекены, замест падзей — апрыклая схема: насваволіў, падумаў, пакаяўся. Безумоўна, у гэтую схему можна ўціснуць і сапраўдны канфлікт. Але гэта ў тым выпадку, калі ён будзе ўзяты з жыцця. У апавяданні ж «Сябры» — падзея, пакладзеная ў аснову, вельмі нязначная, канфлікт — надуманы. Падказваць на ўроках, безумоўна,нядобра, гэта — благая прывычка. Але каб з-за гэтага столькі пакут, столькі страху перацярпеў хлопчык, — гэта ўжо ненатуральна.

Апавяданне «Сябры» нагадвае першыя творы І. Сіняўскага, у якіх дрэнныя хлопчыкі праз надуманыя перажыванні станавіліся прыкладнымі. Як гэтае апавяданне апынулася ў наогул добрай кнізе пісьменніка? Магчыма, аўтару і рэдактару здалося, што дзіцячая кніга не можа выйсці без чыста «школьнага» апавядання, апавядання пра вучобу.

Юны чытач — гэта ў пераважнай сваёй большасці школьнік. Самыя цікавыя, напружаныя, насычаныя падзеямі гадзіны ён праводзіць у школе. Значыць, пра школу трэба пісаць, але пісаць сур'ёзна, цёпла і ўсхвалявана.

**Рэгіна ПІАТУХОЎСКАЯ.**

## ЖЫЦЦЁ-ПОДЗВІГ




«Дарагі Эрых!

...Мы блізка ад Пецярбурга. Ужо некалькі тыдняў па нас пастаянна вядуць агонь рускія снайперы. Ці паверыш, такой колькасці снайпераў ніхто з нас ніколі не сустракаў раней... Мы ўсё роўна як у пекле. Нельга галаву высунуць з акопа. Ходзім па траншэі, сагнуўшыся ў тры пагібелі, і чакаем, колькі засталося жыць... За кожны метр зямлі мы расплачваемся цаною жыцця многіх сваіх салдат і афіцэраў».

Так пісаў напалоханы савецкімі снайперамі гітлераўскі лейтэнант Хорст Шаферніхт свайму сябру Эрыху Мейеру ў Гамбург.

А ў гэты час перад мікрафонам ленінградскага радыё выступаў невысокі чарнявы юнак у чырвонаармейскай форме. Пехатою прыйшоў ён сюды з перадавой, каб расказаць мужным абаронцам Ленінграда аб тым, як іх бацькі, сыны і браты б'юць ненавіснага ворага. Перад яго вачамі выразна, быццам у аптычным прыцэле, узнікла ўсё, што ён бачыў, праходзячы па вуліцах абложанага ворагам горада: паўразбураныя дамы, трупы... Ледзь жывыя з голаду людзі таксама былі падобныя на мерцвякоў...

«— Таварышы ленінградцы! — пачаў юнак дрыготкім ад хвалявання голасам. — Я ішоў да вас пехатой з перадавой. Тое, што я бачыў па дарозе сюды, нельга перадаць словамі. Усяго гэтага я не забуду... Верце майму слову: ніко-лі!..

Я снайпер. З сваёй вінтоўкі я пусціў у расход сто сем фашыстаў. Але сёння я зразумеў, як гэта мала. Абяцаю вам, што рахунак мой будзе расці».

Гэты юнак і быў адзін з тых, хто рыхтаваў майстроў трапнага агню, якія наводзілі жах на гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Сябры з любоўю называлі яго Федзем, а ў афіцыйных паперах ён іменаваўся Фядосам Смалячковым. Федзю было ўсяго васемнаццаць гадоў, але імя яго з павагай вымаўлялі не толькі воіны Ленінградскага фронта, а і ўсе працоўныя горада-героя. Пра яго гаварылі, як пра ўмелага, выдатнага снайпера, пачынальніка масавага снайперскага руху сярод воінаў, якія абаранялі горад-фронт. Яго вучні і паслядоўнікі з гордасцю называлі сябе смалячкоўцамі.

Аб жыцці і подзвігах слаўнага сына беларускага народа Фядоса Смалячкова расказвае пісьменнік Рыгор Набатаў у сваёй кнізе *.

Першыя старонкі кнігі расказваюць аб тым, як сціплы чатырнаццацігадовы Федзя пакідае сваю родную вёску Падгор'е, што на

---

* Рыгор Набатаў. Фядос Смалячкоў. Аповесць. Пераклад Н. Лапіцкай і А. Шышонка. Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, Мінск, 1960.

Магілёўшчыне, і адпраўляецца ў далёкі Ленінград, каб у школе ФЗН атрымаць «на ўсё жыццё», як казаў бацька, спецыяльнасць будаўніка.

Р. Набатаў расказвае, як з першых жа самастойных крокаў падзіцячаму сарамлівы вясковы хлапец трапляе ў асяроддзе цудоўных савецкіх людзей, якія адыграюць вялікую ролю ў далейшым яго лёсе.

Нялёгка давалася Смалячкову спецыяльнасць муляра. Аднак упарты юнак пры дапамозе старога майстра Івана Сямёнавіча, які быў не толькі вядомы будаўнік, але і добры педагог, паступова пераадольваў усе цяжкасці. Шмат часу траціў Федзя на падрыхтоўку да заняткаў і ўсё ж знаходзіў магчымасць задавальняць і другія духоўныя запатрабаванні. Ён вучыўся іграць на баяне, стаў пастаянным наведвальнікам бібліятэкі. Разам са студэнткай архітэктурнага тэхнікума Святланай, з якой Федзя спачатку пасябраваў і якую потым шчыра пакахаў, яны рабілі экскурсіі па горадзе, вывучаючы яго гістарычныя помнікі, музеі. Разам яны наведвалі вячэрні ўніверсітэт культуры. Апрача таго, Федзя займаўся ў снайперскай школе.

Непрыкметна праляцелі гады вучобы. Як лепшага вучня школы, Федзю прызначылі брыгадзірам маладзёжнага звяна на будаўніцтве вагонарамонтнага завода. А праз нейкі час на сцяне гэтай новабудоўлі можна было ўбачыць плакат: «Учора малады муляр Фядос Смалячкоў арганізаваў пановаму працу свайго звяна і выканаў норму на 200 працэнтаў».

Радасна было на душы ў брыгадзіра. Ён станавіўся не толькі добрым майстрам, але і ўмелым арганізатарам. Стары настаўнік Іван Сямёнавіч цяпер ужо размаўляў з ім, як з роўным. Вялікая будучыня адкрывалася перад Федзем. Ён марыў без адрыву ад вытворчасці скончыць будаўнічы тэхнікум, затым інстытут і атрымаць дыплом інжынера-будаўніка.

Але не суджана было збыцца гэтай мары: пачалася вайна.

На другі ж дзень вайны Смалячкоў прыйшоў у ваенкамат і папрасіўся добраахвотнікам на фронт. Яго не ўзялі, сказалі: малады. Тады ён запісваецца ў атрад народнага апалчэння і ў хуткім часе трапляе ў супрацьтанкавую батарэю артылерыйскага палка.

Першы снайперскі стрэл ён зрабіў па нямецкаму кулямётчыку, які затрымліваў прасоўванне нашых войск. Кулямёт адразу змоўк. Так быў адкрыты асабісты рахунак Фядоса Смалячкова.

Смалячкоў і яго вучні па звыштрапнай стральбе наносілі вялікія страты захопнікам. Гэта ўстрывожыла нямецкае вярхоўнае камандаванне. Па патрабаванню камандзіра эсэсаўскай дывізіі, супраць якой дзейнічалі нашы снайперы, пад Ленінград прыехаў нямецкі снайпер «з сусветным» імем — яфрэйтар Георгу Мінке, вопытны, асцярожны і хітры забойца.

Раздзел «Паядынак» расказвае чытачу аб тым, як у адзінаборстве сышліся гэтыя два чалавекі: адпеты бандыт Мінке і камсамолец Смалячкоў. Фашысты абяцалі Мінке за галаву Федзі жалезны крыж. Смалячкову ніхто нічога не абяцаў. «Мае кулі адліты нянавісцю. Я — камсамолец і салдат народнай арміі. А хто такі Мінке? Фашыст, — думаў Федзя. І сапраўды, трохдзённы паядынак закончыўся перамогай Смалячкова.

Не толькі Мінке, але і многія іншыя гітлераўцы знайшлі сваю смерць ад трапнай кулі Смалячкова. Сто дваццаць шэсць стрэлаў зрабіў ён са сваёй вінтоўкі і запісаў на свой рахунак сто дваццаць пяць забітых фашыстаў. А прабыў на фронце ўсяго некалькі месяцаў. 15 студзеня 1942 года асколак варожай міны, якая разарвалася непадалёку, спыніў гарачае сэрца воіна-камсамольца, якое гарэла вялікай любоўю да сваёй Радзімы.

Нядоўгім, але яркім было жыццё Фядоса Смалячкова. Да апошняга дыхання аддадзенае за шчасце і свабоду свайго народа, яно заўсёды будзе служыць для нашай моладзі высокім прыкладам таго, як трэба жыць, працаваць і змагацца, каб быць дастойным сынам вялікай Радзімы.

Барыс КЛЮСАЎ.



# Агрэхі стылю

«Чытаеш такую фразу, усё роўна як мякіну жуеш, — ніяк праглынуць не можаш»

К. КРАПІВА.

## З НЕНАДРУКАВАНАГА

«Яе вялікія прыгожыя вочы былі зроблены з нянавісці, яны здаваліся пісталетнымі дуламі, наведзенымі на Шпака».

«Жарабок спаткнуўся аб карэнне, і развеяліся мары».

«Яна лавіла кожную змену на яго твары».

«Лісце не ігліца, з надыходам восені яно злятае».

«Над лесам сабраліся сапраўдныя хмары, але дажджу не было».

«Выбуху гранаты Ніна не пачула, бо сэрца заглушыла яго».

«Нечакана схапіўшы за падпашша, Алесь павярнуў Зіну да сябе і прыліп да ружовых вуснаў. Суха ляснула далоня па шчацэ. Вецер і дождж уварваліся пад плашч-палатку. Звон у вушах і цяжка дыхаць парнай вільгаццю. Бубніць бы па блясе дождж. Зябка».

«Уся яна была лёгкая, мяккая, гнуткая, як майская раніца».

«Яго вочы цэпка ўпіліся ёй у твар».

«Ад яго вуснаў ва ўсе бакі ляцела такая ўсмешка, якая можа быць толькі ў яе каханага».

«Сорам тачыў сумленне, забіраючыся ў самую яго глыбіню».

«Іван Савіч зваліўся, як снег на галаву».

«Ніна адчула такі цяжар, быццам яна варочала на душы каменне».

«Малады матэматык валодаў прыемнай знешнасцю».

«Вясны адчуўшы подых-ласку,
Дуб доўга дужацца не браўся.
Сваё карэнне пазакасваў —
Снег перад мускуламі здаўся».

«Скончыўшы інстытут, ён здаў свае веды ў багажнік».

«Снег так хацеў валодаць полем,
Аж пот з яго ліў ручаямі».

«Ніна жахнулася: чаго яна стаіць тут, чакаючы надвор'я з мора».

«Мяркуючы па міміцы, стары быў у свой час прыкладны сарвігалава».

«Двойка — юрыдычны абарончы факт настаўніка перад грамадствам».

«Завуч Елена Андрэеўна не мела матэматычна дакладных і паслядоўных уласцівасцей, якімі праславіўся Іван Савіч — дырэктар».

# ПРАГНОЗЫ І СПАДЗЯВАННІ



Заслужаны майстар спорту, старшы трэнер каманды «Беларусь» В. І. Новікаў.

Вясна — самая цудоўная пара года. З надыходам веснавых дзён не толькі абуджаецца прырода, апранаючыся ў дзівоснае зялёнае убранне, але і ажываюць футбольныя палі, запаўняюцца трыбуны стадыёнаў, а ў эфіры ўсё часцей гучаць меладычныя пазыўныя футбольнага маршу, што прыводзяць у радаснае хваляванне кожнага «балельшчыка».

На поўдні нашай краіны 8 красавіка пачаўся новы сезон вялікага футбола, сезон 1961 года. 22 мацнейшыя калектывы ўступілі ў барацьбу за залатыя медалі чэмпіёнаў Савецкага Саюза, за ганаровае права называцца мацнейшай футбольнай камандай краіны.

Папярэднія гульні праводзяцца ў двух падгрупах, па 11 каманд у кожнай. Паводле ўмоў розыгрышу першынства краіны па класу «А», пяць калектываў з кожнай падгрупы атрымаюць права ўдзельнічаць у заключным этапе спаборніцтваў, дзе і разыграюць паміж сабой першыя дзесяць месц.

Мінская каманда «Беларусь» у папярэдніх гульнях будзе выступаць у другой падгрупе разам з маскоўскімі клектывамі «Дынама», «Спартак» і ЦСКА, кіеўскім «Дынама», ерэванскім «Спартаком», ленінградскім «Зенітам», «Пахтакорам» (Ташкент), «Кайратам» (Алма-Ата), «Калевам» (Талін) і «Малдовай» (Кішынёў). Праціўнікі сур'ёзныя.

Мы запыталі ў старшага трэнера каманды «Беларусь» заслужанага майстра спорту Віктара Іванавіча Новікава, на што могуць спадзявацца беларускія аматары футбола.

— Наша задача — у папярэдніх гульнях трапіць у першую пяцёрку, — сказаў ён. — Гэта нялёгка, мы ведаем. Але, мне здаецца, па сіле нашаму калектыву.

І Віктар Іванавіч расказаў нам аб падрыхтоўцы каманды «Беларусь» да новага сезона, аб зменах, што адбыліся ў яе складзе.

Усе добра памятаюць, якім трыумфальным шэсцем пачалі беларускія футбалісты мінулы сезон. Выйгрышы ў маскоўскага «Спартака», затым у «Шахцёра» (Сталіна), вільнюскага «Спартака», кіеўскага «Дынама» і, нарэшце, у «Крылляў Саветаў» (Куйбышаў). 10 ачкоў з 10 магчымых! Гэта было зусім нечакана для маладога калектыву мінскіх трактаразаводцаў. Здавалася, «Беларусі» забяспечана месца ў фінальным турніры. Аднак у яе не хапіла баявога запалу. У выніку — адзінаццатае месца ў канчатковай турнірнай табліцы.

Пачаліся спрэчкі, як лічыць увогуле гэты вынік каманды «Беларусь»: дасягненнем ці правалам. Бясспрэчна, для маладога калектыву, які толькі ўвайшоў у клас «А», гэта быў поспех. Хоць пры наяўнасці дастойнай замены футбалістам асноўнага складу каманда магла б разлічваць на месца ў першай шасцёрцы. Аб гэтым сведчаць яе лепшыя матчы: беларускія футбалісты двойчы перамаглі другога прызёра чэмпіянату — дынамаўцаў Кіева, выйгралі ў сталічных каманд «Спартак» і «Лакаматыў», а таксама ў тбіліскага «Дынама».

Прыемнае ўражанне пакідала выключна далікатная гульня нашых спартсменаў. Доўгі час «Беларусь» прэтэндавала на «Прыз справядлівай гульні». І толькі абуральны ўчынак абаронцы Міхаіла Радунскага, які ў сустрэчы з ЦСКА зняважыў суддзю, пазбавіў калектыў гэтай ганаровай узнагароды.

Сур'ёзным недахопам у гульні нашых футбалістаў былі нізкая тэхніка валодання мячом і слабыя, недакладныя ўдары па варотах. Колькі разоў нападаючыя «Беларусі» хутка праходзілі да штрафной пляцоўкі сваіх сапернікаў і тут гублялі мяч або пасылалі яго міма. Не выпадкова, у мінулым сезоне «на рахунку» нашай каманды было так мала забітых мячоў.

Ёсць за што папракнуць і абаронцаў. Гэта па іх віне часам каманда прайгравала, здавалася б, выйграныя матчы. Успомніце хаця б пройгрышы на сваім полі «Шахцёру» (2:3) і маскоўскаму «Лакаматыву» (0:2). А што казаць пра гульні з «Кайратам» (Алма-Ата), у якіх мінчане страцілі чатыры каштоўныя ачкі, прайграўшы з лікам 0:2 і 1:6! Вось такія зрывы і не дазволілі «Беларусі» ўзняцца вышэй за адзінаццатае месца.

Пры падрыхтоўцы да сезона 1961 года трэніроўкі праводзіліся з такім разлікам, каб кожны футбаліст дасканала авалодаў складанымі тэхнічнымі прыёмамі, асабліва тымі, якія горш за ўсё ў яго атрымліваліся. Вялікая ўвага была звернута на агульнафізічную падрыхтоўку ігракоў.

У манежы рэспубліканскага Дома фізкультуры можна было бачыць, з якой старannасцю і настойлівасцю футбалісты займаліся лёгкай атлетыкай, акрабатыкай, а ў басейне Акруговага дома афіцэраў — плаваннем. Лепшыя трэнеры рэспублікі — заслужаны трэнер СССР Барыс Левянсон, майстры спорту Цімафей Лунёў і Міхаіл Цэйцін, не шкадуючы сіл і ча-

С. Хвораў, Э. Зарэмба і Д. Карнееў на трэніроўцы ў спартыўнай зале.





Капітан каманды А. Жукаў.

су, дапамаглі членам футбольнай каманды ўдасканальваць лёгкаатлетычныя навыкі, авалодваць элементамі акрабатыкі. Усё гэта вельмі спатрэбіцца ім у час напружаных матчаў на футбольным полі.

Такая align="" рознабаковая трэніроўка становуча адбілася на падрыхтаванасці каманды. Футбалісты прыехалі на трэніровачны збор у Сочы ў добрай спартыўнай форме, фізічна загартаваныя і ўзмацнелыя. А гэта вельмі неабходная ўмова перад такімі працяглымі спаборніцтвамі, як чэмпіянат краіны.

Можна смела сказаць, што сёлета склад нашай каманды куды мацнейшы, чым летась. Тыя змены, што адбыліся ў калектыве, дазваляюць спадзявацца, што ўсе лініі будуць іграць надзейна.

Асноўны касцяк каманды складаюць тыя ж ігракі, якія выступалі летась. Да іх далучылася і новае папаўненне — група маладых, здольных футбалістаў. Некаторыя з іх ужо вядомы аматарам футбола, другія ж толькі ўпершыню будуць выступаць у класе мацнейшых.

У лініі нападзення мы ўбачым майстроў спорту Віталя Арбутава і Уладзіміра Церахава, Генадзя Хасіна, Уладзіміра Ганчарова і Дзмітрыя Карнеева, які вярнуўся ў строй пасля цяжкай траўмы. Гэтую пяцёрку добра ведаюць беларускія «балельшчыкі». У мінулым сезоне не раз радаваў гледачоў сваёй энергічнай, прадуманай гульнёй Віталь Арбутаў. Ён быў бадай лепшы нападаючы. Вызначаўся сваёй працавітасцю і стараннасцю Уладзімір Ганчароў, які не раз удала завяршаў камбінацыі партнёраў. Няроўна выступаў Генадзь Хасін. Некаторыя матчы ён праводзіў бліскуча, а некаторыя — сумбурна, пасіўна. Большага можна было б чакаць і ад Уладзіміра Церахава — здольнага і тэхнічна натрэніраванага футбаліста.

Упершыню з эмблемай «Беларусь» будуць выступаць нападаючыя Ігар Грэкаў з маскоўскага «Спартака», Міхаіл Мустыгін з каманды ЦСКА, Анатоль Фядулаў з барнаульскай «Працы», а таксама мінчане Мікалай Чаргінец, які гуляў у камандзе «Ураджай», і Барыс Бельцаў з гарадской футбольнай школы моладзі. Яны заменяць Леаніда Нікуленку, Анатоля Маёрава і Анатоля Ільіна, якія выбылі з каманды.

Радуе тое, што цяпер у кожнага нападаючага будзе дастойны дублёр. З Мікалаем Чаргінцом мінчане знаёмы. Летась ён быў адным з лепшых ігракоў у камандзе «Ураджай». Трэба спадзявацца, што і сёлета Чаргінец парадуе гледачоў прыгожай, тэмпераментнай гульнёй.

Барыс Бельцаў пакуль што не знаёмы большасці аматараў футбола. Яму ўсяго 17 год, яго футбольная кар'ера яшчэ ўперадзе.

Не намнога старэй за Барыса Ігар Грэкаў. Але гэтае імя не новае ў вялікім футболе. Малады футбаліст нядрэнна зарэкамендаваў сябе ў маскоўскім «Спартаку». Ён неаднаразова ўдзельнічаў у сустрэчах з зарубежнымі камандамі. Высокая тэхніка і хуткі бег робяць яго небяспечным для любога варатара.

Не навічок у класе «А» і Міхаіл Мустыгін. Яму 24 гады. У мінулым сезоне ён нядрэнна іграў у камандзе ЦСКА. Па «футбольнай кваліфікацыі» ён — цэнтральны нападаючы, а па характару ігры — футбаліст «вострага стылю». Хутка бегае, моцна і дакладна б'е з абедзвюх ног. У час гульні гэтага невысокага, але надзвычай увішнага і энергічнага іграка не так проста «ўтрымаць».

З далёкага Барнаула прыехаў да нас Анатоль Фядулаў. Леташні сезон ён гуляў у камандзе «Праца» (клас «Б»). Сціплы, старанны, ён імкнецца ў новым калектыве праявіць усе свае здольнасці. А яны, безумоўна, у яго ёсць. Не выпадкова летась імя Анатоля Фядулава значылася ў спісу трыццаці трох лепшых футбалістаў Расійскай Федэрацыі.

Калі ў лініі нападзення пакуль што не вызначана асноўная пяцёрка, то ў паўабароне змен не прадбачыцца. Мінулы сезон нашы паўабаронцы Леанід Ерахавец і Анатоль Жукаў правялі выключна надзейна і ўпэўнена. Абодва ігракі пакідаюць прыемнае ўражаенне сваёй прыгожай, высокатэхнічнай ігрой.

Сёлета Леаніду Ерахаўцу спаўняецца 26 год. Сёмы сезон выступае ён за мацнейшую каманду рэспублікі. За гэты час Ерахавец стаў сталым майстрам скуранога мяча.

Анатоль Жукаў на тры гады маладзей за Ерахаўца, але і ён сапраўдны «футбольны ас». Гэтага таленавітага, самаадданага спартсмена палюбілі мінчане за яго майстэрства і працавітасць, за тое, што ён змагаецца за мяч «да апошняга», заўсёды гатоў дапамагчы таварышу. Не раз Анатоль Жукаў выратоўваў свае вароты ад намечанага гола і не раз пасылаў «снайперскія» мячы ў вароты праціўніка.

У дублі «Беларусі» разам з 19-гадовым Генадзем Сігаевым замест Анатоля Кавалёва, які выбыў з каманды, будзе гуляць Віктар Грашчанка з Мінскага завода аўтаматычных ліній. У паўабарону ўключаны і былы ігрок мінскага «Ураджаю» Юры Пышнік — малады, перспектыўны футбаліст.

Папоўнілася і абарона каманды «Беларусь». Цяпер разам з Міхаілам Радунскім, Барысам Манько, Эдуардам Зарэмбам і Мікалаем Блажко, які зноў звярнуўся ў строй пасля цяжкай траўмы, будуць гуляць Барыс Віктараў з глухаўскай «Працы», Станіслаў Хвораў з барнаульскай «Працы», Мікалай Барсук з гомельскага «Лакаматыва», Іван Савосцікаў з мінскай каманды «Спадарожнік» і Леанід Гарай з мінскага «Ураджаю». Тут таксама, як і ў лініі абароны, назіраецца сур'ёзная барацьба за месцы ў асноўным складзе каманды. Магчыма, ветэранам прыйдзецца даць дарогу моладзі.

З новых абаронцаў вялікія надзеі падае Барыс Віктараў. Ён гуляе ўпэўнена, тэхнічна, хутка арыентуецца ў самай складанай сітуацыі ля варот. Выдатным тактыкам, энергічным і смелым у барацьбе за мяч зарэкамендаваў сябе 20-гадовы Станіслаў Хвораў. Здольныя футбалісты Леанід Гарай і 19-гадовы Іван Савосцікаў.

Хто ж будзе абараняць у гэтым сезоне вароты «Беларусі»? Варатароў у камандзе трое: знаёмыя па мінуламу году майстар спорту Альберт Дзенісенка і Вечаслаў Лунёў, а таксама Мікалай Журавенка з мінскага «Ураджаю» (замест Аляксандра Есікава). Пакуль што цяжка сказаць, хто будзе асноўным «вартаўніком варот». Альберт Дзенісенка — вопытны варатар, аднак у канцы сезона пачаў хібіць. Прыйшлося тэрмінова замяніць яго 20-гадовым Вечаславам Лунёвым. І гэтая замена апраўдала сябе. Малады варатар паказаў сапраўдныя «цуды» і стаў любімцам мінскіх аматараў футбола. Надзейна гуляў за «Ураджай» Мікалай Журавенка. Гэта яго заслуга, што ўраджаеўцы за ўвесь сезон прапусцілі найменшую (пасля тбіліскага «Лакаматыва») колькасць мячоў у сваёй падгрупе.

Спадзяванні шматтысячнай арміі «балельшчыкаў» на поспех сваёй любімай каманды «Беларусь» маюць усе падставы. Футбольны калектыў папоўніўся здольнай моладдзю. Цяпер сярэдні ўзрост усёй каманды — 23 гады.

У калектыве пануе дух сапраўднай дружбы і таварыскасці. Не толькі трэнеры, але і старэйшыя футбалісты дапамагаюць сваім

Фота Д. Церахава.



юным таварышам авалодваць спартыўным майстэрствам.

Каманду «Беларусь» можна назваць камсамольскай, бо тут 22 камсамольцы. Узначальвае камсамольскую арганізацыю варатар Вячаслаў Лунёў. У вольны ад трэніровак час футбалісты наведваюць кіно і тэатры, бываюць на канцэртах. Традыцыйнымі сталі сяброўскія сустрэчы футбольнай каманды з аматарамі футбола. Такая сувязь з грамадскасцю павышае адказнасць ігракоў за свае выступленні, за паводзіны ў быту. Наш глядач — самы патрабавальны і справядлівы суддзя.

Амаль усе футбалісты вучацца: хто ў школе трэнераў, хто на завочным аддзяленні Мінскага інстытута фізкультуры, а трое з'яўляюцца студэнтамі Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна.

Цікавае і шматграннае жыццё футбалістаў каманды «Беларусь», тых, каму спартыўная грамадскасць даверыла абараняць гонар нашай рэспублікі на футбольным полі. Розныя ў іх характары, розныя схільнасці і імкненні. Але гэты дружны калектыў яднае агульная любоў да спорту, пачуццё адказнасці за свае выступленні.

Сезон вялікага футбола пачаўся. Будуць у каманды «Беларусь» і бліскучыя перамогі, і «баявыя» нічые. Не абыдзецца, вядома, і без паражэнняў. Але дрэнны той «балельшчык», які пасля першай жа няўдачы расчароўваецца і пачынае ахайваць «сваю» каманду.

Нялёгка, вельмі нялёгка завяваць запаветнае пятае месца ў сваёй падгрупе, каб трапіць у фінальны турнір. Будзем жа спадзявацца на нашу «Беларусь». Пажадаем беларускім футбалістам шчаслівага старту і пасняховага фінішу.

**Л. СЕВАСЦЬЯНАЎ.**

# ТРЫУМФ ТЫГРАНА ПЕТРАСЯНА

Фінал XXVIII Усесаюзнага чэмпіянату быў адначасова адборачным этапам для міжзанальнага турніра на першынство свету па шахматах. Чатыры пераможцы гэтага чэмпіянату атрымалі права змагацца за сусветную шахматную «карону». Сярод дваццаці ўдзельнікаў чэмпіянату было дзесяць першакласных гросмайстраў. Гэта рабіла барацьбу як за першае месца, так і за першую «чацвёрку» вельмі напружанай і поўнай захаплення.



Напружаная спартыўная барацьба на працягу месяца хвалявала нашу грамадскасць. Бліскучы старт мінулагодняга чэмпіёна краіны Віктара Карчнога. Канкурэнтаў шмат. Гросмайстры Т. Петрасян, Е. Гелер, В. Смыслоў і Б. Спаскі спачатку не прываблівалі асаблівай увагі, заканчваючы большасць сустрэч мірна. З чацвёртага тура рэзкі рывок робіць Барыс Спаскі — самы юны гросмайстар (на гэтым чэмпіянаце ён адзначаў сваё дваццацічатырохгоддзе).

**Разбор незакончанай партыі.** Злева направа: **чэмпіён Масквы Е. Васюкоў, Т. Петрасян і чэмпіён свету М. Таль.**

Фота Б. Гольданшлюгера.

Спаскі адну за адной выйграе чатыры партыі і становіцца лідэрам турніра аж да дзесятага тура. У дзесятым туры ён бліскуча праводзіць атаку, ажыццяўляе надзвычай прыгожую камбінацыю і раптам у час цэйтноту свайго партнёра Л. Палугаеўскага дапускае вельмі грубую памылку і замест выйгрышу зусім нечакана для гледачоў прайграе партыю. Гэта акалічнасць сапсавала настрой Спаскага, і другую палову турніра ён іграе ніжэй сваіх магчымасцей.

З сярэдзіны турніра лідэрства моцна захапіў гросмайстар Т. Петрасян. З кожным турам ён іграе усё больш упэўнена, вылучаючыся сярод сваіх партнёраў не толькі больш глыбокай стратэгіяй, але і вельмі гнуткай тактыкай. Фініш турніра быў сапраўдным трыумфам маскоўскага гросмайстара. Сыграўшы дзве апошнія партыі ўнічыю, Петрасян другі раз заваёўвае залаты медаль чэмпіёна краіны, паўтарыўшы па колькасці ачкоў ($13^1/_2$ з 19) сваё ранейшае, тбіліскае дасягненне.

Чэмпіён краіны мінулага года В. Карчной да канца турніра горача абараняў сваё званне. Асобныя зрывы толькі яшчэ больш распальвалі яго спартыўны азарт, і на фінішы Карчной амаль дагнаў пераможцу турніра. Не хапіла ўсяго толькі паловы ачка! Настойлівасць і здзіўляючае імкненне да перамогі — вось характэрнае ў паводзінах В. Карчнога.

Хто ж яшчэ меў гонар быць залічаны ў шчаслівую «чацвёрку»? Гэта — два прадстаўнікі Украіны: гросмайстар Е. Гелер і малады львоўскі майстар Л. Штэйн. Калі перамогу Гелера нельга назваць нечаканай, дык вынік Штэйна — гэта вельмі прыемны сюрпрыз.

Кожны фінал першынства краіны вылучае новыя імёны. У мінулым годзе вялікага поспеху дасягнуў малады чэмпіён Азербайджана В. Багіраў. У сёлетнім турніры яшчэ больш вызначыўся Леанід Штэйн, які не толькі атрымаў першы гросмайстарскі бал, але атрымаў права змагацца за званне сусветнага чэмпіёна.

Штэйн — шахматыст камбінацыйнага стылю. Яго перамогі над гросмайстрамі Петрасянам, Гелерам, Бранштэйнам і Спаскім — яркі таму доказ. Можна не сумнявацца, што ў бліжэйшы час савецкія гросмайстры атрымаюць ў яго асобе моцнае папаўненне. Адразу ўслед за пераможцам занялі свае месца экс-чэмпіён свету В. Смыслоў і гросмайстар Б. Спаскі. Гэта, вядома, для іх не зусім пачэснае месца. Але на тое ёсць прычыны. Смыслоў усё яшчэ перажывае творчы крызіс пасля паражэння ў матч-рэваншы з М. Батвіннікам. Спаскі ж ніяк не можа навучыцца правільна размяркоўваць сілы: першую палову турніра іграе з велізарнай энергіяй, а ў другой — выдыхаецца.



**Пераможца турніру Тыгран Петрасян дома з жонкай Раісай і сынам Вартанам.**

Расказаўшы толькі пра тых, хто найбольш вызначыўся, варта заўважыць, што не было такога ўдзельніка чэмпіянату, які б не ўнёс свайго ўкладу ў тэорыю шахматнага майстэрства, не стварыў бы новых выдатных узораў шахматнай творчасці.

Партыі чэмпіянату яшчэ доўга будуць вывучацца аматарамі шахмат ва ўсім свеце. Толькі некаторыя з іх, лепшыя з лепшых, былі ўзнагароджаны спецыяльнымі прызамі. Так, газета «Известия» прысудзіла спецыяльны прыз за лепшую партыю гросмайстру Ю. Авербаху супраць С. Фурмана, а Цэнтральны савет Саюза спартыўных таварыстваў вылучыў як лепшую партыю — перамогу Е. Гелера над В. Смысловым. Прыз ТАССа за самую прыгожую партыю атрымаў В. Сімагін, які іграў з Л. Штэйнам.

Разам з чэмпіянатам краіны адбывалася юнацкае першынство краіны. Цудоўных вынікаў дасягнуў тут юнак з Віцебска Цімох Глушнёў. Ён у мацнейшым складзе ігракоў падзяліў 3—5 месцы і выканаў норму кандыдата ў майстры СССР. На думку буйных спецыялістаў — заслужаных трэнераў і майстроў — Ціма Глушнёў мае вялікія прыродныя здольнасці і, калі здолее правільна арганізаваць сваю вучобу, хутка ўдасканаліць свае майстэрства. Ц. Глушнёў рэгулярна наведваў XXVIII чэмпіянат краіны і пры сустрэчы са мной сказаў, што назіранні за ігрой майстроў — гэта лепшая вучоба для яго.

**Аляксей СУЭЦІН,**
**майстар спорту.**

# Гумар і сатыра



## ПЕРАД СПАТКАННЕМ

**Венера: Ці спадабаюся?**

Мал. В. Швяцова.

## НА ТЭМЫ ДНЯ

Мал. Г. Скамарохава.




**Якая заслуга, такая і пашана.**



**Блізка відаць, ды далёка дыбаць.**






**І рушылі ў паход галоўныя рэзервы.**

## ГНУЎ, ГНУЎ... ДЫ І „ЗАГНУЎСЯ“

Мал. А. Кійранена.



У Лявона гультая  
Філасофія свая:  
На гулянкі я—мастак,  
На работу—абы-як.  
І надумаўся Лявон  
«Ціснуць» з цукру самагон...  
Сухапарнік, як змяя,  
Спавівае гультая.

А затым, нібы жывы,  
Цягнецца да галавы.  
І, здаволены, Лявон  
Прагна жлукціць самагон.  
Вы дагэтуль прачыталі  
І чакаеце маралі?  
На малюнак кіньце вокам:  
Вось мараль яго, ля боку.

**Павел ЧАРОМХА.**



## ЗМЕСТ

**Анатоль Вярцінскі.** Запаветны партрэт. Верш . . . . . . 3
**Міхась Друшчыц.** Песня даярак. Верш. . . . . . . . . 4
**Раман Тармола.** Маці кажа... Верш. . . . . . . . . . 5
**Алесь Асіпенка.** Сыну майго сына. Аповесць. . . . . . 7
**Анатоль Грачанікаў.** Горны малюнак. Верш . . . . . . . 95
**Сцяпан Ліхадзіеўскі.** Кашу тугу. Паводкаю з вакзала... Вершы. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 96
**Валянцін Таўлай.** Калі атуліць ноч... Мне волю адабралі. Аддайце мне волю. Шумяць бары... Вершы. . . . . . 98
**Алесь Ставер.** Споведзь. Слова злосці... Родныя мясціны. Вершы. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 100
**Расл Дэвіс.** Такія дні. Апавяданне. . . . . . . . . . . 103
**Ояр Вацыеціс.** Маёй песні. Верш. . . . . . . . . . 117
**Тэрэнь Масенка.** Скарга. «Адналюб». Вершы. . . . . . . 118

**Дарогамі сямігодкі**

**Л. Максімаў.** Давер'е партыі апраўдаем!. . . . . . . . 119
**Маякі нашага часу.** . . . . . . . . . . . . . . . . 125
**Міхась Алісейка.** Мінута — гэта вельмі многа. Рэпартаж. . . 126

**Гары, камсамольскі аганёк!**

**Іван Ласкоў.** Такія ў нас сэрцы. Пра факультэцкія будні. . . 130

**Навука і культура**

**Р. Ясінскі.** Незвычайны кінарэпартаж. . . . . . . . . . 140
**А. Дзітлаў.** Экзамен на сталасць. . . . . . . . . . . 141
**Яўген Макоўскі.** Івянецкія майстры . . . . . . . . . 145

**Крытыка і бібліяграфія**

**Рэгіна Піатухоўская.** Плён пошукаў. . . . . . . . . . 147
**Барыс Клюсаў.** Жыццё-подзвіг. . . . . . . . . . . . 149
**Агрэхі стылю.** . . . . . . . . . . . . . . . . . . 151

**Спорт**

**Л. Севасцьянаў.** Прагнозы і спадзяванні. . . . . . . . . 152
**А. Суэцін.** Трыумф Тыграна Петрасяна. . . . . . . . 156
**Гумар і сатыра** . . . . . . . . . . . . . . . . . . 158

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**



Перад кросам.

Фотаэцюд А. Дзітлава.



# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Бясплатны дадатак да часопіса
«Маладосць» № 4 (98) 1961 г.

**Рыгор КОБЕЦ**

# ЦЯЖКІ ВЫПАДАК

**Аднаактовая п'еса**

Юшко Ігнат Іванавіч — калгаснік, 25 год.
Моця — яго жонка. Зграбная, прыгожая, часам запальчывая, 20 год.
Марфа Савішна — маці Ігната. Дужая яшчэ старая з цяжкім характарам.
Буднік Андрэй Карпавіч — калгасны брыгадзір.
Крушына Алесь Лявонавіч — старшыня калгаса, 28 год.
Клумава Алена Рыгораўна — урач, 35 год.

Прасторная і светлая хата Юшко, абсталяваная з густам, амаль па-гарадскому. На вокнах гардзіны, на сценах шмат фатаграфій. У кутку, на століку, які накрыты вязаным абрусам, — патэфон, горка пласцінак. На канапе раскіданы маленькія падушачкі. Паміж канапай і ложкам, на століку — ручная швейная машына без футарала. На шырокім ложку з нікеляванымі аздабленнямі спіць Ігнат. У вокны ледзьве прабіваюцца ружаватыя праблііскі світання. Марфа на каленях моліцца перад абразом, б'е паклоны і часта хрысціцца.

Марфа (*шэптам*). Ойча наш, іжэ есі на небясі. Да свяціцца імя тваё, да будзе...

Ігнат (*варочаючыся на ложку*). Моця-а-а!

Марфа (*не азіраючыся*). Няма Моці. Карову доіць. (*Зноў шэпча.*) Да будзе воля твая, яка на небясі, така і на зямлі.

Ігнат. Ма-а-ці, а можа не паедзем сёння?

Марфа. Яшчэ што выдумаў? Сёння якраз швейныя машыны даваць будуць. (*Моліцца.*) Хлеб наш насушны дажджнам днесь і пакінь нам даўгі нашыя...



Ігнат. А навошта здалася нам машына гэтая? Хто на ёй шыць будзе?

Марфа (*злосна*). Ну і дурань! Навошта, навошта... Потым зразумееш навошта. (*Працягвае маліцца.*) Яка жа й мы пакідаем даўжнікам нашым...

Ігнат. Ма-а-ці!

Марфа (*злосна*). Вось няшчасце! Ну і дзіця! Ну і сынок! Ілба не дасць па-людску перахрысціць. Не столькі намолішся, колькі награшыш тут з табой, даруй мне, божанька. Пайду я лепей свіней карміць, а ты ўставай памалу. (*Выходзіць.*)

Ігнат (*адзін*). Уставай, уставай... А калі не хочацца. (*Пераварочваецца на другі бок.*) Падрамлю яшчэ мінут трыста. (*Уваходзіць Моця з даёнкай.*)

Моця (*не ў настроі*). Ігнат! Чуеш, Ігнат?

Ігнат. Не-е-е... не чую.

Моця. Не прытварайся. Ты ўжо не спіш!

Ігнат. Ну, дык буду спаць. (*Лезе пад коўдру з галавой.*)

Моця. Не. Устань, Ігнат. Устань. Пагаварыць трэба.

Ігнат. Не хачу.

Моця. Не ўстанеш?

Ігнат. Не-е...

Моця. Ну, гэта мы пабачым. (*Рыўком зрывае з Ігната коўдру.*)

Ігнат (*жартоўна*). Грамадзяне!.. Ратуйце!.. Гэта ж рабунак...

Моця. Які рабунак? (*Рассоўвае фіранкі.*) Глядзі. Сонца ўстае. (*Ігнат зноў нацягвае коўдру.*) Не ўстанеш?

Уваходзіць Марфа.

Марфа. Шалёныя... далібог, шалёныя. Чуць свет, а яны мітусню ў хаце падымаюць. (*Моці.*) А ўсё ты... ты, беспрытульніца дзетдомаўская. Няма, каб маці памагчы па гаспадарцы. Усё рагочаш... Ідзі лепей на гарод ды зрэж капусты ранняй, качаноў з дзесятак.

Моця. А навошта столькі?

Марфа. На базар. Ды глядзі ж... выбірай горшыя...

Моця. Горшыя? А хто ж іх у вас купляць будзе? Каму гэта трэба дрэнная капуста?

Марфа. Вось дурніца! Няўжо не разумееш? Зараз пачынаецца жніво. Усе калгаснікі на полі. Прывоз на базар маленькі. Усё прадаць можна. І за добрыя грошы.

Моця. Во як?

М а р ф а. Але, так. Пара б і самім мазгамі варушыць. У старых людзей жыць вучыцеся. А то ж прывыклі: пажві ім ды ў рот пакладзі.
І г н а т. А можа не паедзем, маці?
М о ц я. Нам на работу трэба.
М а р ф а *(злосна)*. На работу... Работа не воўк, у лес не ўцячэ. Вернемся з базару, тады і на работу можна пайсці. *(Моці.)* Ну, чаго стаіш, рот разявіўшы?! Бяжы па качаны. Ды хутчэй! *(Моця выходзіць.)*
І г н а т. А на чым паедзем? Сёння ні адна машына ў горад не пойдзе... Уборка.
М а р ф а. Каня трэба прасіць.
І г н а т *(упэўнена)*. Каня не дадуць.
М а р ф а. Хвораму дадуць. Скажам, у бальніцу трэба ехаць.
І г н а т. А хто ж у нас хворы?
М а р ф а *(з прыкрасцю)*. Эх, сынок, сынок! Мазгамі трэба варушыць. Хто хворы, хто хворы... Ты хворы!.. Вось хто.
І г н а т. Я?
М а р ф а. Ты. А хто? Скрывіся і стагні жаласна. На нутро жалься больш. У нутро ж яны не палезуць глядзець.
І г н а т *(ківаючы галавой)*. Не павераць. Нізашто не павераць.
М а р ф а. Цьфу ты, бязглузды! «Не паве-е-раць...» А ты зрабі так, каб паверылі.
І г н а т. Не ўмею я так... Не магу, маці.
М а р ф а. Як гэта не можаш? У клубе дык цэлыя ночы камедыю ставіце, людзей дурманіце. А тут... У хаце, аднаго брыгадзіра абдурыць не зможаш? Сагніся, за жывот хапайся ды стагні жаласна... Твар падмалюй, каб белы быў.
І г н а т *(здзіўлена)*. Твар падмалёўваць? Чым?
М а р ф а. Чым, чым! Фарбай гэтай самай... клубнай.
І г н а т. Грымам?
М а р ф а. А ліха яе ведае, як яна там завецца... Вунь яе ажно два карабкі ў Моціным рыдыкюлі.
І г н а т *(рагоча)*. Охо-хо-хо-хо! Ну і маці! Дадумалася!
М а р ф а *(самазадаволена)*. Самім мазгамі варушыць трэба, а вы ўсё на маці спадзеяцеся.
І г н а т. Дык я ж гэта ўмомант зраблю. *(Мітусіцца па пакоі, дастае з рыдыкюля карабок грыму, кладзе на табурэтку, там жа ставіць люстэрка. Пачынае грыміравацца.)*
М а р ф а. Даўно б так. Намажашся і кладзіся. А я пачну клункі звязваць. Сала трэба ўзяць, яек сотні з паўтары, смятаны. *(Пачынае сартаваць на падлозе клункі, мяхі, торбачкі.)*
І г н а т. Маці, а што, калі даведку аб хваробе запатрабуюць? Дзе возьмем?
М а р ф а. Не бойся. Даведка ўжо ёсць. На мінулым тыдні ў фершала ўзяла, і не дорага... за бутэльку самагонкі і дзесятак яек. Даведка ёсць.

Уваходзіць Моця, ставіць на падлогу мяшок.

М о ц я. Дванаццаць качаноў зрэзала. *(Зірнуўшы на Ігната.)* Ой! Ты што гэта?
І г н а т. Не бачыш? У бальніцу збіраюся.
М о ц я. У якую бальніцу? Што ты пляцеш?
І г н а т. Не разумееш?
М о ц я. А ты разумееш?
І г н а т. Разумею. Маці на базар трэба?
М о ц я. Ну, трэба.
І г н а т. А з кім яна паедзе?
М о ц я. Сама няхай едзе, а нам на работу пара ісці.
М а р ф а. Бач ты! Разумная якая... Сама няхай едзе... А хто мне машыну з магазіна вынесе? Хто яе на калёсы паставіць?
М о ц я. Якую машыну?
М а р ф а. Швейную... вось якую! Сват Парфен перадаў, што сёння машыны будуць, нажныя, кабінетныя.
М о ц я. Ды навошта яна нам? Вось жа ў нас ручная машынка. Ды і тая стаіць. Ні ты, ні я шыць не ўмеем. Купім другую. Дзеля чаго? Таксама ж будзе дарэмна стаяць.
М а р ф а. Ну і няхай стаіць. Есці яна не просіць. У любы момант збыць можна, ды яшчэ і з барышом.
М о ц я. Каб нам бокам не вылез гэты барыш. Нікуды Ігнат не паедзе. Нікуды! Знайшлі час па базарах ездзіць.
М а р ф а. Дурніца ты і больш нічога! Іменна знайшлі час, самы зручны. Усе калгаснікі на жніво, а мы на базар. Любыя грошы за прадукты возьмем. Ніхто і таргавацца не стане. Машыну купім... Але... Купім... І ў цябе не спытаем.
М о ц я. Добра, добра. Не пытайцеся. *(Перадражнівае Марфу.)* Купім, купім... і паставім у кут замест абраза... і будзе яна сто гадоў дарэмна там стаяць, вось як гэта. *(Паказвае на машыну.)*
М а р ф а. Праўду кажуць людзі: молада-зелена. Што ты разумееш? Трэба мазгамі варушыць. Дарэмна будзе стаяць!..

Ды ты ведаеш, колькі за нажную машыну адразу дадуць? З рукамі адарвуць ды яшчэ дзякуй скажуць.

М о ц я *(махнуўшы рукой)*. Добра. Рабіце, як хочаце. Адпраўляйцеся ў бальніцу, на базар, адным словам, хоць куды. А я на работу пайду. *(Завязвае ў хустачку кавалак хлеба. Ігнат і Марфа пераглянуліся.)*

І г н а т. На работу?

М о ц я. А куды ж яшчэ? Вядома, на работу. Час гарачы... Уборка... А я звеннявая! Мне трэба са сваім звяном у полі ісці.

М а р ф а. Ашалела. Далібог, ашалела! А хто ж дома застанецца? Хто карову падоіць? Птушак накорміць? Хто цялят дагледзіць?

М о ц я. Хто хоча, толькі не я... Мне на работу трэба. *(Ідзе да дзвярэй.)*

І г н а т. Пачакай, пачакай! Ты што?.. Ты гэта сапраўды?

М о ц я. А ты як думаў? Усё маё звяно выйдзе ў поле, а я ў хаце буду сядзець? Як жа я людзям у вочы гляну? Ды я ж ад сораму згару.

М а р ф а. Сорам не дым, вочы не выесць.

М о ц я. Яно, пэўна, так... Асабліва, калі вочы ў каго прымарожаныя.

М а р ф а. Так, так, даражэнькая нявестачка. У цябе, значыцца, не прымарожаныя. Сумленная надта ж! Цябе, значыць, гаспадарка не датычыць? Ты хіба кватарантка ў нас у хаце? А я за цябе працаваць павінна?

М о ц я. Ніхто за мяне працаваць не павінен і не працуе. А толькі я праз вас лыпаць вачыма перад людзьмі не жадаю.

М а р ф а *(Ігнату)*. Ты чаго стаіш, як пень? Чаго маўчыш? Яна хутка на галаву нам палезе... Сумленная.

І г н а т *(пагрозліва)*. Ты, Моця, лягчэй... А то кепска будзе!

М о ц я. Глядзі, Ігнат, каб табе кепска не стала. Выганяць з калгаса — куды пойдзеш? Сёння на базар, заўтра на базар. Учора сепаратар, сёння швейная машына, а там яшчэ штонебудзь. А працаваць хто будзе? Поле не чакае!

М а р ф а. Бач, стракоча, як сарока, адно і тое ж. Поле не чакае... Працаваць трэба... Без цябе ведаем. Не табе роўня. Працавала не гэтак, як ты. Ад світання да самай начы карак гнула, рукі, ногі вымотвала. Камбайна ці, скажам, трактара, не толькі на полі, а нават і ў думках не было. Усё на сваім гарбе вынесла, потам гарачым, слязьмі горкімі аблівалася — і ўсё дарма. Вось іншы раз і схітруеш, пакрывіш душой, адарвеш кавалачак смачнейшы. Дык не заўсёды ж! Я ў твае



гады ў тры паты працавала, а што за гэта мела? Замуж выходзіла, дык пад вянец стаць не было ў чым. Кофтачка ды спадніца, ды фата за паўрубля. Вось табе і ўсё ўбранства. А цяпер, пад старасць, і жыццё лягчэйшае пайшло, і адпачыць бы можна было, але нявестачка сумленная не дае, у магілу гоніць. *(У акне паказваецца Буднік.)*

Б у д н і к *(з вуліцы)*. Што за шум? Зноў тарарам справілі. Ігнат дома? *(Паўза — у хаце замяшанне.)*

М а р ф а *(шэпча Ігнату)*. Лажыся, сынок, на ложак. Лажыся. Накрыйся коўдрай і стагні. *(Ігнат хуценька кладзецца.)*

Б у д н і к *(пад акном)*. Гэй, гаспадары! Дома Ігнат, пытаюся, ці няма?

М а р ф а. Дома, Андрэйка, дома. Заходзь у хату. *(Ігнату.)* Стагні, жаласлівей стагні!

І г н а т. Ой... вады... ой!..

М о ц я *(з агідай)*. Ні сумлення, ні сораму! Вочы б мае не глядзелі.

І г н а т *(шэпча)*. Ты, Моця, не ўмешвайся.

Уваходзіць Буднік.

Б у д н і к. Добрай раніцы, гаспадары, добрай раніцы! *(Убачыў Ігната на ложку.)* А-а-а, ляжыш? Мо' зноў захварэў?

І г н а т. Ой... Сіл маіх няма... ой... смертачка мая прыйшла...

Б у д н і к. Бач ты! Моцна цябе скруціла, ажно вочы пазападалі. А я па цябе прыйшоў. Уся брыгада чакае. Уборку пачынаем. Работа кіпіць.

М а р ф а. Не шанцуе нам, Андрэйка, зусім не шанцуе. Такі час, і вось на табе — захварэў. Цяпер бы толькі і зарабіць добра, а мы па дактарах вымушаны ездзіць.

Б у д н і к. Дрэнь справа. Галоўнае, людзей не хапае, а час гарачы. Спознімся з уборкай — колас асыплецца, палову ўраджаю страцім.

М а р ф а. Мы і самі гэта ведаем. Але ж да дохтура ў горад нам паехаць... Самі ж бачыце...

Б у д н і к. Няма на чым ехаць! Усе коні ў разгоне, і трохтонка занятая. Зерне ад камбайна будзе вазіць.

М а р ф а. Усе коні занятыя? Усе да аднаго?

Б у д н і к. А як жа? Усе да аднаго!

М а р ф а. Андрэйка, зрабі ласку. Папрасі старшыню: хай

дасць каня ў горад з'ездзіць... Сам бачыш... *(Паказвае на Ігната.)* Ледзь жывы ж...

Буднік. Ды я ўжо не ведаю, як і прасіць яго. Вы ж нядаўна ездзілі ў горад, а сёння зноў збіраецеся.

Марфа. Ды хто б яго ездзіў! Сам бачыш: ліха гоніць.

Буднік. Ну, добра! Пайду да старшыні, можа і дасць каня. Не паміраць жа чалавеку. Вось бяда! А ў нас людзей дык зусім не хапае. Не ведаю, як і ўправімся. *(Падыходзіць бліжэй да Ігната.)* Ух, як цябе хвароба змардавала за адну ноч. У дамавіну і то прыгажэйшых кладуць. Ну, дык я пайшоў... Папраўляйся. *(Ідзе да дзвярэй і ля парога затрымліваецца.)* Ай, ледзь не забыў. Моця, табе загад. Усё сваё звяно выводзь на ток. Ачышчаць і сартаваць зерне. Ды вось яшчэ, атрымай. *(Падае Моці скрутак паперы.)* Камсорг перадаў баявыя лісткі. Тут пяць штук. Сказаў, каб да вечара былі выпушчаны. Першы дзень уборкі. Усіх перадавікоў назаві па прозвішчу, усіх лепшых, працавітых, адзнач. Ну, і гультаёў, зразумела, таксама не забудзь. Усып ім перцу. Бывайце здаровы! *(Выходзіць.)*

Ігнат *(з усмешкай)*. Абдурылі! Дастане каня, далібог, дастане. Андрэй такі... ён добры.

Моця. І не сорамна табе, Ігнат, людзей абдурваць? Глядзі, дaскачаешся. Час такі гарачы, а ты фокусы строіш.

Марфа. Ну, чаго ты лезеш не ў сваю справу, я цябе пытаюся? Самі ведаем, што робім. *(Перадражнівае Моцю.)* «Час гарачы...» Час цяпер самы зручны.

Ігнат *(ускочыўшы)*. Есці хочацца! *(Садзіцца за стол.)* Ма-аці, дзе ж тая верашчака?

Марфа. Паспееш. Бяры пакуль што гуркі і сала.

Ігнат *(просіць)*. Мне б... чарачку.

Марфа. Здурэў. Дух гарэлкі адразу пачуюць.

Ігнат. Не пачуюць. Адну толькі... на дарогу.

Марфа. Не варта б цябе балаваць, сыночак. Ну, хіба толькі як хвораму, замест лякарства, на папраўку здароўя... Хі-хі-хі... *(Налівае шклянку гарэлкі.)*

Ігнат. За тваё здароўе, Моця. *(Моця ціха плача. Ігнат ідзе да яе.)* Ты што? Чаго ты плачаш?

Марфа. Вось дурненькая! Расхвалявалася. Ну, годзе, годзе. Цяпер ужо ўсё добра. Ну, досыць. Вытры слёзкі. А што я пашумела, дык што ж тут такога? На тое ж я маці. Пакрычу, пакрычу ды і прылашчу. Вось ты злуеш на мяне. Дык хіба ж я для сябе стараюся? Усё для вас... для дзетак. Як памру — усё дабро вам пакіну. На той свет з сабой не забяру. Але ж. Ну, годзе, годзе. Даволі.



Моця *(з болем)*. Ой-ёй-ёй! Як жа мне цяпер жыць на белым свеце?

Ігнат *(збянтэжана)*. Моця... Чуеш, Моця... Ды ты што, сапраўды... Чаго ты?

Моця *(праз слёзы)*. Сорамна мне... так сорамна! *(Плача.)* Звеннявая... камсамолка... Як жа я цяпер людзям у вочы гляну?

Ігнат. Во-ось ты пра што...

Марфа. Ну і дурніца! *(Злосна.)* Кінь румзаць! Разраўлася немым голасам. Не разводзь сырасць у хаце! Падумаеш... Далікатная.

Раздаецца стук у дзверы.

Голас *(за дзвярыма)*. Можна?

Марфа *(спалохана)*. Не... нельга... пераапранаюся. *(Шэпча Ігнату.)* Лажыся... лажыся хутчэй... Старшыня прыйшоў... Стагні! *(Ігнат хуценька лажыцца.)*

Марфа. Можна.

Уваходзіць Крушына.

Крушына. Здаровы, гаспадары! Ты што ж, Ігнат, у такую пару хварэць уздумаў? Што баліць?

Ігнат. Рукі, ногі ломіць... Нутро баліць. Быццам адарвалася нешта ў сярэдзіне.

Марфа *(журботна)*. Думалі, да раніцы не дажыве.

Ігнат *(запінаючыся)*. Яно... Як яго...

Марфа *(паспешна)*. Ледзьве ногі цягае. І скажы, Алесь Лявонавіч, адкуль толькі ліха звалілася на нашу галаву? І якраз у самую ўборку.

Крушына *(хмурна)*. Та-а-ак. Дрэнна... дрэнна. Часта ты хварэеш, Ігнат. Лячыцца трэба.

Марфа. Дык мы ж і думаем да дохтура ехаць у горад. Каня чакаем. Я ўжо і сама сабралася і яго падрыхтавала.

Крушына. А вам Марфа Савішна, па якой справе ў горад? Таксама хворыя?

Марфа. Я, дзякуй богу, здаровая. Але ж як гэта ён адзін без мяне паедзе? Сам бачыш — ледзь жывы.

Крушына. Та-ак, а мяхі для чаго? *(Паказвае на мяхі і клункі.)* Таксама ў горад? Што там у вас?

Марфа. Ды нічога... Та-ак... Дробязь усялякая. Бульбы крыху, смятаны, сала, яйкі...

Крушына. Цікава! Вы што ж... сына лячыць едзеце ці на базар?

Марфа (*пакрыўджана*). Пры чым тут базар? Ці мала што яму дахтары скажуць! Грошы ж патрэбны?

Крушына. Ну, дык вось... Слухайце, што я вам скажу: вы амаль кожны тыдзень ездзіце ў горад. То вы хварэеце, то ён, — быццам па раскладу. Не верыцца мне нешта. Парада мая такая: папраўляйцеся хутчэй, збірайцеся і ідзіце на поле. А то як бы вас не прыйшлося з калгаса выключыць.

Марфа. Яшчэ што! Вось выдумаў! Ды ты што, таварыш старшыня! Чалавек памірае, а ён не верыць. Як гэта вам падабаецца? Ты што, дохтур? Ты ў Ігната ў нутры быў?

Крушына. Пачакайце, пачакайце, Марфа Савішна. Не гарачыцеся. Калі на тое пайшло, дык мы інакш зробім; я запрагу каня і сам адвязу Ігната ў бальніцу, а вы адпраўляйцеся ў поле снапы вязаць на вопытным участку. У нас кожная пара рук на ўліку.

Марфа (*упэўнена*). Ты думаеш, старшыня, адна пара рук ураджай збярэ? Ты камбайны папрасі — дадуць. А калі адмовяць, напішы ў Маскву. У адзін момант камбайны будуць.

Моца. Алесь Лявонавіч, калі будзеце пісаць у Маскву наконт камбайнаў, папрасіце заадно і легкавы аўтамабіль «Волгу» прыслаць для нашай маці... Каб ёй было спадручней у рабочы час па базарах ездзіць.

Марфа (*успляснуўшы рукамі*). Зноў... Зноў не ў сваю справу лезе! Вось змяя падкалодная!

Моца. А ты якая? Надкалодная? Бач ты, дадумалася! Мы, значыць, будзем на баку ляжаць, ды па базарах швэндацца ў самы гарачы час, а Масква павінна нам машыны высылаць. Сядайце, дарагія калгаснікі, на машыны і, калі ласка, шпарце проста ў камунізм без перасадкі. Хоць я і маладая яшчэ і, як кажуць, розуму не набралася, але ж, па-мойму, так нічога не выйдзе.

Марфа. Ну і нявестачку бог паслаў!

Моца (*у тон Марфе*). Ну і свякроўку чорт падарыў!

Крушына. Даволі, даволі... Хопіць вам. Дык вось, Марфа Савішна, адпраўляйцеся на поле снапы вязаць, а Ігната ў бальніцу я сам адвязу.

Марфа. Гэтага я не дапушчу! Дзе ж вы, людцы добрыя, такое бачылі: каб родная маці сына свайго пры смерці на чужыя рукі пакінула? Няма такога закону! І не будзе ніколі!

Крушына. Ну, і гультаям патакаць таксама закону няма! (*Ігнату.*) Не прад'явіш даведку ад доктара — буду лічыць прагульшчыкам. Так і ведай.



Марфа. Даведку? Калі ласка. (*Шукае ў шуфлядцы стала.*) Калі ласка. Без даведкі і памерці не дасі. (*Шукае.*) Ага! Вось яна, даведка. На, чытай! (*Падае Крушыне даведку.*)

Крушына (*напаўголаса*). Выдана... та-ак... калгасніку Юшко Ігнату Іванавічу... Та-ак... гм...

Ігнат. Ой... сіл няма... ой!

Крушына. Бач ты... Моца, калі Ігнату стала дрэнна?

Марфа. Уначы... Ледзь не памёр.

Крушына. Я ў Моці пытаюся.

Моца (*ціха*). Уначы...

Крушына. Вельмі дрэнна?

Марфа. Я ж кажу: ледзь не памёр.

Крушына (*не звяртаючы ўвагі на Марфу*). Чаму ты маўчыш, Моца?

Моца (*ледзь чутна*). Вельмі...

Ігнат. Ды чаго ты ў яе пытаеш? Сам не бачыш?

Крушына. Моца, пакажы свае вочы. (*Глядзіць Моці ў вочы.*) Пытаюся, як камсамолку. Вельмі дрэнна было Ігнату?

Моца (*нерашуча*). Дрэнна...

Крушына. Камсамольскае слова? (*Моца апусціла галаву, маўчыць.*) Зразумела. Цяжкі выпадак. Добра. (*Шпарка ідзе да дзвярэй і ўжо адтуль:*) Збірайце Ігната ў бальніцу. Зараз прышлю каня. Вы ж яго і павезяце, Марфа Савішна.

Марфа (*узрадавана*). Дзякую, Алесь Лявонавіч! Вось дзякую!

Крушына выходзіць.

Ігнат (*садзіцца на ложку*). Фу-у... Ажно ў пот кінула. А ўсё ж і гэтага абдурылі. Дасць каня... Прышле. Цяпер прышле.

Моца. Абдурылі людзей і радуецеся?

Марфа. А ты думала, як? Цяпер яно гэтак: не абдурыш — не пражывеш. Трэба ўмець жыць.

Моца (*з болем*). Эх вы! Ні сумлення ў вас, ні сораму. (*Бразнуўшы дзвярыма, выходзіць.*)

Ігнат (*устрывожана*). Моца, Моца, вярніся! Чуеш, Моца!.. (*Падбягае да дзвярэй.*) Мо-о-ця!

Марфа (*адводзіць Ігната да стала*). Не крычы. Ідзі лепей есці. Падсілкуйся на дарогу. Прыйдзе твая Моца.

Ігнат (*сумна*). А калі не прыйдзе?

Марфа. Дзе яна дзенецца. Ні роду, ні племя... Пафыр-

кае, пафыркае ды і прыйдзе, як міленькая. Шаўковай стане.

Ігнат. А калі...

Марфа (*перабіваючы*). А калі не прыйдзе — плакаць не будзем. Падумаеш... Цяпер такога дабра хоць гаць гаці. Толькі і свету ў акне, што твая Моця. Не прыйдзе — другую знойдзеш, ды яшчэ лепшую. (*З вуліцы даносіцца грукат калёс і голас Крушыны.*)

Крушына (*з вуліцы*). Тпру-у-у! Няма на цябе ўпыну!

Марфа (*трывожна*). Лажыся... лажыся хутчэй... Зноў старшыня. (*Ігнат лажыцца на ложак. У хату ўваходзяць Крушына, Клумава і Моця.*)

Клумава. Добры дзень, таварышы! Дзе ваш хворы?

Ігнат (*спрабуючы ўстаць*). Ой... ой...

Клумава, Ляжыце, хворы, ляжыце.

Крушына. Ты, Ігнат, ляжы. Гэта доктар, Алена Рыгораўна Клумава. Дужа я за цябе напалохаўся. Вось і перахапіў па дарозе доктара. Яна цябе адразу вылечыць.

Марфа. Ну, навошта было непакоіць таварыша дохтура? Мы ўжо ў горад сабраліся ехаць. Як ні кажы, а ў бальніцы лепей дагледзяць, чым дома. Ці варта таварышу дохтуру непакоіцца?

Клумава. Не, чаму ж. Я, праўда, трапіла да вас выпадкова: ехала да другога хворага, а таварыш Крушына перахапіў мяне па дарозе. А як жа... калі тут трэба хуткая дапамога, я з задавальненнем. Мой абавязак... (*Ігнату.*) Расшпіліце кашулю. (*Ігнат расшпільвае кашулю. Клумава ставіць тэрмометр.*)

Моця. А можа табе, Ігнат, лягчэй стала? Можа ў полі табе лепей будзе! На свежым паветры за працай і пра боль забудзеш.

Ігнат. Ды я, як яго... ой, не вытрываць... ой!.:

Моця адварочваецца.

Клумава (*да Ігната*). На што скардзіцеся? Што ў вас баліць? Дарэчы, таварыш Крушына казаў, што ў вас ёсць даведка аб хваробе. Дайце яе сюды.

Марфа (*паспешна*). Даю, даю. (*Падае Клумавай даведку.*) Вось яна.

Клумава (*прачытаўшы даведку, пытаецца ў Ігната*). Галава баліць?

Ігнат. Не-е... ой... у сярэдзіне ўсё баліць... рукі, ногі ломіць...



Клумава. Дайце тэрмометр. (*Глядзіць.*) Дзіўная рэч. Тэмпература нармальная. Распранайцеся. (*Марфе.*) Вы маці? Памажыце хвораму.

Марфа. Ці трэба, таварыш дохтур? Толькі мучыць будзем яго дарэмна. Распранеш, а потым зноў апранаць. Лепей я яго адразу ў бальніцу адвязу.

Ігнат. Ой... дыхаць цяжка...

Клумава (*да Ігната*). Спакайней, спакайней. (*Мацае пульс.*) Вельмі дзіўна... пульс таксама нармальны. Та-а-ак... (*Прыціснула да грудзей Ігната стэтаскоп.*) Дыхайце, хворы.

Ігнат (*стараючыся дыхаць убок*). Ой... ой...

Клумава. Уздыхніце глыбей... Не адварочвайце галаву.

Ігнат (*праз зубы*). Ой... аёй... ай.:

Клумава. Смялей, смялей, не ўцягвайце ў сябе паветра. Дыхайце... Та-а-ак. Яшчэ раз. (*Ігнат дыхае.*) Эге-ге, хворы, ды ад вас нясе, як... Многа выпілі?

Марфа (*паспешна*). Ды ён не піў, дохтур. Толькі на зуб паклаў. Зубамі пакутуе. Усю ноч крыкам крычаў.

Клумава. Зубы? (*Ігнату.*) Вельмі баляць?

Ігнат. Ой, ратунку няма... замучылі...

Клумава. Разяўце рот. (*Ігнат разяўляе рот*). Шырэй, шырэй. Які зуб? Гэты?

Ігнат. Угу... угу... ой.:

Клумава. І гэты?

Ігнат. Угу...

Клумава. У вас жа цудоўныя зубы. Белыя, моцныя. Прыляжце, хворы. (*Ігнат лажыцца, Клумава мацае ў яго жывот.*) Так, так... Заплюшчыце вочы, шчыльней заплюшчыце. (*Клумава энергічна змывае ваткай з вазелінам грым з твару Ігната. Твар яго стаў чысты і румяны.*)

Клумава. Ну, вось і ўсё. Устаньце, хворы. (*Ігнат сеў на ложку.*) Як жа вам не сорамна? Такі здаровы, дужы мужчына — і гультай. Сам не працуе і іншым перашкаджае. (*Крушыне.*) Ведайце, Алесь Лявонавіч, гэты чалавек зусім здаровы. Дыягназ: самая прымітыўная сімуляцыя.

Крушына. Цяжкі выпадак. Пішыце акт, Алена Рыгораўна.

Клумава. Зараз. (*Садзіцца і піша.*)

Крушына. Вось як яно здарылася, Ігнат. Ты думаў увесь калгас абдурыць, а выйшла трошкі не так. Думаеш, мы не ведалі тваю хваробу! Вельмі добра ведалі. Па ўсіх правілах на чыстую ваду вывелі, каб і другім панадна не было. А з калгасам развітаецеся. Нам гультаі не патрэбны.

Клумава. Акт гатовы.

Крушына. Чытайце, Алена Рыгораўна.

Клумава. «Мы, урач Клумава Алена Рыгораўна, старшыня калгаса «Перамога» Крушына Алесь Лявонавіч і калгасніца Юшко Марфа Савішна склалі гэты акт аб тым, што калгаснік Юшко Ігнат Іванавіч у мэтах адлыньвання ад працы ў самую гарачую пару ўборкі ўраджаю сімуляваў захворванне ўсяго арганізму. Пры праверцы здароўя высветлілася наступнае: нармальная тэмпература, добры пульс і выгляд зусім здаровы».

Крушына. Правільна. Падпісвайце.

Клумава. Я падпісала ўжо.

Крушына. Ну, а вы, Марфа? Падпісвайце і вы.

Марфа. Я непісьменная.

Крушына. Ну што ж... Відаць, Моці прыйдзецца падпісваць.

Моця. Давайце... падпішу.

Марфа (з *дакорам*). І рука ў цябе не задрыжыць гэткае на мужа падпісваць?

Моця. Рука можа і задрыжыць, а сумленне — не.

Крушына. Правільна, Моця. Сумленна, па-камсамольску паступаеш. *(Ігнату.)* Ну што ж, Ігнат, падпісвай і ты.

Ігнат. Я падпісваць не буду. *(Паўза.)* Алесь Лявонавіч? А можа як інакш?

Крушына Што інакш?

Ігнат. Ну, як-небудзь... як яго... паправіць. *(Паказвае на акт.)*

Крушына. Тут папраўляць няма чаго. Тут усё правільна. Вось дзе выпраўляць трэба. *(Пастуквае пальцам Ігнату па ілбе.)* Разумееш, Ігнат?

Ігнат. Разумею. Дык жа як выправіць?

Крушына. У яе спытай, у Моці. Як яна скажа, так і будзе.

Моця *(Крушыне)*. Давяраеш?

Крушына. Давяраю.

Моця *(узрадавана)*. Ну, калі так... вось маё слова: мы зараз жа ідзём у поле і так будзем працаваць, што людзі пазайздросцяць нам. А потым разбярэмся. *(Крушыне.)* Згодзен, Алесь Лявонавіч?

Крушына. Згодзен. Размаўляць пасля будзем. *(Ігнату.)* А ты, Ігнат, згодзен?

Ігнат. Дзякую вам, Алесь Лявонавіч.

Крушына. Марфа Савішна, а вы нам нічога не скажаце?



Марфа *(панура)*. Няма чаго мне казаць.

Крушына. Ну, дык я вам скажу. Сёння ўвечары ў нашым магазіне швейныя машыны будуць. Майце на ўвазе, нажныя.

Марфа. Праўда?

Крушына. Чэснае слова!

Марфа *(спешна)*. Ой, пабягу, пагляджу!

Крушына. Пачакайце, пачакайце, Марфа Савішна. А як жа з вопытным участкам? Снапы вязаць трэба.

Марфа. Пайду, пайду! Вось толькі ў магазін збегаю, а тады і на ўчастак!

Крушына. Дык магазін жа зачынены, рана яшчэ. Увечары возьмеце машыну, увечары.

Марфа *(іранічна)*. Дзякую вам, Алесь Лявонавіч! Увечары... Ведаем. Да вечара і машын не застанецца ў магазіне. Куму, брату, свату... Не, не, пабягу лепш з самага рання чаргу займаць. *(Павышае голас.)* І няхай толькі паспрабуюць не пакінуць мне машыну! Ды я іх тады... *(Выбягае.)*

ЗАСЛОНА

## РАХВАЛІК ВАЛЬС

### Эстонскі бальны танец

Пастаноўка Эні Лоо. Запіс Ю. Раудэ і Л. Багатковай. Музыка эстонскага кампазітара Н. Хелна.

«Рахвалік вальс» (народны вальс) пабудован на элементах эстонскіх народных танцаў, выконваецца мякка, плаўна і спакойна.

Танец складаецца з дзвюх фігур, кожная фігура выконваецца на 16 тактаў музыкі. Музычны размер — $^3/_4$.

## АПІСАННЕ ТАНЦА

На музычны зачын (16 тактаў) тыя, хто танцуе, становяцца ў круг парамі тварам супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі.

У кожнай пары дзяўчына стаіць справа ад юнака. Левую руку яна кладзе на правае пляча юнака, а правую руку сабе на талію (кісць заціснута ў кулак). Ногі абодвух у звычайнай пазіцыі.

### Першая фігура

Выконваецца першая частка музыкі (1—16 такты).

На 1—3-і такты тыя, хто танцуе, парамі ў позе, паказанай на малюнку 1, ідуць па кругу супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі, выконваючы рух № 1 (пачынаюць з левай нагі).



Мал. 1.

На 4-ы такт дзяўчына кожнай пары, стоячы на месцы, апускае правую нагу, ставячы яе побач з левай у звычайную пазіцыю. Юнак здымае правую руку з таліі дзяўчыны, праходзіць уперад, выконваючы рух № 2 з правай нагі, і адначасова паварочваецца тварам да дзяўчыны (спіной у напрамку танца); абодва становяцца ў «асноўную позу вальса» (малюнак 2).

На 5—7-ы такты пары ў позе, паказанай на малюнку 2, ідуць па кругу супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі: дзяўчына — рухам № 2, пачынаючы з правай нагі, а юнак — рухам № 3, пачынаючы з левай нагі.



На 8-ы такт юнак кожнай пары аднімае левую руку ад правай рукі дзяўчыны, кладзе руку сабе на пояс і рухам № 3 з правай нагі вяртаецца на сваё месца. У гэты час дзяўчына, кладучы правую руку сабе на пояс, выконвае на месцы рух № 2 з левай нагі. У канцы 8-га такта тыя, хто танцуе, становяцца ў першапачатковае становішча (малюнак 1).



Мал. 2.

На 9—11-ы такты тыя, хто танцуе, у позе, паказанай на малюнку 1, ідуць па кругу супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі, выконваючы рух № 1 (пачынаюць з правай нагі).

На 12-ы такт юнак кожнай пары, стоячы на месцы, апускае левую нагу, ставячы яе побач з правай у звычайную пазіцыю. Адначасова дзяўчына знімае левую руку з правага пляча юнака, рухам № 2 з левай нагі праходзіць уперад, паварочваецца тварам да юнака (спіною ў напрамку танца), і абодва становяцца ў асноўную позу вальса.

На 13—15-ы такты тыя, хто танцуе, парамі ў асноўнай позе вальса ідуць па кругу супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі: дзяўчына — рухам № 3, пачынаючы з левай нагі, юнак — рухам № 2, пачынаючы з правай нагі.

На 16-ы такт, ужо ў кожнай пары гэта выконваецца яшчэ раз, дзяўчына — рухам № 3 з правай нагі, юнак — рухам № 2 з левай нагі (на месцы). Пры гэтым абодва паварочваюцца тварам адзін да другога (юнак — спіной да цэнтра круга) і мяняюць позу: юнак правай рукой мякка адхіляе левую руку дзяўчыны ўправа ад сябе. Сціснуўшы кісці ў кулак, абодва кладуць рукі сабе на пояс (малюнак 3).



Мал. 3.

### Другая фігура

Выконваецца другая частка музыкі (17—32-і такты).

На 17-ы такт у кожнай пары выконваюць на месцы рух № 1 (дзяўчына з правай нагі, юнак — з левай), злучаныя рукі мякка вядуць нізам уперад (управа ад дзяўчыны).



Мал. 4.

На 18-ы такт тыя, хто танцуе, выконваюць яшчэ раз рух № 1 (дзяўчына з левай нагі, юнак — з правай), злучаныя рукі мякка вядуць нізам назад (улева ад дзяўчыны).

На 19—20 такты юнак кожнай пары два разы выконвае на месцы рух № 2 (з левай, потым з правай нагі). Злучаныя рукі абодва падымаюць уверх, і дзяўчына кружыцца ўправа (малюнак 4), выконваючы рух № 2 з правай, потым з левай нагі. У канцы 20-га такта дзяўчына і юнак становяцца ў асноўную позу вальса.

На 21—24-ы такты пары кружацца ўправа, выконваючы рух № 4 (дзяўчаты пачынаюць з правай нагі, юнакі — з левай), і адначасова рухаюцца па кругу супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі.

На 25—32-і такты паўтараюць рухі 17—24-га тактаў. У канцы 32-га такта тыя, хто танцуе, становяцца ў першапачатковае становішча (малюнак 1).

Танец выконваецца спачатку.

### Рух № 1

Выконваецца вельмі мякка, плаўна, на адзін такт музыкі. Лік — $^3/_4$.

Першапачатковае становішча — першая пазіцыя ног.

а) Рух з правай нагі.

На лік «раз» (першая чвэрць такта) — невялікі крок уперад-улева левай нагой.

На лік «два-тры» (другая і трэцяя чвэрткі такта) правую нагу плаўна падвесці да левай і потым, не згінаючы ў каленях і злёгку падняўшы ад падлогі, плаўна вынесці ўперад-улева, перакрыжоўваючы левую нагу. Корпус злёгку адхіліць управа (малюнак 5).

Потым рух выконваецца з левай нагі.

б) Рух з левай нагі.

Выконваецца таксама, але крок трэба зрабіць правай нагой уперад-управа, левую вынесці ў паветра, управа, перакрыжоўваючы правую нагу. Корпус злёгку адхіляецца ўлева.

Потым рух выконваецца з правай нагі.

### Рух № 2
«Дарожка ўперад»

Выконваецца на адзін такт музыкі. Лік — $^3/_4$.

Першапачатковае становішча — шостая пазіцыя ног.



а) Рух правай нагі.

На лік «раз» (першая чвэрць такта) невялікі крок уперад правай нагой.



Мал. 5.

На лік «два» (другая чвэрць такта) левую нагу прыставіць на нізкія паўпальцы да сярэдзіны правай ступні.

На лік «тры» (трэцяя чвэрць такта) — невялікі крок уперад правай нагой.

Потым рух выконваецца з левай нагі.

б) Рух левай нагі.

Выконваецца таксама, як і правай, але першы крок уперад трэба зрабіць левай нагой, прыставіўшы правую нагу на мяккія паўпальцы да сярэдзіны левай ступні і потым зрабіць другі крок уперад левай нагой.

### Рух № 3
«Дарожка назад»

Выконваецца таксама, як рух № 2, але ўсе крокі робяцца назад.

### Рух № 4

Гэта народны эстонскі вальс парамі. Дзяўчына пачынае з правай нагі і выконвае рух № 2, юнак пачынае з левай нагі і выконвае рух № 3. У гэты час тыя, хто танцуе, робяць паварот на 180 градусаў. Потым дзяўчына выконвае рух № 3 з левай нагі, а юнак — рух № 2 з правай нагі, і зноў абодва паварочваюцца на 180 градусаў управа. Такім чынам, на два такты музыкі тыя, хто танцуе, робяць адзін поўны паварот (на 360 градусаў) і потым паўтараюць яго яшчэ раз.

# РАХВАЛИК ВАЛЬС

*Музыка Н. ХЕЛНА*

**Подвижно**

*Вступление*
















